# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 1 (61) СТУДЗЕНЬ - САКАВІК 2013 г.


## 150-я ўгодкі паўстання 1863-64 гг.



**НАРБУТ Даніэль Казімір** (03.01.1738 - 17.03.1807), філосаф, педагог, перакладчык, каталіцкі святар. Доктар грамадзянскага і кананічнага права. Аўтар першага на польскай мове падручніка па логіцы. Нарадзіўся ў вёсцы Крупа (Крупава) Лідскага павету Віленскага ваяводства.

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 1 ( 61 ) СТУДЗЕНЬ - САКАВІК 2013 г.

## У НУМАРЫ:





*На першай старонцы выкладкі памятны знак герою паўстання 1863-64 гг. Адаму Фалькоўскаму ў Лідскім парку. Аўтар - Рычард Груша.* Здымак С. Судніка.

**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 907 ад 18.12.2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

Заснавальнік
**Валерый Васільевіч Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук

рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**231293, Лідскі р-н, в. Даліна**
**E-mail: naszaslowa@tut.by**

**Наклад 300 асобнікаў**
**12,5 друк. аркушаў**

**Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.**
**Замова № 1940**
**Часопіс падпісаны да друку 30.03.2013 г.**
**Часопіс надрукаваны 15.06.2013 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес.- 5800 руб.**
**індывід. 6 мес.- 11600 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны**




**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.**

**Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў**





# Медаль "Benemerenti" - "Асабліва заслужаным" ад Папы Рымскага Бенедыкта XVI - лідзянцы Крысціне Лялько

18 снежня 2012 г. у менскім касцёле святых Сымона і Алены адбылося ўручэнне папскіх медалёў "Benemerenti" - "Асабліва заслужаным" - асобам, якія зрабілі вялікі ўклад у развіццё Касцёла ў нашай краіне: Аліне Новікавай, Крысціне Лялько і Івану Гумоўскаму. Высокія ўзнагароды Святога Айца ўручыў у прысутнасці мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча Апостальскі нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці.

Аліна Новікава - дырэктар выдавецтва "Pro Christo", Крысціна Лялько - пісьменніца, галоўны рэдактар часопісаў "Ave Maria" і "Наша вера". Іван Гумоўскі - фундатар касцёла св. Антонія ў Мар'інай Горцы.

- Я вельмі рады, што магу зрабіць гэты жэст, - сказаў Апостальскі нунцый падчас цырымоніі ўручэння ўзнагародаў.

Арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці адзначыў, што "Касцёл, як нагадвае Другі Ватыканскі Сабор, - гэта перадусім народ Божы". "Мы, духавенства, знаходзімся на службе гэтаму Божаму народу", - дадаў прадстаўнік Свягога Айца.

Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч падкрэсліў асаблівы ўдзел Аліны Новікавай, Крысціны Лялько і Івана Гумоўскага ў адраджэнні і станаўленні Касцёла ў нашай краіне. "Спадарыні АлінаНовікава і Крысціна Лялько стаялі ля вытокаў выдання рэлігійнай літаратуры на беларускай мове і ўвогуле каталіцкай выдавецкай працы. Спадар Іван Гумоўскі вельмі дапамог у тым, каб парафія св. Антонія ў Мар'інай Горцы мела сваю святыню. Іх прыклад - гэта прыклад адданага служэння свецкіх людзей Касцёлу", - адзначыў арцыпастыр. Мітрапаліт падзякаваў Аліне Новікавай, Крысціне Лялько і Івану Гумоўскаму за ахвярную працу і пажадаў ім поспехаў у жыцці і далейшай дзейнасці.

Ад імя ўзнагароджаных медалямі "Benemerenti" словы падзякі выказала Крысціна Лялько.

- Пра тое, чым напоўнена сэрца, гавораць



вусны..." (Лк 6, 45). Нашыя сэрцы сёння напоўнены глыбокаю ўдзячнасцю, - сказала прамоўца.

Крысціна Лялько папрасіла Апостальскага нунцыя перадаць Святому Айцу Бенедыкту XVI словы шчырай удзячнасці і глыбокай пашаны, любові і адданасці, а таксама заўсёдную малітоўную падтрымку і памяць.

- Гэта прыгожая матывацыя для нашай далейшай працы, - падкрэсліла рэдактар каталіцкіх часопісаў. - Ад самага пачатку мы ўспрымалі і ўспрымаем сваю працу як служэнне на хвалу Пана Бога і дзеля дабра Яго святога Касцёла




*Ганаровы медаль "Benemerenti" быў зацверджаны папам Рыгорам XVI у 1832 годзе як узнагарода за доўгую службу Каталіцкаму Касцёлу і выключныя заслугі. Гэтым медалём узнагароджваюцца рэлігійныя, духоўныя і ваенныя асобы. Медаль мае форму стылізаванага залатога крыжа з выяваю Хрыста. На другім баку напісана слова "Benemerenti" на фоне герба Ватыкана (тыяры і скрыжаваных ключоў). Стужка, на якой вісіць медаль, зроблена ў традыцыйных папскіх колерах - бела-жоўтая.*

***Анастасія Грышан.***

# КРОНІКА ЛІДЫ



8 студзеня 2013 года ў Лідзе адкрыты аўтобусны маршрут № 16.




У студзені 2013 года ў Менску выйшаў літаратурны альманах Гарадзенскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў "Новы замак". У альманаху прадстаўлены лідскія паэты Ўладзімір Васько, Пятро Макарэвіч, Алесь Стадуб і Станіслаў Суднік.




У лютым 2013 года ў Лідзе абмежаваным накладам выйшла кніга паэзіі Яніны Догель "На дасвецці", 24 ст.

16 лютага ў СШ № 11 адкрыўся музей "На скрыжаваннях дорог", прысвечаны вайне ў Афганістане.






20 лютага ў СШ № 10 адкрыўся “Марскі музей”, створаны лідскім аддзяленнем “Беларускага саюза маракоў”.

Напярэдадні свята 8 сакавіка старшыня Лідскага райвыканкаму Аляксандр Астроўскі ўручыў “Ордэн маці” лідзянцы Ірыне Санкевіч.



# Лідчына ў 2012 годзе

**Выступ старшыні Лідскага райвыканкаму А.М. Астроўскага 28.02.2013 г. на ўрачыстым сходзе, прысвечаным падвядзенню вынікаў працы за 2012 г.**



Паважаныя ўдзельнікі ўрачыстага сходу!

Кажуць, што няма нічога лягчэйшага, чым быць занятым, і няма нічога больш цяжкага, чым быць дзейсным.

Кожны з нас у мінулым 2012 годзе працаваў на сваім працоўным месцы, займаўся выкананнем сваіх службовых абавязкаў. Тым не менш, нават самая дробная і малаважная, на першы погляд, праца ў сукупнасці з іншымі такімі ж уплывае на агульны вынік.

Таму сёння мы сабраліся, каб ацаніць, якіх вынікаў мы дасягнулі, дзе памыляліся летась і да чаго варта імкнуцца, на што звярнуць увагу ў 2013 годзе.

Кажучы сцісла пра вынікі сацыяльна-эканамічнага развіцця Лідскага раёна ў 2012 г., трэба адзначыць наступныя моманты:

- захавана тэндэнцыя росту ў сферах эканомікі, якія фармуюць валавы рэгіянальны прадукт Гарадзенскай вобласці;

- індэкс фізічнага аб'ёму прамысловай вытворчасці склаў 110,7%;

- тэмп росту вытворчасці валавай прадукцыі сельскай гаспадаркі - 111,4%, рознічнага таваразвароту - 114,6%;

- за год экспартавана прадукцыі на суму звыш 406 млн. дол. ЗША, што на 16,8% вышэй, чым у 2011 годзе;

- сальда знешняга гандлю таварамі дадатнае - амаль 205 млн. дол. ЗША;

- паказчык па энергазахаванні склаў мінус 7,1%;

- намінальная сярэднямесячная заработная плата павялічылася амаль у 2 разы і склала амаль 3 млн. 200 тыс. руб., у тым ліку ў снежні амаль 4 млн. 100 тыс. руб.

За 2012 год прамысловасцю раёна выраблена прадукцыі на суму каля 6-ці трыльёнаў рублёў (5818,0 млрд. руб.). Тэмп росту - 186,2%.

Сярэднямесячны аб'ём вытворчасці дасягнуў 500 млрд. руб. ці больш за 58 млн. дол. ЗША.

Павялічаны выпуск прадукцыі па большасці відаў сельскагаспадарчай тэхнікі, практычна па ўсіх пазіцыях мяса-малочнай і хлеба-булачнай прадукцыі.

Вырасла вытворчасць аўтобусаў (у 1,5 разы), фталевага ангідрыду (без малога на 30 адсоткаў 29,2%), фарбаў, лакаў, эмаляў (на 12,5%), дзвярэй (на 40,6%), радыятараў ацяплення (у 1,8 раза), свяцільнікаў (на 10,5%), абутку (амаль на 5 адсоткаў, на 4,9%).

Аказваўся новы від паслуг па нанясенні пакрыццяў на метал.

Амаль 60% лідскай прадукцыі экспартуецца ў 70 краін свету: ва ўсе краіны СНД, Прыбалтыкі, а таксама Германію, Егіпет, Польшчу, Турцыю, Аўстрыю, Італію, Харватыю, Грузію, Ізраіль, ЗША, Іран, Францыю, Румынію, Ліван, Венгрыю, Фінляндыю, Балгарыю і многія іншыя.

За 2012 год прыцягнута 1,5 трыльёна рублёў інвестыцый. Сума замежных інвестыцый на чыстай аснове дасягнула амаль 20 млн. долараў ЗША.

У 2012 г. пачаў працу завод гарачага ацынкавання на "Конусе", былі адкрыты супермаркет "Алмі" і гіпермаркет "Еўраопт", завершана будаўніцтва гандлёвага цэнтра "Торунь".

Галоўная якасць кіраўніка - рэалізм. І той кіраўнік, які разумее, што на старым абсталяванні і па старажытных тэхналогіях нельга выраблять якасную і канкурэнтаздольную прадукцыю, можа зрабіць свае прадпрыемствы квітнеючымі, даць працаўнікам годную зарплату. Хачу сказаць, што ў цэлым дырэктарскі корпус у нас досыць моцны. Гэта даказваюць іх справы. Так, у 2012 г. вяліся работы па пераабсталяванні:

- на "Лакафарбе" - тэхпераўзбраенне вытворчасці фталевага ангідрыду, а таксама распрацаваны і ўкарэнены ў вытворчасць новыя лакафарбавыя матэрыялы;

- на "Лідскім піве" завяршаецца мадэрнізацыя дзейснай вытворчасці,

- на "Лідсельмашы" арганізавана вытворчасць механізаваных збожжасховішчаў сіласнага тыпу;

- на "Ліпласце" ўкарэнена вытворчасць размеркавальных шчытоў.

- "Аграпраммаш" наладзіў выпуск ільноўборачнай тэхнікі;

- "Электравырабы" - абсталяванне са светладыёдамі;

- завод "Оптык" працуе над развіццём аптычнага шкловарэння і валаконных вырабаў;

- хлебазавод выпускае 18 відаў імпартазамяшчальнай прадукцыі;

- "Каскад" удзельнічае ў рэстаўрацыі і ўзнаўленні помнікаў архітэктуры Беларусі.

У 2012 годзе ў раёне захавана дадатная дынаміка па фінансавых паказчыках.

Сума выручкі ад рэалізацыі прадукцыі ў цэлым па раёне склала парадку 10 трыльёнаў рублёў (9 782,1 млрд. рублёў), тэмп росту - 173,4%.

Прыбытак ад рэалізацыі прадукцыі дасягнуў амаль 732 млрд. рублёў, тэмп росту - 134%.

Узровень рэнтабельнасці рэалізаванай прадукцыі - плюс 9,2%, рэнтабельнасці продажаў - плюс 7,5%.

Атрыманы чысты прыбытак у суме 246 млрд. рублёў, тэмп росту 122,7% (за 2011 год было атрымана 200,1 млрд. рублёў).

За 2012 год пасажырскім транспартам раёна перавезена амаль 24 млн. пасажыраў. Аб'ём перавозак грузаў склаў амаль 920 тыс. тон.

Хачу адзначыць, што ў наш час Навукова-даследчым інстытутам "Белндітранстэхніка" праводзіцца праца па ўдасканаленні маршрутнай сеткі горада Ліда. Хуткім часам мы разгледзім прапановы інстытута па аптымізацыі сеткі пасажырскага транспарту. Гэта дазволіць палепшыць транспартнае абслугоўванне насельніцтва горада.

Тэмп росту рознічнага таваразвароту ў раёне склаў амаль 115%. У рамках жорсткай канкурэнцыі, калектывам гандлёвых арганізацый даводзіцца шукаць новыя, найболей выгадныя для пакупнікоў умовы продажаў. Дзякуючы гэтаму ў 2012 г. насельніцтву рэалізавана тавараў больш, чым на 3 трлн. руб., з іх у крэдыт - амаль на 55 млрд. руб.

Таваразварот на аднаго жыхара склаў амаль 23 млн. рублёў.

Адкрыта 69 новых крам агульнай плошчай 10 тысяч квадратных метраў - гэта 20% ад усёй гандлёвай плошчы, якая была ў нас да гэтага; 7 аб'ектаў грамадскага сілкавання на 164 пасадачныя месцы.

Па выніках працы за 2012 г. у сельскай гаспадарцы забяспечана выкананне большасці прагнозных паказчыкаў.

Рост валавай прадукцыі ў грамадскім сектары да мінулага года склаў 111,4%, пры прагнозным паказчыку - 108,4%.

Вытворчасць прадукцыі раслінаводства павялічылася на 17,2%, жывёлагадоўлі - на 7,3%.

Усе гаспадаркі раёна забяспечылі рост прадукцыі сельскай гаспадаркі. Павялічылася вытворчасць збожжа (на 17,1%), цукровых буракоў (на 22,2%), ільноволакна (на 8,2%), насення рапсу (у 1,6 раза), бульбы і гародніны (у 1,5 раза), пладоў (у 4 разы).

Найболей высокія паказчыкі ў раслінаводстве атрымалі:

- саўгас "Лідскі" - дырэктар Ірчыц Уладзіслаў Браніслававіч;

- "Мажэйкава" - дырэктар Рахатка Казімір Уладзіслававіч;

- "Бердаўка-Агра" - старшыня Мікутайціс Сяргей Станіслававіч.

Сярод вытворчых участкаў высокі ўраджай сельскагаспадарчых культур вырашчаны механізатарамі і паляводамі вытворчага ўчастка "Гуды" - брыгадзір Кеса Віктар Валер'евіч, выхад кармавых адзінак з 1 гектара ворыва склаў каля 70 цэнтнераў.

У цэлым для галіны жывёлагадоўлі за мінулы год характэрна дадатная дынаміка, якая назіралася ў вытворчасці ўсіх відаў прадукцыі.

Так, вытворчасць малака павялічылася да ўзроўню мінулага года амаль на 4%, прадукцыя гадоўлі буйнай рагатай жывёлы - на 6,1%, свіней - на 7,5%, птушак - у 16,5 раза, вытворчасць яйкаў узрасла на 20,8%.

За справаздачны перыяд колькасць буйной рагатай жывёлы павялічылася ад узроўню 2011 г. на 6,3%, дойных кароў - на 4,1%, пагалоўе свіней узрасло - на 11,3%, птушак - на 46,3%.

Павялічылася прадуктыўнасць дойнага статка, сярэдні ўдой малака па раёне склаў 4 323 кілаграмы.

Больш за 5 тысяч кілаграмаў малака ад каровы надаілі жывёлаводы "Мажэйкава" і саўгаса "Лідскі".

Высокія паказчыкі прадуктыўнасці дойнага статка атрыманы працаўнікамі малочна - таварных фермаў:

- "Палубнікі" - загадчык Гінцэвіч Уладзімір Уладзіслававіч;

- "Вялікае Сяло" - загадчыца Марчык Галіна Янаўна;

- "Навасёлкі" загадчык Скляповіч Часлаў Станіслававіч.

У мясной жывёлагадоўлі таксама ёсць поспехі.

Сярэднясутачныя прывагі буйной рагатай жывёлы на гадоўлі і адкорме склалі 621 грам, свіней - 600 грамаў.

Па выніках года больш за 900 грамаў у суткі забяспечылі прывагу маладняка буйной рагатай жывёлы аператары:

- Турлюк Святлана Яўгенаўна са СПК "Беліца-Агра",

- Бурая Ядвіга Браніславаўна са "СПК "Світанак-Мыто",

- Богдан Наталля Лявонаўна з саўгаса "Лідскі".

Аператары свінагадоўчага комплексу "Прагрэс" акцыянернага таварыства "Лідахлебапрадукт" Гойдуль Тарэса Антонаўна і Запаснік Ірына Іванаўна атрымліваюць прывагі свіней у адпаведнасці з праграмай мадэрнізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці.

У 2012 г. у раёне былі пабудаваны дзве новыя малочна-таварныя фермы, на шасці фермах праведзена рэканструкцыя і тэхнічнае пераабсталяванне.

Праведзена мадэрнізацыя чатырох бульбасховішчаў.

Уведзены ў эксплуатацыю зернесушыльнаачысны комплекс.

У выніку на развіццё сельгасвытворчасці было скарыстана інвестыцый на суму 167 мільярдаў рублёў, тэмп росту - у 2,3 раза.

За 2012 г. па аграпрамысловым комплексе ад рэалізацыі прадукцыі атрымана 62 мільярды рублёў прыбытку, які на 85% забяспечана за кошт галіны жывёлагадоўлі.

Аналіз эфектыўнасці вытворчасці і рэалізацыі асобных відаў прадукцыі за мінулы год паказаў, што

найболей высокую рэнтабельнасць рэалізацыі мае малако. Так, ад яго продажаў атрымана 20 мільярдаў рублёў прыбытку, рэнтабельнасць склала 17%.

3,5 млрд. руб. прыбытку атрымана ад свінагадоўлі, рэнтабельнасць - 19%.

Разам з тым узровень развіцця сельскай гаспадаркі ў раёне з'яўляецца адным з самых нізкіх у вобласці, таму аргкамітэтам прынята рашэнне не прысвойваць першае месца арганізацыям у галіне сельскай гаспадаркі.

Аднак мы разумеем і ўлічваем складанасць працы на вёсцы. Таму працаўнікі аграпрамысловага комплексу сёння атрымаюць узнагароды нароўні з прадстаўнікамі іншых сфер.

Спадзяюся, што цяперашні год для нашых сельгаспрадпрыемстваў будзе больш паспяховым.

Паважаныя ўдзельнікі сходу!

Складана пераацаніць ролю будаўнікоў у нашай агульнай справе. Дзякуючы іх працы будаваліся новыя і рамантаваліся старыя вытворчыя карпусы, гандлёвыя аб'екты, фермы.

Акрамя таго, у 2012 г. было пабудавана 826 кватэр агульнай плошчай 71,1 тыс. м$^2$.

Працягваліся работы па добраўпарадкаванні вуліц, транспартных развязак. Сіламі жыллёва-камунальнай службы адрамантавана 11 дваровых тэрыторый.

Вядзецца рамонт 3-га паверху тэрапеўтычнага корпуса, шмат зроблена па рамонце кардыялагічнага аддзялення.

Выкананы рамонт дзіцячага рэабілітацыйнага аддзялення на 3-ім паверсе. У наш час гасспосабам завяршаецца рамонт Бярозаўскай гарадской бальніцы, вядуцца працы ў Першамайскай бальніцы.

На адрамантаваныя плошчы першага паверху будынка радзільні пераведзена пульманалагічнае аддзяленне. Сёлета палепшаны стан гінекалагічнага аддзялення, якое размясцілася на плошчах акушэрскага корпуса.

Як бачыце, агульнымі сіламі нам удаецца ствараць умовы, як для найхутчэйшага акрыяння хворых, так і для працы лекараў.

У той жа час кіраўніцтву цэнтральнай раённай бальніцы неабходна шчыльней працаваць над укамплектаванасцю кадрамі, якіх па-ранейшаму ў Лідзе бракуе.

Асобна хачу адзначыць працу аптэчнай сеткі. Па выніках абласнога конкурсу "Аптэка года-2012", які праводзіўся Гарадзенскім прадпрыемствам "Фармацыя", Цэнтральная раённая аптэка №146 Лідскага раёна трэці год запар - пераможца сярод цэнтральных раённых апатэк вобласці.

Пагадзіцеся, медыцына ў значнай ступені затрачвае свой патэнцыял на захаванне жыцця і здароўя цяперашніх працоўных рэсурсаў, сфера адукацыі - фармуе яго будучае аблічча, таму ў развіцці дзяржавы прыярытэтным кірункам з'яўляецца адукацыя. У нас яе падтрымцы надаецца самая пільная ўвага - амаль 40% раённага бюджэту.

Пісьменна накіраваныя ў гэтую сферу сродкі могуць і павінны стаць самымі эфектыўнымі інвестыцыямі. Таму што гэта ўкладанні ў перспектыву, у нашых дзяцей. Рана ці позна яны прыйдуць нам на змену. Адмяніць законы прыроды немагчыма.

Таму я ўдзячны ўсім, хто разумее важнасць сваёй прафесіі, забяспечвае навучальны працэс на належным узроўні. Гэта Зайцава Наталля Андрэеўна (гімназія № 1 г. Ліда), Фонасаў Сяргей Анатолевіч (СШ № 1), Бархярыт Галіна Якаўлеўна (ліцэй № 1), Аляксяевіч Аляксандр Іосіфавіч (СШ № 17), Хвайніцкая Ганна Аляксандраўна (СШ № 11).

Далёка за межамі раёна сваімі вынікамі вядомы Цэнтр творчасці дзяцей і моладзі (кіраўнік Ганчар Галіна Анатольеўна).

Годную змену школьнікам выхоўваюць у дашкольных установах № 26 (Шлапік Алеся Аляксандраўна), цэнтр развіцця дзіцяці № 1 (Карней Павел Сцяпанавіч), цэнтр развіцця дзіцяці пасёлка Дзітва (Багатка Іяланта Зыгмундаўна). Гэты спіс можна працягнуць.

Лідзянам ёсць чым ганарыцца. Навучэнцы атрымліваюць бліскучыя перамогі на абласных і рэспубліканскіх алімпіядах, аглядах, конкурсах, фестывалях, спаборніцтвах (27 прызавых месцаў на рэспубліканскіх прадметных алімпіядах, больш за 1000 - у розных конкурсах і спаборніцтвах). Іх поспехі - гэта заслуга педагогаў.

Хочацца назваць Ладыку Альфрэда Антонавіча, Даўляшэвіча Віктара Казіміравіча, Валюка Ўладзіміра Мечыслававіча, Лябецкую Жану Сцяпанаўну, Залескага Іосіфа Іосіфавіча, Сурконт Таццяну Мар'янаўну, Букшу Марыну Пятроўну, Верацілу Сяргея Яўгенавіча і іншых настаўнікаў, якія дапамагаюць раскрыцца дзіцячым здольнасцям у поўным аб'ёме.

Прыемна, што нашы дзеці актыўна выкарыстоўваюць прадстаўленыя ім магчымасці развівацца не толькі ў інтэлектуальным плане, але і ў творчым.

У мінулым годзе 180 навучэнцаў школ мастацтваў раёна прынялі ўдзел у міжнародных, рэспубліканскіх і абласных конкурсах, з іх 62 вучні сталі дыпламантамі і лаўрэатамі.

Тром навучэнцам дзіцячай музычнай школы і двум навучэнцам дзіцячай мастацкай школы прысуджаны заахвочвальныя прэміі адмысловага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі.

У 2012 годзе скончылася будаўніцтва стадыёна па вул. Качана, пабудавана мотатраса ў мікрараёне "Маладзёжны", праведзены рамонты стайні ў в. Дворышча, у басейне "Дэльфін", ФАКу "Алімп", у "Спарце", на іншых аб'ектах спартовых школ.

У верасні мінулага года адкрыўся Лідскі філіял Гарадзенскай дзяржаўнай вучэльні алімпійскага рэзерву, у якім функцыянуе 7 аддзяленняў па відах спорту.

Лідскія трэнеры штогод даказваюць свой прафесіяналізм. Яны не толькі знаходзяць новых дзяцей, якія маюць схільнасць да таго ці іншага віду

спорту, але і ўмела развіваюць іх здольнасці, даючы ім дарогу ў вялікі спорт.

Думаю, сярод нас не было абыякавых, калі назіралі за выступамі Наталлі Карэйвы і Сяргея Палітэвіча на Алімпійскіх гульнях у Лондане.

Лідскія спартоўцы не раз станавіліся пераможцамі і прызёрамі найбуйнейшых міжнародных і рэспубліканскіх спаборніцтваў. На працягу мінулага года 657 чалавек займалі прызавыя месцы на спаборніцтвах абласнога маштабу, 184 - рэспубліканскага; 11 чалавек - на спаборніцтвах міжнароднага ўзроўню.

Сярод іх:

- Аляксандр Венскель - 3 месца (у суме дваяборства) і 2 месца (у штуршку) на першынстве Еўропы па цяжкай атлетыцы сярод юніёраў;
- Іван Клім - 3 месца (у рыўку) на першынстве Еўропы па цяжкай атлетыцы сярод юніёраў;
- Яраслаў Кардаш - 2 месца на этапе Кубка свету па грэка-рымскай барацьбе;
- Наталля Паўлюкевіч - 3 месца на першынстве Еўропы па акадэмічным веславанні сярод дзяўчат;
- Аляксандр Рышкевіч - 3 месца на Сусветных студэнцкіх гульнях па акадэмічным веславанні.

Усяго ў 2012 г. 6-ю спартоўцамі раёна выкананы разрад майстра спорту Рэспублікі Беларусь; 36-ю - разрад кандыдата ў майстра спорту; 81 спартовец атрымаў першы разрад.

У вышэйшае звяно падрыхтоўкі перададзена 97 выхаванцаў спартовых школ Лідчыны.

У спіскавым складзе нацыянальных і зборных каманд Рэспублікі Беларусь па відах спорту трэніруецца 60 лідзян.

Паважаныя ўдзельнікі сходу!

Годнымі нашчадкамі сваіх бацькоў і дзядоў з'яўляюцца службоўцы вайсковых частак Лідскага гарнізона. Яны дэманструюць высокую баявую гатоўнасць і прафесіяналізм.

Асобныя словы падзякі - працаўнікам органаў правапарадку, МНС, якія заўсёды гатовыя прыйсці на дапамогу ў цяжкую хвіліну.

Ад імя Лідскага раённага камітэта, сябе асабіста хачу выказаць падзяку за супрацоўніцтва лідскім калектывам камітэта дзяржаўнай бяспекі, следчага камітэта, пракуратуры, судоў, камітэта дзяржаўнага кантролю, ваеннага камісарыяту.

Усё, што я распавёў у дакладзе - толькі малая крыха ў агульным выніку. Кожны з вас, хто сядзіць у гэтай зале, вашы калегі, родныя і блізкія сваёй працай уносілі пасільны ўнёсак у агульную справу - развіццё нашага рэгіёна, а, значыць, і Беларусі. Але паколькі чалавек ацэньваецца не працай, а яе вынікам, ёсць неабходнасць перыядычна збірацца, каб вызначыць, хто і дзе аказаўся найбольш дзейсным, а таксама азначыць асноўныя задачы на будучыню.

У раёне павінна і будзе працягвацца будаўніцтва жылля. Усяго плануецца ўвесці амаль 100 тыс. м$^2$, у тым ліку - трэць з дзяржаўнай падтрымкай.

Неабходна завяршыць будаўніцтва дзіцячага садка ў раёне вул. Тухачэўскага, рэканструкцыю філіяла вучэльні Алімпійскага рэзерву і будынка занальнага дзяржаўнага архіву, рэканструкцыю бальніцы "Астроўля".

Вы ведаеце, што гэты год для Ліды - юбілейны. У рамках падрыхтоўкі імпрэзы 690-годдзя г. Ліды плануецца завяршыць работы па будаўніцтве і рэканструкцыі вуліц Чырвонаармейская, Гастэла. Працягнуцца работы па капітальным рамонце жылых дамоў і добраўпарадкаванні дваровых тэрыторый.

Будзе аднаўляцца галоўная лідская знакамітасць - замак.

Асобна хачу адзначыць, што інфармацыя аб усіх планаваных аб'ектах размяшчаецца на афіцыйным сайце райвыканкаму і ў мясцовых сродках масавай інфармацыі, якія заўсёды імкнуцца аператыўна і якасна данесці пэўную інфармацыю да жыхароў раёна. За што ім хочацца выказаць таксама падзяку.

Думаю, што нават самыя прыдзірлівыя і скептычна настроеныя лідзяне бачаць, што мы не толькі выконваем вызначаныя віды работ, але і імкнёмся іх перавыканаць, бо добра разумеем, што месцаў і аб'ектаў, якія патрабуюць капітальных і бягучых рамонтаў, значна больш.

Аснова эканомікі - прамысловы комплекс.

У рамках даручэнняў Кіраўніка дзяржавы па мадэрнізацыі эканомікі арганізацыямі прамысловасці прапанавана да рэалізацыі да 2015 года больш за 150 праектаў і мерапрыемстваў, уключаючы замену абсталявання.

Назаву асноўныя:

- "Лакафарба" працягне тэхнічнае пераўзбраенне вытворчасці фталевага ангідрыду. У планах - мадэрнізацыя азотна-кіслароднай станцыі;
- для раёна вельмі важна завяршэнне рэалізацыі праекта па вытворчасці шклаваты;
- "Лідахлебапрадукт" забяспечыць будаўніцтва макароннай фабрыкі;
- "Лідсельмаш" працягне асваенне вытворчасці механізаваных збожжасховішчаў сіласнага тыпу.

Будзе працягнута праца па прыцягненні замежных інвестыцый. На сёння мы маем рэальныя праекты з прыцягненнем замежных фундатараў. Гэта будаўніцтва новага завода па ўтылізацыі адходаў жывёльнага паходжання на "Ветсанутыльзаводе" і будаўніцтва птушкакомплекса па вытворчасці мяса індычкі.

У сельскай гаспадарцы прадугледжана будаўніцтва 4-х новых малочна-таварных фермаў; 2-х свінагадоўчых комплексаў; інкубатара і птушкафабрыкі; цэха па перапрацоўцы гародніны.

У будаўнічым комплексе плануецца стварыць лініі па выпуску сухіх сумесяў, прафіляванага ліста, па падрыхтоўцы фарбавальных саставаў, вытворчасці пліткі, ходнікавага і дарожнага барта "Дэмлер". Будзе набыты мабільны бетонны завод, закуплена новая тэхніка.

Галоўнай задачай 2013 года з'яўляецца нарошчванне вытворчага патэнцыялу. Індэкс фізічнага аб'ёму ў прамысловасці запланаваны на ўзроўні 110%.

Перад сельскагаспадарчымі арганізацыямі

стаіць задача павялічыць вытворчасць валавай прадукцыі на 8,6%.

У гандлі - забяспечыць тэмп росту тавараразвароту на ўзроўні 113%.

У 2013 годзе плануецца адкрыццё сеткавай крамы Лідскага РАЙПО, крамы "Еўраопт" па вул. Гагарына, аб'екта грамадскага сілкавання на АЗС "Беларуснафта" у вёсцы Кянці і многіх іншых аб'ектаў.

Як бачыце, планы ў нас вялікія. Быць можа, рэалізаваць іх будзе цяжка, але гэта не значыць, што немагчыма. Таму што вынікі 2012 года паказалі, што лідзянам па сілах выкананне самых амбіцыйных планаў.

Дзякуй тым, хто выпускае якасную, запатрабаваную і канкурэнтаздольную прадукцыю, хто нас корміць, будуе дамы, заводы і дарогі, робіць прыгожымі і чыстымі нашы населеныя пункты. Тым, хто нас лечыць і вучыць нашых дзяцей. Тым, хто сваім талентам і майстэрствам падтрымлівае прэстыж Лідчыны. Тым, хто забяспечвае наш спакой і мірнае жыццё. Усім, каму не абыякавая лёс краіны, хто сваёй працай і розумам гатовы працаваць на тварэнне. Усім: ад шараговых працаўнікоў да кіраўнікоў усіх узроўняў!

Я жадаю кожнаму з вас не згубіць працоўнай заўзятасці. Моцнага вам здароўя, поспехаў, сямейнага дабрабыту, святла і дабра.

# ЛІДСКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ РАШЭННЕ

25 лютага 2013 г. № 207

г. Ліда, Гарадзенская вобл.

*Аб выніках спаборніцтва працоўных калектываў раёна за дасягненне высокіх паказчыкаў у эканамічным і сацыяльна-культурным развіцці ў 2012 годзе.*

Абмеркаваўшы вынікі працы прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў Лідскага раёна за 2012 год, Лідскі раённы выканаўчы камітэт ВЫРАШЫЎ:

1. Уручыць Ганаровы дыплом першай ступені Лідскага раённага выканаўчага камітэту з грашовай прэміяй у памеры 30 (трыццаць) базавых велічынь, у тым ліку кіраўніку - 7 (сем) базавых велічынь за першае месца сярод арганізацый у сферы:

прамысловасці - адкрытаму акцыянернаму таварыству "Лакафарба" (дырэктар Сідараў Іван Пятровіч);

будаўніцтва - даччынаму прадпрыемству "Лідская ПМК-169" Гарадзенскага абласнога вытворчага праектна-будаўнічага ўнітарнага прадпрыемства "Гроднааблсельбуд" (дырэктар Лабецкі Уладзіслаў Юльянавіч);

гандлю - Гарадзенскаму абласному спажывецкаму таварыству (Лідскі філіял) (дырэктар Уласенка Ірына Мікалаеўна);

адукацыі - дзяржаўнай установе адукацыі "Гімназія № 1 г. Ліда" (дырэктар Зайцава Наталля Андрэеўна).

2. Уручыць Ганаровыя дыпламы другой ступені Лідскага раённага выканаўчага камітэту з грашовай прэміяй у памеры 15 (пятнаццаць) базавых велічынь, у тым ліку кіраўніку - 5 (пяць) базавых велічынь за першае месца сярод арганізацый у сферы:

транспарту - адкрытаму акцыянернаму таварыству "Гроднааблаўтатранс" (філіял "Аўтобусны парк № 2 г. Ліда, дырэктар Лапуць Андрэй Фёдаравіч);

аховы здароўя - установе аховы здароўя "Лідская цэнтральная раённая бальніца" (аддзяленне анестэзіялогіі, рэанімацыі і інтэнсіўнай тэрапіі, загадчык Гадомскі Сяргей Георгіевіч);

у пастаноўцы ідэалагічнай працы ў працоўным калектыве - Лідскаму гарадскому ўнітарнаму прадпрыемству жыллёва-камунальнай гаспадаркі (дырэктар Саўко Сяргей Янавіч);

культуры - калектыву дзяржаўнай установы адукацыі "Лідская дзіцячая музычная школа мастацтваў" (дырэктар Жылінская Алена Іванаўна);

фізкультурна-аздараўленчай працы - калектыву дзіцяча-юнацкай спартовай школы № 1 (фізкультурна-аздараўленчы цэнтр "Алімпія", дырэктар Самаеў Анатоль Вячаслававіч).

3. Уручыць Ганаровыя дыпломы другой ступені Лідскага раённага выканаўчага камітэту з грашовай прэміяй у памеры 15 (пятнаццаць) базавых велічынь, у тым ліку кіраўніку - 5 (пяць) базавых велічынь за другое месца сярод арганізацый у сферы:

прамысловасці - даччынаму прадпрыемству "Лідабудкантрукцыя" (дырэктар Хутны Аляксандр Францавіч);

сельскай гаспадаркі - Лідскаму раённаму сельскагаспадарчаму ўнітарнаму прадпрыемству "Мажэйкава" (дырэктар Рахатка Казімір Уладзіслававіч).

4. Уручыць Ганаровыя дыпломы трэцяй ступені Лідскага раённага выканаўчага камітэту з грашовай прэміяй у памеры 10 (дзесяць) базавых велічынь, у тым ліку кіраўніку - 3 (тры) базавыя велічыні за першае месца сярод арганізацый у сферы:

дашкольнай адукацыі - дзяржаўнай установе адукацыі "Яслі-сад № 26 г. Ліда" (загадчык Шлапік

Алеся Аляксандраўна);

малога і сярэдняга бізнэсу - таварыству з абмежаванай адказнасцю "Вега" (Бурко Часлаў Вацлававіч);

сельскагаспадарчых падраздзяленняў:

- вытворчаму ўчастку "Гуды" раённага сельскагаспадарчага ўнітарнага прадпрыемства "Саўгас "Лідскі" (брыгадзір Кеса Віктар Валер'евіч);

- малочна-таварнай ферме "Навасёлкі" сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва "Світанак-Мыто" (загадчык фермы Скляповіч Часлаў Станіслававіч).

5. Уручыць Ганаровыя дыпломы трэцяй ступені Лідскага раённага выканаўчага камітэта з уручэннем грашовай прэміі ў памеры 10 (дзесяць) базавых велічынь, у тым ліку кіраўніку - 3 (тры) базавыя велічыні за трэцяе месца сярод арганізацый у сферы:

прамысловасці - адкрытаму акцыянернаму таварыству "Завод "Оптык" (дырэктар Галавач Тадэвуш Юзафавіч);

сельскай гаспадаркі:

- сельскагаспадарчаму вытворчаму кааператыву "Ёдкаўскі" (старшыня Буракевіч Надзея Пятроўна);

- раённаму сельскагаспадарчаму ўнітарнаму прадпрыемству "Саўгас "Лідскі" (дырэктар Ірчыц Уладзіслаў Баляслававіч).

6. Занесці на раённую дошку Пашаны працаўнікоў прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў раёна, якія дамагліся найлепшых паказчыкаў па выніках года, з уручэннем грашовай прэміі ў памеры 3 (трох) базавых велічынь:

Атрашэўскага Андрэя Андрэевіча - начальніка змены пажарнай аварыйна-выратавальнай часткі № 5 Лідскага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях установы "Гарадзенскае абласное кіраванне Міністэрства па надзвычайных сітуацыях";

Букшу Марыну Пятроўну - настаўніцу гісторыі і грамадазнаўства дзяржаўнай установы адукацыі "Сярэдняя школа № 16 г. Ліды";

Вераціла Сяргея Яўгенавіча - педагога дадатковай адукацыі дзяржаўнай установы адукацыі "Лідскі раённы цэнтр дзяцей і моладзі";

Гаўрош Дануту Феліксаўну - майстра змены цэха па вытворчасці лакаў на кандэнсацыйных смолах адкрытага акцыянернага таварыства "Лакафарба";

Каспаровіча Аляксандра Станіслававіча - начальніка штаба - першага намесніка камандзіра вайсковай часткі 19764;

Коўчык Алену Міхайлаўну - начальніка аддзела тэхнічнага кантролю даччынага прадпрыемства "Лідабудканструкцыя";

Колышку Андрэя Антонавіча - кіраўніка народнага ансамбля народнай музыкі "Гудскі гармонік" Гудскага Цэнтра творчасці і вольнага часу;

Корсака Часлава Войцехавіча - кіроўцу аўтамабіля катэгорыі "Д" філіяла "Аўтобуснага парку № 2 г. Ліда адкрытага акцыянернага таварыства "Гроднааблаўтатранс";

Курбачову Сафію Іванаўну - ветэрана працы;

Перапечу Аляксандра Станіслававіча - намесніка начальніка аддзялення сродкаў і сістэм аховы Лідскага аддзела Дэпартамента аховы Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь;

Пісарык Людмілу Леанардаўну - прадаўца шостага разраду секцыі прадуктаў УКП крама № 1 "Дом гандлю";

Пуцілу Андрэя Іванавіча - аздобшчыка выдзіманых вырабаў шостага разраду цэха крышталю адкрытага акцыянернага таварыства "Шклозавод "Нёман";

Радзюкевіч Алену Ўладзіміраўну - сацыяльнага работніка першай катэгорыі аддзялення сацыяльнай дапамогі на хаце дзяржаўнай установы "Лідскі раённы тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва";

Родзьку Аляксандра Сямёнавіча - слесара па рамонце аўтамабіляў адкрытага акцыянернага таварыства "Лідаспецаўтатранс";

Рудзьку Аляксандра Андрэевіча - галоўнага інжынера адкрытага акцыянернага таварыства "Будвектар";

Руму Зміцера Анатолевіча - малодшага ўчастковага інспектара міліцыі аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі міліцыі грамадскай бяспекі Лідскага раённага аддзела ўнутраных спраў;

Садоўскую Алену Браніславаўну - лекара-кардыёлага кардыялагічнага аддзялення ўстановы аховы здароўя "Лідская цэнтральная раённая бальніца";

Санюка Васіля Яўгенавіча - апаратчыка цэха па вытворчасці камбікормавай прадукцыі адкрытага акцыянернага таварыства "Лідахлебапрадукт";

Сарокіна Барыса Барысавіча - вальцоўшчыка пятага разраду нарыхтоўча-зварачнага цэха № 6 адкрытага акцыянернага таварыства "Кіравальная кампанія холдынгу "Лідсельмаш";

Сідлярэвіч Святлану Мікалаеўну - тынкоўшчыка чацвёртага разраду спецыялізаванага кіравання №175 адкрытага акцыянернага таварыства "Будаўнічамантажны трэст №19";

Снапко Юрыя Юр'евіча - трэнера па лёгкай атлетыцы спецыялізаванай дзіцяча-юнацкай школы алімпійскага рэзерву № 2 г. Ліды;

Сосіка Юрыя Ўладзіміравіча - трактарыста вадаправодна-каналізацыйнай гаспадаркі Лідскага гарадскога ўнітарнага прадпрыемства жыллёва-камунальнай гаспадаркі;

Шалава Віталя Анатолевіча - намесніка начальніка службы - начальніка аддзела службы апаратыўнага кіравання вайсковай часткі 1234;

Юшкевіча Рамуальда Людвікавіча - механізатара Лідскага раённага сельскагаспадарчага ўнітарнага прадпрыемства "Мажэйкава".

7. Узнагародзіць Ганаровай граматай Лідскага раённага выканаўчага камітэту:

Астравуха Ўладзіміра Ўладзіміравіча - мадэльшчыка па металічных мадэлях адкрытага акцыянер-

нага таварыства "Лідскі ліцейна-механічны завод";

Бубноўскую Валянціну Васільеўну - выдзімальніка шклавырабаў пятага разраду цэха крышталю адкрытага акцыянернага таварыства "Шклозавод "Нёман";

Васкан Рэгіну Вацлаваўну - грузчыка мясатлушчавага цэха адкрытага акцыянернага таварыства "Лідскі мясакамбінат";

Гінцэвіча Ўладзіміра Ўладзіслававіча - загадчыка малочна-таварнай фермы "Палубнікі" камунальнага сельскагаспадарчага вытворчага ўнітарнага прадпрыемства "Лідская птушкафабрыка";

Казацкага Льва Леанідавіча - лекара-анестэзіёлага-рэаніматолага аддзялення анестэзіялогіі, рэанімацыі і інтэнсіўнай тэрапіі ўстановы аховы здароўя "Лідская цэнтральная раённая бальніца";

Калач Гелену Іосіфаўну - слесара механазборачных работ трэцяга разраду ў зборачна-фарбавальным цэху № 1 адкрытага акцыянернага таварыства "Кіравальная кампанія холдынгу "Лідсельмаш";

Кот Людмілу Іосіфаўну - аператара сушыльнага абсталявання адкрытага акцыянернага таварыства "Лідлён";

Кудрашову Тарэсу Міхайлаўну - начальніка аддзела інфармацыі дзяржаўнай установы "Рэдакцыя "Лідская газета";

Нічыпар Наталлю Янаўну - рабочую па комплекснай уборцы і ўтрыманню домаўласніцтваў жыллёва-эксплуатацыйнай службы № 3 Лідскага гарадскога ўнітарнага прадпрыемства жыллёва-камунальнай гаспадаркі;

Тур Ірыну Эдуардаўну - дырэктара Лідскага раённага Палаца культуры.

8. Узнагародзіць Падзячным лістом старшыні Лідскага раённага выканаўчага камітэту:

Аніскевіча Віталя Аляксандравіча - навучэнца трэцяга класа па спецыяльнасці “Гітара” дзяржаўнай установы адукацыі "Лідская дзіцячая музычная школа мастацтваў", лаўрэата рэспубліканскіх і раённых конкурсаў;

Гебеня Віктара Іванавіча - слесара механазборачных работ пятага разраду слясарна-механічнага цэха адкрытага акцыянернага таварыства "Лідскія аўтобусы "Нёман";

Грушу Аліцыю Збігнеўну - майстра ўчастка цэха № 2 адкрытага акцыянернага таварыства "Лідская абутковая фабрыка";

Дыско Святлану Віктараўну - намесніка дырэктара ўнітарнага камунальнага прадпрыемства гандлёвы цэнтр "Патсдам";

Дабранава Юрыя Ўладзіміравіча - старэйшага памочніка пракурора Лідскага раёна, юрыста першага класа;

Дракеля Паўла Станіслававіча - прараба даччынага прадпрыемства "Лідская ПМК - 169" Гарадзенскага абласнога вытворчага праектна-будаўнічага ўнітарнага прадпрыемства "Гроднааблсельбуд";

Кузюту Ірыну Валяр'янаўну - прадаўца пятага разраду з выкананнем абавязкаў загадчыцы крамы "Прадукты" аграгарадка Тарнова Лідскага філіяла Гарадзенскага абласнога спажывецкага таварыства;

Леўдаровіча Мечыслава Іванавіча - старшыню раённай арганізацыі грамадскага аб'яднання "Беларускі саюз ветэранаў вайны ў Афганістане";

Лейку Аліцыю Збігнеўну - мастацкага кіраўніка народнага хору адкрытага акцыянернага таварыства "Завод "Оптык";

Лакцевіч Ілону Міхайлаўну - галоўнага спецыяліста землеўладкавальнай службы Лідскага раённага выканаўчага камітэту;

Семенчука Валерыя Мікалаевіча - ляснічага Ваверскага лясніцтва дзяржаўнай лесагаспадарчай установы "Лідскі лягсас";

Сечку Алену Эдуардаўну - намесніка дырэктара па навучальнай працы ўстановы адукацыі "Лідскі дзяржаўны музычны каледж";

Сурконт Таццяну Мар’янаўну - настаўніцу гісторыі дзяржаўнай установы адукацыі "Сярэдняя школа № 1 г. Ліды";

Швед Ірыну Юзэфаўну - навуковага супрацоўніка дзяржаўнай установы "Лідскі гістарычна-мастацкі музей";

Шпака Рамана Часлававіча - лекара-анколага хірургічнага аддзялення ўстановы аховы здароўя "Лідская цэнтральная раённая бальніца".

9. Узнагародзіць Дыпломам Лідскага раённага выканаўчага камітэту з уручэннем грашовай прэміі ў памеры 2 (дзвюх) базавых велічынь:

Андрушкевіч Крысціну Станіславаўну - галоўнага бухгалтара камунальнага даччынага будаўнічага ўнітарнага прадпрыемства "Лідская дарожна-будаўнічая перасоўная механізаваная калона № 72";

Бельскага Віталя Міхайлавіча - намесніка камандзіра навучальна-трэніровачнай авіяцыйнай эскадрыллі па інжынерна-авіяцыйнай службе вайсковая частка № 97091;

Бірук Алену Віталеўну - спецыяліста па кадрах службы персаналу адкрытага акцыянернага таварыства "Лідскае піва";

Вашкевіча Аляксандра Лявонавіча - слесара механазборачных работ 4 разраду адкрытага акцыянернага таварыства "Лідаграпраммаш";

Горбача Сяргея Іосіфавіча - прараба будаўнічага кіравання -133 адкрытага акцыянернага таварыства "Будаўніча-мантажны трэст №19";

Грышкевіч Валянціну Сяргееўну - дырэктара дзяржаўнай установы адукацыі "Лідская дзіцячая мастацкая школа мастацтваў";

Данюша Яраслава Леанардавіча - інжынера відэамантажу камунальнага інфармацыйна-рэкламнага ўнітарнага прадпрыемства "Лідскае тэлерадыёаб’яднанне";

Дрозд Іну Антонаўну - начальніка цэха сухога абястлушчанага малака адкрытага акцыянернага таварыства "Лідскі малочна-кансервавы камбінат";

Дудзіцкую Жану Мікалаеўну - начальніка планава-вытворчага бюро філіяла рэспубліканскага ўнітарнага вытворчага прадпрыемства "Гроднахлебпрам"

Лідскі хлебазавод;

Карчэўскага Івана Адасьевіча - начальніка лінейна-тэхнічнага ўчастка сельскай тэлефоннай сувязі Лідскага раённага вузла электрычнай сувязі Гарадзенскага філіяла рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Белтэлеком";

Казлоўскага Сяргея Канстанцінавіча - брыгадзіра муляроў адкрытага акцыянернага таварыства "Будвектар";

Козырава Леаніда Мікалаевіча - галоўнага канструктара адкрытага акцыянернага таварыства "Лідабудматэрыялы";

Кароль Вольгу Аркадзеўну - начальніка аддзела дэкларавання прыбыткаў і маёмасці кіравання кантролю за падаткаабкладаннем індывідуальных прадпрымальнікаў і фізічных асоб інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах Рэспублікі Беларусь па Лідскім раёне;

Кастылёва Сяргея Ўладзіміравіча - настаўніка фізічнай культуры дзяржаўнай установы адукацыі "Ваверская сярэдняя школа";

Куляша Анатоля Часлававіча - кіроўцу дарожнага пагрузчыка кіравання механізавання і спецработ №163 адкрытага акцыянернага таварыства "Будаўнічамантажнага трэста № 19";

Лапату Рэгіну Іванаўну - загадчыцу цэнтральнай раённай аптэкі № 146 Лідскага раёна Гарадзенскага гандлёва-вытворчага рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Фармацыя";

Мікуць Іосіфа Іванавіча - кіроўцу аўтамабіля першага класа дарожнага рамонтна-будаўнічага кіравання № 48 адкрытага акцыянернага таварыства "Аўтамагістраль";

Новік Вольгу Віктараўну - жывёлавода сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва "Беліца-Агра";

Пятрову Ядвігу Станіславаўну - выдзімальніка шклавырабаў шостага разраду цэха бясколернага шкла адкрытага акцыянернага таварыства "Шклозавод "Нёман";

Урбялевіча Леаніда Іосіфавіча - муляра чацвёртага разраду даччынага прадпрыемства "Лідская ПМК-169" Гарадзенскага абласнога вытворчага праектна-будаўнічага ўнітарнага прадпрыемства "Гроднааблсельбуд".

10. Узнагародзіць грашовай прэміяй у памеры 2 (дзвюх) базавых велічынь:

Амбражука Лявона Станіслававіча - машыніста свідравальна-кранавай машыны пятага разраду Лідскага раёна электрычных сетак філіяла "Лідскія электрычныя сеткі" Гарадзенскага рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства электраэнергетыкі "Гродна-энерга";

Андрушкевіча Валерыя Іосіфавіча - кіроўцу камунальнага даччынага будаўнічага ўнітарнага прадпрыемства "Лідская дарожна-будаўнічая перасоўная механізаваная калона - 72" Гарадзенскага абласнога вытворчага праектна-будаўнічага ўнітарнага прадпрыемства "Гроднааблсельбуд";

Арышчанку Юрыя Канстанцінавіча - кіроўцу другога разраду даччынага прадпрыемства "Лідская ПМК-170" Гарадзенскага абласнога вытворчага праектна-будаўнічага ўнітарнага прадпрыемства "Гродна-аблсельбуд";

Бальцэвіч Алену Васільеўну - майстра аўтазаправачных станцый адкрытага акцыянернага таварыства "Лідanaфтапрадукт";

Богдан Наталлю Лявонаўну - жывёлавода раённага сельскагаспадарчага ўнітарнага прадпрыемства "Саўгас "Лідскі";

Бардачову Таццяну Мар'янаўну - настаўніцу біялогіі, старшыню прафсаюзнай арганізацыі дзяржаўнай установы адукацыі "Сярэдняя школа № 9 г. Ліды";

Бачарову Наталлю Юр'еўну - педагога-псіхолага дзяржаўнай установы адукацыі "Дашкольны цэнтр развіцця дзіцяці № 1 п. Дзітва";

Букатку Валяр'яна Іосіфавіча - слясара-рамонтніка вытворчасці вадаправодна-каналізацыйнай гаспадаркі Лідскага гарадскога ўнітарнага прадпрыемства жыллёва-камунальнай гаспадаркі;

Бумай Мікалая Мікалаевіча - выкладчыка ўстановы адукацыі "Лідскі дзяржаўны прафесійны ліцэй меліярацыйнага будаўніцтва";

Буранкову Валянціну Іванаўну - маляра адкрытага акцыянернага таварыства "Лідарамбуд-4";

Васільца Яна Войцехавіча - кіроўцу другога класа дарожнага рамонтна-будаўнічага кіравання №157 камунальнага ўнітарнага прадпрыемства "Гроднааблдарбуд";

Васілючак Наталлю Вацлаваўну - прадаўца пятага разраду таварыства з абмежаванай адказнасцю "Ліда-Сузор'е";

Вярэтнікава Сяргея Яўгенавіча - начальніка службы па дастаўцы і ўліку звадкаванага газу вытворчага кіравання Лідаміжрайгаз" вытворчага рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Гроднааблгаз";

Гаўрылаву Тарэсу Вацлаваўну - метрдатэля рэстарана "Гедымін" адкрытага акцыянернага таварыства "Гандлёва-вытворчая фірма "Ліда";

Гудзень Таісію Мікалаеўну - аператара машыннага даення сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва "Ёдкаўскі";

Гурноўскую Алену Мар'янаўну - намесніка дырэктара па ідэалагічнай працы, спецыяліста па кадрах сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва "Бердаўка";

Дацкевіча Валерыя Ўладзіміравіча - загадчыка мікрабіялагічнай лабараторыі дзяржаўнай установы "Лідскі занальны цэнтр гігіены і эпідэміялогіі";

Дзядуль Наталлю Анатольеўну - кухара шостага разраду рэстарана "Патсдам" унітарнага камунальнага прадпрыемства "Гандлёвы цэнтр "Патсдам";

Дасько Сяргея Міхайлавіча - абліцоўшчыка плітачніка пятага разраду закрытага акцыянернага таварыства "БМК №7";

Драбняка Віктара Станіслававіча - жывёлавода Лідскага раённага сельскагаспадарчага ўнітарнага прадпрыемства "Мажэйкава";

Емяльянчык Ганну Іосіфаўну - аператара машыннага даення сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва "Ходараўцы-Агра";

Завадскага Арцёма Леанідавіча - машыніста экскаватара пятага разраду даччынага ўнітарнага прадпрыемства "Лідская ПМС";

Кветку Зою Дамінікаўну - буфетчыка трэцяга разраду дзяржаўнай установы адукацыі "Сярэдняя школа № 5 г. Ліды" ўнітарнага камунальнага прадпрыемства "Камбінат школьнага харчавання";

Кетку Сяргея Міхайлавіча - кіроўнага інжынер-энергетыка прыватнага будаўнічага ўнітарнага прадпрыемства "Лідская ПМК";

Клейду Юрыя Міхайлавіча - майстра даччынага прадпрыемства "Мінойтаўскі рамонтны завод" Гарадзенскага ўнітарнага прадпрыемства "Воблсельгастэхніка";

Кавалевіч Ірыну Сцяпанаўну - загадчыцу секцыі “Прадукты” ўнітарнага камунальнага прадпрыемства крама № 1 "Дом гандлю";

Кавалеўскую Алу Арсеньеўну - буфетчыцу чацвёртага разраду адкрытага акцыянернага таварыства "Лакафарба";

Лапату Чаславу Іосіфаўну - аператара свінагадоўчага комплексу "Прагрэс" адкрытага акцыянернага таварыства "Лідахлебапрадукт";

Мацкевіч Яніну Іосіфаўну - сястру-гаспадыню дзяржаўнай установы "Лідскі дом-інтэрнат для псіханеўралагічных хворых";

Мікшу Гелену Чаславаўну - спецыяліста першай катэгорыі аддзела разлікаў аддзялення адкрытага акцыянернага таварыства "Белаграпрамбанк";

Пясецкага Андрэя Мар’янавіча - трактарыста-машыніста сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва "Бердаўка-Агра";

Развінава Валерыя Аляксандравіча - кіроўцу-пагрузчыка дарожна-будаўнічага кіравання №24 адкрытага акцыянернага таварыства "Дарожна-будаўнічы трэст № 6";

Роўбу Валерыя Юзафавіча - слесара па рамонце сельскагаспадарчых машын і абсталявання чацвёртага разраду станцыі тэхнічнага абслугоўвання і механізацыі жывёлагадоўчых фермаў адкрытага акцыянернага таварыства "Ліда-агратэхсервіс";

Раманюка Станіслава Аляксеевіча - начальніка брыкетнага цэха адкрытага акцыянернага таварыства "Торфабрыкетны завод Дзітва";

Савоня Віктара Фёдаравіча - электраманцёра па абслугоўванні і рамонце апаратуры і прылад сувязі Лідскай дыстанцыі сігналізацыі і сувязі;

Саук Наталлю Рыгораўну - аператара пульта дыстанцыйнага аўтаматычнага кіравання элеватара адкрытага акцыянернага таварыства "Лідахлебапрадукт";

Сямёнаву Ванду Эдвардаўну - складальніка фаршу каўбаснага цэха адкрытага акцыянернага таварыства "Лідскі мясакамбінат";

Сёмуху Васіля Антонавіча - электраманцёра па рамонце электраабсталявання камунальнага ўнітарнага прадпрыемства "Лідскі камбінат побытавых паслуг";

Савасцюк Марыю Баляслаўну - дазіроўшчыка харчовай прадукцыі трэцяга разраду ўчастка харчовых канцэнтратаў адкрытага акцыянернага таварыства "Лідскія харчовыя канцэнтраты";

Стралкоўскага Андрэя Аляксандравіча - электрагазазваршчыка 5 разраду раёна цеплавых сетак філіяла "Лідскія цеплавыя сеткі" Гарадзенскага рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства электраэнергетыкі "Гроднаэнерга";

Тарасевіча Юрыя Яраслававіча - ацынкоўшчыка рэспубліканскага даччынага ўнітарнага вытворчага прадпрыемства "Конус" рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Навукова-практычны цэнтр Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі па механізацыі сельскай гаспадаркі";

Тышкевіча Мікалая Ўладзіміравіча - тынкоўшчыка філіяла будаўніча-мантажнага кіравання № 2 адкрытага акцыянернага таварыства "Будаўніча-мантажны трэст "Белпалівабуд";

Трэмзіну Ірыну Вітольдаўну - прыбіральніцу тэрыторый дарожна-эксплуатацыйнай вытворчасці Лідскага гарадскога ўнітарнага прадпрыемства жыллёва-камунальнай гаспадаркі;

Чарнушэвіч Ірыну Іванаўну - птушніцу камунальнага сельскагаспадарчага вытворчага ўнітарнага прадпрыемства "Лідская птушкафабрыка";

Шапель Яўгенія Георгіевіча - электрагазазваршчыка адкрытага акцыянернага таварыства "Белсантэхмантаж - 2" філіяла "Лідскае мантажнае кіраванне";

Шынкевіча Алега Міхайлавіча - трактарыста-машыніста сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва "Пескаўцы";

Шыпаву Галіну Дзмітрыеўну - майстра ўчастка вырабу актыўных частак трансфарматараў цэха № 6 адкрытага акцыянернага таварыства "Лідскі завод электравырабаў";

Шундрыка Сяргея Сямёнавіча - лекара - псіхіятра ўстановы аховы здароўя "Абласная псіханеўралагічная бальніца "Астроўля" Лідскага раёна";

Шуя Аляксандра Канстанцінавіча - слесара-электрыка па рамонце электраабсталявання транспартнага цэха адкрытага акцыянернага таварыства "Торфабрыкетны завод Лідскі";

Якшэвіча Івана Аляксандравіча - кіраўніка фізічнага выхавання Лідскага каледжа Ўстановы адукацыі "Гарадзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы".

11. Прэміяванне ў памеры 64 700 000 (шэсцьдзесят чатыры мільёны семсот тысяч) рублёў зрабіць за кошт сродкаў, прадугледжаных на правядзенне мерапрыемстваў райвыканкаму паводле каштарысу выдаткаў (прыкладаецца).

12. Кантроль за выкананнем гэтага рашэння ўскласці на намесніка старшыні райвыканкаму Глаўніцкага А.Т.

Старшыня А.Н. Астроўскі.
Кіраўнік справамі А.П. Быкоўскі.

# Лідскія юбіляры 2013 года

## Казімір Даніэль Нарбут

### 275 гадоў з дня нараджэння

**НАРБУТ Даніэль Казімір** (03.01.1738 - 17.03.1807), філасоф, педагог, перакладчык, каталіцкі святар. Доктар грамадзянскага і кананічнага права. Аўтар першага на польскай мове падручніка па логіцы.

Нарадзіўся ў вёсцы Крупа (Крупава) Лідскага павету Віленскага ваяводства. Вучыўся ў піярскай школе ў Шчучыне, быў паслушнікам у навіцыяце мястэчка Любяшоў Пінскага павету Берасцейскага ваяводства. У 1757-1759 гадах вучыўся ў піярскім калегіюме ў мястэчку Дубровіца Пінскага павету Берасцейскага ваяводства. З 1759 года вывучаў філасофію і матэматыку ў Віленскім піярскім калегіюме, каля 4 гадоў - у піярскай вучэльні ў Рыме, дзе ў 1761 годзе прыняў пасвячэнне ў сан святара. Пасля вяртання ў 1764 годзе на радзіму прызначаны прафесарам і прэфектам піярскага калегіюма ў Дубровіцы. Затым пераведзены ў Вільню, дзе чытаў лекцыі па філасофіі ў піярскім калегіюме, быў прэфектам піярскай друкарні. У 1755-1775 гадах членам ордэна піяраў, пазней свецкі святар - пробашч у Радзыміне пад Варшавай і ў Лідзе. У 1773-1774 гадах знаходзіўся ў Нямеччыне і Францыі. У 1775-1792 гадах працаваў у Эдукацыйнай камісіі ў Варшаве - першым у Еўропе міністэрстве народнай адукацыі. У 1769 годзе выдаў у Вільні першы на польскай мове падручнік па логіцы "Логіка, ці Навука развагі і прадумвання сутнасці рэчаў" (перавыдадзены ў 1775, 1782, 1791, 1799 гадах). Аўтар курсу "Эклектычнай філасофіі". Сумесна з вучнямі ў 1771 годзе выдаў "Выбраныя меркаванні з філасофіі…". Пасля 1795 года адышоў ад спраў, жыў у вёсцы Радзівонішкі Лідскага павету Гарадзенскай губерні, дзе і памёр. Кавалер ордэна Святога Станіслава (1793).

Прадстаўнік эклектычнага кірунку ў філасофіі эпохі Асветніцтва. Філасофію лічыў найважнай дысцыплінай. У сваіх працах выказваўся за свабоду філасафавання, злучаючы яе з пошукам праўды і крытычным стаўленнем да выказванняў любых мысляроў, незалежна ад іх аўтарытэту. Паслядоўна выступаў супраць схаластыкі. Прызначэнне навукоўцаў і філосафаў бачыў у служэнні грамадству, у развіцці навук, накіраваных на рашэнне практычных задач. Асновай спазнання лічыў дакладнасць і відавочнасць ідэй, прытрымваўся прынцыпаў метаду Рене Дэкарта. Для ўстанаўлення праўды патрабаваў усебаковага і разнастайнага даследавання з'яў. Верыў, што чалавек здольны спасцігнуць праўду.

Крытык саслоўнай сістэмы адукацыі і выхавання, асабліва езуіцкай канцэпцыі, займаўся школьнай рэформай у Беларусі і Літве. Адстойваў неабходнасць свецкай адукацыі. Адной з асноўных адукацыйных дысцыплін лічыў свецкую этыку. У 1775 годзе Эдукацыйнай камісіяй прызначаны чальцом "Таварыства па складанні элементарных кніг". Напісаў дзве часткі для школьнага "Статута парафіяльных школ" і навучанне "Пра інспектаванне школ", у якіх настойваў, каб у школах Эдукацыйнай камісіі навучалі неабходным практычным навыкам і ведам, якія былі б карыснымі для чалавека ва ўмовах капіталістычнага грамадства, якое зараджалася. Адмысловую ўвагу звяртаў на неабходнасць гуманнага абыходжання настаўнікаў з вучнямі з бедных сем'яў, якія складалі асноўны кантынгент парафіяльных школ. Выступаў супраць фізічных пакаранняў навучэнцаў.



У 1771 годзе пераклаў з французскай мовы на польскую кнігу "Ваенная навука прускага караля, выкладзеная для яго генералаў". У прадмове да яе адзначаў, што разумныя і гуманныя тыя мерапрыемствы і тая палітыка, якія накіраваны на карысць усім людзям, спрыяюць развіццю мануфактур і горнай справы, удасканаленню сельскай гаспадаркі, развіццю ўнутранага рынку. Напачатку 1770-х выказаў ідэю пра сацыяльную прыроду чалавека, блізкую ідэям Грэцыя і Лока. Дзяржаву разглядаў як арганізацыю, якая ўзнікае ў інтарэсах усіх і кожнага па асобнасці. Адстойваў ідэю аўтаномнасці ад дзяржавы натуральных правоў асобы, якія толькі гарантуюцца дзяржавай. Аснова грамадскага ладу - законы і няўхільнае выкананне іх. Засталіся неапублікаванымі яго пераклады з французскай мовы рэлігійных твораў "Evangile meditee" ("Евангелічныя развагі") і "La religion christienne meditee" ("Развагі пра хрысціянскую рэлігію").

**Працы:**

1. Logika, albo rozwazania i rozsadzania rzeczy nauka, wedlug ktorej kazdy ma we wszystkim prawdy dochodzic i strzec sie falszu. Wilno, 1769.

2. Z filozofii wybrane zdania, ktore Nayjasnieyszemu Stanislawowi Augustowi, Krolowi Polskiemu, ... przypisane. Wilno, 1771.

3. Nauka zolnierska krola pruskiego dla jego generalow dana. Wilno, 1771.

**Літаратура:**

1. Moszynski A. Wiadomosc o Kazimierzu Narbucie autorze pierwszej logiki w jezyku polskim // Rocznik Towarzystwa Naukowego Krakowskiego. 1843. T. 2. S. 249-262.

2. Narbutt O. O pierwszym polskim podreczniku logiki. Z rozwazan nad filozofia Oswiecenia. Lodz: Zaklad Narodowy im. Ossolinskich we Wroclawiu, 1958. 146 s.

3. Дубровский В.В. Казимир Нарбут. Минск: Наука и техника, 1979. 136 с.

4. Stasiewicz-Jasiukowa I. Kazimierz Narbutt (1738-1807). Warszawa; Lida. 2005. 79 s.

# Мар'ян Андрэевіч Баяровіч
## 80 гадоў з дня нараджэння



**БАЯРОВІЧ Мар'ян Андрэевіч** нарадзіўся 1 студзеня 1933 г. у вёсцы Альгецішкі Ашмянскага р-на Гарадзенскай вобласці. Беларус. Адукацыя вышэйшая. Закончыў Беларускую акадэмію музыкі па класе баяна ў 1970 годзе. Па спецыяльнасці выкладчык. Працоўны стаж 50 гадоў.

Працоўную дзейнасць пачаў з траўня 1951 года сакратаром, а затым старшынём Ашмянскага сельскага Савета.

З верасня 1954 г. па жнівень 1958 г. вучыўся ў Гарадзенскай музпеднавучальні, а з верасня 1958 г. па студзень 1975 г. ужо працаваў выкладчыкам, загадчыкам аддзялення, намеснікам дырэктара па навучальнай рабоце Гарадзенскай музпеднавучальні.

З 1975 г. працаваў намеснікам дырэктара, з 1977 г. - дырэктарам Лідскай музнавучальні, а з лістапада 1996 г. - выкладчыкам.

Мар'ян Баяровіч праводзіў вялікую работу па адраджэнні беларускай культуры, па пераходу навучальні на выкладанне на роднай мове, па развіцці беларускага мастацтва ў горадзе і вобласці, па выхаванні ў навучэнцаў і супрацоўнікаў навучальні нацыянальнай самасвядомасці. Дзякуючы намаганням М.А. Баяровіча, агульнанавучальныя і групавыя пазакласныя мерапрыемствы праводзіліся на роднай мове, 43 выкладчыкі з 72 вучэбна-выхаваўчую работу праводзілі на беларускай мове.

Наогул, у навучальні ўсё гаварыла аб тым, што нацыянальнае адраджэнне — не пустыя словы ў гэтых сценах. Афармленне ўсёй нагляднай агітацыі было выканана на беларускай мове. Першы паверх вучэбнага корпуса аформлены тэматыкай беларускага музычнага мастацтва, у цантры якога была памешчана нацыянальная сімволіка Рэспублікі Беларусь — герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг.

М. Баяровіч актыўна ўдзельнічаў у метадычнай і грамадскай працы. З'яўляўся старшынём Лідскага метадычнага аб'яднання выкладчыкаў дзіцячых музычных школ, старшынём Лідскага аддзялення Беларускага Саюза музычных дзеячоў, сябар Управы БСМД. Быў старшынём рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны Лідскай музнавучальні, сябрам рады Лідскай арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны.

Пры Мар'яне Баяровічы ў Лідскай музычнай навучальні была другая па велічыні арганізацыя ТБМ у горадзе. Выкладаць беларускую мову ў навучальню быў запрошаны старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Міхась Мельнік. І трэба разумець, што навучэнцы праходзілі цудоўную школу патрыятызму, любові да сваёй Бацькаўшчыны, любові да беларускай мовы і беларускай культуры. Навучальня ўзяла неафіцыйнае шэфства над помнікам Францішку Скарыну, і на кожнае свята да помніка клаліся кветкі ад навучэнцаў музнавучальні.

Абвесткі і іншыя дакументы Лідскіх гарадскіх арганізацый ТБМ і БНФ "Адраджэньне" ў 90-я гады XX стагоддзя размнажаліся не дзе-небудзь, а на ксераксе музнавучальні, з ведама дырэктара Мар'яна Баяровіча.

М. Баяровіч выдаў два зборнікі: "Зборнік апрацовак беларускіх народных песень і танцаў, твораў беларускіх кампазітараў для двухраднага храматычнага гармоніка, баяна і акардэона ў дапамогу выкладчыкам пачатковага, сярэдняга і вышэйшага звяна музычнай адукацыі" (Мінск, Беларускі кнігазбор, 1998), "170 беларускіх народных песень Гродзеншчыны" (Гродна, Ратуша, 2002), якія на V Рэспубліканскім аглядзе метадычнай і творчай работы выкладчыкаў навучальных устаноў мастацтва і культуры ўзнагароджаны Граматай Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

Значную работу па развіцці і прапагандзе нацыянальнай культуры праводзілі музычныя калектывы навучальні: жаночы народны фальклорны хор, беларускі народны аркестр, рэпертуар якіх складаўся з беларускай народнай музыкі і твораў беларускіх кампазітараў. Канцэртныя выступленні гэтых калектываў былі вядомы не толькі ў вобласці, але і за мяжой.

Пастановай Прэзідыюма Гарадзенскага абласнога савета ўзнагароджаны Ганаровай граматай за шматгадовую работу па адраджэнні беларускай нацыянальнай культуры і падрыхтоўцы музычных кадраў.

За поспехі ў працы ўзнагароджаны:

1. Граматай і медалём Вярхоўнага Савета БССР (1960 г.).
2. Медалём "За доблесную працу ў азнаменаванне 100-годдзя з дня нараджэння У.І. Леніна" (1970 г.).
3. Нагрудным знакам "Выдатнік народнай асветы" (1972 г.).
4. Бронзавым медалём ВДНГ СССР "За дасягнутыя поспехі ў развіцці народнай гаспадаркі СССР" (1979 г.).
5. Медалём "Ветэран працы" (1990 г.).

Пахавалі Мар'яна Баяровіча 21 жніўня 2006 года на Лідскіх могілках па Крупаўскай дарозе.

***Станіслаў Суднік.***

# Аляксандр Васільевіч Жалкоўскі

## 80 гадоў з дня нараджэння

**ЖАЛКОЎСКІ Аляксандр Васільевіч** нарадзіўся 1.03.1933 г. у в. Сасновы Бор (да перайменавання - Цёмнае Балота) Шчучынскага раёна. Працаваў адказным сакратаром Васілішкаўскай раённай газеты (1950 г.), рэдактарам Воранаўскай (1961-1962 г.) і Мастоўскай (1965-1969 гг.) раённых газет. У Лідзе з 1962 г. Быў рэдактарам Лідскай газеты "Уперад" у 1969-89 гг. Наступныя гады працаваў уласным карэспандэнтам абласной газеты "Гродзенская праўда". Лаўрэат прэмій творчых конкурсаў, узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР і ганаровым знакам "2000 год Хрысціянству". Сябар Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ з дня заснавання. Аўтар шматлікіх артыкулаў публіцыстычнага і краязнаўчага характару, у тым ліку сталы карэспандэнт газеты "Наша слова". Адзін з стваральнікаў лідскай кнігі "Памяць".

Аматарам мастацкага слова вядомы ўздзенскі Нізок, багаты на паэтаў. На гэтае паселішча падобныя дзятлаўскія Зачэпічы, якія слынны Ул. Калеснік назваў гняздом паэтаў. А вось Валянцін Блакіт у мемуарах "Уваскрасенне ўчарашняга дня" (часопіс "Дзеяслоў" № 6 за 2007 г.) параўноўвае з вёскай Нізок роднае Вострава, бо яно было багатае на рэдактараў, вось радкі з расповяду В. Блакіта: *"Саша Жалкоўскі доўгія гады рэдагаваў адну з лепшых у рэспубліцы лідскую газету "Уперад", Саша Сыч – "Астравецкую праўду", ну і я больш за трыццаць гадоў – "Вожык".*

Аўтар мемуараў прыгадвае, як юныя карэспандэнты з Вострава марылі стаць журналістамі і дасыламі свае нататкі ў розныя рэдакцыі: *"Творчую пальму першынства трымаў старэйшы Саша Жалкоўскі, чые допісы друкавала не толькі раёнка, а часам абласная і нават рэспубліканскія газеты. Навыперадкі за ім гналіся мы, маладзейшыя... Пасля сямігодкі Жалкоўскага ўзялі на работу ў рэдакцыю ў суседнюю Астрыну."*

Летам 1950 года ў тым невялікім мястэчку, якое было цэнтрам Васілішкаўскага раёна, 17- гадовы Саша Жалкоўскі пачаў працаваць адказным сакратаром рэдакцыі раённай газеты "Ленінскі шлях". Так пачалася яго журналісцкая біяграфія даўжынёй амаль шэсцьдзесят гадоў. А сасваталі яго на тую пасаду наборшчык мясцовай друкарні Міхаіл Яропкін, які партызаніў у Астрынскай старане ў гады нямецкай акупацыі, і рэдактар Платон Дубовік, таксама былы партызан, толькі з Бярэзіншчыны. Яны ацанілі здольнасці селькара і не памыліліся: пасля атрымання адпаведнай адукацыі іх вылучэнец у розныя гады узначальваў воранаўскую, мастоўскую, лідскую газеты, звыш 15 гадоў працаваў у "Гродзенскай праўдзе", супрацоўнічаў з такімі выданнямі, як "Звязда", "Беларуская ніва", "Літаратура і мастацтва", "Краязнаўчая газета", "Наша слова", "Настаўніцкая газета", "Прынёманскія весці", "Лідская газета", "Лідскі летапісец" і інш.



Артыкулы, нарысы, інтэрвію, допісы А. Жалкоўскага адрозніваюцца глыбокім зместам, каларытнасцю мовы, асабістым поглядам. Для пацвярджэння вышэй сказанага нагадаю словы Івана Лазуты, былога рэдактара Смаргонскай газеты "Светлы шлях": *"Духам здаровага творчага саперніцтва былі прасякнуты нашы рэдакцыйныя будні, працавалася ахвотна, прыемна і лёгка. Такі дабратворны мікраклімат стварыў і падтрымліваў у калектыве наш паважаны шэф – рэдактар лідскай газеты "Уперад" Аляксандр Васільевіч Жалкоўскі. Мы стараліся раўняцца на яго і ў плане творчым: публікацыі рэдактара вызначаліся вастрынёй і дакладнасцю, цікавай формай падачы, былі выразна адметны жывым, вобразным словам. Амаль што сем гадоў пашчасціла мне працаваць пад прафесійнай і бацькоўскай апекай Аляксандра Васільевіча."* (Іван Лазута "Пара ісці" з кнігі А. В. Богуша і В. П. Амелькі "Призвание быть журналистом", Гародня, 2008 г.).

Як грамадзянін і чалавек А. Жалкоўскі займаў актыўную жыццёвую пазіцыю. Яго дабрачынная дзейнасць мае свае заслужаныя вынікі. Так у бытнасць рэдактарам газеты "Уперад" яе кіраўнік і яго калегі прымалі ўдзел у донарскім руху і ў дзейнасці Савецкага фонду міру, за што Аляксандр Жалкоўскі ўганараваны званнем "Ганаровы донар СССР" і Ганаровай граматай Савецкага фонду міру за подпісам яго старшыні легендарнага героя мінулай вайны Аляксея Марэсьева. За шматлікія публікацыі аб духоўнай прыгажосці чалавека ён узнагароджаны медалём "2000 год Хрысціянству".

Трэба адзначыць, што тэматыка публіцыстычных матэрыялаў А. Жалкоўскага даволі разнастайная. Гэта і падзеі культурнага жыцця рэгіёна, творчая дзейнасць мастацкіх калектываў і асобных паэтаў, скульптараў, мастакоў, музыкаў, гэта і грамадскія з'явы, праблемы эканомікі, дзейнасць уладных структур, грамадскіх арганізацый, міжнацыянальныя адносіны, жыццё ўстаноў адукацыі...

А. Жалкоўскі ведаў практычна ўсіх літаратараў Лідчыны, і быў асабіста добра знаёмы з многімі з іх. Ён адкрыў шматлікім чытачам імя земляка з Варшавы,

вядомага публіцыста і збіральніка фальклору Лідчыны Земавіта Фядэцкага, сына землеўласніка з маёнтка Лебяда.

А. Жалкоўскі вылучаўся сваёй добразычлівасцю, увагай да ўсяго і кожнага.

Алесь Жалкоўскі на працягу ўсяго жыцця заставаўся змагаром за роднае слова, заступнікам за народ беларускі. У апошнія гады, калі раённыя і абласныя газеты сталі больш рускамоўнымі, Алесь Васільевіч не здаўся, не апусціў рук, не здрадзіў роднай мове. І яго беларускасць была настолькі натуральнай, што іншым ён і не ўяўляўся.

Нітка жыцця вядомага, руплівага і таленавітага краязнаўца, журналіста, шчырага змагара за беларускасць Алеся Жалкоўскага абарвалася ў Лідзе 14 красавіка 2011 года.

Правесці ў апошні шлях Алеся Жалкоўскага прыйшлі і работнікі ідэалагічнага аддзелу Лідскага райвыканкаму ды старшыня райсавету і сябры ТБМ ды БНФ. І надпіс на крыжы быў па-беларуску і большасць вянкоў падпісана па-беларуску. Але самае галоўнае, што калі прыйшла пара на жалобным мітынгу сказаць апошняе "Бывай", унучка Насця развіталася з дзедам на чысцюткай і натуральнай беларускай мове. Не толькі сам пражыў беларусам Алесь Жалкоўскі, але і пакінуў сваю беларускасць у спадчыну, перадаў з генамі і крывёю.

***Міхась Мельнік, Алесь Хітрун.***

---

# Аляксандр Віктаравіч Шарапа

## 75 гадоў з дня нараджэння



**Шарапа Аляксандр Віктаравіч.** Доктар гістарычных навук (1988). Прафесар Нарадзіўся 26 студзеня 1938 г. у в. Ходараўцы. Скончыў Жалудоцкую СШ (1955), фізіка-матэматычны факультэт Менскага педінстытута імя М. Горкага (1960). Настаўнік Вілейскай школы-інтэрната (1961) Працаваў у камсамольскіх і партыйных установах, пачынальна ад гаркама камсамолу да апарату ЦК КПБ (1961-73). Аспірант ВПШ імя К. Маркса ў Берліне (1973-76). Абараніў кандыдацкую дысертацыю (1977). Сакратар парткаму Менскай вышэйшай партыйнай школы. Прарэктар БДУ па міжнародных сувязях (1982-92). Абараніў доктарскую дысертацыю (1988). Прафесар (1989). Ініцыятар стварэння кафедры міжнародных адносін і яе загадчык (з 1992). Адзін з арганізатараў факультэта міжнародных адносін БДУ і яго першы дэкан (1995-2008). Спецыялізуецца на вывучэнні глабальных тэндэнцый сусветнага развіцця, актуальных праблемах беларуска-расійскай інтэграцыі, унутранай і вонкавай палітыкі ФРГ. Неаднаразова чытаў лекцыі ў якасці запрошанага прафесара ў замежных універсітэтах.

Чалец Навуковай Рады БДУ, рэдкалегіі "Веснік БДУ" і рэдакцыйнай рады "Часопіса міжнароднага права і міжнародных адносін". Чалец камісіі па прысуджэнні прэміі БДУ ім. В. І. Пічэты, чалец Кіравання Беларускага грамадскага аб'яднання ветэранаў БДУ. Віцэ-прэзідэнт Беларускай асацыяцыі палітычных навук. Супрацоўнік цэнтра вывучэння знешняй палітыкі і бяспекі (з 2008). "Выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь (1998), "Заслужаны работнік адукацыі Рэспублікі Беларусь" (2004). Узнагароджаны медалём Францыска Скарыны (1996). Аўтар больш за 100 навуковых публікацый, у тым ліку трох манаграфій, навучальных дапаможнікаў.

**Некаторыя працы:**

О некоторых аспектах внешней политики ФРГ на современном этапе. // Белорусский журнал международного права и международных отношений. 1999. № 4.

Российско-белорусская интеграция и общественное мнение. // Белорусский журнал международного права и международных отношений. 2000. № 1.

Косовский конфликт: последствия и уроки. // Белорусский журнал международного права и международных отношений. 2000. № 3.

Союз России и Беларуси: проблемы и перспективы в свете глобализации. // Белорусский журнал международного права и международных отношений. 2001. № 2.

Белорусско-германские отношения на современном этапе: основные проблемы и перспективы. // Внешняя политика Беларуси в исторической ретроспективе. 2002.

Беларусь и Россия в XXI веке. // Белорусский журнал международного права и международных отношений. 2003. № 3.

Политические системы и внешняя политика Германии, Австрии и Швейцарии: учебное пособие. 2007.

Польша - Беларусь: история и современность. // Журн. междунар. права и междунар. отношений. - 2007. № 4.

Тенденции мировой политики на современном этапе. // Вестник БГУ. Серия 3. 2009. № 1.

Внешняя политика Республики Беларусь в 2000-е годы (в соавт.). 2011.

# ЛЕАНІДУ ЛАЎРЭШУ - 50



*Лаўрэш Леанід нарадзіўся 1 сакавіка 1963 г. у Лідзе.*

*У 1985 г. скончыў электратэхнічны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута (зараз энергетычны факультэт Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта).*

*Займаецца краязнаўствам і гісторыяй прыродазнаўчых навук на Беларусі.*

*Аўтар больш за 80 артыкулаў і 3 кніг: "Ліда на старых малюнках, паштоўках, фотаздымках" (у суаўтарстве, 2001), "Генерал Кіпрыян Кандратовіч (Дзеячы Беларускай Народнай Рэспублікі)" (2007), "Грэка-каталіцкая (уніяцкая) Царква на Лідчыне" (2012), і на выхадзе чацвёртая кніга "І зорнае неба над галавой…: Нарысы з гісторыі астраноміі". У планах кніга пра ўсе паўстанні на Лідчыне.*

*Сталы аўтар газеты "Наша слова" і часопіса "Лідскі летапісец".*

*Леанід Лаўрэш - краязнавец новага пакалення, які бліскуча асвоіў сучасныя метады пошуку і апрацоўкі інфармацыі. Робіць высокаякасныя пераклады з польскай мовы.*

*Стваральнік і адміністратар аднаго з найстарэйшых беларускіх гістарычных сайтаў "Павет" (з'явіўся ў сеціве ў 1999 г.) Вартасцю "Павета" з'яўляецца тое, што на ім няма ні аднаго артыкула, які б не прайшоў цераз папяровую версію, цераз прафесійнае выдавецтва. На "Павеце" можна знайсці практычна любы матэрыял па гісторыі Лідчыны.*

*Удзельнік многіх навуковых краязнаўчых і гістарычных канферэнцый, друкуецца ў тэматычных зборніках.*

*Жыве ў Лідзе. Жанаты, мае сына.*

# Мае адкрыцці Леаніда Лаўрэша

Пяць гадоў таму ў Гарадзенскай абласной бібліятэцы імя Я. Карскага мне давялося рыхтавацца да навуковай канферэнцыі, якая мела адбыцца ў Лідзе і Лідзе была прысвечана. Супрацоўніца краязнаўчага аддзела, вельмі добразычлівая і клапатлівая да чытачоў Любоў Іванаўна Турмасава дапамагала мне падбіраць літаратуру па старажытнай гісторыі Ліды. Аказалася, што пры мностве газетных артыкулаў кніг па гісторыі Ліды ёсць усяго адна. Яна называлася "Ліда на старых паштоўках ..." і мела сваім аўтарам невядомага мне даследчыка пад загадкавым прозвішчам Лаўрэш.

Хто ён такі? Цікава, гэта сапраўднае прозвішча або псеўданім? Зразумела, айконім выклікаў асацыяцыі з Войшалкам-Лаўрышам XIII стагоддзя. Чаму Лаўрэш піша пра Ліду, калі гістарычна імя звязана з Наваградкам. Як гэта я не ведаю такога гісторыка? Вось з такога невялікага недаўмення пачалося тады маё знаёмства са згаданай кнігай і імем, якое за ёй стаяла. Але разбірацца з усім гэтым не было часу - трэба рыхтавацца да канферэнцыі.

Пасля прачытання гэтай невялікай, але цікавай, напісанай з добрым веданнем справы кніжкі - у той яе частцы, што мяне цікавіла, - пытанне пра аўтара паўстала зноў. Сур'ёзны даследчык, але хто ён? Любоў Іванаўна, якая ў сваім "бібліятэчна-краязнаўчым ведамстве" выдатна ведае ўсё, што выдадзена пра Гарадзеншчыну, і ўсіх, хто пра яе піша, сказала: "Гэта лідскі краязнавец". Вось такой інфармацыяй абмежаваліся тады мае веды пра аўтара, чыё імя я адкрыла для сябе ў бібліятэцы. Гэта было прыемнае адкрыццё. Яго друкаваная праца зрабіла добрае ўражанне. Яе нават параіла паглядзець калегам, якія таксама да канферэнцыі шукалі матэрыялы пра розныя старонкі гісторыі Лідчыны. Для іх гэта таксама было новае імя.

А праз некалькі дзён я адкрыла і самога гэтага чалавека. На той лідскай канферэнцыі 2008 г. ён прадставіў даклад пра месца заключэння Востраўскага пагаднення 1392 г. Праблемнае пытанне, вакол якога точацца дыскусіі, - гэта так смела! Храналогія - XIV ст., у якое далёка не кожны гісторык асмеліцца "ўлезці", - гэта па-навуковаму "крута"! Пераканаўчае абгрунтаванне сваёй пазіцыі - яму можна давяраць! Усім гэтым Леанід Лаўрэш адразу выклікаў цікавасць да сябе і павагу. Што да мяне, я наогул схіляю галаву перад тымі даследчыкамі, якія ўсур'ёз займаюцца XIV-XV - першай паловай XVI ст., - часам, ад якога захавалася так мала гістарычных крыніц, да таго ж пісаных на цяжка зразумелай сёння мове. Не буду гаварыць пра X-XIII ст.; іх вывучаць - гэта наогул навуковы вычын!

Так я і мае калегі па кафедры гісторыі Беларусі Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі

Купалы "адкрылі" для сябе лідскага краязнаўца Леаніда Лаўрэша. У нас у тым 2008 годзе быў цэлы навуковы "дэсант" у Ліду. Зразумела, не кожны год кафедра гэтак "масава" перамяшчаецца ў нейкі гістарычны райцэнтр.

Тое маё знаёмства з Леанідам Лявонцьевічам было, можна сказаць, мімалётнае. Мае навуковыя шляхі ў той жа вераснёўскі дзень павялі мяне далей - у Магілёўскую вобласць. Там на міжнародным узроўні адзначалася 300-годдзе знакамітай бітвы пад Лясной, у якой у Паўночную вайну руская армія разграміла 16-тысячны шведскі корпус генерала Левенгаўпта, што ішоў з Рыгі на дапамогу войску Карла XII. Пад Магілёвам мне было чаму падзівіцца. Хоць бы таму, што шведскі пасол, які, здаецца адзіны на тых мемарыяльных урачыстасцях, што праходзілі на былым полі бітвы, гаварыў на беларускай мове, прасіў прабачэння за сваіх продкаў, а потым афіцыйна запрошаным гасцям дарыў кнігу "Шведы ў гісторыі Беларусі". Так што ўражанняў ад той трохдзённай паездкі Ліда - Магілёў - Лясная было шмат. Уражанняў, удакладню, пачынаючы з Ліды. Па вяртанні дахаты абменьваліся ўражаннямі з калегамі: працяг навуковых падзей у Лідзе; юбілей пад Лясной. На гэты раз ужо прысутныя на той канферэнцыі выкладчыкі годна ацанілі лідскага краязнаўца.

Так мая кафедра зрабіла для сябе прыемнае адкрыццё і знаходку ў асобе гэтага даследчыка. Завязаліся карысныя дзелавыя сувязі: навукова-даследчыя, краязнаўчыя, а таксама … у сферы сучасных інфармацыйных тэхналогій. Сустрэчы - не частыя. Затое сучасныя сродкі сувязі дапамаглі нам гэтыя кантакты развіваць, умацоўваць. Завязалася сяброўства. Лідскі краязнавец стаў сябрам нашай кафедры. З часам ён адкрываўся нам сваімі новымі рысамі: чалавек слова; у краязнаўчых даследаваннях зыходзіць з яго вялікасці факту; грунтуе свае палажэнні і высновы выключна на гістарычных крыніцах і аўтарытэтных даследаваннях; "прасунуты" ў інфармацыйных тэхналогіях; шырокая сфера зацікаўленняў; цікавіцца астраноміяй і нават назірае зоркі ў тэлескоп; усё, чым бы не цікавіўся ў сферы гісторыі, цікавіцца найперш у прывязцы да свайго краю, вялікім патрыётам якога з'яўляецца. Характарыстыкі можна працягваць, але абмяжуюся абагульненнем - з кожнай новай адкрытай рысай мая і маіх калег павага да гэтага чалавека расла, як і ўзмацнялася разуменне яго неардынарнасці. Для мяне, ды і не толькі, сяброўства з гэтым чалавекам - падарунак навуковага лёсу.

Ёсць у сусветным сеціве гістарычны сайт "Павет" (http://pawet.net), які з'явіўся там яшчэ ў 1999 г. Гэта ці не самы першы беларускі гістарычны сайт. На ім назапашана шмат цікавых, а часта і ўнікальных матэрыялаў па гісторыі Лідчыны, Гарадзеншчыны, Беларусі. Па сваёй назве сайт геаграфічна нібыта абмяжоўваецца гісторыяй Лідскага краю і таму, на першы погляд, здаецца, што прызначаны для вузкага кола аматараў лідскай гісторыі. Але назва "ўводзіць у зман". На сайце сканцэнтраваны найбагацейшыя інфармацыйныя рэсурсы па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай, Расійскай Імперыі і г.д. і гісторыі нашага краю (Лідчыны, Гарадзеншчыны) у іх кантэксце.

На гэтым сайце створаны і папаўняюцца асабістыя старонкі многіх беларускіх гісторыкаў. Тут знаходзяцца электронная версія часопісаў "Лідскі летапісец", "Ziemia Lidzka", тэкставы архіў газеты "Наша слова". Ідзе ўжо другое дзесяцігоддзе, як сайт служыць гістарычнай навуцы, краязнаўству, адукацыі і асвеце. Стваральнікам і адміністратарам гэтага сайта з'яўляецца Леанід Лаўрэш. Гэта яшчэ адно маё адкрыццё інжынера Лаўрэша.

Вельмі важна, што сайт не застылы, а пастаянна папаўняецца. Спадар Леанід у пастаянным пошуку новай інфармацыі. Таму на "Павеце" вы знойдзеце як рарытэтныя выданні XIX - першай паловы XX ст., так і навейшыя публікацыі, якія ў сувязі з невялікім накладам многіх беларускіх выданняў (аўтарскія манаграфіі, матэрыялы канферэнцый і інш.) адразу пасля выхаду ў свет становяцца ледзь не букіністычнай рэдкасцю. Леанід Лаўрэш - умелы здабытчык інфармацыі. Ён заўсёды знаходзіцца ў курсе навінак беларускай гістарычнай літаратуры і ў пошуках электронных версій выданняў - "разынак" для даследчыкаў і аматараў гісторыі. Сайт "Павет" для нас нярэдка з'яўляецца адзіным месцам захоўвання даступнай рарытэтнай інфармацыі. Дзякуй Леаніду Лаўрэшу за гэты сапраўды ўнікальны сайт.

Колькі разоў было, што патраціўшы час у пошуках патрэбнай гістарычнай інфармацыі для навуковых або навучальных мэтаў і не атрымаўшы болей за "вікіпедычныя" веды, я звярталася да Леаніда Лявонцьевіча па дапамогу. З зайздроснай аператыўнасцю мне паступаў дзесятак-другі спасылак на інтэрнэт-рэсурсы. І ўсе яны былі на сайт "Павет". Там усё можна знайсці! Часам здаецца, што спадар Леанід усю гісторыю Усходняй і Цэнтральнай Еўропы туды паставіў! Гэтак жа неаднойчы пераадрасоўвала да адміністратара "Павета" студэнтаў, калег. Усе заставаліся задаволены!

Так крок за крокам складвалася і развівалася наша супрацоўніцтва з лідскім краязнаўцам. Яго добра ведаюць на факультэце гісторыі і сацыялогіі і з павагай да яго ставяцца выкладчыкі, аспіранты і студэнты. Многім з іх ён аказаў каштоўную дапамогу.

Ужо традыцыяй стала запрашэнне Леаніда Лаўрэша на рэспубліканскія і міжнародныя навуковыя канферэнцыі і "круглыя сталы", якія арганізуе кафедра гісторыі Беларусі. Ведаем, у яго заўсёды шмат цікавых лідскіх сюжэтаў, заснаваных на гістарычных крыніцах. Акрамя агульнага краязнаўства Лідчыны, ён даследуе біяграфіі вядомых ураджэнцаў свайго краю. Ёсць у яго яшчэ адна асаблівая сфера навуковых зацікаўленняў: гісторыя прыродазнаўчых навук на Беларусі, біяграфіі сусветна вядомых астраномаў беларускага паходжання. Зараз ён завяршыў працу над чарговай кнігай, яе назва "І зорнае неба над галавой…" (нарысы з гісторыі астраноміі).

Выступленні лідскага краязнаўца заўсёды з вялікай цікавасцю ўспрымаюцца навуковай публікай.



*Леанід Лаўрэш са Святланай Марозавай*

Прафесар А.М. Пяткевіч зацікавіўся і самім краязнаўцам пасля яго выступлення ў Гарадзенскай абласной бібліятэцы імя Я. Карскага. А потым папрасіў яго біяграфічныя дадзеныя. Здаецца, прафесар рыхтуе новае выданне сваёй вядомай кнігі "Людзі культуры з Гродзеншчыны". Так што, Леанід Лаўрэш - гэта і яго адкрыццё новага "чалавека культуры з Гродзеншчыны", аўтара чатырох кніг і каля сотні артыкулаў, якімі ён унёс важкі ўклад у веды па гісторыі нашага краю і краіны.

Супрацоўніцтва з Леанідам Лаўрэшам перавярнула мой погляд на краязнаўства і краязнаўцаў. Раней яны мне здаваліся людзьмі, якія "корпаюцца" вузка ў гісторыі сваёй вёскі/райцэнтра. На прыкладзе збіральніцкай, даследчай працы Леаніда Лявонцьевіча, а таксама пастаўленых ім на службу гістарычнай навуцы і краязнаўству інфармацыйных рэсурсаў, я ўбачыла, адчула, рэальна спазнала, як краязнаўства дапамагае "вялікай" гісторыі краіны, дапамагае пазнанню месца свайго краю ў еўрапейскім гістарычным кантэксце.

І яшчэ адно адкрыццё Леаніда Лаўрэша вельмі важнае як для мяне, даследчыка канфесійнай гісторыі Беларусі, я зрабіла ў апошнія два гады. Ён, акрамя іншага, вывучае гісторыю хрысціянства на Лідчыне! І робіць гэта, як і ўсё астатняе, грунтоўна, глыбока, па-навуковаму прафесійна. Дзесяцігоддзе збіраў, як іголкі ў стозе сена, факт да факту і атрымалася цікавае даследаванне царкоўна-рэлігійных працэсаў, што адбываліся на Лідчыне ў мінулым, у кантэксце аналагічных усходнееўрапейскіх працэсаў. Гэта пра аўтарскую кнігу "Грэка-каталіцкая (уніяцкая) Царква на Лідчыне" (Полацк, 2012. 128 с.), заснаваную на багацейшым фактычным матэрыяле. Яе прэзентацыя, што адбылася вясной мінулага года, выклікала шырокі навуковы і грамадскі рэзананс, які выліўся і ў сусветнае сеціва. Таму не выпадкова Леаніду Лявонцьевічу было прапанавана ўвайсці ў склад універсітэцкага творчага калектыву, які працуе над праблематыкай канфесійнай гісторыі Беларусі. У гэтага крэатыўнага чалавека заўсёды ёсць ідэі. Ён валодае інфармацыяй - а гэта дарагога каштуе.

Леанід Лаўрэш. Чалавек, які для сваіх чытачоў, наведвальнікаў сайта "Павет", лідзян і не толькі пастаянна адкрывае вочы на тое, што гісторыя робіцца не толькі ў сталіцах, буйных палітычных, культурных, рэлігійных цэнтрах. На матэрыяле аднаго кутка Беларусі, сваёй роднай Лідчыны, ён паказвае, як нашы продкі - ад "сильных мира сего" да шараговых сялян і гараджан - "круцілі" гэтае кола гісторыі. "Раскрутка" лідскай гісторыі, чым займаецца, акрамя сваёй асноўнай прафесіі, Леанід Лаўрэш, настолькі магутная, што не-не, ды і здаецца: уся гісторыя робіцца на Лідчыне. Сёння яе робіць і Леанід Лаўрэш.

**_Святлана Марозава,_**
*доктар гістарычных навук,*
*прафесар, загадчык кафедры гісторыі Беларусі*
*Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы.*

# СФЕРА НАВУКОВЫХ ЗАЦІКАЎЛЕННЯЎ ЛІДСКАГА КРАЯЗНАЎЦА ЛЕАНІДА ЛАЎРЭША

Лаўрэш Леанід Лявонцьевіч - інжынер, краязнавец, даследчык гісторыі Лідчыны, адміністратар гістарычнага сайта "Pawet". Нарадзіўся 1 сакавіка 1963 г. у г. Лідзе. У 1980 г. скончыў СШ № 11 з граматай за поспехі ў гісторыі і геаграфіі. У 1985 г. скончыў электратэхнічны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута (зараз энергетычны факультэт Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта.

Л. Лаўрэш - аўтар чатырох кніг і каля сотні артыкулаў, прысвечаных гісторыі Лідчыны. Гісторыю свайго роднага краю ён вывучае ў шырокім храналагічным дыяпазоне - ад першабытнасці да часоў Заходняй Беларусі (1921 - 1939 г.).

Публікуецца з 2000 г. Першыя артыкулы з'явіліся пад уражаннем адкрыццяў падчас вандровак з сябрамі па Лідчыне. У вёсцы Ішчална яны знайшлі дзейны сонечны гадзіннік (верагодна, адзіны на Беларусі), у вёсцы Бабры - неапісаны раней камень-следавік.

Цікавіцца еўрапейскімі падзеямі канца XIV - пачатку XV ст., якія абдываліся на Лідчыне або гэты край закранулі. Абгрунтаваў сваё бачанне месца заключэння Востраўскага пагаднення 1392 г. - пытання, вакол якога вядуцца навуковыя дыскусіі. Распрацаваў сюжэт пра ўдзельнікаў крыжовых паходаў на Літву і Беларусь: кароль Англіі Генрых IV, Генры Персі Хотспур, Джон Бафорт інш., якія пазней сталі персанажамі знакамітых твораў Уільяма Шэкспіра.

Паказаў, як адбываліся і як адбіліся на гістарычным лёсе Лідчыны войны і паўстанні, што па ёй пракаціліся ў XIX ст.: франка-руская вайна 1812 г., паўстанні 1830 - 1831 г. і 1863 г.

Звяртаецца да пытанняў эканамічнай гісторыі краю (артыкулы "Гісторыя чыгункі на Лідчыне", "Прамысловасць горада Ліда ў 1920-30-я гг." і інш.).

Рэканструяваў раней невядомыя старонкі з гісторыі шэрагу населеных пунктаў Лідчыны (артыкулы "Селішчы і гарадзішчы гістарычнай Лідчыны", "Гайцюнішкі", "Нагародавічы" і інш.)

Вывучае архітэктурныя помнікі краю: палац ў Дайнаве, Радуньскі замак, Мажэйкаўскія сядзібна-паркавыя комплексы, архітэктуру готыкі і рамантызму і інш.

Даследуе біяграфіі і дзейнасць знакамітых ураджэнцаў свайго краю, вяртае ў гістарычную памяць забытыя і малавядомыя імёны. Апублікаваў работы пра палітыкаў і вайскоўцаў (генерала Кіпрыяна Кандратавіча, міністра абароны Беларускай Народнай Рэспублікі; палкоўніка Яўгена фон Гротэ дэ Буко, кіраўніка беларускага руху на Лідчыне ў пачатку XX ст.), удзельнікаў вызвольнага руху (філамата ксяндза Дзіянісія Хлявінскага і інш.), пісьменнікаў (паэта Антонія Гарэцкага), вучоных (асветніка прафесара матэматыкі Францішка Нарвойша; жанчыну-акадэміка Берлінскай акадэміі навук Аляксандру Нарбут і інш.).

Распрацоўвае канфесійную гісторыю Лідчыны. Прысвяціў артыкулы асобным храмам і капліцам (касцёл у Начы, царква ў Дзікушках, капліца на Лідскім чыгуначным вакзале, і інш.), прыходам (гісторыя парафіі ў Ішчалне і інш.). Адкрыў малавядомыя старонкі жыцця царкоўна-рэлігійных дзеячаў: Цэзарыя Каменскага, Віктара Басяцкага і інш.

Сваімі даследаваннямі ўнёс уклад у царкоўнае краязнаўства. Пры гэтым ці не першым у Беларусі ўвёў у абсяг царкоўнага краязнаўства гісторыю ўніяцкай (грэка-каталіцкай) царквы (артыкулы "Kosciol greko-katolicki w Lidzie i Ziemi Lidzkiej", "Ліквідацыя грэка-каталіцкай царквы на Лідчыне", і інш.). У кнізе "Грэка-каталіцкая (уніяцкая) Царква на Лідчыне" (Полацк, 2012. 128 с.) паказаў царкоўна-рэлігійныя працэсы, што адбываліся на Лідчыне ў XVI-XX ст., у кантэксце аналагічных усходнееўрапейскіх працэсаў; даў праламленне гісторыі стварэння, дзейнасці і ліквідацыі ўніяцкай царквы ў Беларусі скрозь прызму гісторыі свайго краю. Заснаваная на багатым фактычным матэрыяле, з дакументальнымі дадаткамі, кніга ўяўляе навуковую і грамадскую цікавасць. Яе прэзентацыя выклікала моцны рэзананс, які выліўся ў сусветнае сеціва.

Л. Лаўрэш - удзельнік творчага калектыву Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Я. Купалы, які па заданні Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі выконвае навукова-даследчую работу па канфесійнай гісторыі Беларусі XIX ст.

Пяру Л. Лаўрэша належыць шэраг прац па гісторыі прыродазнаўчых навук у Беларусі. Гісторыя астраноміі - асаблівая сфера ў яго даследчым полі. Ёй прысвечаны артыкулы "Астранамічная абсерваторыя ў Гародні", "Астраномія ў Віленскім універсітэце", "След вялікай каметы 1811 г. у сусветнай культуры" і інш., а таксама кніга нарысаў па гісторыі астраноміі "І зорнае неба над галавой…" (Мінск: Лімарыус, 2013. - 266 с.). Даследаваны біяграфіі сусветна вядомых астраномаў беларускага паходжання: Марціна Пачобут-Адляніцкага, Яна Снядэцкага, Вітольда Цэраскага, Гаўрылы Ціхава.

У сваіх краязнаўчых даследаваннях Л. Лаўрэш зыходзіць выключна з фактаў, узятых з гістарычных крыніц і аўтарытэтных даследаванняў. Прысвяціў шэраг публікацый рэчавым, вусным, пісьмовым, выяўленчым крыніцам рэгіянальнай гісторыі (артыкулы "Каменныя магілы і камяні-следавікі Лідчыны", "Паданні вёскі Бабры", "Размова са старым шляхціцам", "Крыніцы для вывучэння гісторыі калоніі дзяржаўных дамоў у Лідзе (1920-я - 1930-я гг. "; кніга "Ліда на старых малюнках, паштоўках, фотаздымках" (Ліда, 2009. 108 с.; у сааўтарстве) і інш.).

Л. Лаўрэш - удзельнік шматлікіх навуковых гістарычных канферэнцый і "круглых сталоў", на якіх

выступае з разнастайнымі "лідскімі" сюжэтамі.

Сваімі краязнаўчымі даследаваннямі Л. Лаўрэш унёс важкі ўклад у пашырэнне ведаў па гісторыі Лідчыны. Яны дапамагаюць пазнанню месца і значнасці гэтага краю ў еўрапейскім гістарычным кантэксце.

Л. Лаўрэш - краязнавец новага пакалення, які паставіў на службу краязнаўству інфармацыйныя тэхналогіі. Створаны ім гістарычны сайт Павет (http://pawet.net/) з'явіўся ў сусветным сеціве ў 1999 г. Гэта - першы беларускі гістарычны сайт. На ім сканцэнтраваны багатыя інфармацыйныя рэсурсы па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі і г.д. і гісторыі Лідскага краю, Гарадзеншчыны ў іх кантэксце. Тут ёсць як рарытэтныя выданні XIX - першай паловы XX ст., так і навейшыя публікацыі (аўтарскія манаграфіі, матэрыялы канферэнцый і інш.), многія з якіх ужо сталі бібліяграфічнай рэдкасцю.

На сайце створаны і папаўняюцца асабістыя старонкі шэрагу беларускіх гісторыкаў. Тут знаходзяцца электронная версія часопісаў "Лідскі летапісец", "Ziemia Lidzka", тэкставы архіў газеты "Наша слова". Сайт мае болей за 1500 наведвальнікаў у дзень і служыць на карысць гістарычнай навуцы, краязнаўству, адукацыі і асветы.

**Публікацыі пра Л. Лаўрэша:**

"Павет" Леаніда Лаўрэша // Лідскі летапісец. - 2001. - № 3. - С. 1.

Лявон Лаўрэш, рэдактар аднаго з найбольш грунтоўных краязнаўчых сайтаў "Pawet" // Наша слова. - 2008. - 27 лютага.

Суднік С. Лідскія беларускамоўныя сайты // Наша слова. - 2008. - 10 снежня.

Леаніду Лаўрэшу - 50 // Наша слова. - 2013. - 27 лютага. - С. 1

Марозава С.В. Мае адкрыцці Леаніда Лаўрэша // Наша слова. - 2013. - 27 лютага. - С. 7.

Марозава С.В. Мае адкрыцці Леаніда Лаўрэша // Лідская газета. - 2013. - 28 лютага. - С. 4.

***С.В. Марозава,***
***доктар гістарычных навук, прафесар.***

# Спіс важнейшых публікацый Л.Л. Лаўрэша

**Кнігі:**

1. Лаўрэш Л., Круцікаў У. Ліда на старых малюнках, паштоўках, фотаздымках. - Ліда, 2001. - 108 с. (у суаўтарстве).

2. Лаўрэш Л. Генерал Кіпрыян Кандратовіч (Дзеячы Беларускай Народнай Рэспублікі). - Ліда, 2007. - 43 с.

3. Лаўрэш Л. Грэка-каталіцкая (уніяцкая) Царква на Лідчыне / пад рэд. С. В. Марозавай. - Полацк: Грэка-каталіцкая парафія Святамучаніка Язафата ў г. Полацку, 2012. - 128 с.

4. Лаўрэш Л. "І зорнае неба над галавой…": Нарысы з гісторыі астраноміі. - Мінск: Лімарыус, 2013. - 266 с.

**Артыкулы:**

1. Лаўрэш Леанід, Круцікаў Уладзімір. Сонечны гадзіньнік у в. Ішчална // Лідзкі Летапісец, № 8. С. 21.

2. Лаўрэш Леанід, Круцікаў Уладзімір. Сонечны гадзіньнік у в. Ішчална // Спадчына. № 2-2000. С. 139-141.

3. Лаўрэш Леанід, Круцікаў Уладзімір. Камень-следавік ў в. Бабры // Лідзкі Летапісец № 9 С. 24.

4. Лаўрэш Леанід, Круцікаў Уладзімір. Архітэктура Лідчыны. Готыка // Лідскі Летапісец № 11. С. 32-34.

5. Лаўрэш Леанід, Круцікаў Уладзімір. Мажэйкаўскія сядзібна-паркавыя комплексы // Спадчына № 1-2. 2001 г. С. 206-212.

6. Лаўрэш Леанід, Круцікаў Уладзімір. Грэка-каталіцкая (уніяцкая) царква ў Лідзе і Лідскім павеце. "Наша слова" № 44 (631), 26 лістапада 2003 г.

7. Lawresz Leonid. Kosciol greko-katolicki w Lidzie i Ziemi Lidzkiej. Ziemia Lidzka, s. 44.

8. Лаўрэш Леанід, Круцікаў Уладзімір. Гісторыя парафіі ў Ішчалне. 490 гадоў Ішчалнянскай парафіі. "Наша слова" № 22 (708) 15 чэрвеня 2005 г.

9. Лаўрэш Леанід. Гайцюнішкі. "Наша слова" № 40 (726), 2005.

10. Лідзяне XX стагоддзя // "Лідскі летапісец" № 14. С. 9-11.

11. Lidzianie XX wieku. "Ziemia Lidzka" № 44, styczen 2001 г.

12. Лаўрэш Леанід, Круцікаў Уладзімір. Паданні вёскі Бабры. "Наша слова" № 31 (717), 17 жніўня 2005 г.

13. Лаўрэш Леанід, Лаўрэш Галіна. Каталіцкае Свята Божага нараджэння ў Лідзе. "Наша слова" № 52 (788), 27 снежня 2006 г.

14. Лаўрэш Леанід, Круцікаў Уладзімір. Генерал Кіпрыян Кандратовіч і інш. // Спадчына № 1-2002. С. 161-166.

15. Лаўрэш Леанід. Міністр БНР, генерал Кіпрыян (Цыпрыян) Кандратовіч. "Наша слова" № 9 (596), 10 (597), 11 (598), 2002 г.

16. Лаўрэш Леанід. Генерал Кіпрыян Кандратовіч на службе БНР "Наша слова" № 10 (645), 17 сакавіка 2004 г.

17. Лаўрэш Леанід. Генерал Кіпрыян Кандратовіч. Лідскі летапісец № 4 (32), 2005 г.

18. Лаўрэш Леанід. Месца заключэння Востраўскага пагаднення 1392 г. Пачатак. "Наша слова" № 18 (806), 2 траўня 2007 г.

19. Лаўрэш Леанід. Месца заключэння Востраўскага пагаднення 1392 г. Заканчэнне. "Наша слова" № 23 (811), 13 чэрвеня 2007 г.

20. Лаўрэш Леанід. Крэскі да біяграфіі генерала К. Кандратовіча. "Наша слова" № 40 (828), 10 каст-

рычніка 2007 г.

21. Лаўрэш Леанід. Астранамічная абсерваторыя ў Гародні. "Наша слова" № 3 (842), 16 студзеня 2008 г.

22. Лаўрэш Леанід. Астраномія ў Віленскім універсітэце. "Наша слова" № 9 (848), 27 лютага 2008 г.

23. Лаўрэш Леанід. Аляксандра Нарбутоўна, лідзянка - акадэмік Берлінскай акадэміі. "Наша слова" № 15 (854), 9 красавіка 2008 г.

24. Лаўрэш Леанід Месца заключэння Востраўскага пагаднення 1392 г. // Гістарычны альманах. Том 13. 2007. С. 109-118.

25. Lawresz Leonid. Miejsce zawarcia ugody ostrowskiej 1392 r. "Ziemia Lidzka" № 2 (78), 2007.

26. Лаўрэш Леанід. Персанажы Шэкспіра ў Літве. Граф Дэрбі. "Наша слова" № 31 (870) ад 30 ліпеня 2008 г. і № 32 (871), 6 жніўня 2008 г.

27. Лаўрэш Леанід. Персанажы Шэкспіра ў Літве. Генры Персі Хотспур. "Наша слова" № 35 (874) ад 27 жніўня 2008 г.

28. Лаўрэш Леанід. Персанажы Шэкспіра ў Літве. Джон Бафорт. "Наша слова" № 42 (881) ад 15 кастрычніка 2008 г.

29. Лаўрэш Леанід. Месца заключэння Востраўскага пагаднення 1392 г. // Ліда і Лідчына: да 685-годдзе заснавання горада. Матэрыялы рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі (Ліда, 3 кастрычніка 2008 г.). Ліда. 2009. С. 44-48.

30. Лаўрэш Леанід. У пошуках знакамітага Вострава. "Лідская газета" №127(11652) 11 лістапада 2008 г.

31. Лаўрэш Леанід. Марцін Пачобут-Адляніцкі. "Наша слова" №9 (900), 4 сакавіка 2009 г. і №10 (901), 11 сакавіка 2009 г.

32. Лаўрэш Леанід. Занатоўкі да біяграфіі міністра БНР генерала Кандратовіча. "Наша слова" № 13 (904), 1 красавіка 2009 г.

33. Лаўрэш Леанід. Скасаванне уніі на Лідчыне. Царква. №1 (60). 2009, 17 сакавіка.

34. Лаўрэш Леанід. Ян Снядэцкі. "Наша слова" №20 (911) 20 траўня 2009 г., № 21 (912), 27 траўня 2009 г., № 22 (913), 3 чэрвеня 2009 г.

35. Лаўрэш Леанід. Вітольд Карлавіч Цэраскі. Да 160-тых угодкаў з дня нараджэння. "Наша слова" №№ 29(920), 30(921), 31(922), 32(923), 33(924) за ліпень - жнівень 2009 г.

36. Лаўрэш Леанід. Ціхаў Гаўрыіл Андрыянавіч. Наша слова № 47 (938), 25 лістапада 2009 г., № 48 (939), 2 снежня 2009 г., № 48 (939), 9 снежня 2009 г., № 50 (941), 16 снежня 2009 г., № 51 (942), 23 снежня 2009 г.

37. Лаўрэш Леанід. Гараджанін эпохі Асветніцтва (Францішак Нарвойш) // Гістарыяграфія і крыніцы па гісторыі гарадоў і працэсаў урбанізацыі ў Беларусі. Зборнік навуковых артыкулаў. Гродна. 2009. С. 208-214.

38. Лаўрэш Л.Л. Ліквідацыя грэка-каталіцкай царквы на Лідчыне // Хрысціянства ў гістарычным лёсе беларускага народа. Частка 1. Гродна : ГрДУ, 2009. С. 333-339.

39. Лаўрэш Леанід. Царква ў Дзікушках на Лідчыне. // Хрысціянства ў гістарычным лёсе беларускага народа. Частка 2. Гродна : ГрДУ, 2009. С. 311-316.

40. Генерал Кіпрыян Кандратовіч. 150 гадоў з дня нараджэня. // Лідскі Летапісец № 1-2 (45-46), студзень-чэрвень 2009 г. С. 24-27.

41. Лаўрэш Леанід. Лідская Дайнова // Наша слова № 22 (965), 2 чэрвеня 2010 г.

42. Лаўрэш Л. Ксёндз Дзіянісій Хлявінскі, Філамат // Навагрудчына ў гістарычна-культурнай спадчыне Еўропы (да 600-годдзя Грунвальдскай бітвы). 2010. С. 172-175.

43. Лаўрэш Леанід. Радуньскі замак // Наша слова № 25 (968), 23 чэрвеня 2010 г.

44. Лаўрэш Л. Аляксандра Нарбут з Ліды - акадэмік Берлінскай акадэміі навук // 3-я Нефёдаўскія чытанні. Беларускае мастацтва: гісторыя і сучаснасць. ВКЛ у гісторыі Беларусі. Т. III. Мінск. 2009. С. 120-124.

45. Лаўрэш Леанід. Каменныя магілы Лідчыны // Наша слова № 28 (971), 15 ліпеня 2010 г.

46. Лаўрэш Леанід. Камяні-следавікі Лідчыны // Наша слова № 35 (978), 1 верасня 2010 г., Наша слова № 36 (979), 8 верасня 2010 г.

47. Лаўрэш Леанід. Ян Снядэцкі (1756 - 1830) - навуковец і асветнік гістарычнай Літвы // Гістарычны альманах. Том 15. 2009. С. 75-88.

48. Лаўрэш Леанід. Капліца на Лідскім чыгуначным вакзале // Наша слова № 41 (984), 13 кастрычніка 2010 г.

49. Лаўрэш Леанід. Генерал Кіпрыян Кандратовіч: крэскі да жыцця // Асоба і час. Беларускі біяграфічны альманах. Вып. 2. 2010. С. 81-105.

50. Леанід Лаўрэш. Літоўскія прыгоды шэкспіраўскіх пэрсанажаў. // ARCHE. № 10 - 2010. С. 145-156.

51. Лаўрэш Леанід. Антоні Гарэцкі: забыты паэт // Наша слова № 5 (1000), 2 лютага 2011 г.

52. Лаўрэш Л. Прамысловасць горада Ліда ў 1920-30-я гг. // Працэсы ўрбанізацыі ў Беларусі ў XIX - пачатку XXI ст.: зб. навук. арт. Гродна, 2010. С. 181-188.

53. Лаўрэш Леанід. Паўстанне 1830-1831 гг. // Наша слова № 19 (1014), 11 траўня 2011 г.; № 20 (1015), 18 траўня 2011 г.; № 21 (1016), 25 траўня 2011 г.; № 22 (1017), 1 чэрвеня 2011 г.; № 23 (1018), 8 чэрвеня 2011 г.

54. Лаўрэш Леанід. Селішчы і гарадзішчы гістарычнай Лідчыны // Наша слова № 27 (1022), 6 ліпеня 2011 г.

55. Лаўрэш Леанід. Архітэктура нацыянальнага рамантызму на Лідчыне // Наша слова № 37 (1032), 14 верасня 2011 г; №38 (1033), 21 верасня 2011 г.

56. Лаўрэш Леанід. "Жыў аднойчы рыцар…", або сляды герояў Шэкспіра ў старажытнай Беларусі // Маладосць № 9 - 2011. С. 121-126.

57. Лаўрэш Леанід. След вялікай каметы 1811 г. у сусветнай культуры // Роднае слова № 10 - 2011. С. 88-92.

58. Лаўрэш Леанід. Антоні Гарэцкі - забыты паэт // Ад Лідскіх муроў №7. Ліда, 2011. С. 194-200.

59. Лаўрэш Леанід. Нагародавічы // Наша слова № 49 (1044), 7 снежня 2011 г.

60. Лаўрэш Леанід. Аляксандра Нарбут - акадэмік Берлінскай акадэміі навук // АСОБА і ЧАС. Беларускі біяграфічны альманах. Выпуск 4. 2011. Мінск. С. 6-16.

61. Лаўрэш Леанід. Размова са старым шляхціцам // Наша слова № 3 (1050), 18 студзеня 2012 г., № 4 (1051), 25 студзеня 2012 г., № 5 (1052), 1 лютага 2012 г., № 6 (1053), 8 лютага 2012 г., № 7 (1054), 15 лютага 2012 г.

62. Лаўрэш Леанід. Праўду ў яміну не закапаеш, або шукайце і знойдзеце // Маладосць № 2-2012. С. 96-100.

63. Лаўрэш Леанід. Касцёл у Начы // Наша слова № 14 (1061), 4 красавіка 2012 г.

64. Лаўрэш Леанід. Сляды герояў Шэкспіра ў Беларусі і на Лідчыне // Лідская газета № 41 (12153), 10 красавіка 2012 г.

65. Лаўрэш Леанід. Крыніцы для вывучэння гісторыі калоніі дзяржаўных дамоў у Лідзе (1920-я - 1930-я гг.) // Гістарычная ўрбаністыка: асновы метадалогіі і крыніцазнаўчая база: зб. навук. арт. Гродна, 2011. С. 362-366.

66. Лаўрэш Леанід. Гісторыя чыгункі на Лідчыне // Наша слова № 19 (1066), 10 траўня 2012 г.; Наша слова № 20 (1067), 16 траўня 2012 г.

67. Лаўрэш Леанід. Вайна 1812 г. у Літве і на Лідчыне // Наша слова № 24 (1071), 13 чэрвеня 2012 г., № 25 (1072), 20 чэрвеня 2012 г., № 26 (1073), 27 чэрвеня 2012 г,. № 27 (1074), 4 ліпеня 2012 г.

68. Лаўрэш Леанід. Таямнічыя замкі Лідчыны // Маладосць №6-2012. С. 97-100.

69. Лаўрэш Леанід. Паўстанне 1830-1831 гг. Да 180-х угодкаў // Лідскі летапісец № 4 (56), 2011 г. С. 18-28.

70. Лаўрэш Леанід. Вітольд Карлавіч Цэраскі / / Гістарычны альманах. Том 17. 2011. С. 101-124.

71. Лаўрэш Леанід. Пагадненне 1392 г. у Востраве пад Лідай // Лідская газета № 103 (12215), 11 верасня 2012 г.

72. Лаўрэш Леанід. След старадаўняга палаца ў Дайнаве // Лідская газета № 114 (12226), 6 кастрычніка 2012 г.

73. Лаўрэш Леанід. Гісторыя чыгункі на Лідчыне // Лідскі летапісец № 1 (57) - 2012 г. С. 30-39.

74. Лаўрэш Леанід. Размова са старым шляхціцам // Лідскі летапісец № 2 (58) - 2012 г. С. 51-61.

75. Лаўрэш Леанід. Гісторыя чыгункі на Лідчыне // Сучасны стан беларускага краязнаўства і валанцёрскі рух. Матэрыялы Рэспубліканская навукова-практычнай канферэнцыі 16 красавіка 2012 г. Мінск, 2012. С. 173-186.

76. Лаўрэш Леанід. Ліда на старых выявах // Лідская газета № 125 (12237), 1 лістапада 2012 г.

77. Лаўрэш Леанід. Аляксандра Нарбут: жанчына-акадэмік // Лідская газета № 129 (12241) 13 лістапада 2012 г.

78. Лаўрэш Леанід. Цэзары Каменскі // Наша слова № 46 (1093), 14 лістапада 2012 г.; Наша слова № 47 (1094), 21 лістапада 2012 г.

79. Лаўрэш Леанід. Ліда на старых выявах. Замак на пачатку ХХ ст. // Лідская газета № 143 (12225), 15 снежня 2012 г.

80. Лаўрэш Леанід. Дайноўскі і Радуньскі замкі гістарычнай Лідчыны. Нататкі краязнаўцы // Румлёўскія старонкі: Помнікі гісторыі, прыроды і культуры паміж турыстычнай прывабнасцю і навуковай цікавасцю: матэрыялы IV адкрытай рэгіян. навук.-практ. канф. па праблемах рэгіяналістыкі і краязнаўства "Румлёўскія чытанні" (Гродна, 18 лют. 2011 г.) / Гродна, 2011. С. 39-45.

82. Лаўрэш Леанід. Вайна 1812 г. у Літве і на Лідчыне // Лідскі Летапісец № 3 (59) - 2012 г. С. 29-48.

83. Лаўрэш Леанід. Аляксандра Нарбут: жанчына-акадэмік у XVIII стагоддзі // Через гендерное равенство - к участию в общественной и политической жизни общества: материалы II Республиканской научн. - практ. конф. 15 июня 2012 г. / Мозырь, 2012. С. 177-179.

84. Лаўрэш Леанід. Каменныя магілы і камянісследавікі Лідчыны. // Запісы таварыства аматараў беларускай гісторыі імя Вацлава Ластоўскага. Выпуск 1 / Уладальнік і рэдактар А. Е. Тарас. - Мінск, 2013. С. 34-41.

85. Лаўрэш Леанід. Паўстанне 1863 г. на Лідчыне. Перад паўстаннем // Наша слова № 4 (1103), 23 студзеня 2013 г.; № 5 (1104), 30 студзеня 2013 г.; № 6 (1105), 6 лютага 2013 г.; № 7 (1106), 13 лютага 2013 г.; № 8 (1107), 20 лютага 2013 г.

86. Лаўрэш Леанід. Пачатак будаўніцтва гімназіі імя гетмана Караля Хадкевіча ў Лідзе // Лідскі летапісец № 4 (60) - 2012 г. С. 32-36.

87. Лаўрэш Леанід. Ліда на старых выявах. Замак у 1915-1918 гг. // Лідская газета № 1 (12261) 5 студзеня 2013 г.; Лідская газета № 27 (12287) 12 сакавіка 2013 г.

88. Лаўрэш Леанід. Пачатак будаўніцтва гімназіі імя гетмана Караля Хадкевіча ў Лідзе // Лідскі летапісец № 4 (60) - 2012 г. С. 32-36.

89. Лаўрэш Леанід. Паўстанне 1863 г. на Лідчыне. За нашу і вашу свабоду // Наша слова № 11 (1110) 13 сакавіка 2013 г.; № 12 (1111) 20 сакавіка 2013 г.; № 13 (1112) 27 сакавіка 2013 г.; № 14 (1113) 3 красавіка 2013 г.; № 15 (1114), 10 красавіка 2013 г.

90. Лаўрэш Леанід. Яўген фон Гротэ дэ Буко - першы кіраўнік беларускага руху ў Лідзе // Наша слова № 12 (1111), 20 сакавіка 2013 г.

91. Леанід Лаўрэш. Гайцюнішкі // Маладосць №2, 2013. С. 114-118.

92. Лаўрэш Л. Пасля паўстання /// Паўстанне 1863 г. на Беларусі і Кастусь Каліноўскі. Матэрыялы навукова-практычнай канференцыі (Менск, 23 сакавіка 2013 г.). Мінск, 2013. С. 5-12.

# АНТОСЬ САВУК

## *45 гадоў з дня нараджэння*



**Антон Уладзіміравіч САУК** (творчы псеўданім **Антось Савук**) нарадзіўся 13 лютага 1968 года ў горадзе Лідзе. Вучыўся спачатку ў Шайбакоўскай базавай школе, а з 1983 па 1985 год у сярэдняй школе №1 г. Ліды.

Пасля заканчэння школы спрабаваў стаць студэнтам Санкт-Пецярбуржскага дзяржаўнага ўніверсітэта грамадзянскай авіяцыі, але не прайшоў па конкурсе.

З 1985 па 1986 год працаваў слесарам ва УМСР-163.

У 1986 годзе паступіў ў Беларускі палітэхнічны інстытут на будаўнічы факультэт і па заканчэнні атрымаў кваліфікацыю інжынера-эканаміста.

Служыў ва Узброенных Сілах СССР у 1987-1989 гг.

Працаваў майстрам у БУ-104, УМСР-163, прарабам у БУ-103, УМСР 163 ААТ БМТ №19 г. Ліды.

Антось Савук вёў актыўную і featured рознабаковую краязнаўчую і даследчую працу. Склаў дастаткова шырокі Лідскі біяграфічны даведнік, апублікаваў шэраг краязнаўчых даследванняў у перыядычных выданнях. Прыступіў да падрыхтоўкі вялікіга даследвання "Млыны Лідчыны", апублікаваў некалькі замалёвак па гэтай тэме.

Але асноўнай яго краязнаўча-даследчай працай стала "Гісторыя Лідскага аэрадрома". Працуючы над гісторыяй Лідскага аэрадрома Антось Савук устанавіў цесныя сувязі з многімі даследчыкамі гісторыі авіяцыі.

Але ўся гэтая праца была перапынена зусім нечакана і неспадзявана.

27 кастрычніка 2003 года на 36-м годзе жыцця ад крывацёку ў галаву пакінуў гэты свет карэспандэнт часопіса "Лідскі летапісец", сябар Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ, сябар Беларускай асацыяцыі журналістаў і проста цудоўны чалавек.

**Бібліяграфія:**

1. Савук, А. Лідскі вайсковы аэрадром (1907-1915) / А.Савук // Лідскі летапісец. - 2001. -№4. - С. 8-15.

2. Савук, А. Лідскі вайсковы аэрадром (1907-1915): [да 95-годдзя перадыслакацыі 9-й паветраплавальнай роты і 90-годдзя стварэння вайсковага аэрадрома ў Лідзе] / А.Савук // Лідскі летапісец. - 2002. - №1. - С. 22-27.

3. Савук, А. Лідскі вайсковы аэрадром (1907-1915): [да 95-годдзя перадыслакацыі 9-й паветраплавальнай роты і 90-годдзя стварэння вайсковага аэрадрома ў Лідзе] / А.Савук // Лідскі летапісец. - 2002. - №2. - С. 17-22.

4. Савук, А. Лідскі вайсковы аэрадром (1907-1915): [да 95-годдзя перадыслакацыі 9-й паветраплавальнай роты і 90-годдзя стварэння вайсковага аэрадрома ў Лідзе] / А.Савук // Лідскі летапісец. - 2002. - №3. - С. 29-33.

5. Савук, А. Лідскі вайсковы аэрадром (1907-1915): [да 95-годдзя перадыслакацыі 9-й паветраплавальнай роты і 90-годдзя стварэння вайсковага аэрадрома ў Лідзе] / А.Савук // Лідскі летапісец. - 2002. - №4. - С. 27-33.

6. Савук, А. Лідскі вайсковы аэрадром (1919-1939) : савецка-польская вайна / Антось Савук // Лідскі летапісец. - 2003. - №1. - С. 28-32.

7. Савук, А. Лідскі вайсковы аэрадром (1919-1939) : 11-ты полк знішчальнікаў / Антось Савук // Лідскі летапісец. - 2003. - №2. - С. 28-34.

8. Савук, А. Родам з Лідскага павета / Антось Савук / / Памяць : гіст.-дак. хроніка Ліды і Лід. р-на. - Мінск, 2004. - С. 124-126.

9. Савук, А. Адмысловы прафесар натуральнай гісторыі : [пра вучонага ў галіне прыродазнаўства Станіслава Юндзіла (1761 г., в. Ясянцы Воранаўскага р-на] / Антось Савук // Лідская газета. - 2007. - 25 жніўня. - С. 5.

10. Савук, А. Праз турму і катаванні: светлай памяці ксендза Ч. Янкоўскага / Антось Савук // Лідскі летапісец. - 2001. - №3 (15). - С. 25-28.

11. Савук, А. Паслядоўнік Лінэя: 240 год з дня нараджэння С.Б. Юндзіла / Антось Савук // Лідскі Летапісец. - 2001. - № 2 (14). - С. 13-15.

12. Савук, А. Жывапісец паганскай Літвы: Казіміру Альхімовічу - 160 год з дня нараджэння / Антось Савук // Лідскі летапісец. - 2000. - №4 (12). - С. 11-15.

13. Савук, А. Вацлаў Іваноўскі: 120 гадоў з дня нараджэння / Антось Савук // Лідскі летапісец. - 2000. - №3 (11). - С. 18-21.

14. Савук, А. Друкар з Вялічак: 390 год з дня смерці Яна Карцана / Антось Савук // Лідскі летапісец. - 2001. - №1 (13). - С. 8-10.

**Пра яго:**



1. Ліда ў краязнаўчым жыцці краіны : [Антось Савук і Станіслаў Суднік прадстаўлялі краязнаўцаў Лідчыны на круглым стале "Краязнаўчы рух на Беларусі - гісторыя развіцця, праблемы і перспектывы"] // Лідскі летапісец. - 2001. - №1 (13). - С. 1.

2. Даследчык гісторыі Лідскага аэрадрома : [Антось Савук (13.02.1968-27.10.2003)] // Лідскі летапісец. - 2003. - №3-4. - С. 1. - (фота - вокладка).

**Элекронны рэсурс:**

Водяные мельницы Лидской земли: памяти Антона Саука: [Электронный ресурс] // Lida-info : информационный сайт города Лиды. - Режим доступа : http://www.lida.info/vodyanye-melnicy-lidskoj-zemli-/. - Загл. с экрана.

***Складальнікі: Т.С. Бальцэвіч, Ч.У. Муліца.***

# Вопісы парафій Лідскага дэканату ў 1784 г.

## *(З магістарскай працы Андрэя Рыбака пад кіраўніцтвам прафесара, доктара габілітаванага Юзафа Марошка)*

### Парафія Ішчалнская

**1.**

**Парафіяльны касцёл у вёсцы Ішчална** знаходзіцца ў Лідскім павеце і дэканаце, вёскі і мястэчкі парафіі па-алфавіту:

**Агароднікі** (Ogrodniki) яснавяльможнага пана Хадкевіча, у кірунку на летні ўсход палова мілі.

**Баяры** (Bojary) васпана Валя, у кірунку паміж поўднем і зімовым захадам, ад касцёла Ішчалнскага палова мілі.

**Вілы** (Wily) васпана яснавяльможнага пана Сцыпіёна, на зімовы захад мерная міля.

**Вялікае Мажэйкава** (Mozejkow Wielki), двор яснавяльможнага пана Хадкевіча, на летні ўсход палова мілі.

**Дамоўцы** (Domowce) яснавяльможнага пана Хадкевіча, на поўнач палова мілі.

**Гернікі** (Gierniki), фальварак васпана Тубялевіча, у кірунку на летні захад адна міля.

**Гернікі** (Gierniki), вёска васпана яснавяльможнага пана Сцыпіёна, у кірунку на летні захад адна міля з чвэрцю.

**Гадзюшкі** (Hadziuszki) васпана Каставіцкага, на поўнач палова вялікай мілі.

**Гіня** (Hinia), карчма васпана Валя, у кірунку на зімовы ўсход некалькі сотняў крокаў.

**Загалы** (Zahaly) таго ж ягамосці, там жа.

**Зайкаўшчына** (Zajkowszczyzna) васпана Ўлаховіча, у кірунку на летні захад тры чвэрці мілі.

**Зінеўцы** (Zieniowce) васпана Каставіцкага, у кірунку на летні ўсход палова мілі.

**Ішчална** (Iszczolna), вёска, у якой знаходзіцца парафіяльны касцёл, ад якога чыніцца апісанне парафіі, сама вёска належыць васпану Валю.

**Ішчалняны** (Iszczolniany) яснавяльможнага пана Хадкевіча, у кірунку на зімовы ўсход палова чвэрці мілі.

**Карабкі** (Korobki) васпана Александровіча, на поўнач вялікая міля.

**Касцянёва** (Koscieniew), двор васпана Александровіча, на поўнач тры чвэрці мілі.

**Казарэзы** (Kozorezy), карчма васпана Радзівапоўскага, на поўдзень.

**Казарэзы** (Kozorezy), карчма васпана Валя, там жа.

**Казарэзы** (Kozorezy), вёска васпана яснавяльможнага пана Сцыпіёна, на поўдзень мерная міля.

**Кемяны** (Kiemiany) васпана Валя, у кірунку паміж поўднем і зімовым захадам чвэрць мілі.

**Кіралі** (Kirele) яснавяльможнага пана Хадкевіча, на поўнач тры чвэрці мілі.

**Красная** (Krasna), вёска васпана Александровіча, на поўнач мерная міля.

**Лялюшы** (Leluszowce) васпана Александровіча, у кірунку на летні захад, мерная міля.

**Малое Мажэйкава** (Mozejkow Maly) васпана Каставіцкага, на летні ўсход палова мілі.

**Малое Сяло** (Mala Wies) васпана Валя, паміж поўднем і зімовым захадам, палова мілі.

**Марцінішкі** (Marciniszki), фальварак яснавяльможнага пана Хадкевіча, на зімовы ўсход палова мернай мілі.

**Моцеўцы** (Mociowce) васпана Валя і Ішчалнскай плябаніі, у кірунку на летні захад мерная міля.

**Пільчукі** (Pilszuki) васпанства Тубялевіча і Ўлаховіча, на летні захад мерная міля.

**Свірыды** (Swirydy) васпана Александровіча, на поўнач палова мілі.

**Талматаўшчына** (Talmatowszczyzna), ваколіца, на летні захад паўтары вялікія мілі.

**Талькаўшчына** (Tolkowszczyzna), фальварак васпана Александровіча, на поўнач вялікая міля.

**Халечына** (Chaleczyny) яснавяльможнага пана Хадкевіча, на зімовы ўсход, палова вялікай мілі.

**Чарнаўшчына** (Czarnowszczyzna), фальварак васпана Радзівілоўскага, на поўдзень мерная міля.

**Явашоўцы** (Jawaszowce), Ішчалнскай плябаніі, на поўдзень палова мілі.

**2.**

Ад гэтага парафіяльнага касцёла наступныя суседскія касцёлы:

**Васілішкі** (Wasiliszki), касцёл парафіяльны ў тым жа павеце і дэканаце Лідскім, у старостве Васілішскім, на поўнач ад Ішчалнскага касцёла дзве вялікія мілі.

**Дылева** (Dylewo), парафіяльны касцёл, на землях розных іхмосцяў, а менавіта васпана Паца, у кірунку на летні ўсход тры вялікія мілі.

**Жалудок** (Zoludek), парафіяльны касцёл у тым жа павеце, дэканаце, на зямлі яснавяльможнага пана Тызенгаўза, паміж зімовым усходам і поўднем вялікая міля.

**Шчучын** (Szczuczynek, Szczuczyn), парафіяль-

ны касцёл ў тым жа павеце, дэканаце, у кірунку паміж поўднем і зімовым захадам дзве вялікія мілі.

**3.**

**Найзначнейшыя гарады каля касцёла Ішчалнскага:**

**Гародня**, павятовы горад, судовы, соймавы, паміж поўднем і зімовым захадам адзінаццаць вялікіх міль.

**Ліда**, павятовы і судовы горад, ляжыць у кірунку на летні ўсход шэсць вялікіх міль.

**4.**

Дарога **з Ішчалны да Гародні** пясчаная, гарыстая, месцамі цераз балоты.

Дарога **з Ішчалны да Ліды** пясчаная, камяністая, месцамі цераз балоты, гарыстая.

**З Ішчалны да Гародні** летняя дарога чатырнаццаць гадзін язды, узімку дзевяць гадзін.

**З Ішчалны да Ліды** летняя дарога разам з перакусам восем гадзін, зімовая каля шасці гадзін.

**5.**

Ніякіх азёраў няма, так сама як і значных балотаў, ёсць **стаў васпана Валя** на вельмі малой рэчцы **Ішчалнянцы**, якая пачынаецца з крыніц за чвэрць мілі на зімовы ўсход ад касцёла.

Другі стаў таго ж ягамосця, знаходзіцца ніжэй **на той жа рачулцы**, ад першага праз грэблю, сілкуецца часткова з першага става, часткова з крыніц, стаў малы і зарослы.

**Стаў яснавяльможнага пана Хадкевіча**, за вёскай **Ішчалняны**, на той жа рэчцы, у кірунку на зімовы ўсход палова мернай мілі.

**Стаў васпана Александровіча** ў **Касцянёве**, фармуецца з балот і крыніц, на поўнач, ад касцёла тры чвэрці мілі.

Малы стаў **васпана Тубялевіча**, пры фальварку **Гернікі**, малы, пачынаецца з прылеглых балот і крыніц, на летні захад мерная міля.

**6.**

Лесу ў Ішчалнскай парафіі больш, чым адкрытага поля, пачаўшы ад Ішчалны, на поўдні на некалькі сотняў крокаў у шырыню і глыбіню, каля дзвюх мерных міль, расце дрэва прыдатнае для будоўлі - у асноўным сасна, а бярозы, асіны, вольхі, дубу не шмат. У многіх месцах расце хмызняк, дзе-нідзе ён займае па некалькі моргаў.

**7.**

**Млыны ў парафіі:**

Млын **васпана Валя** на рацэ Ішчалнянцы.



Млын другі **таго ж ягамосці** там жа.

Млын **васпана Александровіча** ў Касцянёве.

Млын **васпана Тубялевіча** ў Герніках.

Млын **яснавяльможнага пана Хадкевіча**, там жа, дзе і васпана Валя.

Іншых машын як водных, так і ветраных, таксама як і старажытных месцаў ці помнікаў натуральнай гісторыі, няма.

**8.**

**Партыкулярныя дарогі ў парафіі па даўжыні, наступныя:**

**Дарога да Васілішак**, дзе ёсць парафіяльны касцёл па-за мястэчкам, на поўнач праз некалькі сотняў метраў ад Ішчалнскага касцёла, полем ідзе сухая, камяністая дарога, далей, праз пералесак васпана Валя пад назвай **Прэйцы**, на працягу чвэрці мілі дарога пачынае быць балоцістай і вузкай, далей пачынаецца сасновы **Касцянёўскі бор** васпана Александровіча, праз які на працягу чвэрці мілі ідзе пясчаная і вузкая дарога, потым па правай руцэ за некалькі дзесяткаў крокаў фальварак **Сянкоўшчына** ці **Станіслававова** васпана Александровіча, мінуўшы яго, за некалькі дзесяткаў крокаў каля дарогі стаіць карчма і па праваму баку вёска васпана Александровіча **Лялюшы**, ад вёскі ідзе пясчаная выпрастаная дарога, з яе таксама прыбрана каменне, праз чвэрць мілі будзе **Гурнофельская** карчма, тут мяжа парафіі Ішчалнскай і Васілішскай.

**Дарога да Дылева**, дзе ёсць парафіяльны касцёл, адначасова з'яўляецца публічным віленскім трактам, ад Ішчалнскага касцёла на летні ўсход, праз некалькі сотняў крокаў будзе карчма пана Валя пад назвай **Гіня**, адтуль па правую руку праз палову чвэрці мілі бачны вёска **Ішчалняны** яснавяльможнага пана Хадкевіча. Далей па дарозе, праз некалькі дзесяткаў крокаў млын васпана Валя з грэбляй і мостам, пераехаўшы мост праз поле пачынаецца нядаўна выраўнаваная дарога, потым бярозавы лясок яснавяльможнага пана Хадкевіча, выехаўшы з якога, па правай руцэ праз чвэрць мілі бачны фальварак **Марцінішкі** таго ж Хадкевіча, далей, праз чвэрць мілі пры дарозе ёсць два каналы і палац яснавяльможнага пана Хадкевіча пад назвай **Вялікае Мажэйкава**, мінуўшы палац, праз некалькі стай па левай руцэ мураваная карчма і вёска **Агароднікі** таго ж ягамосці, па правай руцэ праз палову чвэрці мілі вёска **Зінеўцы** васпана Каstравіцкага і мураваная царква якая называецца **Мажэйкаўскай**, далей цераз поле вядзе сухая пясчаная і камяністая дарога праз палову мілі двор васпана Кастравіцкага **Малое Мажэйкава**, пасля двара, праз некалькі сотняў крокаў каля **Лябёдскага перавозу** стаіць карчма таго ж ягамосці, і тут парафія Ішчалнская мяжуе з Дылеўскай.

**Дарога да Жалудка**, пачаўшы ад касцёла Ішчалнскага парафіяльнага ідзе полем цераз рэчку **Ішчалнянку** ў кірунку паміж зімовым усходам і поўднем. Дарога сухая і камяністая, да карчмы васпана Губарэвіча пад назвай **Выгода,** якая стаіць за чвэрць мілі ад касцёла Ішчалнскага, далей, на такой жа адлегласці па той жа дарозе стаіць вёска яснавяльможнага пана Тызенгаўза і карчма пад назвай **Багданаўцы**, адсюль злева праз палову чвэрці мілі бачна вёска і двор **Красулі** васпана Губарэвіча, якія належаць да Жалудоцкай парафіі, і тут мяжа парафій Ішчалнскай і Жалудоцкай.

**Дарога да Шчучына** (Шчучынка), дзе ёсць касцёл парафіяльны, у кірунку паміж поўднем і зімовым захадам ад Ішчалнскага касцёла, праз некалькі сотняў метраў полем па сухой пясчанай дарозе будзе рэчка Ішчалнянка, потым сухая пясчаная дарога на працягу чвэрці мілі ідзе цераз сасновы лес васпана Валя, які мае назву **Навіна**, выехаўшы з лесу, па левую руку праз палову чвэрці мілі будзе вёска Ішчалнскай плябаніі **Явашоўцы**, праз чвэрць мілі па пясчанай і камяністай дарозе, якая ідзе праз зараслі і хмызняк, будзе карчма васпана Радзівановускага і другая карчма васпана Валя, якія называюцца **Казарэзы**, і тут мяжа парафій Ішчалнскай і Шчучынскай.

Ішчалнская парафія не мае ваяводскіх ці павятовых межаў, цалкам з усімі вёскамі і мейсцамі знаходзіцца ў Лідскім павеце, як пра тое пісалася вышэй.

Такое апісанне маёй парафіі подпісам уласнай рукі падцвярджаю

*Кс. Станіслаў Лазінскі,*
*плябан Ішчалнскі.*

**Парафія Лідская**

**1.**

**Касцёл парафіяльны ў горадзе, павеце і дэканаце Лідскім**, ад касцёла ў кірунку на захад праз семдзесят крокаў знаходзіцца касцёл і кляштар кс. кармелітаў antiqua observantia, у кірунку на поўнач праз чатырыста пяцьдзесят крокаў знаходзіцца касцёл, кляштар і павятовая школа кс. піяраў, у кірунку на летні ўсход праз дзевяцьсот крокаў парафільная ўніяцкая царква (ritus graci uniti), праз дзвесце пяцьдзесят крокаў у кірунку на зімовы ўсход стары мураваны замак, у кірунку паміж летнім захадам і поўначчу праз пяцьсот крокаў стаіць яўрэйская бажніца, у кірунку на поўнач праз дзве тысячы пяцьсот крокаў яўрэйскія могілкі.

**Агароднікі** (Ogrodniki), вёска і карчма князя ягомасці біскупа Віленскага, на летні ўсход тры чвэрці мілі.

**Агароднікі** (Ogrodniki), вёска васпана Тукалы, будаўнічага Лідскага, на поўдзень вялікая міля.

**Аколы** (Okoly), ваколіца, у кірунку паміж поўднем і зімовым захадам вялікая міля.

**Алтушкі** (Oltuszki), ваколіца, у кірунку паміж летнім захадам і поўначчу паўтары мілі.

**Анацкі** (Onackie), засценак князя ваяводы Віленскага, на летні ўсход дзве з трыма чвэрцямі мілі.

**Астроўля** (Ostrowla), вёска і карчма старасты Лідскага, на захад палова мілі.

**Багдзі** (Bohdzie), ваколіца, у кірунку паміж

поўднем і зімовым захадам вялікая міля.

**Барава** (Borowa), карчма васпана Нарбута , Лідскага падкаморага, на летні захад вялікая міля, каля гэтай карчмы, цераз дарогу другая карчма таго ж гаспадара.

**Бараны** (Barany), вёска Найяснейшага князя ягомасці Радзівіла, экс-падкаморага Літоўскага, у кірунку паміж поўначчу і летнім усходам палова мілі.

**Бельскія** (Bielskie), двор, вёска і карчма Найяснейшага князя ягомасці Радзівіла, экс-падкаморага, на зімовы захад міля.

**Бенькі** (Bienki), вёска князя ягомасці біскупа Віленскага, у кірунку паміж поўначчу і летнім усходам тры чвэрці мілі.

**Бердаўка** (Berdowka), двор васпана Жабы, шамбеляна Яго Каралеўскай мосці, на летні ўсход дзве з чвэрцю мілі.

**Біскупцы** (Biskupce), вёска васпана Хамінскага, старасты Пінскага, у кірунку паміж летнім і зімовым усходам дзве мілі.

**Болтуці** (Boltucie), ваколіца, на летні ўсход паўтары мілі.

**Боркі** (Borki), вёска старасты Лідскага, на зімовы ўсход напрасткі цераз балота дзве вялікія мілі, па дарозе чатыры з паловай вялікія мілі.

**Брадова** (Brodowa), карчма васпана Мысліцкага, Лідскага ротмістра, на захад дзве з паловай мілі.

**Брындзяняты** (Bryndzieniata), вёска князя ягомасці біскупа Віленскага, на летні ўсход вялікая міля.

**Букатаўшчына** (Bukatowszczyzna), фальварак васпана Жабы, шамбеляна, на летні ўсход дзве з чвэрцю мілі.

**Бурносы** (Burnosy), вёска васпана Хамінскага, старасты Пінскага, на летні ўсход тры с паловай мілі.

**Бялундзі** (Bialundzie), вёска Літоўскай артылерыі, на летні ўсход дзве з чвэрцю мілі.

**Верхліда** (Wierzchlida), вёска князя экс-падкаморага Літоўскага, на поўнач, напрасткі праз балоты якія называюцца **Стрыя** - тры чвэрці мілі, кругам, гасцінцам каля мілі.

**Вінкаўцы** (Winkowce), двор і вёска Квінцынай, крайчай Браслаўскай, на поўдзень палова мілі.

**Вісманты** (Wismaty), ваколіца, у кірунку паміж поўднем і ўсходам чвэрць мілі.

**Востраў** (Ostrow), двор, капліца і карчма васпана Нарбута, падкаморага Лідскага, на летні захад паўтары мілі.

**Вялікае Ольжава** (Olzew Wielki), двор Кішчынскага і ўніяцкая капліца (ritus graci uniti) васпана Гінета, крайчага Лідскага, у кірунку паміж поўднем і зімовым захадам вялікая міля.

**Вялічкі** (Wieliczki), вёска князя ваяводы Віленскага, у кірунку паміж зімовым усходам і поўднем дзве вялікія мілі.

**Гарні** (Gornie), вёска старасты Лідскага, паміж поўднем і зімовым захадам тры чвэрці мілі.

**Гарнішкі** (Horniszki), вялікая і малая ваколіцы, на летні захад адна з паловай летняя міля.

**Дайнава** (Dejnowo), двор, капліца, карчма і вёска ксяндзоў аўгустынаў эмірытанскіх віленскіх, на зімовы захад вялікая міля.

**Дакудава** (Dokudow), двор, касцёл філіяльны і ўніяцкая царква (ritus graci uniti), карчма і вёска, якая завецца **Вялікае Сяло**, Найяснейшага князя ягомасці Радзівіла, ваяводы Віленскага, у кірунку на зімовы ўсход напрасткі цераз балота дзве з чвэрцю вялікія мілі, кругом чатыры з чвэрцю мілі.

**Далекія** (Dalekie), вёска васпана Гінета, крайчага Лідскага, у кірунку паміж зімовым захадам і поўднем вялікая міля.

**Даўлюдаўцы** (Douludowcy), вёска і карчма васпана Тукалы, будаўнічага Лідскага, у кірунку паміж поўднем і зімовым захадам вялікая міля.

**Доўкні** (Douknie), вёска князя ягомасці біскупа Віленскага, у кірунку на летні ўсход палова мілі.

**Дуброўня** (Dombrowna), двор князя ягомасці біскупа Віленскага, на летні ўсход тры чвэрці мілі.

**Ёдкі** (Jodki), ваколіца, у кірунку паміж усходам і поўднем мерная міля.

**Забалатня** (Zablocie), вёска князя ваяводы віленскага, на зімовы ўсход, напрасткі цераз балоты дзве з паловай мілі, кругам каля чатырох з паловай міль.

**Заполле** (Zapole), двор і вёска васпана Дамейкі, суддзі земскага Наваградскага, на летні захад міля, і карчма на гасцінцы.

**Зарэчча** (Zarzecze), карчма старасты Лідскага, прадмесце і плябанія ўніяцкая (ritus graci uniti), на летні ўсход тысяча крокаў.

**Зялёная** (Zielona), карчма васпана Хамінскага, старасты Пінскага, на летні ўсход дзве з паловай мілі.

**Калясішча** (Kolesiszcze), ваколіца, у кірунку паміж поўднем і ўсходам міля з чвэрцю.

**Каменка** (Kamionka), прадмесце, на ўсход чатырыста крокаў.

**Капачэлі** (Koroczele), плябанская вёска, на зімовы ўсход міля.

**Карнілкі** (Karnilki), засценак князя ваяводы Віленскага, на летні ўсход дзве с паловай вялікія мілі.

**Качанова** (Kaczanow), двор васпана Адамовіча, ротмістра Лідскага, у кірунку паміж зімовым усходам і поўднем міля з чвэрцю.

**Келбы** (Kielby), вёска Лідскага плябана, на летні ўсход тры чвэрці мілі.

**Кербядзі** (Kierbiedzie), ваколіца, у кірунку паміж летнім захадам і поўначчу паўтары мілі.

**Кір'янаўцы** (Kirianowce), фальварак і вёска Мысліцкага, Лідскага ротмістра, на ўсход, узімку дзве з чвэрцю мілі, трохі далей карчма **Бродава** таго ж пана.

**Клепачоўшчына** (Klepczowszczyzna), фальварак васпана Адамовіча, ротмістра Лідскага, на зімовы ўсход міля з чвэрцю.

**Клепачоўшчына** (Klepczowszczyzna), ваколіца, там жа, але трохі далей, паўтары мілі.

**Колышкі** (Kolyszki), фальварак экс-падкаморага Літоўскага, у кірунку паміж поўначчу і летнім усходам палова мілі.

**Колышкі** (Kolyszki), ваколіца, там жа блізка.

**Косаўшчына** (Kossowszczyzna), фальварак і вёска васпана Нарбута, харунжага Лідскага, на ўсход тры чвэрці мілі.

**Крупава** (Krupa), двор васпана Нарбута, вой-

скага Лідскага, у кірунку паміж летнім захадам і поўначчу вялікая міля.

**Крупава** (Krupa Wielka i Krupa Mala), касцёл філіяльны Лідскі, паміж касцёлам і вёскамі карчма васпана Нарбута, войскага Лідскага, у кірунку паміж летнім захадам і поўначчу вялікая міля.

**Крыва** (Krzywa), вёска Беліцкага кальвінскага збору, на зімовы ўсход, каля Дакудава, напрасткі праз балота дзве мілі з чвэрцю, кругам чатыры мілі з чвэрцю.

**Курасёўшчына** (Karosiowszczyzna), двор васпана Тукалы, будаўнічага Лідскага, на поўдзень вялікая міля.

**Куроўшчына** (Kurowszczyzna), фальварак кс. плябана Лідскага, на летні захад, напрасткі цераз балота шэсцьсот пяцьдзесят крокаў, кругам чвэрць мілі.

**Кянці** (Kiecie), вёска васпана Нарбута, харунжага Лідскага, на поўдзень вялікая міля.

**Лазоўка** (Lozowka), карчма васпана Нарбута, харунжага Лідскага,

**Лайкоўшчына** (Lojkowszczyzna), вёска ксяндзоў кармелітаў лідскіх, на летні ўсход чвэрць мілі.

**Ласанкі** (Lasanki), ваколіца, у кірунку паміж захадам і поўначчу міля з чвэрцю.

**Лаўчылавічы** (Lowczylowicze), фальварак і вёска васпана Нарбута, падкаморага Лідскага, на летні захад міля з трыма чвэрцямі.

**Ліда** (Lida), двор Лідскага старасты, на зімовы захад над ставам, напрасткі трыста пяцьдзесят крокаў, кругам чвэрць мілі.

**Лучкі** (Luczki), вёска князя ваяводы Віленскага, на зімовы ўсход, напрасткі цераз балоты дзе малыя мілі, кругам, каля балотаў пяць міль.

**Малое Ольжава** (Olzew Maly), двор Нелюбоўскага, васпана Альшэўскага, падстолія Лідскага, на зімовы захад вялікая міля.

**Мальгі** (Molhy), вёска васпана Альшэўскага, падстолія Лідскага, на летні захад дзве мілі.

**Мікулічы** (Mikulicze), вёска і карчма князя ваяводы Віленскага, на летні ўсход дзве з паловай вялікія мілі.

**Мінойты** (Minojty), вёска васпана Пузыны, шамбеляна Яго Каралеўскай мосці, на зімовы захад, у кірунку паміж усходам і поўднем дзве мілі.

**Місюры** (Misciory), засценак князя ваяводы Віленскага, на летні ўсход, за **Мікулічамі** дзве з трыма чвэрцямі мілі.

**Мялёхава** (Mielki), вёска, карчма і цагельня кс. плябана Лідскага, на зімовы ўсход малая міля.

**Навапрудцы** (Noworudce), вёска экс-падкаморага Літоўскага, у кірунку паміж усходам і поўднем чвэрць мілі.

**Навасёлкі** (Nowosiolki), вёска кс. плябана Лідскага, на летні ўсход, напрасткі семсот крокаў, кругам, вакол балота чвэрць мілі.

**Навасёлкі** (Nowosiolki), вёска васпана Тукалы, будаўнічага Лідскага, на поўдзень вялікая міля.

**Навіцкія** (Nowickie), вёска і карчма васпана Адамовіча, ротмістра Лідскага, на зімовы ўсход міля з чвэрцю.

**Навіцкія** (Nowickie), вёска, уніяцкая капліца (ritus graci uniti) і карчма васпана Тукалы, будаўнічага Лідскага, на поўдзень міля.

**Несікоўшчына** (Nieszykowszczyzna), фальварак васпана Нарбута, харунжага Лідскага, на летні ўсход тры чвэрці мілі.

**Няцеч** (Niecieczа), вёска князя ягомасці біскупа Віленскага, на летні ўсход тры чвэрці мілі.



**Няцеч** (Nieciecza), ваколіца, там жа, на зімовы ўсход.

**Обрубы** (Obrubie), вёска васпана Дамейкі, суддзі земскага Наваградскага, у кірунку паміж летнім захадам і поўначчу міля.

**Ольжава** (Olzew), вёска і карчма васпана Гінета, крайчага Лідскага, у кірунку паміж поўднем і зімовым захадам вялікая міля.

**Паганы** (Poganie), фальварак васпана Хамінскага, старасты Пінскага, на ўсход дзве мілі з чвэрцю.

**Падольжаў** (Podolzew), фальварак васпана Тукалы, будаўнічага Лідскага, у кірунку паміж поўднем і захадам вялікая міля.

**Паддубна** (Podubnie), вёска васпана Тукалы, будаўнічага Лідскага, у кірунку паміж поўднем і ўсходам міля з чвэрцю.

**Паддзіковічы** (Poddzikowicze), вёска князя ваяводы Віленскага, у кірунку паміж поўднем і ўсходам тры мілі.

**Палубнікі** (Polubniki), фальварак, вёска і карчма васпана Нарбута, Лідскага падкаморага, у кірунку паміж поўднем і захадам, міля.

**Памосткі** (Pomostki), засценак князя ваяводы Віленскага, на летні ўсход дзве з паловай вялікія мілі.

**Пастаўшчына** (Pastowszczyzna), фальварак ксяндзоў піяраў, на поўнач чвэрць мілі.

**Пашкі** (Paszki), засценак князя ягомасці біскупа Віленскага, у кірунку паміж поўначчу і летнім усходам міля з чвэрцю.

**Перапечыца** (Perepeczyce), двор васпана Нарбута, харунжага Лідскага, на зімовы ўсход чвэрць мілі.

**Перапечыца** (Perepeczyce), ваколіца, там жа, на поўдзень чвэрць мілі.

**Пескі** (Piaski), вёска васпана Хамінскага, старасты Пінскага, на ўсход дзве з чвэрцю мілі.

**Пескі** (Piaski), вёска і карчма князя ваяводы Віленскага, у кірунку паміж усходам і поўднем дзве з паловай мілі.

**Плябанцы** (Plebance), фальварак і вёска кс. плябана Лідскага, на зімовы ўсход вялікая міля.

**Плясавічы** (Plasewicze), вёска князя ягомасці біскупа Віленскага, у кірунку паміж поўднем і летнім усходам вялікая міля.

**Прыдубайлы** (Przydybaly), вёска васпанства Багаткаў, там жа, міля.

**Пурсці** (Purscie), вёска і карчма старасты Лідскага, у кірунку паміж усходам і поўначчу міля.

**Пятры** (Piotry), засценак князя ваяводы Віленскага, на зімовы ўсход, напрасткі цераз балоты дзве мілі з чвэрцю, кругам, каля чатырох з чвэрцю міль.

**Пяцюлеўцы** (Pieciulowce), фальварак і вёска васпана Дамейкі, суддзі земскага Наваградскага, у кірунку паміж зімовым захадам і поўднем міля.

**Раклёўцы** (Reklowce), вёска і карчма васпана Альшэўскага, падстолія Лідскага, на зімовы захад міля.

**Расля́кі** (Roslaki), засценак старасты Лідскага, на летні ўсход, напрасткі, цераз рэчку Лідзейку тысяча пяцьдзесят крокаў, кругам, цераз грэблю чвэрць мілі.

**Раслякі** (Roslaki), вёска ксяндзоў піяраў, у кірунку паміж на летнім усходам і поўначчу, напрасткі, цераз рэчку Лідзейку тысяча сто шэсцьдзесят крокаў, кругам, цераз грэблю каля чвэрці вялікай мілі.

**Скрэбні** (Skrebnie), фальварак ксяндзоў кармелітаў лідскіх, на поўдзень міля з чвэрцю.

**Смалякі** (Smolaki), ваколіца, у кірунку паміж летнім захадам і поўначчу міля з трымя чвэрцямі.

**Спorкаўшчына** (Sporcikowszczyzna), фальварак, вёска і карчма васпана Каржанеўскага, ротмістра Лідскага, у кірунку паміж поўначчу і летнім усходам міля.

**Стэцкія** (Steckie), засценак артылерыі Літоўскай, на летні ўсход дзве мілі з чвэрцю.

**Сугайлы** (Sagajly), засценак князя біскупа Віленскага, у кірунку паміж поўначчу і летнім усходам міля з чвэрцю.

**Сукурчы** (Suchurcze), двор і вёска васпана Нарбута, падкаморага Лідскага на летні захад міля.

**Сцеркава** (Scierkow), вёска Літоўскай артылерыі, на летні ўсход міля з чвэрцю.

**Сухвальня** (Suchwalnia), вёска князя біскупа Віленскага, на летні ўсход міля.

**Шайбакі** (Szejbaki), вёска васпана Нарбута, харунжага Лідскага, і часткова Квінцынай, крайчай Браслаўскай, у кірунку паміж усходам і поўднем палова мілі.

**Татарцы** (Tatarce), вёска князя ваяводы Віленскага, на летні ўсход міля з трыма чвэрцямі.

**Траццякоўцы** (Trzeciakowce), двор і вёска васпані Калясінскай, пісаравай Магдэбургскай, на поўдзень палова мілі.

**Філонаўцы** (Filonowce), вёска князя ваяводы Віленскага, на зімовы ўсход, напрасткі цераз балоты адна з паловай міля, кругом пяць з чвэрцю міль.

**Харужаўцы** (Choruzawce), фальварак і вёска ксяндзоў кармелітаў лідскіх, на летні ўсход наўпрост цераз раку Лідзейку і малы альховы гай - дзвесце пяцьдзесят крокаў, кругом цераз грэблю і мост, якія праз дзве тысячы крокаў ад вёскі, каля чвэрці мілі.

**Хрысціянаў** (Chrystianow), фальварак васпана Гінета, крайчага Лідскага, паміж поўднем і зімовым захадам вялікая міля.

**Хрулі** (Chorulewszczyzna), вёска васпана Нарбута, падкаморага Лідскага, на захад вялікая міля.

**Цагельня** васпана Нарбута, харунжага Лідскага, на летні ўсход палова мілі.

**Цвермы** (Cwiermy), вёска Найяснейшага князя ягомасці Радзівіла, экс-падкаморыя, у кірунку паміж летнім усходам і поўначчу міля з чвэрцю.

**Цешкі** (Cieszki), вёска Літоўскай артылерыі, на ўсход міля з чвэрцю.

**Цыбары** (Cibory), фальварак і вёска васпана Кастравіцкага, шамбеляна Яго Каралеўскай мосці, на зімовы захад міля.

**Цябы** (Ciaby), вёска Найяснейшага князя ягомасці Радзівіла, экс-падкаморыя, паміж поўначчу і летнім усходам міля.

**Чараўкі** (Cierewki), вёска Найяснейшага князя ягомасці Радзівіла, ваяводы Віленскага, на летні ўсход дзве з трыма чвэрцямі мілі.

**Чэрнікі** (Czerniki), вёска васпана Нарбута, падкаморыя Лідскага, у кірунку паміж захадам і поўначчу

вялікая міля.

**Чэхаўцы** (Czechowce), ваколіца на поўнач.

**Янцавічы** (Jancewicze), вёска васпана Нарбута, падкаморыя Лідскага, у кірунку на летні захад адна з паловай вялікая міля.

**Яськаўцы** (Jaskowce), вёска Нарбута, харунжага Лідскага, на летні ўсход тры чвэрці мілі.

**Яўсеевічы** (Owsieewicze), вёска васпана падкаморага Лідскага, на летні захад адна з трыма чвэрцямі міля.

**2.**

**Касцёлы парафіяльныя, якія мяжуюць з Лідскай парафіяй**, і іншыя значныя:

Касцёл парафіяльны **Жырмунскі**, на поўнач дзве мілі.

Касцёл парафіяльны **Тракельскі**, паміж поўначчу і летнім усходам дзве з паловай мілі.

Касцёл парафіяльны **Ліпнішскі**, на летні ўсход пяць міль.

Касцёл парафіяльны **Івейскі**, на ўсход пяць міль.

Касцёл парафіяльны **Ганчарскі**, ritus graci uniti (уніяцкая царква), на поўдзень тры мілі.

Касцёл парафіяльны **Белагрудскі**, на зімовы захад міля з трыма чвэрцямі.

Касцёл парафіяльны, **Мытлянскі**, ritus graci uniti (уніяцкая царква), на зімовы захад дзве мілі.

Касцёл парафіяльны **Ваверскі**, на захад тры мілі.

Касцёл парафіяльны **Радунскі**, на летні захад, напрасткі цераз Дзітву тры мілі, кругам, цераз Гародна тры вялікія мілі.

**3.**

**Значнейшыя дарогі ў парафіі:**

**Дарога на Жырмуны** ў бок Вільні, камяністая, ідзе полем, рэдка дзе праз зараслі бярозы, асіны, сасны, ядлоўцу. Цягнецца на поўнач вялікую мілю без ніякіх бродаў і перавозаў, на карчме, якая мае назву **Півоня** і належыць князю ягомасці Радзівілу, экс-падкаморыю Літоўскаму, заканчваецца парафія, ад карчмы дарога ідзе на Жырмуны.

**Дарога другая да Вільні**, ідзе цераз балота **Стрыя**, каля **Чэхаўцаў** і **Колышак**, выбоістая, на працягу мілі зарослая кустамі, ля карчмы **Бярэзніца** васпані **Барзумоўскай**, суддзёвай земскай Лідскай, заканчваецца парафія Лідская, дарога потым ідзе цераз **Дворышча** на **Тракелі**.

**Дарога на Ліпнішкі**, парослая малой бярозай і зрэдку дубам, цягнецца паміж палямі на летні ўсход цераз мост і грэблю на Лідзейцы і цераз Зарэчча, да Дуброўні добрая брукаваная, а адтуль камяністая, пясчаная каля Сцеркава і Бердаўкі, за Бердаўкай заканчвацца парафія Лідская.

**Дарога да Гаўі і Іўя** ад Сцеркава, цягнецца над балотам паміж бярозавымі гаямі каля Гаўі, тут заканчвацца парафія Лідская.

**Дарога да Дакудава, ад Гаўі на Зялёную**, дзе выгодная карчма, дарога толькі месцамі пясчаная.

**Дарога другая на поўдні да Дакудава**, камяністая, выбоістая, потым пясчаная, цягнецца цераз брод каля Ёдкаў, цераз прыкры мост і гразкую грэблю, дзе дарога мокрая і выбоістая. Каля **Калясішчаў** і да карчмы ў **Мінойтах** сухая, далей на **Пескі**, якія перад Дзітвянскім мостам, і тут заканчвацца парафія Лідская, далей цераз мост па пясчанай дарозе на Дакудава.

**Дарога з Пескаў, цераз Дзітву**, цягнецца да Беліцы.

**Дарога старая да Беліцы**, цягнецца цераз **Гарні, Багдзі, пушчу васпана Гінета**, крайчага Лідскага, злучаецца з новай каля Мінойтаў.

**Дарога да Белагруды** цягнецца каля **Раклёўцаў** на **Ольжаў - Нелюбоўскі** (Малое Ольжава) васпана Альшэўскага, падстолія Лідскага, дзе і заканчвацца парафія Лідская.

**Дарога да Мыто**, пясчаная, камяністая, ідзе цераз зараслі сасны і бярозы, цягнецца цераз **Каменку**, паміж **Раклёўцамі** і **Цыбарамі**, за якімі заканчвацца парафія Лідская.

**Дарога да Астроўлі**, аддзяляецца за **Каменкай** управа і цягнецца пяскамі паміж малымі кустамі да Астроўлі.

**Дарога да Крупава**, адразу за горадам аддзяляецца ўлева ад Віленскага гасцінца і цераз пяскі, каменне і кусты ідзе на Крупава.

**Дарога з Мыта на Вільню**, пясчаная і камяністая, цягнецца ад Мыта на карчму васпана Дамейкі, суддзі земскага Наваградскага, далей на карчму **Барова** каля двароў Сукурчы і Крупава васпана Нарбута, падкаморага Лідскага, далей цераз рэчку Крупку на Жырмуны.

4.

**У парафіі ёсць наступныя рэкі:**

**Рака Лідзейка** пачынаецца паміж **Колышкамі** і **Верхлідай**, цягнецца на **Чэхаўцы** васпана Кулешы, стальніковіча зямлі Браслаўскай, дзе ставы і млын на **Пастаўшчыне** ксяндзоў піяраў, дзе так жа ёсць стаў і млын з усходняга боку горада, да вялікага става на пяцьдзесят пяць прутоў, на якім два млыны Лідскага старасты ў **Навапрудцах**, далей стаў і млын экс-падкаморыя Літоўскага, трохі далей каля **Перапечыцы** два ставы з млынамі васпана Нарбута, харунжага Лідскага, далей рака цячэ да **Качанова**, а адтуль да **Курасёўшчыны**, дзе знаходзіцца млын васпана Тукалы, будаўнічага Лідскага, адтуль, балотамі паміж зараслямі вольхі рака цячэ да Мінойтаў і за Пескамі ўпадае ў Дзітву.

**Рака Каменка** выцякае з гарадскога выгану паміж **Каменкай** і **Куроўшчынай**, цячэ цераз грэблю і альховы гаёк ксяндзоў кармелітаў за іх кляштарам, там жа ёсць малы стаў з млынам тых жа ксяндзоў кармелітаў, за замкам упадае ў стаў Лідскага старасты.

**Рэчка Астраўлянка**, пачынаецца каля Астроўлі, цячэ да **Траццякоўцаў**, каля **Ёдкаў** цераз яе ёсць брод, і каля **Перапечыцаў** яна ўпадае ў Лідзейку.

**Рэчка Бердаўка**, пачынаецца каля **Харужаўцаў**, цячэ да двара васпана Жабы, шамбеляна, дзе стаў

і валюш, адтуль цячэ да бердаўскага става, які разпрасцёрся на пятнаццаць прутоў, пры гэтым ставе ёсць млын, і адтуль праз мілю ўпадае ў Гаўю.

**Рэчка Нецеча**, пачынаецца пад **Болтуцямі** цячэ на Дуброўню, за якой стаў, летам сухі, і млын, потым каля **Плябанцаў** за **Качановым** упадае ў Лідзейку, па берагах той рэчкі альховыя кусты, месцамі лугі.

**Рака Гаўя**, пачынаецца ў **Коксішках** Ашмянскага павету, за восем міляў ад Ліды, цячэ цераз **Суботнікі**, **Галімшчыну**, **Гаўю** - двор васпана Хаімскага, старасты Пінскага, дзе ёсць млын, у Бердаўцы заканчваецца парафія, пад Бурносамі ўпадае ў Нёман.

**Рака Дакудаўка**, цячэ з балот Дакудаўскіх цераз вёску Дакудава, дзе ёсць малы стаў і млын, і там упадае ў Нёман.

**Рака Крупка**, пачынаецца за філіяльным Лідскім касцёлам у **Крупаве**, у балотах васпана Дамейкі, суддзі земскага Наваградскага, цячэ паміж вёскамі васпана Нарбута, Лідскага харунжага, названымі **Крупава,** упадае ў стаў з млынам войскага Лідскага, стаў займае шэсць моргаў, далей праз вольхавы гай каля **Сукурч**, балотамі цячэ да ставу за Востравам, дзе млын васпана Нарбута, падкаморага Лідскага, адтуль цячэ цераз балота і ўпадае ў Дзітву.

**Рака Дзітва** пачынаецца ў парафіі Эйшышскай, пад **Вільканцамі**, недалёка ад двара васпана Ромера, суддзі земскага Троцкага, цячэ каля **Кухакоўска, Азялішак, Навішак, Вільбікаў, Гудэлей, Смалякоў, Паддзікаўцаў**, двара васпана **Расадаўскага, Мыта, Белагруды, Ольжава Кішчынскага (Вялікага Ольжава), Дзякавічаў** і недалёка ад **Вашкевічаў** упадае ў Нёман.

**Рака Нёман** цячэ ад **Бурносаў** да **Вашкевічаў**, дзе мяжа Лідскай парафіі.

**5.**

**Возера Сцеркава** пад Сцеркавым, займае пяць моргаў на спрэчным месцы паміж князем ягомасцю Радзівілам, ваяводам Віленскім і артылерыяй Літоўскай.

**Возера Глухава** пад Дакудавым князя ягомасці Радзівіла, ваяводы Віленскага, займае трыццаць моргаў, зарослае.

**Возера Мятліца**, князя ягомасці Радзівіла, ваяводы віленскага, каля Вялічкаў, займае пятнаццаць шнуроў.

**Возера Лебедзева**, каля Борак (зараз - Скаменны Бор, *заўвага Л.Л.*) князя ягомасці Радзівіла, ваяводы Віленскага, займае пяць моргаў.

**6.**

**Балота каля Чэхаўцаў і Верхліды** пад назвай **Стрыя**, цягнецца да **Пастаўшчыны** з абодвух бакоў **Лідзейкі,** зарослае вольхавымі гушчарамі і хмызняком.

**Балота на ўсход ад Ліды**, ад **Перапечыцы** да **Боркаў** на працягу паўтары мілі і ад карчмы **Бродавай** (у Кір'янаўцах, *заўвага Л.Л.*) да **Пескаў** на тры вялікія мілі, зарослае гушчарамі, бярозай, нэндзнымі соснамі, ядлоўцам і іншымі не ўжытковымі дрэвамі, належыць па большай частцы князю ягомасці Радзівілу, ваяводзе Віленскаму, часткова прылеглым дварам шляхты.

**Балота над берагамі Дзітвы**, ад летняга заходу цягнецца аж да поўдня, зарослае бярозай, вольхай, лазой і дубкамі, належыць шляхце, з уладаннямі якой мяжуе, а часткова мае ўмоўных гаспадароў.

**Балота** плошчай на некалькі моргаў **васпана Дамейкі**, суддзі земскага Наваградскага, паміж філіяльным Лідскім касцёлам у **Крупаве**, **Пурсцямі** і **Обрубамі**, зарослае гушчарамі і ліхім хмызняком, вольхай, бярозай і ядлоўцам.

**7.**

Лес дубовы за **Сцеркавым** і лес сасновы за **Бердаўкай** васпана Жабы, шамбеляна Яго Каралеўскай мосці.

Лес сасновы, яловы, месцамі дубовы і бярозавы, працяглы на вялікую мілю, **васпана Гінета**, крайчага Лідскага, за **Ольжавам Кішчынскім** (Вялікім Ольжавам).

Лес сасновы, дубовы і яловы, месцамі бярозавы, працяглы на тры чвэрці мілі, **васпана Альшэўскага**, падстолія Лідскага, за **Ольжавам Нелюбоўскім** (Малым Ольжавам) да **Цыбараў**.

Бор сасновы, плошчай пяць моргаў **васпана Нарбута**, падкаморага Лідскага, перад карчмой **Баравая**.

Лес бярозавы, асіны з сасной змешаны нядаўна, запушчаны, займае шэсць валок, **васпана Нарбута**, войскага Лідскага, адразу за дваром **Крупава**.

**Лес каля Астроўлі і Крупава**, густыя бярозавыя і альховыя гайкі, паміж якімі зрэдку па некалькі сосен, у нізінах дубы і вольхі.

**Ад Чэхаўцаў да Дуброўні** і далей да **Куроўшчыны** шмат хмызняку, здатнага толькі для гараджэння платоў.

**Ад Астроўлі і Крупава да Ліды** на палях бедныя сасновыя, альховыя і ядлаўцовыя зараслі, па іншых месцах парафіі таксама прысутнічаюць значныя бярозавыя, сасновыя, змешаныя зараслі, на нізінах вольха вырасла б на добры лес, калі б яе не высякалі.

**8.**

Горы, скалы, мінеральныя воды і іншыя асаблівыя мейсцы, апрача апісаных, адсутнічаюць у Лідскай парафіі.

Лідская парафія цалкам ляжыць у сваім павеце, у Віленскім біскупстве, на поўначы мяжуе з Радунскім дэканатам а на ўсход з Ашмянскім паветам.

Гэтае апісанне Лідскай парафіі зрабіў выканавец абавязкаў Лідскага плябана, ксяндза **Казіміра Нарбута**, і падцвердзіў уласнай рукой ксёндз **Сымон Вырыкоўскі, навук вольных і сакральнай тэалогіі доктар.**

***Валеры Сліўкін***

# Рамонты і рэстаўрацыйныя работы ў Лідскім замку ў пачатку XX стагоддзя

У 1878 г. Лідскі павятовы прадвадзіцель дваранства (маршалак шляхты) калежскі асэсар Сцяпан Дзяменцьевіч Буткевіч узбудзіў хадайніцтва перад Віленскім, Ковенскім і Гарадзенскім генерал-губернатарам пра знос сцен старажытнага замка. Генерал - губернатар Пётр Паўлавіч Альбедзінскі ў хадайніцтве адмовіў. Лідскае чынавенства не супакоілася. 27 верасня 1882 г. пытанне пра знос замкавых сцен абмяркоўвалася на паседжанні гарадской думы. Пасля пажару 1891 г. без абмеркаванняў пачалі ламаць замкавыя сцены і пускаць цэглу і камяні на продаж. Чуткі пра разборку замка дайшлі да Імператарскай археалагічнай камісіі. У Ліду быў накіраваны супрацоўнік Камісіі Пётр Пятровіч Пакрышкін, рускі архітэктар, дзеяч у вобласці рэстаўрацыі помнікаў сярэднявечнай архітэктуры. У паездках ён вёў падрабязны дзённік, фатаграфаваў замак, і павінен быў напісаць справаздачу. Яго альбомы са шматлікімі здымкамі 1903-1916 гг., зробленыя падчас паездак па даручэнні ІАК, захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі матэрыяльнай культуры РАН у Санкт-Пецярбурзе. Дзякуючы П.П. Пакрышкіну Лідскі замак атрымаў статут недатыкальнага.



***Пётр Пятровіч Пакрышкін***

Напачатку стагоддзя (1903 г.) інжынеры Губернскага будаўнічага аддзялення агледзелі замак і склалі каштарыс на рамонт. Лідскае гарадское грамадскае кіраванне звярнулася да губернатара з просьбай пра водпуск на рамонт замка 1943 руб. 2 капеек казённых грошай. Генерал-губернатары змяняліся кожныя два гады, хадайніцтва дзесьці затрымалася.

У 1906 г. Віленскі цывільны губернатар Зміцер Мікалаевіч Любімаў праз пасярэдніцтва Віленскага, Ковенскага і Гарадзенскага генерал-губернатара прадставіў у Міністэрства ўнутраных спраў хадайніцтва Лідскага гарадскога кіравання. Міністэрства ўнутраных спраў звязалася з Міністэрствам фінансаў, якое апавясціла Галоўнага начальніка краю, што *"яно не сустракае перашкод да водпуску на рамонт замка ў г. Лідзе 1000 руб. з рэштак крэдытаў па каштарысе МУС на 1908 г.... Што ж датычыцца водпуску астатніх 943 руб. 2 кап. на рамонт Лідскага замка, то па гэтым прадмеце МУС мяркуе ўвайсці ў паўторныя зносіны з Міністэрствам фінансаў"*.

Сума не маленькая, з гэтай нагоды паўстала шырокая перапіска, з якой можна азнаёміцца ў Нацыянальным гістарычным архіве г. Гародні.

10 кастрычніка 1908 г. - Міністэрства ўнутраных спраў на рамонт Лідскага замка выдзеліла 1000 рублёў.

16 кастрычніка - генерал-губернатар паведаміў Віленскаму губернатару З.М. Любімаву пра выдзяленне грошай і ўказаў, каб гэтыя грошы былі выдаткаваны да 31 сакавіка 1909 г.

28 кастрычніка - канцылярыя генерал -губернатара прапанавала Віленскай Казённай Палаце прадставіць губернатару З.М. Любімаву 1000 руб. на рамонт замка.

10 лістапада - за подпісам Віленскага губернатара З.М. Любімава, губернскага інжынера А.Н. Соніна і старэйшага справавода канцылярыі Лідскаму павятоваму прадвадзіцелю дваранства графу Грабоўскаму накіраваны ліст з інфармацыяй пра выдзяленне 1000 рублёў на рамонт замка. У лісце паведамлялася, што вытворцам работ прызначаны малодшы інжынер Будаўнічага кіравання А.І. Фофанаў, а паколькі *"з прычыны наступлення зімовага часу да выканання работ па рамонце замка сягоння прыступіць немагчыма і таму, для захавання асігнаванага крэдыту ў 1000 руб., неабходна прыняць своечасова адпаведныя меры"*. Да ліста быў прыкладзены каштарыс на рамонт і два фатаграфічныя здымкі.

29 лістапада - віца-губернатар А.Ф. Падзьяканаў паведаміў Лідскаму павятоваму прадвадзіцелю дваранства, што Віленскай казённай палаце прапанавана перавесці ў Лідскае казначэйства 1000 руб.

2 снежня - Віленская казённая палата паведаміла ў канцылярыю генерал-губернатара, што крэдыт у суме 1000 рублёў пераведзены ў Лідскае казначэйства.

10 снежня - Будаўнічае аддзяленне Губернскага кіравання апавясціла Лідскага павятовага прадвадзіцеля дваранства, што крэдыт у суме 1000 рублёў пераведзены ў Лідскае казначэйства.

16 студзеня 1909 г. - Лідскі павятовы прадва-

дзіцель дваранства граф Грабоўскі прасіў Лідскае казначэйства выдзеліць 1000 рублёў пад распіску Баляслава Аляксандравіча Вітажэнца. 900 рублёў павінны быць пакладзены ў Ашчадную касу на імя Вітажэнца, а 100 рублёў - паступіць у канцылярыю прадвадзіцеля дваранства.

Лідскае казначэйства грошы прытрымала.

22 студзеня - Лідскі павятовы прадвадзіцель дваранства запытаў казначэйства пра прычыну нявыдачы грошай. Грошы выдадзены, Вітажэнец Б.А. паклаў іх на свой рахунак у Ашчадную касу.

28 красавіка - малодшаму інжынеру Фофанаву, павятоваму спраўніку і гарадскому старасту накіраваны запрашэнні прыбыць 11 траўня ў 11 гадзін на паседжанне мясцовай будаўнічай камісіі ў памяшканні "Вайсковай прысутнасці ("Воинского присутствия", так раней ваенкамат зваўся).

11 траўня - адбылося першае паседжанне мясцовай будаўнічай камісіі па рамонце Лідскага замка, на якім прысутнічалі: старшыня камісіі - Лідскі павятовы прадвадзіцель дваранства граф Людвіг Уладзіслававіч Грабоўскі і чальцы - малодшы інжынер Будаўнічага аддзялення Віленскага губернскага кіравання Аляксандр Ільіч Фофанаў, Лідскі павятовы спраўнік Яўген Аляксандравіч фон Гротэ-дэ-Буко і Лідскі гарадскі староста Лявон-Пётр Аляксандравіч Вісьмант.

Старшыня камісіі даклаў, што каштарыс на рамонт замка быў складзеы ў 1903 г., за мінулыя шэсць гадоў "сцены замка прыйшлі ў яшчэ большую старасць", таму камісіі неабходна агледзець замак, каб вызначыць магчымасць правядзення прац па каштарысе.

Пасля агляду высвятлілася, што *"сцены з вонкавага боку асабліва трухлявыя і пагражаюць частковым абвальваннем у месцах бакоў іх, а таксама ў заходняй сцяне ля паверхні зямлі ў выглядзе існавання пустых месцаў, відавочна разабранага часткова падмурка з унутранага боку - тыя ж дэфекты адносна бакоў сцен. Частка ж сцяны ля паверхні зямлі параўнальна трывалая, але затое ўнутраны бок паўночнай сцяны больш, чым на палову разбурыўся шляхам адпластавання каменнага мура на таўшчыню да 8 вяршкоў і ўяўляе з сябе шэраг кавалкаў віслага каменнага мура, які пагражае абвальваннем. Ва ўсходняй сцяне над вялікім пралётам замест перамычкі засталося да 6 радоў трухлявага цаглянага мура гарызантальнымі радамі, які пагражае абвальваннем, так што гэты пралёт прыйдзецца пазбавіць гэтага перакрыцця і давесці да ладу бакі пралёта…. вярхі сцяны моцна струхлелі і вялікая колькасць булыг і цэглы вісяць на паветры і пагражаюць неадкладным абвальваннем. ...як усярэдзіне, так і знадворку раскідана шмат булыг, каменю, якія часткова разваламваюцца навакольнымі жыхарамі".*

Камісія прыйшла да высновы, што *"рамонт існых сцен з прывядзеннем у поўны парадак далёка перавышае каштарысныя меркаванні, але тым не менш для падтрымкі сцен згодна з першапачатковым водпускам у 1000 руб. і з астатнім належным водпускам 943 р. 02 кап. правядзенне рамонту можна разбіць на два перыяды, першы як самы неадкладны для падтрымання сцен пачаць неадкладна, спосаб жа выканання рамонту для дадзенага выпадку дарэчны гаспадарчы".*

У чым старшыня і чальцы камісіі распісаліся і пастанавілі: *"Разбіць правядзенне рамонту замка на два перыяды: 1. Самы неадкладны для падтрымання сцен ад агульнага разбурэння. 2. На рамонт і прывядзенне сцен у такі парадак, пры якім яны маглі б супрацівіцца разбуральнаму дзеянню атмасферных з'яў. Пачаць неадкладна правядзенне першай часткі, папярэдне ... наняць гаспадарчым спосабам рабочых для зборкі раскіданага булыжнага каменю і адбіцця віслых на сценах булыг і цэглы, якія пагражаюць неадкладным абвальваннем. Да наступнага паседжання запрасіць наколькі можна дасведчаных муляроў на прадмет умовы з імі пра хуткія работы, якія будуць складацца ў запаўненні пустэч падмурка, адбіцця частак віслага мура, а дзе магчыма, то ў запаўненні вываліна ў мура, умацаванні бакавых трухлявых сцен і прытокаў вялікага пралёта".*

Пасля паседжання камісіі в.а. пісьмавода Вітажэнец адправіў Лідскаму паліцэйскаму наглядчыку Івану Данілавічу Сікорскаму просьбу: *"Прашу Ваша Высакароддзе абвясціць дасведчаным па магчымасці мулярам, што мясцовая будаўнічая камісія для рамонту Лідскага старажытнага замка запрашае іх на 23 ліпеня ў памяшканне Вайсковай прысутнасці на 11 гадзін дня на прадмет умовы з імі…. Распіскі муляроў , у аб'яве ім гэтага прашу даслаць".*

22 чэрвеня 1909 г. - Віленскі цывільны губернатар апавясціў Лідскага павятовага прадвадзіцеля дваранства, што ён прапанаваў Віленскай казённай палаце перавесці на Лідскае казначэйства астатнюю частку грошай на рамонт замка ў суме 943 руб. 02 кап.

6 ліпеня - паліцэйскі наглядчык даклаў: *"Змест прапановы абвешчаны 7 мулярам і з іх распіскамі перададзена Яго Яснавяльможнасці спадару Лідскаму павятоваму прадвадзіцелю дваранства".*

23 ліпеня 1909 г. - адбылося другое паседжанне Лідскай будаўнічай камісіі па рамонце Лідскага замка. Ніхто з муляроў на паседжанне не з'явіўся. Старшыня Грабоўскі паведаміў пра водпуск астатніх грошай у суме 943 руб. 02 кап. Даклаў, што *"работы па зборцы булыжнага каменю раскіданага па тэрыторыі замка і скол небяспечных для абвальвання частак сцен замка зроблены праз арыштанцкую працу мясцовага турэмнага замка, а таму неабходна азначаныя працы прыняць для аплаты, для чаго пажадана на месцы зрабіць агляд работ".*

Пры аглядзе аказалася, што *"аб'ём сабранага каменю дасягае да 7 куб. сажняў. Рахунак жа прадстаўлены Кіраваннем мясцовай турмы ў суме 19 р. 80 кап. цалкам адпавядае праведзеным работам. Счэсаны ўсе небяспечныя да абвальвання часткі сцяны"*. Старшыня падняў пытанне пра расцэнкі. Мал. інжынер адказаў, што прапануе працу майстравому, які назаве самы нізкі кошт. *"Вярхі сцен па яго меркаванні больш практычна пакрыць асфальтам ці цэментам з прычыны вельмі няроўнай паверхні, чым дахоўкаю, паказанай у каштарысе, тым больш з улікам значнай вышыні сцен, адкуль такія дахоўкі будуць лёгка зносіцца ветрам. Акрамя таго, пры пакрыцці дахоўкаю страціцца натуральнасць верху сцен, тым часам асфальтавы ці цэментавы пласт не будзе заўважны. Парадак жа правядзення работ найболей мэтазгодны наступны: спачатку ўмацаваць падмуркі, затым ужо сцены і нарэшце пакрыць асфальтам верх сцен"*.

Пастанавілі: *"Запрасіць майстроў да 2 жніўня на паседжанне камісіі. Выплаціць азначаную па рахунку мясцовай турмы суму за арыштанцкую працу. Прыступіць да прац у апісваным парадку правядзення работ"*.

29 ліпеня - Фофанаў пад распіску забраў сапраўдны каштарыс і 2 фатаграфічныя здымкі.

19 жніўня - Фофанаў прадпісаў пажаданы парадак працы пры далейшым рамонце:

- па запаўненні пустэчы з унутранага боку ў паўночнай сцяне, не даходзячы да самага верху, перайсці да ўмацавання заходняй сцяны падмурка знадворку, папярэдне абкапаўшы на конус абодва крайнія бакі сцяны (вушакі). Умацаванне правесці ўчасткам даўжынёй па сцяне да 2 аршын з выкопваннем разрыхленага падмурка да сапраўднага грунту і запаўненнем на вапнавай рошчыне булыгамі.

затым трэба ва ўсходняй і паўночнай сцяне склюдаваць на конус краі сцяны (прытаўчы) прычым ва ўсходняй сцяне, дзе неабходна арка, перакрытая ў наш час гарызантальнымі радамі цэглы, якія ледзь трымаюцца, трэба разбурыць арку і бакі зноў такі прысклюдаваць на конус.

што да паўднёвай сцяны, то … я думаю наконт рамонту гэтай сцяны сабраць нашу камісію і пагутарыць пасля выканання работ, паказаных у першых пунктах, адначасна вырашыць у камісіі пра рамонт верху сцяны".

У першую дэкаду жніўня былі завезены неабходныя матэрыялы:

Левіны Любка і Навель (Іохель) паставілі 650 пудоў нягашанай вапны па 23 кап. за пуд - 149.50.

Пупко Берка паставіў 95 пудоў нягашанай вапны па 23 кап. за пуд - 21.85.

Міхась Федаровіч прывёз 10 вазоў жвіру па 25 кап за воз - 2.50.

Пупко Гесель паставіў 3 пуды 17 фунтаў галандскай пуховай сажы па 4 руб. за пуд - 13.70 і 150 пудоў портландскага цэменту па 45 кап. за пуд - 67.50.

Палячакі і Мастоўскі паставілі неабразны матэрыял - 47.58.

Кіраванне Лідскага пажарнага таварыства выдзеліла 62 параконныя падводы для падвозу жвіру і вады - 77.50.

Разам: 380.13 рублёў.

Рамонт замка праводзілі муляры:

Антон Любкевіч з 16 жніўня па 30 кастрычніка 1909 г., зарабіў 116 руб. 35 капеек.

Юльян Чапля з 16 жніўня па 9 кастрычніка 1909 г., атрымаў 95 руб. 50 капеек.

Голубеў Іван з 12 кастрычніка па 30 кастрычніка за 13 працоўных дзён атрымаў 20 руб. 79 кап.

Чорнарабочым з 8 жніўня па 23 кастрычніка заставаўся Восіп Марціновіч, які за 57 працоўных дзён зарабіў 26 руб. 30 капеек. Будаўнічую пляцоўку з 17 жніўня па 5 лістапада ахоўваў вартаўнік Зміцер Бутрым, яму плацілі 10 рублёў у месяц, усяго атрымаў 26 руб. 66 капеек.

Разам 285 рублёў 60 капеек.

Незвычайна актыўны ўдзел у рамонтных работах на замку прынялі турэмныя зняволеныя. Начальнік лідскай турмы Юл. Ад. Пугаўка за 809 дзён арыштанцкіх работ атрымаў 371 рубель.

19.08. за 66 дзён працы арыштантаў па 30 кап. у дзень - 19.80.

25.09 за 21 дзень муляру па рублю - 21.00.

25.09 за 163 дні па 45 кап. у дзень - 73.35.

29.09 за 16 дзён па 50 кап. у дзень - 8.00.

29.09 за 307 дзён па 45 кап. у дзень - 142.65.

12.01.2010 за 236 дзён па 45 кап. у дзень - 106.20.

Не будзем унікаць у дэталі, колькі Пугаўка заплаціў зняволеным, колькі пакінуў сабе, мяне асабіста ўразіла нечаканая здагадка, што зэкаўскую танную працу ў Расійскай Імперыі прыдумалі зусім нават не бальшавікі.

У выніку на рамонт замка ў 1909 г. было выдаткавана 1036 руб. 73 капейкі. Перабралі амаль 37 рублёў.

14 ліпеня 1910 г. малодшы інжынер Фофанаў атрымаў адносіну ад Імператарскай Археалагічнай Камісіі ў якой яму было прапанавана данесці, якія рамонтныя работы выкананы і якія засталося выканаць з падрабязным апісаннем рэстаўраваных частак з вяртаннем каштарысу і двух фатаграфічных здымкаў.

26 ліпеня 1910 г. адбылося трэцяе паседжанне Будаўнічай Камісіі. Прыводжу выпіс з журнала Лід-

скай будаўнічай камісіі па рамонце развалін Лідскага замка. З гэтага выпісу становіцца зразумелым як ажыццяўляўся рамонт замка, і як царскія інжынеры і службоўцы ставіліся да старажытнасцяў:

*"У мінулым 1909 годзе летам і ўвосень была адрамантавана паўночная сцяна замка, пры чым у ёй выкананы работы: запаўнення цэлага шэрагу значных выбоін каменнага мура з унутранага боку (з двара) булыжным каменем на вапнавай рошчыне, пры чым для захавання старажытнасці мура дадалася да рошчыны невялікая колькасць сажы, кладка гэтая, як новая, сажа поўнага эфекту старажытнасці не дала, але Камісія мяркуе, што з цягам часу яна падыдзе пад навакольны каларыт; затым зняты быў ... верхні рад збуцвелай цэглы сцяны, вычышчаны мур ад смецця і расліннасці, і атрымана паверхня ...атынкованая цэментнай рошчынай. Узніклая такім чынам верхняя паверхня сцяны, як і належала чакаць, атрымалася гарызантальнаю (уздоўж сцяны) з невялікімі нахіламі папярок для адводу вод;*

*...у мінулым жа годзе ўмацаваны былі бакавыя вушакі гэтай сцяны, прычым усходні пакінуты без зменаў у натуры з належным адводам вод з верху, а ў заходнім вушаку да пачатку рамонту з'явілася моцная расколіна, якая адслойвае невялікі кавалак сцяны; а паколькі, наогул, каштарыс складаўся яшчэ ў 1903 годзе, то на працягу шасці гадоў, вядома, замак працягваў неміласэрна руйнавацца, і таму камісіяй быў выяўлены недахоп сродкаў па каштарысе да поўнага прывядзення ў парадак сцен, і камісія не магла на ўмацаванне гэтага кавалка расходаваць не ўказаныя ў каштарысе асігнаванні, тым больш, што ўмацаванне складалася ў падводцы падмурка пад кавалак і ўмацаванні цоколя, на што спатрэбіліся б значныя сродкі, а таму згаданы кавалак быў звалены і нахільную плоскасць, што ўтваралася такім чынам вырашана было ацэментаваць, таму што рабіць паводле каштарысу запраўку булыг на цэментнай рошчыне дапусціць было нельга, бо плоскасць гэтая даволі палогая, шмат засяроджвала як вільгаці, так і сонечных промняў, у сілу чаго швы б неўзабаве трэснулі, і мур ізноў пачаў бы руйнавацца.*

*... рамонт паўночнай сцяны прызначаўся галоўным чынам для падтрымкі каменнага і цаглянага мура, ... то будаўнічая Комісія лічыць рамонтныя работы гэтай сцяны выкананымі тэхнічна і архітэктурна правільна.*

*Камісіяй праведзены быў агляд заходняй сцяны, рамонт якой пачаўся ў гэтым будаўнічым сезоне, прычым зроблена толькі ўмацаванне цоколя і праводзіцца ўмацаванне бакоў і верху сцяны.*

*Усе выступы і рэльефы захаваны паводле фатаграфічных здымкаў фасадаў сцен, і ніякіх адступленняў ад архітэктурнасці не заўважаецца. Усходняя і паўднёвая сцены засталіся, за выключэннем абвалу некаторых навіслых булыг, у недатыкальнасці.*

*У апошні час у паўднёвай сцяне з усходняга боку з'явілася на адлегласці да 2-х сажняў па ўсёй вышыні сцяны расколіна і падоўжнае адпластаванне настолькі значных памераў, што пагражае абвалам, а паколькі зблізку на адлегласці да 5 саж. ад сцяны размешчаны жылыя хаты, то сваім абвалам сцяна гэтая (вышынёю да 8 саж.) можа выклікаць людскія ахвяры. Для падтрымкі згаданага ўчастка сцяны спатрэбіцца значныя сродкі, у тым ліку: на ўмацаванне і падводку падмурка, змацавання сцяны цэлай сеткаю металічных звязак, уладкаванне кантрфоса (які акрамя таго знішчыць архітэктурнасць сцяны), пры гэтым па вызначэнні інжынераў запатрабуецца сума да 600 рублёў, не прадугледжаная каштарысам, г. зн. азначаны расход прыйшлося б запазычыць з каштарысных асігнаванняў па артыкулах на іншыя работы. Азначаны ўчастак малаважны адносна агульнага памеру сцяны і не ўяўляе асаблівай архітэктурнасці, яго можна было б разабраць.*

*А. І. Фофанаў далажыў Камісіі, што на адносіну Будаўнічага аддзялення да рапарта яго неабходна для Археалагічнай камісіі прадставіць фатаграфічныя здымкі з існага выгляду сцен, каб Археалагічная камісія навочна магла пераканацца ў тлумачэннях Камісіі, пры гэтым здымак паўночнай сцяны павінен быць прадстаўлены ў 2-х відах: да выпраўлення выбоін заходняга адхону, і пасля выпраўлення.*

*ПАСТАНАВІЛІ:*

*Зрыць невялікі выгін і абтынкаваць яго зноў для прыдання вялікай натуральнасці муру развалін.*

*Хадайнічаць перед сп. губернатарам у асобным акце пра неадкладную разборку гэтага ўчастка сцяны.*

*Прасіць А. І. Фофанава замовіць па яго ўказаннях фотаграфічныя здымкі, а расход аднесці на рамонтныя сумы.*

*Старшыня (подпіс). Чальцы: (подпісы)."*

Здымкі, замоўленыя Фофановым, павінны знаходзіцца ў фондах Імператарскай камісіі.

20 чэрвеня 1911 г. адбылося апошняе паседжанне камісіі. Старшыня, граф Л.В. Грабоўскі даклаў, што *"адпушчаная сума на рамонт у наш час уся выдаткавана. Пасля агляду высветлілася, што паўночная, заходняя і паўднёвая сцены канчаткова прыведзены ў належны парадак, што ж датычыцца ўсходняй сцяны, то яна, як наймене патрабавалая рамонту пасля праведзенай абломкі віслых камянёў у наш час можа быць пакінута без рамонту.*

*Пасля дазволенага сп. губернатарам абвалу часткі паўднёвай сцяны, якая пагражала падзеннем, пазасталы булыжны камень у колькасці да 5 куб сажняў разам з пазасталай на гэтую частку рамонту вапнавай рошчынай да 80 пудоў і ад разбору рыштаванняў матэрыял прадаць, і суму гэтую неабходна перадаць у сродкі для выплаты за тэхнічны нагляд*

**Фрагменты здымкаў паўночнай сцяны, на якіх бачныя сляды рамонту 1909-1910 гг.**



***Да рамонту***



***Пасля рамонту***



***Да рамонту***



***Пасля рамонту***

*па рамонце замка тэхнікам Будаўнічага аддзялення. Цэглу ж ад разбору часткі паўднёвай сцяны ў колькасці да 500 шт. пакінуць на выпадак частковай у будучыні папраўкі цаглянага мура і звезці яе ў двор канцылярыі прадвадзіцеля дваранства для захавання. Подпісы старшыні і чальцоў.”*

Пастанавілі: *“Пазасталы бутавы камень, вапну і матэрыялы ад рыштаванняўў прадаць для выплаты тэхнікам Будаўнічага аддзялення Віленскага губернскага кіравання - за нагляд над рамонтам замка, а цэглу пакінуць на захоўванне на двары Канцылярыі прадвадзіцеля дваранства”.*

Вось так. Усё ўлічана і палічана: камень, вапна, цэгла, драўляныя рыштаванні.

**Некалькі слоў пра чальцоў Камісіі:**

**Граф Людвік Уладзіслававіч Грабоўскі** з вядомага польскага графскага роду герба Окша. Валодаў маёнткам Вялікае Мажэйкава. Разводзіў завадовых коней. Знакаміты маскоўскі журналіст Гіляроўскі пісаў пра яго: *"Як журавель на балоце, у далёкім куце іпадрома нерухома стаяў польскі конезаводчык Людвіг Грабоўскі. Свайго трэцягодка, які, як ён верыў, павінен па-за канкурэнцыяй узяць дэрбі, Грабоўскі не пускаў сёння, таму што шмат сабралася публікі. Гэты гарачы аматар любіў скаковую публіку толькі ў тыя моманты, калі яго каня, які ўзяў вялікі прыз, публіка заахвочвала апладысментамі. Тады Грабоўскі проста ад вагаў, яшчэ не астылага скакуна браў левай рукой за повад і праводзіў перад трыбунамі пад апладысменты публікі, размахваючы ў адказ цыліндрам, паднятым вышэй над галавой каня…".*

**Яўген Аляксандравіч фон-Гротэ-дэ-Буко** (1862 - пасля 1920) - Лідскі павятовы спраўнік (1908 - 1915). Жанаты, меў двух дзяцей: Кацярыну 1896 гн. і Аляксея 1905 гн. У 1915 г. уступіў добраахвотнікам у расійскае войска. Салдаты яго паважалі, падчас баёў аберагалі. Мабыць, патрапіў у палон, у 1919 г. быў арганізатарам беларускага руху ў Лідзе, сябраваў з штадтгаўптманам Альбертсам.

**Лявон-Пётр Аляксандравіч Вісьмант** - лідскі староста, адзін з ініцыятараў адкрыцця Лідскай мужчынскай дзяржаўнай гімназіі (1913).

**Баляслаў Аляксандравіч Вітажэнец** - гербу Равіч - прадстаўнік старажытнага шляхоцкага роду, які валодаў буйной зямельнай уласнасцю ў Радунскай, Тракельскай, Калясніцкай, Жырмунскай, Эйшышскай і Нацкай парафіях. У 1920-я гады быў сакратаром магістрату, на вуліцы Сувальской пабудаваў пышную трохпавярховую вілу ў стылі канструктывізму. Яго сын Стэфан (1908-94) - вядомы польскі лётчык, удзельнік Другой Сусветнай вайны, палкоўнік.

***Паводле сайта Lida-info*.**

***Вандалін Шукевіч***

# Разваліны замка ў Лідзе

Незайздросны лёс помнікаў мінулых вякоў у нашым краі!

Дзесьці там, зразумела, у цывілізаванай Еўропе як урады, так і грамадства атачаюць такія помнікі клапатлівай апекай, шануюць іх, амаль пакланяюцца, сцерагуць ад усялякай шкоды.

У нас наадварот, калі і існуюць яшчэ нейкія абломкі, то толькі дзякуючы нечуванай іх вытрываласці, бо ў нас усё робіцца, каб іх знішчыць, а не для іх падтрымання.

І дзіўная рэч, калі б мы былі народам самастойным, шчаслівым, то маглі б не звяртаць вачэй да мінулага, маючы да выканання больш задач жыццёвых, але для нас мінулае павінна быць падвойна дарагім, бо ў ім адным мы можам чэрпаць натхненне для барацьбы за нацыянальнае існаванне.

Чаму ж наша грамадства, нават так зв. інтэлегентныя грамадскія групы глядзяць з такой абыякавасцю на тых відавочных сведкаў нашай колішняй магутнасці. Ці ж усе думаюць, што нам прыніжаным, не дазволена, нібы жабракам, трэсці "рызманамі парчы" памяці даўніх лепшых часоў.

Руіны Лідскага замка з таго пункту гледжання маюць яшчэ менш шчасця, чым іншыя. Вельмі мала тут чаго засталося, а тое, што ёсць, падлягае сістэматычнаму руйнаванню не толькі хцівымі на такі адборны матэрыял, як каменне з муру, жыхароў слаўнага града, але і нязванымі апекунамі, якія як бы задаліся мэтай, каб знішчыць усялякія рысы ўласцівай такім помнікам прыгажосці і замяніць яе на нічога не вартыя сцены з камення.

Пераканаўся ў тым непасрэдна, калі некалькі тыдняў назад адведаў муры Лідскага замка ў кампаніі выбітнага знаўца помнікаў архітэктуры, ксендза-каноніка Казіцкага і вядомага даследчыка мінулага Вільні п. Вац. Студніцкага.

Сляды той магутнай некалі пабудовы, сёння відны толькі ў смутных рэштках чатырох сцен чатырохграннага абводнага мура. У адным толькі куце паўночна-ўсходнім звязаным пад простым вуглом, які зрэшты ў трох іншых свеціцца шырокімі выломамі, так, што ўласна сцены трымаюцца адно толькі дзякуючы дакладнай іхняй вертыкальнасці, як і таўшчыні, што даходзіць да 2,5 м, а таксама дасканалай вапнянай рошчыне.

Наогул, сёння стан тых рэштkaў роспачны, а аднак нядаўна яшчэ было значна лепей, і можна было ўвесь характар пабудовы пры рэстаўрацыі захаваць хоць бы ў контурах. На фатаграфіі знятай п. Ст. Флерыем некалькі гадоў таму назад, бачым яшчэ тырчаўшыя над мурам рэшткі дзвюх вуглавых, унутраных вежаў, данжонаў, якія некалі баранілі паўночна-ўсходні і паўднёва-заходні вуглы. Цяпер толькі вялікія кучы друзу гавораць пра іх існаванне. Ці два іншыя вуглы мелі нейкую абарону? Таго сёння няма магчымасці сцвярджаць.

На названай фатаграфіі на вугле паўднёва-ўсходнім відны рэшткі выступаўшага трохсценка, як бы балкона, што надта выразна вызначаецца на фоне белага тынку дугаў аркаднага карніза, які вянчаў знадвору ўсходні мур пад байніцамі кругавой галярэі.

На малюнку замка, які знаходзіцца цяпер у Гарадскім музеі ў Вільні, а быў зроблены у пятым або шостым дзесяцігоддзі мінулага стагоддзя, відаць такі раманскі карніз і на паўднёвай сцяне. Чаго цяпер як тут, так і там следу няма. Гавораць, што некаторы з паноў-спраўнікаў лідскіх, пранікшыся трывогай за цэласць лбоў давераных яго апецы жыхароў слаўнага града Ліды, казаў значную частку муру разабраць па кругу, што і было зроблена з вывазам камення на брукаванне вуліц, а цэглы, праўдападобна, на пабудову яўрэйскіх печаў. Сёння сцены выглядаюць неяк куца, бясколерна, надзвычай смутна і мізэрна. А мелі б выгляд яшчэ больш смутны, бо нішчыцельская рука не адпачывае, наадварот, працуе без стомы над знішчэннем адзінага - можна сказаць - гістарычнага помніка ў павеце.

Што ж гаварыць, калі нават тыя, якія мелі добрыя жаданні спрычыніцца да падтрымання руін, зрабілі гэта найфатальней у свеце. Лёс упаў на паўночную сцяну, як на павернутую да горада. Тут перш за ўсё выраўнялі пад адзін узровень унутраны бок мура, заціраючы нават сляды існаваўшых тут некалі аркадных фрамуг: на заканчэнне верх мура і адзін з бакоў залілі роўна рошчынай вапны

Пасля такога "аднаўлення" сцяна мае выгляд вялікоднай мазуркі. Шкода, што кіраўнікі "аднаўлення" не прымянілі тут яшчэ так зв. цвікавання рознакаляровым шклом, якім дасціпныя муляры маюць звычай аздабляць падмуркі прыгарадных дамкоў.

Было б гэта лагічным заканчэннем так легкадумна і без ніякага паняцця зробленай справы.

Не маю разумення, хто засядаў у камітэце і кіраваў "аднаўленнем", ведаю толькі, што адбылася рэч фатальная, бо аб'екты разбураныя аднавіць можна, аднак ніколі тыя, якія былі пансаваныя неўмелым аднаўленнем. На шчасце іншым тром сценам пакуль не пагражае аднаўленне, бо - як я чуў - увесь фундуш, прызначаны на гэтую мэту, нешта каля дзвюх тысяч рублёў, быў ужо скарыстаны цалкам.

Мы аглядалі сцены як найпільней. Галоўным чынам пан Казіцкі, не зважаючы на сваю стомленасць, узлазіў некалькі разоў ажно на самы верх мура па драбіне, звязанай з дзвюх, якая ўгіналася над кожным крокам. Мы хацелі агледзець пазазасталыя яшчэ ў цэласці некалькі байніц у паўднёвай сцяне. Дэталі агледзін будуць прадстаўлены ў спецыяльным рэфераце археалагічнай секцыі Віленскага таварыства сяброў навук. Тут толькі мушу зазначыць, што ўражанне вынеслі адсюль найсмутнейшае.

Мусіць, нідзе людская рука не спрычынілася ў такой ступені да знішчэння слядоў характэрных рысаў помніка, і ні адзін помнік не быў, мусіць, так дашчэнту знішчаны. Для будучых даследчыкаў застанецца толькі тое, што схавалася ў насыпах друзу, хаця нельга паручыцца, што з-за хуткага разрастання горада не пачнуць рыцца і ў зямлі для здабыцця лёгкім спосабам матэрыялу.

***"Кур'ер Літоўскі", № 142,***
*26 чэрвеня (9 ліпеня) 1910 г.*
*(Пераклад Станіслава Судніка.)*

***Лаўрэш Леанід***

# Паўстанне 1863 г. на Лідчыне

## *Перад паўстаннем*

**Пасля паўстання 1830-31 гг.**

Пасля паразы паўстання 1830-31 гг., на эміграцыі, пад уплывам руху карбанарыяў, была створана арганізацыя "Помста народа", якая займалася падрыхтоўкай новага паўстання. Для гэтага, на пачатку 1833 г., на тэрыторыю Беларусі, Літвы і Украіны былі накіраваны эмісары, якія павінны былі падрыхтаваць новае ўзброенае выступленне. У адпаведнасці з распрацаваным у эмігранцкіх колах планам у Гарадзенскі і Лідскі паветы быў накіраваны ўраджэнец г. Гародні Марцэлі Шыманскі - актыўны ўдзельнік паўстання 1831 г. Яму ўдалося завязаць кантакты з многімі жыхарамі Лідчыны, прычым звяртае на сабе ўвагу вялікая колькасць каталіцкага святарства, якая была далучана эмісарам да канспіратыўнай дзейнасці. Аднак Шыманскі не паспеў распачаць рэалізацыю распрацаванага ў Парыжы плана. 25 траўня 1833 г. ён быў схоплены ўладамі. На следстве ён выдаў усіх асоб, з якімі сустракаўся на працягу некалькіх месяцаў. У чэрвені 1833 г. былі арыштаваны Ваўжынец і Марыля (з Верашчакаў) Путкамеры з Больценікаў за дапамогу эмісару Шыманскаму. Яны спачатку знаходзіліся пад вартай у Вільні, а са жніўня па лістапад 1833 г. - у Гарадзенскім астрозе. Марылю абвінавачвалі, спасылаючыся на сведчанні Шыманскага, але яна не прызнавала сябе вінаватай. Толькі зімой 1833 г. Путкамеры змаглі вярнуцца у Больценікі[1]. Па гэтай справе некалькі дзесяткаў асоб з Лідчыны былі высланы ў цэнтральныя губерні Расіі ці на Каўказ, у дзейную армію. Гэта быў першы прыклад масавай палітычнай высылкі ў гісторыі Беларусі. Лёс некаторых ссыльных (як напрыклад А. Каролька) падзялілі іх сем'і, якія добраахвотна адправіліся на ўсход разам са сваімі мужамі і бацькамі. Цікава, што каталіцкае святарства атрымала з большага мяккія прысуды і пазбегла высылкі. У асноўным святары пераводзіліся ў кляштары ўсходняй Беларусі. Шыманскі пазбегнуў пакарання, за сваё супрацоўніцтва з уладамі быў перавезены ў Пецярбург, адкуль у канцы 1833 г. высланы ў Парыж у якасці шпега. У Парыжы, ён адразу публічна пакаяўся ва ўсім. Далей яго сляды губляюцца.

У 30-40-я гады XIX ст. на Беларусі ў якасці эмісараў дзейнічаў Ш. Канарскі, Рэр і інш. Некаторыя жыхары Лідскага павету былі арыштаваны за кантакты з эмісарам Рэрам. Напрыклад шляхціц Балтазар Калясінскі за кантакты з Рэрам і іншымі эмісарамі, распаўсюджванне нелегальнай літаратуры, а таксама за выказаную згоду прыняць удзел у паўстанні, якое планавалася на 1846 г., быў арыштаваны і аддадзены ў Арэнбургскія лінейныя батальёны.

Некаторыя выхадцы з Лідчыны былі членамі "дэмакратычнага таварыства" Ф. Савіча. Так, пад псеўданімам "Альфонс" у ім значыўся сын праваслаўнага святара Яўстафі Вароніч, які вучыўся ў Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі[2].

Увесь час пасля 1831 г. не парывалася сувязь лідскай шляхты з эміграцыяй, напрыклад у 1834 г. лідскі земскі спраўнік даносіў Гарадзенскаму губернатару М. Мураўёву, што абшарнік Станіслаў Лясковіч, які жыве у маёнтку Няцеча Лідскага павету, атрымлівае лісты ад сваяка Ігната Дамейкі (у 1833 г. 2 ці 3 лісты): *"Гэты Дамейка набыў вялікі давер у тутэйшых жыхароў, і да яго меркаванняў прыслухоўваюцца"*[3]. Перапіску са сваякамі, якія жылі за мяжой ці ў эміграцыі, мелі і іншыя сем'і на Лідчыне, што ўплывала на агульныя настроі шляхты.

Будучая галоўная дзейная асоба паўстання 1863 г. на Лідчыне, Людвік Нарбут нарадзіўся 26 жніўня 1832 г. у бацькоўскім маёнтку Шаўры Лідскага павету, яго бацька - знакаміты гісторык Тодар Нарбут, маці



DWÓR W SZAWRACH.

***Двор у Шаўрах***




***Двор у Шаўрах***




***Тодар Нарбут***



KRYSTYNA Z SADOWSKICH NARBUTTOWA (matka Ludwika).

***Крысціна з Садоўскіх Нарбут, маці Людвіка***

Крысціна Садоўская. Тодар, сын Яўхіма і Ізабелы з Наневічаў, нарадзіўся ў Шаўрах 8 кастрычніка 1784 г. і паходзіў са старажытнага ліцвінскага роду. У той час маёнтак Нарбутаў Шаўры складаўся з ворнага ўчастка і двара, меў 75 прыгонных. Гэты маёнтак перайшоў да Нарбутаў як пасаг Ізабэлы з Наневічаў. Сусветна вядомы гісторык быў яшчэ і руплівым гаспадаром, пад яго кіраваннем маёнтак Шаўры заквітнеў сапраўдным дабрабытам. Тодар меў навуковы падыход да сельскай гаспадаркі і быў у курсе ўсіх сусветных навінак. Мала таго, ён з'яўляўся аўтарам шэрагу артыкулаў, у якіх пісаў пра рацыянальнае вядзенне сельскай гаспадаркі і пра апошнія дасягненні прыродазнаўчых навук.

Маці Людвіка - Крысціна-Кацярына з Садоўскіх, была дачкой шарачковага шляхціца, былога жаўнера Касцюшкі. Першапачаткова ў хаце Нарбута яна працавала як прыслуга, і толькі пасля нараджэння некалькіх дзяцей Тодар узаконіў свае адносіны з ёй. Людзі, якія ведалі Крысціну, пісалі пра яе, як пра добрую, сардэчную і богабаязную жанчыну, якая дала Тодару сямейнае шчасце: *"Была маладой, вясёлай, чарнавокай і прыгожай, хоць была малаадукаванай, але прыродны розум і тонкасць душы кампенсавалі гэты недахоп ... . Пакуль думы першага гісторыка Літвы былі ў мінулым, яна кіравала хатай і маёнткам"*[4].

Запіс пра нараджэнне Людвіка зроблены ў метрычных кнігах парафіяльнага касцёла ў Начы. У паперах Вандаліна Шукевіча[5] захаваўся выпіс з метрычнай кнігі пра нараджэнне і хрышчэнне старэйшага сына: *"№ 166. Гасподняга году тысяча восемсот трыццаць другога, месяца верасня, чацвёртага дня, у касцёле рыма-каталіцкім парафіяльным Нацкім ксяндзом Адамам Страповічам, аўгустынам, вікарыем гэтага ж касцёла, хрышчана вадой і Св. алеем немаўля, названае Людвік. Работніцы Крысціны Падэўскай няправага ложа сын - 1832 г., месяца жніўня 26 дня ў двары Шаўры народжаны. Падчас хросту трымалі (хрышчоныя - Л. Л.) Юзаф Сегень і Петранэла Драздоўская, панна"*. Пасля таго, як Тодар Нарбут ажаніўся з Крысцінай (каля 1840 г.), метрычны запіс перапісалі, а прозвішча маці з Падэўскай змянілі на Садоўскую (сапраўднае дзявочае прозвішча Крысціны застаецца пад пытаннем, бо ў некаторых аўтараў да замуства яна - Падэўская[6]).

Так сама перапісаны былі і метрычныя запісы іншых пазашлюбных дзяцей Нарбутаў: Аляксандры, Францішка і Тадоры. Станіслаў і Амеля нарадзіліся ўжо ў шлюбе.

Першыя шчаслівыя гады дзяцінства Людвік правёў у бацькоўскім маёнтку. Бацька выхоўваў дзяцей ў старашляхецкіх традыцыях, вучыў паважаць звычаі свайго краю, распавядаў дзецям пра гісторыю і герояў старажытнай Літвы. Экспанаты яго шматлікай калекцыі месціліся ў маёнтку і былі звыклым асяроддзем для малога Людвіка, узбуджаючы дзіцячыя мары і цікаўнасць да гісторыі. Людвік меў чатырох братоў: Аляксандра, Францішка, Баляслава, Станіслава і 3-х сясцёр: Яну, Амелю і Тадору, гэта не лічачы дзяцей памёрлых у дзяцінстве. Ён быў старэйшым сынам і лідэрам для Баляслава, Францішка і Тадоры, гэтыя чацвёра дзяцей падыходзілі адзін аднаму па ўзросту і раслі разам. З 1831 г. у Шаўрах увесь час жыў стары чалавек па прозвішчы Гератоўскі. Хто ён такі і чаму жыў у Шаўрах невядома, але ён вельмі любіў дзяцей і шмат часу праводзіў з імі. Стары ведаў шмат цікавых гісторый, распавядаў пра паўстанне 1831 г., удзельнікам якога быў, дзеці разам з ім гулялі ў вайну, прычым



*Людвік Нарбут*



BOLESŁAW NARBUTT

*Баляслаў Нарбут*



TEODORA Z NARBUTTÓW MONCZUŃSKA (siostra Ludwika N.).

*Тадора з Нарбутаў Манчунская (Тося)*

Касцюшкам звычайна быў Людвік, Баляслаў яго ад'ютантам а Тадора - Эміліяй Плятэр, хоць Плятэр і была гераіняй іншай вайны. Аднойчы, калі недалёка ад Шаўроў, праязджаў эскадрон расійскай кавалерыі, дзеці з кустоў пракрычалі патрыятычныя лозунгі і нават пакрыўдзіліся, што кавалерысты нічога не пачулі.

Людвік Нарбут пачаў атрымліваць адукацыю ў Лідскай павятовай вучэльні, а каля 1846 г. паступіў ў віленскую гімназію. Прыязджаць дахаты атрымлівалася толькі па святах ды ўлетку. Падчас вакацый ён вучыў малодшых братоў і сясцёр, пісаў вершы, чытаў кнігі па гісторыі. Маці ўспамінала, як 12-цігадовы хлопчык гледзячы ў люстэрка, казаў: *"Маці, супакой ці зганьбуй, бо дзве будучыні для сабе бачу, будзе з мяне ці вялікі чалавек, ці вялікі злодзей"*. Назад на вучобу ў Вільню яго звычайна адвозіла маці, па дарозе спыняліся ў Бутрыманцах, дзе на мясцовых могілках разам адведвалі магілы дзеда і бабулі (недалёка ад капліцы) і хатку, якая стаяла побач з могілкамі, у гэтай хатцы гадавалася Крысціна.

Людвік добра вучыўся, але яго знаходжанне ў гімназіі (1846-1850) супала з рэвалюцыйным уздымам у Еўропе, атрымаўшым назву "Вясны народаў". Водгаласы еўрапейскіх падзей даходзілі да Вільні, у Літву таемна прыязджалі эмісары эміграцыі, распаўсюджвалася забароненая літаратура якую гімназісты чыталі з вялікім уздымам. У 1846 г. віленская турма напоўнілася арыштантамі з так званага "спісу Рэра". Турмаў бракавала і таму нават вокны дамініканскага кляштара былі зафарбаваны белай фарбай, яго на час таксама ператварылі ў турму, каля кляштара стаялі кібіткі жандараў - з усяго краю звозілі арыштантаў. У лютым 1848 г. эмісара Рэра разам з іншымі датычнымі да справы публічна пакаралі палкамі, а пасля, прывязаўшы да воза, правялі па вуліцах Вільні і саслалі на катаргу. Гэта ўсё назіралі і абмяркоўвалі гімназісты.

Падчас вакацый у Шаўрах у 1850 г. уся сям'я заўважыла змену ў паводзінах Людвіка, малады чалавек стаў сур'ёзным, паважным і задуменным.

Падчас вучобы ў апошнім класе гімназіі, пасля дыспутаў з гімназічнымі таварышамі пра справы ў краі, у лістападзе 1851 г. Людвік вырашыў стварыць сярод гімназістаў патрыятычнае таварыства, якое мела за мэту рыхтаваць ўзброенае паўстанне. У снежні, на кватэры Людвіка адбылося першае паседжанне таварыства. З-за ўласнай легкадумнасці чальцы таварыства Гаварчэўскі і Падхарэцкі, распавялі пра сустрэчы інспектару гімназіі, пасля чаго ўначы перад Калядамі паліцыя арыштавала Нарбута. На яго кватэры была знойдзена картка з надпісам "Арол і крыж", гэтыя словы у таварыстве былі паролем. Людвік потым распавядаў, што пасля арышту, ён адразу быў пасаджаны ў цёмную і цесную камеру. Праз некалькі дзён у камеру прыйшоў сам генерал-губернатар Бібікаў[7] і параіў раскаяцца і дапамагаць следству. Тое самае ён казаў і праз некалькі дзён, калі юнага арыштанта прывялі да яго ў кабінет. Бібікаў зноў пераконваў арыштанта, што і так усё вядома, і толькі дзеля формы трэба ўсё распавесці следству і падпісаць пратаколы, ён даваў генеральскае слова, што не кране яго сяброў. Дастаткова доўгі час Нарбут не згаджаўся, але нарэшце сазнаўся ў тым, што гэта ён аўтар надпісу на картцы. Пасля чаго Людвіка перавялі ў сухую і светлую камеру, а ў Пецярбург паслалі падрабязны даклад. Фактычна гульня ў канспірацыю сталася чарговай паспяхова выкрытай "крамолай"[8].

З надрукаваных архіўных матэрыялаў справы юнага Нарбута можна зразумець, як ішло следства. Справа № 4 ад 1851 г. "Ученика виленской гимназии Людвика Нарбута" пачата 11 студзеня і скончана 19 сакавіка 1851 г. У данясенні генерал-маёру Кучынскаму ад 11 студзеня 1851 г. паведамляюцца агульныя папярэднія вынікі справы пра антыўрадавыя дзеянні Людвіка Нарбута сярод вучняў віленскай гімназіі: пра прызнанне яго саўдзельнікаў Мельхіёра Бакшанскага і Казіміра Нарвойша і пра адмову Нарбута прызнацца нават пасля прызнання яго былых сяброў. На вочнай стаўцы Бакшанскі катэгарычна сцвярджаў, што не браў удзел у злачынных справах Нарбута, на што Нарбут адказаў, што ёсць сведкі, якія могуць пацвердзіць адваротнае, бо Бакшанскі некалькі разоў удзельнічаў у нарадах арганізацыі. Жандар, які склаў дакумент, канстатуе, што ў цэлым сведчанні Бакшанскага і Нарвойша не вымусілі Нарбута да дачы сведчанняў па справе. З рапарта падпалкоўніка корпуса жандараў

Данілава да выканаўцы абавязкаў начальніка 4-й акругі корпуса жандараў генерал-маёра Кучынскага ад 12 лютага 1851 г.: *"... з 8 снежня бягучага года ... вядзецца следства па справе вучня мясцовай губернскай гімназіі Людвіка Нарбута, які абвінавачваецца ў распаўсюдзе сярод сваіх калегаў шкодных пагалосак і змове іх да ўзброенага выступу.*

*Справа скончана ... стала вядома наступнае:*

*Напачатку мінулага снежня вучні Гаварчэўскі і Падхарэцкі данеслі класнаму інспектару, што вышэй названы Нарбут, падчас гутаркі з імі і некаторымі іншымі, пытаўся ў іх, ці любяць яны сваю Айчыну, а пасля пачаў ім распавядаць, што вучні варшаўскай гімназіі рыхтуюцца да паўстання, што ў Лідскім павеце ўся шляхта да яго ўжо гатовая, і той, які не пагодзіцца далучыцца да паўстанцаў, будзе піць горкае піва... . На наступны дзень, для адмысловай гутаркі, Нарбут запрасіў іх да сябе на кватэру. Потым, нагадваючы Гаварчэўскаму пра сваё запрашэнне, даслаў яму картку, у якой прасіў запомніць пароль "Арол і крыж".*

*... арыштаваны Нарбут (гадоў 19, са шляхты) прызнаўся, што ў канцы мінулага месяца лістапада меў намер стварыць разам са сваімі калегамі патрыятычнае таварыства, якое мела за мэту падняць паўстанне. Гэтая думка з'явілася ў яго падчас спрэчкі з вучнем Нарвойшам на яго кватэры ... . Паводле сведчанняў Нарбута, галоўнымі саўдзельнікамі яго злачынных намераў былі: вышэй згаданы Нарвойш і Мельхіёр Бакшанскі, з якіх апошні прапанаваў прыняць для іх таварыства пароль "Арол і крыж" і прапанаваў напісаць статут таварыства. Акрамя таго Нарбут прызнаўся, што пра свой намер ён паведаміў вучню Казлоўскаму, які як бы пагадзіўся ўзяць удзел у гэтай справе і збіраўся ўгаварыць сваіх калегаў Кубліцкага, Прэкера і Тышкевіча, з якімі пачаў перамовы, але не паспеў схіліць іх да ўдзелу ў арганізацыі бо быў арыштаваны ... для змовы запрашаў да сябе на кватэру вучняў Пабаеўскага і Пашкевіча ... і нарэшце пісаў ... картку да Гаварчэўскага, у якой прасіў не забываць пароль "Арол і крыж". Нарбут катэгарычна сцвярджаў, што да моманту яго арышту былі толькі гутаркі і моцныя спрэчкі, але не рабілася аніякіх дзеянняў ..., угаворваючы сваіх калегаў ніякіх пагроз не прамаўляў, і адзіным дзеяннем у гэтай справе было прыняцце разам з Бакшанскім паролю "Арол і крыж", яны толькі жадалі даведацца як будзе прыняты такі пароль сярод калегаў. Пра гатоўнасць шляхты Лідскага павету да паўстання Нарбут казаў таму, што падслухаў у месяцы ліпені ... у мястэчку Дубічы, на выхадзе з касцёла гутарку землеўладальніка Ваўка з незнаёмым чалавекам, якому Воўк паведаміў, што неабходна было б прыгатаваць спіс, што ён Воўк выставіў бы 2000 шляхты.*

*Выкліканыя для допыту Казімір Нарвойш і Мельхіёр Бакшанскі прызналі, што Нарбут у канцы мінулага года паведаміў ім пра свае намеры, а яны ... не пагадзіліся прыняць у іх удзел, ... нічым яму не дапамагалі і самі хацелі данесці пра яго ўладам, што і зрабілі праз сваіх калегаў Гаварчэўскага і Падхарэцкага... . На вочнай стаўцы Нарбут не пярэчыў супраць довадаў Нарвойша і Бакшанскага. (...) Што да землеўладальніка Ваўка, то па распараджэнні ... генерал - губернатара ў яго хаце быў праведзены пяратрус, але не знойдзена нічога, што б магло пацвердзіць яго віну. (...)*

*Прымаючы да ўвагі ўсё вышэйпададзенае, следчая камісія прыйшла да пераканання, што ў дадзенай справе вінаваты вучань Людвік Нарбут ... таму ... ён за такія ўчынкі падлягае суровай кары ... ".*

З рапарта ... падпалкоўніка Данілава да выканаўцы абавязкаў начальніка корпуса жандараў 4-й акругі ... генерал-маёра ... Кучынскага, дня 14 сакавіка 1851 г. № 31:

*"У якасці дадатку да рапарта ад 12 лютага ... № 21 у справе палітычнага зняволенага Людвіка Нарбута, маю гонар дакласці Вашаму Высокаправасхадзіцельству, што падчас знаходжання генерал-ад'ютанта Бібікава 2-га ў Пецярбургу, на ... дакладзе Яго Імператарскай Вялікасці, насупраць параграфа ... пра справу вучня віленскай гімназіі Людвіка Нарбута ... з прапановай вылупцаваць розгамі і аддаць яго на службу шарагоўцам, не пазбаўляючы аднак дваранскага звання, Яго Імператарская вялікасць зрабіў надпіс "згоды". ... Нарбут будзе аддадзены на службу ў адзін з палкоў 6 корпуса пяхоты пры ўмове, строгага нагляду за ім ... .*

*Падпісаў пплк. Данілаў"*[9].

Экзекуцыя адбылася ў будынку гімназіі, Нарбут атрымаў 25 удараў розгамі. Пасля экзекуцыі яму дазволілі развітацца з бацькамі і назаўтра, 30 сакавіка, да ўзыходу сонца адправілі ў Калугу, да месца службы[10].

Абставіны вайсковай службы Людвіка добра адлюстроўвае паслужны спіс:

*"... падпаручнік Людвіг Фёдаравіч Нарбут, паводле фармуляра пра яго службу: ... ад нараджэння 29 гадоў, з дваран Віленскай губерні, рыма-каталіцкага веравызнання, кавалер ордэна Св. Ганны IV ступені, узнагароджаны ... медалямі за вайну 1853-56 гг. і медалём Св. Георгія з надпісам "За мужнасць".*

*На службу паступіў па ... распараджэнні за палітычны выступ ... 19 красавіка 1850 г. шарагоўцам ..., за заслугі ў баях з туркамі 8.IX. 1855 г. стаў унтар-афіцэрам, за заслугі ў службе 29.IX.1857 г. ва ўзросце 25 гадоў атрымаў першае афіцэрскае званне - прапаршчыка. Пераведзены ў Рэвельскі полк пяхоты 18 красавіка 1859 г., але ў сувязі са звальненнем са службы ў полк не прыбыў.*

*Браў удзел у дзеяннях супраць непрыяцеля:*

*У вайне з туркамі ў 1854 г. з 24.VII. па 20.XI. у Александропальскай і Ахалкалакскай кампаніях і за заслугі ў бітве 24.VII. пад Курук-Дарункай праізведзены ў унтар-афіцэры і ўзнагароджаны трыма срэбнымі рублямі, у 1855 г. з 6.V па 3.XII у Александропальскай кампаніі, за штурм 17.XI. Карскіх фартоў узнагароджаны 1 срэбным рублём, з 13.XII.1856 г. па 1.I.1857 г. супраць горцаў на Лезгінскай дэмаркацыйнай лініі, з 1.IV.1857 г. па 1.I.1858 г. і ў 1858 г. з*




***Двор у Сербянішках***

*1.I. па 1.IX. абодва разы на той жа лініі, прычым браў удзел: 27.VIII. - ва ўзяцці штурмам аула Цыбаро, 29. VIII. - у акцыі пры форце Купрыс-Шаво і за высокую мужнасць, выяўленую ў той экспедыцыі ўзнагароджаны ордэнам Св. Ганны 4 ступені з надпісам: "За мужнасць", у тым жа годзе ў складзе войскаў левага крыла каўказкай войска, з 25.X. па 18.XII. бярэ ўдзел у дзеяннях у ваколіцах Уладзікаўказа, Назрані, Несцераўскага паста і ў Чорных гарах Малой Чачні ..., прычым: 2.XI пры злучэнні адзелаў пры Акпортаўскім перавале, у справе пры Мутыч-Анкунь каля перавалу Асы, а адтуль ... для ўзяцця апошніх непакорных аулаў Малай Чачні, Акінсаў і Мерадзінаў... . 28.XII. пры ўзяцці варожых пазіцый каля аула Агашты, 29 - пры адбіцці нападу непрыяцеля на войскі якія ўдзельнічалі ў работах на дарозе каля аула Агашты, 31 - пры ўзяцці гэтага аула. У 1859 г. у складзе галоўнага аддзела браў удзел у экспедыцыі супраць горцаў: 1.I у наступе ... у кірунку аула Агашты, 11.I у бомбардаванні, 14 - ва ўзяцці пазіцый, пабудаваных супраць непрыяцеля каля ракі Баль і ўзяцці аула Тнузень.*

*Раненняў не мае і ў палоне не быў. Спагнанняў ... не меў.*

*У 1858 г. заслужыў Найвышэйшую Пахвалу за ваенныя дзеянні ў складзе ... войскаў лезгінскага аддзела ... .*

*Выхоўваўся ў Віленскай гімназіі, ведае: рэлігію, граматыку, арыфметыку, гісторыю ўсеагульную, геаграфію Расіі і ўсеагульную, мову французскую.*

*Падчас службы пакаранняў судовых, несудовых не меў і пад следствам не быў.*

*У 1859 г. найвышэйшым Яго Імператарскай Вялікасці ўказам, выдадзеным 26.VII звольнены са службы, з-за сямейных акалічнасцяў у чыне падпаручніка. ... з правам нашэння ваеннага мундзіра, хоць і не выслужыў неабходны для гэтага тэрмін. ....*

*Генерал-маёр Лідэрс"*[11].

Да такога дакумента цяжка яшчэ нешта дадаць, такому паслужному спісу пазайздросціў бы любы афіцэр, але цікава, што ягоная жаўнерская служба пачалася з таго, што камандзіру роты, які абазваў яго "палякам - бунтаром" Нарбут адказаў аплявухай. Ён быў аддадзены пад ваенны суд, але, на шчасце, нейкі з указаў цара Мікалая I забараняў такімі словамі зневажаць салдат, таму Людвік адкараскаўся толькі арыштам і пераводам 05.08. 1854 г. у полк, які адпраўляўся на Каўказскі фронт. Потым, у лістах з Каўказа ён прасіў сястру Тадору прыслаць хаця б засушаную кветку або жытні каласок з родных палёў.

Падчас службы ў войску Нарбут адбыўся як прафесійны вайсковец высокага класу, удзельнічаючы ў супрацьпартызанскіх дзеяннях рускага войска, да тонкасцяў спасціг мастацтва партызанскай вайны. Усё гэта яму хутка спатрэбіцца.

У 1859 г., у чыне падпаручніка Нарбут звальняецца са службы, з-за "хатніх акалічнасцяў" і напачатку красавіка 1860 г. ён ужо ў родных Шаўрах. За час яго адсутнасці ў сядзібе нічога не змянілася. Тая ж шляхочая хата з ганкам на падмурку, тыя ж гаспадарчыя пабудовы, той жа лес навакол. Моцна пастарэў бацька, ён амаль аглух, пастарэла маці, вырасла і стала прыгожай паненкай сястра Тося. Людвік заняўся гаспадарскімі справамі, занава, як сталы чалавек пазнаёміўся з суседзямі, а праз некаторы час на паўгода паехаў у Варшаву і Кракаў.

У самым блізкім суседстве з Шаўрамі знаходзіўся маёнтак Сербянішкі, які належаў маладой удаве Амелі Седлікоўскай (з Кунцэвічаў). Амеля вылучалася сярод жанчын свайго кола добрай адукацыяй. Яшчэ раней яна сябравала з сям'ёй Нарбутаў і часта бывала ў Шаўрах, таму пасля вяртання Людвіка, маладыя людзі хутка зблізіліся і ў 1861 г. пабраліся шлюбам, пасля чаго маладая сям'я пасялілася ў маёнтку Сербянішкі. Іх адзінае дзіця - дачка Марыя - памерла немаўлём.

Гэтыя некалькі гадоў, калі Людвік вёў жыццё жанатага чалавека, займаўся гаспадаркай, чытаў кнігі і газеты, вёў перапіску з сябрамі, паляваў, праляцелі вельмі хутка. Кім бы ён мог стаць, калі б не паўстанне?

Невядома.

Але менавіта ў гэты кароткі перыяд свайго жыцця ён пачаў пісаць вершы і артыкулы для прэсы і, хто ведае, можа быць з часам атрымаў бы вядомасць не меншую, чым яго бацька? Але толькі досвед аднаго занятку гэтага перыяду - палявання - хутка спатрэбіўся баявому афіцэру. Менавіта падчас палявання, Нарбут вывучыў кожную сцежку на Лідчыне і пазнаёміўся з многімі людзьмі.

Мірон-Браніслаў Нарбут у невыдадзенай частцы сваіх мемуарах так апісваў Людвіка: *"Бачыў яго, здаецца, у 1860 г. у Лідзе на кантрактах, быў ён*

маніфестацый, быў неадкладна зняты з пасады па ініцыятыве генерал-губернатара, арыштавалі і саслалі 8 студэнтаў[65].

Першая маніфестацыя ў Вільні адбылася 20 траўня 1861 г., пасля яе пратэстны рух пракаціўся па ўсёй гістарычнай Літве: арганізоўваліся паніхіды па загінуўшых у Варшаве, хросныя хады, адзін з якіх у Коўні прайшоў па мосце праз Нёман і сімвалізаваў унію Літвы і Польшчы. 12 жніўня 1861 г. у Вільні пасля службы ў касцёле і спеваў гімнаў, каля 5000 чалавек: шляхты, гараджан і сялян прайшлі па горадзе ў знак "сардэчнага збліжэння", вось яе гэту маніфестацыю апісвае адзін з карнікаў: *"Пачаліся спевы рэвалюцыйных гімнаў у касцёлах каля Вострай Брамы ... і іншыя палітычныя дэманстрацыі .... Так ... была працэсія з харугвамі, сцягамі, гербамі Літвы і Польшчы, працэсія са спевам гімна "Boze, coz Polska" у суправаджэнні масы народу рушыла на сустрэчу працэсіі, якая па чутках, павінна была ісці ... ад Коўні ў Вільню. Па распараджэнні начальства, войскі - пяхота і казакі - загарадзілі ... дарогу з горада ... дэманстранты, маючы наперадзе фанатычных паненак, імкнуліся прарвацца скрозь шэрагі войскаў. ... паненкі дзейнічалі парасонікамі, ... казакі прыняліся за бізуны, і натоўп рассеяўся"*[67]. Але 18 жніўня, падчас мірнай маніфестацыі 6 000 чалавек на Пагулянцы рускае войска, па камандзе Назімава ўжыло зброю, загінула 11 чалавек.

У 1862 г. вайсковую частку, дзе служыў мемуарыст Любарскі, цераз Гародню, перакінулі ў Берасце, а адтуль у Польшчу - паўстанне пачыналася. Па дарозе з Ліды на Гародні *"наш батальён выпадкова набыў фурманку са зброяй для паўстанцаў. У адным мястэчку, дзе мы спыніліся на начлег, батальённаму камандзіру, зразумела, адвялі самую лепшую кватэру ў заезджым двары. Там пад падстрэшкам ужо стаяла фура з нейкай паклажай, пакрытаю рагожамі і шчыльна ўвязанаю вяроўкамі. Увечар дзяншчык, не заўважаючы каля фуры гаспадара, запусціў туды руку, верагодна, мяркуючы чым небудзь пажывіцца, і раптам намацаў стрэльбу. Зразумеўшы, у чым справа, дзяншчык даклаў пра сваю знаходку маёру. Пачалі шукаць уладальніка фуры, але ён знік. Яўрэй, гаспадар заезнага двара, на допыце паказаў, што перад нашым прыходам да яго пакарміць коней заехаў невядомы спадар у шэрым сукмане і высокіх ботах. Распрогшы коней, ён увайшоў у залу і запатрабаваў сабе яечню, а тут з'явіліся "панове" з войскам. Ён, гаспадар, замітусіўся і не заўважыў, калі і куды дзяваўся ягоны госць. У возе было больш за 200 стрэльбаў, некалькі дзясяткаў шабель, багнетаў, шашак і пісталетаў рознага калібру. Далі ведаць мясцовай паліцыі, але пан у сукмане так і не быў знойдзены. Было жаданне перадаць знаходку бургамістру мястэчка, але потым агульнай радай разважылі, што такім шляхам зброя зноў патрапіць да будучых паўстанцаў, і вырашылі ўзяць фуру з коньмі з сабой, для прад'яўлення начальству вышэй"*[68]. Як бачым, Лідскі паўстанцкі камітэт таксама рыхтаваўся да справы.

Закончу цытаванне цікавых, але блытаных і вельмі "па-імперску" ангажаваных мемуараў ваеннага лекара І.В. Любарскага двума эпізодамі аднадзённага побыту яго батальёна ў Гародні, з апісанымі ніжэй адносінамі да сабе расейскія афіцэры пачалі сутыкацца ў той час паўсюдна. *"У Гародні ... наша афіцэрства валам паваліла ў адну немудрагелістую карчму - хто паабедаць, хто пагуляць у більярд, а хто проста папацягацца за дачкой карчмаркі, прыгожай паненкай, якая стаяла за прылаўкам, распараджалася гарэлкай і закускамі і перадавала замовы гасцеў прыслузе. Афіцэрства рассыпалася на польскай мове ў ласках, на якія какетлівая дзяўчына адказвала направа і налева з павабнай добразычлівасцю. Адзін толькі бязвусы прапаршчык, нядаўна выпушчаны з корпуса, не мог прымаць удзелу ў вясёлых гутарках, таму што зусім не ведаў па-польску. Ён сціпла падышоў да паненкі і сказаў, каб яму падалі абед, але тая не адказала яму звычайным: "У тэн момант, пане". Прачакаўшы беспаспяхова з паўгадзіны, афіцэрык ізноў падыходзіць да панны з гэтай жа замовай, але яна застаецца нямая і не рухаецца з месца. Здзіўлены маўчаннем, прапаршчык спытаў: ці яна не разумее рускай мовы? На гэта паненка з пагардай працадзіла: "Я гэтай сабачай мовы не жадаю разумець". "Як вы смееце абражаць мяне, - зычна ўскрыкнуў малады афіцэр, стукнуўшы кулаком па прылаўку, наліваючыся крывёй, - Ды я вас так абражу, што ўсё жыццё памятаць будзеце". Паненка пабляднела і павалілася на крэсла ў істэрычных рыданнях. Але прапаршчык не сцішаўся і гучна заявіў, што ідзе да губернатара асабіста прынесці скаргу. ... Сцэна выйшла ... цяжкая, асабліва, калі бледную, як смерць, паненку выносілі ў поўнай непрытомнасці. Нарэшце ў справу ўмяшаліся афіцэры і з вялікай цяжкасцю ўгаварылі таварыша пакінуць без наступстваў "дурную выхадку", за якую ... жанчына магла б адчувальна паплаціцца".* А вось другі гарадзенскі інцындэнт з афіцэрам у той жа дзень: *"Праз грамадскі сад, ён убачыў ідучых супраць яго трох цывільных маладзёнаў, якія спляліся рукамі і занялі ўсю шырыню алеі. Наблізіўшыся да афіцэра, усе ў адзін голас крыкнулі: "Прэч з нашай зямлі". Апынуўшыся тварам да твару з нахабнікамі, афіцэр пасля хвіліннай нерашучасці сышоў у бок ..., як раствлумачыў ён, каб не ўздымаць скандалу, а можа быць, і таму, што сам быў тутэйшы і не хацеў падвяргаць непрыемнасці сваіх ..."*. Падобныя сцэны ў гэты час апісваюцца ў мемуарах рускіх афіцэраў па ўсім краі[69].

На працягу 1862 г., прастора непасрэднага кантролю ўлады ў Царстве Польскім няўхільна сціскалася, і да сярэдзіны года яно ўжо не кіравалася з адзінага цэнтра расейскай уладай. Да лета 1862 г. быў утвораны падпольны Нацыянальны цэнтральны камітэт, які ў верасні абвясціў сябе сапраўдным польскім урадам. Яму падпарадкоўвалася разгалінаваная арганізацыя ў колькасці прыкладна 20 тысяч чалавек, меўся ўласны адміністрацыйны апарат і падатковая служба[70]. Павялічвалася напружанне і на тэрыторыі былога ВКЛ. Падрыхтоўку паўстання ўзначаліў створаны ў Вільні Літоўскі правінцыйны камітэт. У склад камітэта ўваходзілі капітан генеральнага штаба Людвік Звяждоўскі (1829-1864, псеўданім - Тапор), чыгуначны службовец Францішак Далеўскі (1825-25.04.1904 г., нарадзіўся ў фальварку Руднікі Лідскага павету), інжынер Ула-

дзіслаў Малахоўскі (1827-1900, псеўданім Леан Варнэрке), студэнт матэматычнага факультэта Пецярбургскага ўніверсітэта Эдмунд Вярыга (1840?-1902), доктар і мастак Баляслаў Длускі (1826-1905, псеўданім Ябланоўскі) і Кастусь Каліноўскі.

Расейскі гісторык XIX ст. Бранцаў П.Д. пісаў пра Каліноўскага: *"... малады чалавек, 26 гадоў ад роду, сярэдняга росту, дужага целаскладу, меў стромкі, высокі лоб, чысты твар і выразныя вочы; насіў кароткія русыя валасы, зачэсаныя назад. Каліноўскі меў вялікі розум і незвычайную сілу волі і характару. Гэта адзіны чалавек з усёй карпарацыі Літоўскага жонду, які быў бескарысліва адданы сваёй справе. Чалавека гэтага нельга было ні спалохаць, ні збіць з толку. Каліноўскі прама ішоў да сваёй мэты, не здрадзіў і не зганьбіў сябе ... баязлівасцю да самай смерці"*[71].

31 ліпеня 1862 г., як і ў мінулым годзе, па ўсім краі прайшло святкаванне ўгодкаў Люблінскай уніі. У Вільні, каля Вострай Брамы, "сабралася шмат людзей рознага звання", сярод іх многія мужчына былі апранутыя ў нацыянальныя строі а жанчыны *"ў белых сукенках, канфедэратках ці капялюшыках, упрыгожаных жывымі кветкамі і стужкамі ..."*. Пасля малітвы частка людзей разышлася па хатах, а частка выправілася да Зялёнага моста, аднак паліцыя ім гэта не дазволіла. У той жа дзень у Лідзе *"на звычайнай літургіі, сабралася ... багамольцаў больш, чым звыкла, прычым дамы былі апранутыя ў каляровыя сукенкі"*[72].

10 жніўня 1862 г. віленская паліцыя затрымала адстаўнога службоўца Фелікса Колышку (брата Баляслава Колышкі), з дакладу сакрэтнага аддзелу: *"Адстаўны калежскі рэгістратар Фелікс Колышка, у адметным гарнітуры, а менавіта: у чамарцы шэрага сукна, падперазаны шырокім лакавым рамянём з белай металічнай бляхай, на якой намаляваны Арол і Пагоня ... у ботах з доўгімі лакавымі халявамі. Прыператрусе ў Колышкі знойдзены ... заклік да жыхароў Вільні"*. Знойдзеная папера заклікала да супольнай малітвы за душы чарговых загінулых маніфестантаў. З справы вынікае, што Колышка паходзіў з лідскай шляхты, скончыў 5 класаў Віленскай гімназіі, потым служыў у войску, звольнены з войска па асабістым рапарце, пры звальненні атрымаў чын калежскага рэгістратара і першапачаткова прыехаў да сваёй маці ў Ліду, а потым пераехаў у Вільню. Лідскі гараднічы сведчыў, што падчас жыхарства ў Лідзе паводзіў сябе добра, але падчас дэманстрацый у Лідзе разам з іншымі спяваў "абуральныя гімны" і насіў недазволеныя строі[73].

Для нас, беларусаў, вельмі цікавыя культурніцкія акалічнасці тых падзеяў. Менавіта зацікаўленасць да нашай мовы перад паўстаннем з боку мясцовай інтэлігенцыі, прымусіла Назімава напісаць прапанову, якая абмяркоўвалася ў верасні 1862 г. у Радзе міністраў. У сваёй запісцы ён прапанаваў выдаць маніфест, які б дазволіў кожнай народнасці даць *"сродкі вольна і беспераШкодна развівацца ва ўласцівых ёй формах, характары і межах"*, атрымліваць адукацыю на сваёй мове ў мясцовасцях, дзе яна складае большасць насельніцтва. Назімаў спасылаўся на добры прыклад "аўстрыйскай Галіцыі", дзе праводзілася палітыка

**Сябры Літоўскага правінцыйнага камітэту**



*Людвік Звяждоўскі*



*Баляслаў Длускі*



*Уладзіслаў Малахоўскі*



*Эдмунд Вярыга*



*Кастусь Каліноўскі*

падтрымкі этнічнай самабытнасць галіцыйскіх русінаў - групы, што займала адну з нізавых пазіцый ў сацыяльнай герархіі Аўстра - Венгерскай імперыі. Такая палітыка праводзілася Габсбургамі ў піку тамтэйшаму польскаму дваранству (яна ўключалася ў сабе і падтрымку духоўнай апоры заходніх украінцаў - уніяцкай царквы, якая, як мы памятаем, у нас была гвалтам ліквідавана яшчэ ў 1839 г.). Кіруючыся гэтай схемай, віленская адміністрацыя зрабіла крок да прызнання этнічнасці летувісаў, кампактная маса якіх засяляла Ковенскую губерню. Апякун Віленскай навучальнай акругі ў верасні 1861 г. прапанаваў дапусціць у пачатковых школах "навучанне жмудскай грамаце" і пашырыць выданне малітоўнікаў, календароў і іншых кніг для "народнага" чытання на "жмудскай мове" (гэта мова да таго часу ўжо была прызнана ў якасці мовы прапаведзяў у касцёле і пры навучанні Закону Божаму).

Ці не першым сярод імперскіх адміністратараў Назімаў, хай і асцярожна, падняў пытанне і пра моўную самабытнасць беларусаў, якія афіцыйна лічыліся "рускімі". Назімаў дапускаў беларускасць як прамежкавую прыступку на шляху да выпрацоўкі рускай нацыянальнай самасвядомасці. Яшчэ ў 1859 г. вышэйшае цэнзурнае начальства забараніла друкаванне кнігаў на "беларускім прыслоўі" "польскімі літарамі", улада баялася польскай асіміляцыі беларускага насельніцтва. А ў 1862 г., у сувязі з абмеркаваннем праблемы польскага панавання ў каталіцкім касцёле, віленская адміністрацыя прапанавала перавесці асноўныя малітвы і кароткі катэхізіс на "беларускае прыслоўе". Па яе меркаванні, гэта павінна было прыпыніць пагрозу паланізацыі насельніцтва, якое руская адміністрацыя больш-менш устойліва называла "беларусы". Увесну 1863 г. па ініцыятыве апекуна Віленскай навучальнай акругі былі выдадзены "Аповяды на беларускім прыслоўі" - кніжка кароткіх павучанняў, закліканых даказаць, што беларусы - не палякі, а рускія. Гэта быў адзіны досвед праўрадавай прапаганды на нашай мове. Таксама пад эгідай Назімава была зроблена спроба заснаваць часопіс для народа на "мясцовым русінскім" прыслоўі (г.зн. на беларускай мове)[74].

У студзені 1863 г. у Царстве Польскім, з нападаў паўстанцаў на кватэры рускіх войскаў у ноч з 10 на 11 студзеня (з 22 на 23 н. ст), пачалося масавае і зацятае паўстанне. Да вясны "мяцеж", як называлася паўстанне ўрадам, распаўсюдзіўся на Літву, заходнія і цэнтральныя мясцовасці Беларусі і нават Правабярэжнай Украіны. Часовы нацыянальны ўрад (Rzad Narodowy) абвясціў волю і роўнасць усіх грамадзян аднаўленай дзяржавы, незалежна ад веравызнання і паходжання, а сялянам абяцаў права на зямлю, якую яны апрацоўваюць з неадкладнай адменай усіх павіннасцяў перад панамі. У асобных закліках да русінаў (г.зн. насельніцтва Беларусі і Ўкраіны) ішла гаворка пра поўнае вызваленне і надзяленне зямлёй, а да яўрэяў - пра братэрскую любоў. Такім чынам, была зроблена спроба да згуртавання шырокага фронту сіл. Нягледзячы на недахоп узбраення і недастатковы досвед ваеннай арганізацыі ў баявых дзеяннях нацыянальны ўрад, не выходзячы з падполля, здолеў узяць пад свой кантроль вялікую частку тэрыторыі, кантраляваць выкананне сваіх распараджэнняў, мець вялікую сетку надзейных агентаў у паштовым ведамстве і на чыгунках. Намеснік Царства Польскага, вялікі князь Канстанцін казаў: *"Законны ўрад існуе толькі там, дзе ёсць войска. Дзе няма, там поўная самаўпраўнасць рэвалюцыі... Цэнтральны камітэт усюды і нідзе"*. Паўстанне прыняло аблічча партызанскай вайны, баявой адзінкай выступаў невялікі аддзел (у тэрміналогіі рускага ўраду, "шайка" ці "хеўра"), пераслед і знішчэнне якога ў лясістых і багністых мясцовасцях былі вельмі цяжкай задачай[75].

Імператар Аляксандр II у Пецярбурзе асабіста паведаміў гвардыі пра пачатак паўстання. Вось як успамінаў пра гэта афіцэр лейб-гвардзейскага Паўлаўскага палка Воранаў (гэты полк і Воранаў асабіста потым удзельнічалі ў задушэнні паўстання на Лідчыне): *"Чуткі пра хваляванні ў Польшчы, якія распаўсюдзіліся напачатку 1863 г., пацвердзіліся пасля 11-га студзеня, ... Весткі пра тое, што здарылася ў Польшчы былі перададзены ў Пецярбурзе афіцэрам гвардыі асабіста Яго Імператарскай Вялікасцю, пасля таго, як яны атачылі Манарха ў Міхайлаўскім манежы, па заканчэнні разводу л.-гв. Ізмайлаўскага палка.*

*"Многім з Вас, спадарства - пачаў ... Імператар, верагодна не вядомы апошнія здарэнні ў Царстве Польскім. Я хачу, каб вы даведаліся пра іх ад мяне самога.*

*Пасля таго, як быў добра праведзены рэкруцкі набор ..., у Варшаве з 6-га пачалі з'яўляцца мяцежныя хеўры на абодвух берагах Віслы, для рассейвання якіх былі неадкладна пасланы атрады. Нарэшце, з 10-га па 11-га , па ўсім царстве, за выключэннем Варшавы, былі зроблены раптоўныя напады на войскі нашыя, якія стаяць па кватэрах .... Аднак і пасля гэтых новых зладзействаў я не хачу абвінавачваць у тым увесь народ польскі, ва ўсіх гэтых сумных падзеях я бачу працу рэвалюцыйнай партыі, якая імкнецца паўсюдна да руйнавання законнага парадку. ... Я пераканаy, што зараз больш, чым калі, кожны з вас, адчуваючы і разумеючы ўсю святасць прысягі, выканае свой абавязак, як гонар нашага сцяга таго патрабуе. ..."* [76].

**Літаратура і заўвагі:**

[1] Gulczynski E. Sprawa Marcelego Szymanskiego emisariusza wyprawy Zaliwskiego. Wilno, 1933. S. 328.

[2] Радзюк А. Р. Лідчына ў нацыянальна-вызваленчым руху першай паловы XIX ст. // Ліда і Лідчына: да 685-годдзя з дня заснавання горада: матэрыялы рэспуб. навук. практ. канф. Ліда, 2008. С. 115-116.

[3] Швед В.В. Паміж Польшчай і Расіяй: грамадска - палітычнае жыццё на землях Беларусі (1772-1863 гг.). Гродна, 2001. С. 186.

[4] Karbowski W. Ludwik Narbutt. Zyciorys wodza w powstaniu styczniowem na Litwie. 1935. S. 31-34.

[5] Там жа. S. 182.

[6] Гл. напрыклад: Komorowski Pawel, Kolyszko Aleksander. Ludwik Narbutt. Warszawa-Lida, 1999. S. 9.

[7] Дарэчы, сам былы "дзекабрыст" памілаваны Мікалаем І.

[8] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 35-41.

[9] Там жа. S. 192-195.

[10] Komorowski Pawel, Kolyszko Aleksander. Ludwik Narbutt. Warszawa-Lida, 1999. S. 9.

[11] Там жа. S. 196-198.

[12] Там жа. S. 206.

[13] Там жа. S. 44-47.

[14] Западные окраины Российской империи. Сборник. Научные редакторы: М. Долбилов, А. Миллер. М., 2006. С. 126-135.

[15] Гвардыян - у дадзеным выпадку эканом.

[16] Пачатак а 8-і раніцы

[17] Narbutt M. Lida i Lidziane // Ziemia Lidzka. 1997. № 26-27.

[18] Памятная книжка Виленской губернии на 1850 г. Вильно, 1850. С. 82

[19] Лаўрэш Л. Ксёндз Дзіянісій Хлявінскі, Філамат // Навагрудчына ў гістарычна-культурнай спадчыне Еўропы (да 600-годдзя Грунвальдскай бітвы). 2010. С.

172-175.

[20] Narbutt M. Lida i Lidziane // Ziemia Lidzka. 1997. № 26-27.

[21] http://be.wikipedia.org/wiki/Харчаванне_беларусаў_у_Расійскай_імперыі

[22] Памятная книжка Виленской губернии на 1846 г. Вильно, 1846. С. 103-105.

[23] Памятная книжка Виленской губернии на 1860 г. Вильно, 1860. С. 157-158.

[24] Там жа. S. 166.

[25] Сегень Януш. Успаміны пра Ліду канца XIX стагоддзя // Лідскі летапісец" № 20. С. 26.

[26] Любарскі Іван Васільевіч (1832-1901), закончыў медыцынскі факультэт Харкаўскага універсітэта, ваенны лекар, гісторык, журналіст, у Лідзе служыў палкавым лекарам.

[27] Любарский И.В. В мятежном крае. (Из воспоминаний) // Исторический вестник. 1895. Т. 59, № 3. С. 819-820.

[28] Баляслаў Вікенцевіч Колышка (7.VIII.1837-9.VI.1863) нарадзіўся ў фальварку Карманішкі (паводле Чэслава Малеўскага - у ваколіцы Гуды) Лідскага павету. З 1860 вучыўся ў Маскоўскім універсітэце, адзін з кіраўнікоў рэвалюцыйнага студэнцтва, прапагандаваў ідэі рэвалюцыйнага саюзу народаў у барацьбе з самадзяржаўем, у 1861 вёў агітацыю ў Лідзе, потым удзельнічаў у студэнцкіх хваляваннях, сутыкненнях студэнтаў з паліцыяй. Ратуючыся ад пакарання, выехаў за мяжу, наведваў ваенную школу эмігрантаў у Італіі. У сакавіку 1863 г. сфармаваў паўстанцкі аддзел у Ковенскім павеце, меў некалькі паспяховых сутычак з царскімі войскамі. Пасля разгрому паўстанцаў узяты ў палон і павешаны ў Вільні на плошчы Лукішкі.

[29] Паходзіў з небагатай шляхты.

[30] Любарский И.В. В мятежном крае. (Из воспоминаний) // Исторический вестник. Март, 1895. С. 820-821, 822.

[31] Мяжэцкі Мітрафан Парфіравіч, афіцэр, потым судовы следчы.

[32] Межецкий М. П. Воспоминания из беспокойного времени на Литве 1861-1863 годах // Исторический вестник. 1898, Т. 73, № 9, с. 826.

[33] Любарский И. В. В мятежном крае. (Из воспоминаний) // Исторический вестник. Март, 1895. С. 813.

[34] Там жа. S. 824.

[35] Субалтэрн - малодшы афіцэр у роце.

[36] Для Любарскага - аўтара гэтых мемуараў усе выхадцы з Беларусі, не гледзячы нават на іх веравызнанне - палякі.

[37] Верагодна гэта былы уніяцкі святар Ян Сцяпура. У 1835 г. дакудаўскія вернікі разам са святаром Язафатам Александровічам *"аказалі супраціў зменам у інтэр'еры свайго храма"*. Пасля адмовы прыняць маскоўскі служэбнік Александровіча замянілі Янам Сцяпурам, жонка якога з чатырма дочкамі нарабіла клопату мясцовым уладам тым, што да ліквідацыі ўніі паспела перайсці у рыма-каталіцтва і не хацела "вярнуцца" ў праваслаўе - веру, у якой заканадаўствам імперыі прадпісвалася быць спаведнікам знішчанай уніі. Ян Сцяпура лічыўся недабранадзейным, у 1839 г. яго дзеля пакарання выклікалі ў Жыровічы.

[38] Любарский И. В. В мятежном крае. (Из воспоминаний) // Исторический вестник. Март, 1895. С. 813-816.

[39] Межецкий М. П. Воспоминания из беспокойного времени на Литве 1861-1863 годах // Исторический вестник. 1898, Т. 73, № 9, с. 826.

[40] Там жа.

[41] Там жа.

[42] Там жа.

[43] Наглядчыкам 3-х класнай павятовай дваранскай вучэльні ў Лідзе ў 1860 г. быў надворны дарадца Аляксандр Аляксеевіч Шахаў (гл.: Памятная книжка Виленской губернии на 1860 г. Вильно, 1860. С. 39.), з 1861 г. пасаду заняў калежскі асэсар Людвіг Людвігавіч Ігнатовіч. (гл.: Памятная книжка Виленской губернии на 1861 г. Вильно, 1861. ч. 1. С. 59.)

[44] Любарский И. В. В мятежном крае. (Из воспоминаний) // Исторический вестник. Март, 1895. С. 818.

[45] Прадвадзіцель дваранства ў Лідзе 1861 г., калежскі асэсар Сцяпан Дзяменцьевіч Буткевіч. (Гл.: Памятная книжка Виленской губернии на 1861 г. Вильно, 1861. ч. 1. С. 110.). Буткевіч С.Д. (1815 г.н.) выконваў абавязкі прадвадзіцеля з 12 кастрычніка 1855 г., адукацыю атрымаў у Шчучынскай павятовай вучэльні, быў узнагароджаны ордэнам Св. Станіслава 3 ст., медалём у памяць вайны 1853-56 гг. і знакам за 15 год службы (Гл.: Адрес-календарь Виленского генерал-губернаторства на 1868 год. С.-Петербург, 1868. С. 90.).

[46] Там жа.

[47] Там жа. С. 819.

[48] Там жа.

[49] Там жа. С. 822.

[50] Там жа. С. 823.

[51] Гараднічы ў Лідзе 1861 г., падпалкоўнік Балонін. Гл.: Памятная книжка Виленской губернии на 1861 г. Вильно, 1861. ч. 1. С. 110.

[52] Павятовы суддзя ў Лідзе 1861 г., калежскі асэсар Фама Іванавіч Шукевіч. (Гл.: Памятная книжка Виленской губернии на 1861 г. Вильно, 1861. ч. 1. С. 111.), Тамаш Шукевіч - адзін з кіраўнікоў паўстання на Лідчыне, павятовы камісар.

[53] Любарский И. В. В мятежном крае. (Из воспоминаний) // Исторический вестник. Март, 1895. С. 824-826.

[54] Марцін Мацей Баралоўскі (1829-1863), палітычны і ваенны дзеяч, палкоўнік у паўстанні 1863 г. (мянушка - Лелявель)

[55] Параўнай, у той жа час у Бярэсці: *"Напачатку 1862 г. я быў дома. Першае што я тут пачуў, гэта казанні нейкага капуцына, які сваёй патрыятычнай і займальнай гаворкай збіраў народ у касцёл з розных паветаў. Гэты капуцын малады, высокі, прыгожага выгляду, пасля, знаходзячыся ў хеўры Лелявеля, быў забіты ў адной з сутычак. На наступны ж дзень я пайшоў паслухаць гэтага прапаведніка, хоць і не думаў, што ўражанне будзе вялікім, асабліва пасля таго, што я чуў раней. Народу было шмат. Не толькі касцёл, але і каля касцёла ўсе было перапоўнена. Ксёндз-капуцын, увайшоўшы на амбон, пачаў сваё казанне. Народ то валіўся, заломваючы рукі, на калені, то зноў уставаў рыдаючы. Сапраўды, прамова яго, дыхаўшая нянавісцю да ўраду, малявала становішча ... такімі змрочнымі*

*фарбамі, малявала такія пакуты Айчыны, што, здаецца, калі б ён сказаў: "Бярыце нажы і прыступайце да справы", я першы пайшоў бы за ім. Калі служба скончылася, і капуцын выходзіў з касцёла, дык жанчыны і мужчыны кідаліся цалаваць яго руку, а некаторыя абрывалі яго верхнюю сутану, так што павінны былі сшыць яму новую. І тут таксама, як і ў Варшаве, абшарнікі, мяшчане і ў рэдкіх выпадках сяляне спявалі гімны і насілі жалобу"*. - Воспоминания польского повстанца 1863 года // Исторический вестник, 1892, Т. 49, № 9, С. 583-584.

[56] Брянцев П. Д. Польский мятеж 1863. Вильна, 1891. С.79.

[57] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 7.

[58] Любарский И. В. В мятежном крае. (Из воспоминаний). // Исторический вестник. Март, 1895. С. 830.

[59] **Choral (Харал)**

*Muzyka Jozefa Nikorowicza*
*Slowa Kornela Ujejskiego*

Z dymem pozarow, z kurzem krwi bratnej,
Do Ciebie, Panie, bije ten glos,
Skarga to straszna, jenk to ostatni,
Od takich modlow bieleje wlos.
My juz bez skargi nie znamy spiewu,
Wieniec cierniowy wrosl w nasza skron,
Wiecznie, jak pomnik Twojego gniewu,
Sterczy ku Tobie blagalna dlon.

Ilez to razy Tys nas nie smagal!
A my nie zmyci ze swiezych ran,
Znowu wolamy: "On sie przeblagal,
Bo On nasz Ojciec, bo On nasz Pan!"
I znow powstajem w ufnosci szczersi,
A za Twa wole zgniata nas wrog,
I smiech nam rzuca jak glaz na piersi:
"A gdziez ten Ojciec, a gdziez ten Bog?"

I patrzym w niebo, czy z jego szczytu
Sto slonc nie spadnie wrogom na znak...
Cicho i cicho - posrod blenkitu
Jak dawniej buja swobodny ptak.
Owoz w zwatpienia strasznej rozterce,
Nim nasza wiara ocucim znow,
Bluznia Ci usta, choc placze serce:
Sondz nas po sercu, nie wedlug slow!

O Panie, Panie! ze zgroze swiata
Okropne dzieje przyniosl nam czas:
Syn zabil ojca, brat zabil brata,
Mnestwo Kainow jest posrod nas.
Alez, o Panie! oni nie winni,
Choc nasze przyszlosc cofnenli wstecz,
Inni szatani byli tam czynni,
O, renken karaj, nie slepy miecz!

Patrz! My w nieszczensciu zawsze jednacy,
Na Twoje lono, do Twoich gwiazd.
Modlitwa plyniem jak senni ptacy,
Co lecon spoczonc wsrod wlasnych gniazd.
Oslon nas, oslon ojcowska dlonia,
Daj nam widzenie przyszlych Twych lask,
Niech kwiat menczenski uspi nas wonia,
Niech nas niebianski otoczy blask.

I z archaniolem Twoim na czele
Pojdziemy wszyscy na straszny boj,
I na drgajoncym szatana ciele
Zatkniemy sztandar zwycienski Twoj!
Zbonkanym braciom otworzym serca,
Wina ich zmyje wolnosci chrzest,
Wtenczas uslyszy podly bluznierca
Odpowiedz nasza: "Bog byl i jest".

[60] Любарский И. В. В мятежном крае. (Из воспоминаний). // Исторический вестник. Март, 1895. С. 833.

[61] Там жа. S. 827-828.

[62] Пальмерстон Генры Джон Тэмпл - прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі ў 1855-65 гг.

[63] Палкоўнікам потым стаў Людвік Нарбут.

[64] Любарский И. В. В мятежном крае. (Из воспоминаний) // Исторический вестник. Март, 1895. С. 829.

[65] Западные окраины Российской империи. Сборник. Научные редакторы: М. Долбилов, А. Миллер. М., 2006. С. 148, 162.

[66] Karbowski W. Ludwik Narbutt. ... S. 9.

[67] Межецкий М. П. Воспоминания из беспокойного времени на Литве 1861-1863 годах // Исторический вестник. 1898, Т. 73, № 9, с. 827.

[68] Там жа. S. 830-831.

[69] Параўнай, у той жа час Вільні: *"У сафійскім палку адной з намі 1-й дывізіі быў пераведзены з Каўказа паручнік Вернер, родам прусак ... аднойчы даволі позна ўвечар ... ён прыйшоў да мяне..., галава яго была павязана акрываўленай белай хусткай.*

*- Я ўвечар шпацыраваў па садзе..., маладыя людзі ... , праходзячы міма мяне ... адпускалі у мой бок абразлівыя насмешкі. ... Пры браме мяне ўжо чакаў натоўп ... пачуліся абразы ..., ... у мяне кінулі камень ... Тады я выхапіў шаблю ... камусьці з бліжэй стаячых шабля патрапіла па галаве, ён упаў, натоўп расступіўся...".* (Гл.: Межецкий М. П. Воспоминания из беспокойного времени на Литве 1861-1863 годах // Исторический вестник. 1898, Т. 73, № 9, с. 830.)

[70] Западные окраины Российской империи. Сборник. Научные редакторы: М. Долбилов, А. Миллер. М., 2006. С. 154.

[71] Брянцев П.Д. Польский мятеж 1863 г. Вильна, 1891. С. 157.

[72] Архивные материалы Муравьёвского музея, относящиеся к польскому восстанию 1863-1864 гг. в пределах Северо-Западного края. Составил Миловидов А.И. Вильно, 1913. Книга 4, часть 1. С. 122.

[73] Там жа. S. 141-144.

[74] Западные окраины Российской империи. Сборник. Научные редакторы: М. Долбилов, А. Миллер. М., 2006. С. 168-170.

[75] Там жа. S. 179-180.

[76] История Лейб-гвардии Павловского полка, составлена подпоручиком Вороновым. С. 406-407.

Анатоль Кулеш

# Прырода Лідскага раёна і звязаная з ёй гаспадарчая дзейнасць у 50 - 60 гады XX стагоддзя

## ГЕАГРАФІЧНАЕ СТАНОВІШЧА

Лідскі раён размешчаны на паўночным захадзе Беларусі, у цэнтральнай частцы Гарадзенскай вобласці. Цэнтр раёна горад Ліда. Гэта старажытны горад. Першае дастаткова дакладнае згадванне ў гістарычных дакументах адносіцца да 1323 года. У гэтым годзе ў мэтах абароны зямель Вялікага Княства Літоўскага ад тэўтонскіх рыцараў вялікі князь Гедзімін загадаў пабудаваць тут мураваны замак, які і сёння велічна ўзвышаецца над горадам.

Гісторыя не захавала дакладных звестак, якія тлумачылі б паходжанне назвы горада Ліды. Усе версіі і гіпотэзы, якія існуюць - гэта не больш, як версіі і гіпотэзы.

У 14-м стагоддзі Ліда - вялікакняскі горад. З 1382 года існавала Лідскае намесніцтва, якое ўваходзіла ў Віленскае ваяводства. Пасля адміністрацыйнай рэформы 1565-66 гадоў утвораны Лідскі павет у складзе таго ж Віленскага ваяводства. Афіцыйна Ліда - цэнтр павету з 1568 года. У 1590 г. горад атрымаў Магдэбургскае права.

З 1796 года Лідскі павет - у складзе Літоўскай, а з 1801 - у складзе Віленскай губерні Расійскай Імперыі. У 1861 годзе Лідскі павет падзелены на 24 воласці.

З 1921 года ў Наваградскім ваяводстве Польшчы. У 1929 годзе з Лідскага павета выдзелены Шчучынскі павет.

15.1.1940 года з часткі Лідскага павета ўтвораны Лідскі раён у складзе Баранавіцкай вобласці. З 20.9.1944 года - у складзе Гарадзенскай вобласці.

## ГЕАЛАГІЧНАЯ БУДОВА І КАРЫСНЫЯ ВЫКАПНІ

### 1. Стратыграфія і літалогія

У геаструктурных адносінах тэрыторыя Лідскага раёна адносіцца да Рускай платформы і размешчана ў яе паўночна-заходняй частцы. У будове яе прымаюць удзел пароды архейскай і протаразойскай груп, кембрыйскай сістэмы (Гдоўскі гарызонт), адклады верхняга аддзела мелавой сістэмы, палеагену і ўтварэнні чацвярцічнай сістэмы.

З паверхні паўсюдна распаўсюджаны чацвярцічныя ўтварэнні, магутнасць якіх месцамі дасягае 200 м. Больш раннія, дачацвярцічныя пароды на паверхню не выходзяць.

#### а) Архей - ніжні протаразой.

Паводле наяўных дадзеных Белгалоўгеалогіі БССР (крышталічны фундамент на тэрыторыі Лідскага раёна знаходзіцца на глыбіні ад 131,2 м (в. Беліца, поўдзень раёна) да 263,8 м (г. Ліда, цэнтр тэрыторыі). Найбольш высока фундамент залягае ў паўднёвай частцы тэрыторыі, заканамерна апускаючыся ў бок поўначы і паўночнага захаду.

Для ўсёй тэрыторыі раёна сярэдняя глыбіня залягання парод фундамента складае каля 225 м. Дадзеныя пра глыбіні залягання крышталічных парод фундамента па некаторых свідравінах прыведзены ў табліцы 1.

У літолага-петраграфічных адносінах пароды асновы платформы прадстаўлены метамарфічнымі пародамі (галоўным чынам гнейсамі, амфіябалітамі), якія перарываюцца вялікай колькасцю інтрузій кіслага і асноўнага складу. Кантакты інтрузіўных комплексаў часта суправаджаюцца тэктанічнымі парушэннямі, якія маюць пераважна паўночна-ўсходняе распрасціранне.

У тоўшчы гнейсаў сустрэты тонкія пражылкі кварцу з малібданітам, а таксама сустрэта жыла сульфідных руд (з пірытам, халькапірытам, малібданітам).

Метамарфічныя пароды, акрамя інтрузій асноўных парод, апісаных вышэй, перарваны гранітамі і плагіягранітамі. Гэтыя пароды шэрыя, чырванаваташэрыя, дробна - ці буйназярністыя, біятытавыя.

У верхняй частцы разрэзаў пароды фундамента

*Табліца № 1.*

| №№ п\п | Месцазнаходжанне свідравіны | Глыбіня залягання парод фундамента (м) | Выяўленая магутнасць (м) | Склад парод фундамента | Покрыўныя пароды |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. | г. Ліда | 263,8 | 7,2 | граніт | ст. |
| 2. | в. Беліца | 131,2 | 7,6 | дыярыт | ст. |
| 3. | в. Пескі | 252,5 | 10,2 | сланец | ст. |

моцна разбураны і ўяўляюць сабою старажытную кару выветрывання галоўным чынам каалінавага тыпу, які мае магутнасць 10-20-25 м.

Такім чынам, крышталічны фундамент тэрыторыі Лідскага раёна характарызуецца развіццём разнастайных тыпаў парод, узаемаадносіны паміж якімі высветлены ў самых агульных рысах.

**б) Кембрыйская сістэма. Гдоўскі гарызонт.**

Кембрыйская сістэма прадстаўлена Валдайскай серыяй, Гдоўскім гарызонтам.

Паводле дадзеных Белгалоўгеалогіі і Іўеўскай геолага-здымачнай партыі Літоўскага кіравання геалогіі (1954 г.) гэтыя адкладанні шырока развіты на тэрыторыі апісванага раёна. Адсутнічаюць яны толькі ў паўднёва-ўсходняй частцы яго (г. Бярозаўка) і на захад ад горада Ліды, у вярхоўях ракі Лебяды. Гэтыя адкладанні выяўлены на глыбіні 200 м (г. Ліда) і 172,2 м (в. Пескі). Свідравінамі каля г. Ліды і в. Пескі апісваныя адкладанні пройдзены на поўную магутнасць, якая перавышае 82,6 м (гл. стратыграф. калонку № 1). Літалагічна кембрыйская сістэма прадстаўлена перапластованымі пясчанікамі, ружавата-шэрымі, чырванавата-бурымі і карычнявата-бурымі з праслоямі гравеліту, пяску і радзей - поліміктавага алеўраліту. Пясчанікі няроўна-мерназярністыя: ад дробна - да грубазярністых і слабасцэментаваных.

**в) Мезазойская група. Мелавая сістэма.**

На адкладаннях Гдоўскага гарызонту ці непасрэдна на пародах фундамента (в. Беліца, гл. стратыграф. калонку № 2) залягаюць пароды верхняга аддзела мелавай сістэмы, прадстаўленыя Сенаманскім, Туронскім, Каньяцкім, Сантонскім, Кампанскім і Маастрыцкім ярусамі. Апісваныя адклады амаль паўсюдна распаўсюджаныя. На поўную магутнасць яны пройдзены свідравінамі каля г. Ліды, вёсак Пескі, Беліца і інш.

Адклады Сенаманскага яруса маюць абмежаваны распаўсюд, прадстаўлены глаўканітавымі пяскамі і пясчанікамі магутнасцю ад 0,85 м (в. Беліца) да 21 м (г. Ліда).

Туронскі ярус распаўсюджаны амаль паўсюдна. Прадстаўлены ён пісчай крэйдай, мелападобнымі мяргелямі і вапняком, а таксама пяскамі. Магутнасць яго каля 11,0 м.

Каньякскія ярусы выкрыты ў свідравіне "Беліца" на глыбіні 101,6 - 131,2 м і прадстаўлены рыхлым белым мяргелем (0,85 м) з буйнымі абломкамі крэменю і светла-жоўтымі дробназярністымі пяскамі (28,75 м).

Кампанскі ярус выяўлены на паўночным захадзе тэрыторыі Лідскага раёна (в. Рулевічы) і прадстаўлены пісчай крэйдай. Магутнасць мелу складае 7,6 м.

Адклады Маастрыцкага яруса выяўлены толькі ў адным месцы (в. Рулевічы) і прадстаўлены пісчай крэйдай, магутнасць якой дасягае 20,3 м.

Апісаныя адклады пройдзены на ўсю магутнасць свідравінамі каля г. Ліды і в. Пескі, якая перавышае 82 м (гл. стратыграф. калонку № 1).

**г) Кайназойская група. Палеаген.**

На размытай паверхні верхнемелавых асадкаў залягаюць адклады палеагену, якія распаўсюджаны асобнымі ўчасткамі ў цэнтры, на захадзе і поўдні раёна. Прадстаўлены яны ўшчыльненымі цёмна-зеленавата-шэрымі і зеленавата-шэрымі алеўрытавымі і дробназярністымі, гліністымі, кварцава-глаўканітавымі пяскамі, а таксама зеленавата-шэрай глінай. Глыбіня залягання гэтых адкладанняў вагаецца ад 101,50 да 104,10 м (в. Беліца - Табала). Магутнасць складае 0,10 - 9,60 м.

**д) Чацвярцічная сістэма.**

Чацвярцічныя адкладанні ў межах Лідскага раёна распаўсюджаны паўсюдна. Гэтыя адкладанні вельмі разнастайныя па ўзросце, генэзе і складзе. Магутнасць іх вагаецца ў вялікіх межах, з поўдня на поўнач. Максімальная магутнасць прымеркавана да раёна Верх-Лідскіх вышынь і складае 217,6 м. Мінімальная магутнасць гэтых адкладанняў назіраецца ў даліне ракі Лебяды і складае 61 м. Сярэдняя магутнасць - 75,25 м.

Чацвярцічная сістэма тэрыторыі Лідскага раёна сфармавалася пад уплывам і непасрэдным уздзеяннем чацвярцічных абледненняў. Гэтыя абледненні былі выкліканы рэзкім пахаладаннем, якое ў некаторай ступені выяўлялася ўжо ў канцы трацічнага перыяду. Цэнтрам абляднення ў Еўропе, якое сілкавалі леднікі, быў Скандынаўскі паўвостраў, размешчаны на паўночным захадзе ад Беларусі. Ляднік, які ўтварыўся тут, распаўсюдзіўся далёка к поўдню Рускай платформы, захапіўшы цалкам тэрыторыю Беларусі, у тым ліку і межы Лідскага раёна. Тэрыторыя раёна падвяргалася мацерыковаму абляdненню не меней трох раз: Ліхвінскаму, Дняпроўскай і Маскоўскай стадыям Дняпроўскага абляднення (10). Аднак у разгляданым раёне слядоў старажытначацвярцічнага абляднення (Ліхвінскага) не выяўлена. Тым не менш, мяркуючы па дадзеных сумежных раёнаў, старажытначацвярцічнае абляdненне мела месца. Пакінутая гэтым ледніком марэна была, відаць, дэнудзіравана. Найстаражытнейшыя з захаваных пад сярэднечацвярцічнымі - марэнныя адкладанні ўтрымоўваюць рэшткі драўнянай цеплалюбнай расліннасці.

**Сярэднечацвярцічны ляднік** ці (максімальнае) Дняпроўскае абледненне ахапіла ўвесь раён, выйшаўшы далёка за яго межы. Марэна, пакінутая гэтым ледніком, адрозніваецца значнай магутнасцю (гл. геалагічны разрэз стар. 15, 16). Адход сярэднечацвярцічнага ледніка суправаджаўся эразійна-акумуляцыйнай дзейнасцю флювіягляцыяльных струменяў. якія адклалі перамыты матэрыял у выглядзе магутных тоўшчаў міжмарэннага гарызонту.

**Ляднік Маскоўскай стадыі** Дняпроўскага

абляднення наступаў з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход. Па меры свайго пасоўвання ён моцна дэнудзіраваў пароды, якія ляжалі на яго шляху, згладзіў мясцовасць і пакрыў яе флювіягляцыяльнымі ўтварэннямі. Пры яго адыходзе ўтварылася донная марэна, магутнасць якой у паўночнай частцы раёна дасягае вялікіх памераў. Ляднік пры гэтым даваў пачатак шматлікім флювіягляцыяльным плыням, якія размывалі марэну і адкладвалі на ёй пясчаныя адклады.

Пасля спынення дзейнасці флювіягляцыяльных плыняў пачынаецца фармаванне сучаснай гідрасістэмы. Шляхі рэк закладзены па лагчынах сцёку ледніковых вод. У сучасную эпоху адбываецца ўтварэнне глебы, тарфянікаў, балот, алювія і дэлювія.

Адклады чацвярцічнай сістэмы па літалагічным складзе, генетычных прыкметах падзяляюцца па схеме І.П. Герасімава, К.К. Маркава (1939 г.) як найболей дакладнай і прынятай для тэрыторыі СССР, на чатыры аддзелы: ніжні, сярэдні, новы і сучасны. Для тэрыторыі Лідскага раёна характэрны тры аддзелы: ніжні, сярэдні і сучасны. Новы аддзел распаўсюджаны далёка на поўначы Беларусі і ў межах раёна не сустракаецца.

***Ніжні і сярэдні аддзелы ($Q_{1-2}$)***

У межах апісванага Лідскага раёна адкладанні ніжняга і сярэдняга аддзелаў сустрэты ў выглядзе флювіяглацыяльных непадзеленых адкладанняў, якія залягаюць пад Дняпроўскай марэнай, у паўночнай частцы тэрыторыі на глыбіні 78 м (г. Ліда). Прадстаўлены яны пяскамі рознага грануламетрычнага складу, ад добра сартаваных і слаістых да дрэнна сартаваных, з уключэннем жвіру, галькі і дробных валуноў. Пераважаюць пяскі ад дробназярністых да пылеватых. У асобных выпадках галька і жвір засяроджаны ў такой колькасці, што з'яўляюцца пераважнай пародай. Сустракаюцца праслоі і лінзы глін і суглінкаў. Гліны цёмна-шэрыя і светла-шэрыя, радзей цёмна-карычневыя, якія месцамі перапластоўваюцца са светла-шэрай, пылеватай супессю. Суглінкі цёмна-шэрыя з уключэннем жвіру, галькі, і лінзачак цёмна-шэрай гліны і мелу.

У глінах і тонказярністых пясках сустракаюцца рэшткі драўнянай раслiннасці, торф. Магутнасць падмарэнных адкладаў памяншаецца да поўдню ад 42 м да поўнага выкліньвання ля в. Беліца.

Склад і характар напластавання падмарэнных адкладаў сведчыць пра неаднаразовыя ваганні краю надыходзячага сярэднечацвярцічнага ледніка, з прычыны чаго водналядніковыя струмені, якія ўтварыліся перад ім, часта змянялі свой рэжым і нярэдка ўтваралі загачныя басейны.

***Сярэдні аддзел ($Q_2$)***

Адклады сярэдняга аддзела чацвярцічнай сістэмы на тэрыторыі раёна распаўсюджаны паўсюдна. У іх вылучаюцца адклады асноўнай марэны, непадзеленыя водналедніковыя і алювіяльныя адклады, марэнныя адклады Маскоўскай стадыі Дняпроўскага абляднення, флювіягляцыяльныя і азёрна-ледніковыя адклады часу адходу ледніка Маскоўскай стадыі Дняпроўскага абляднення.

**а)** Асноўная марэна Маскоўскай стадыі Дняпроўскага абляднення мае суцэльны распаўсюд. Але на адкрытую паверхню яна нідзе не выходзіць, бо пахавана пад маладзейшымі ўтварэннямі, глыбіня якіх вагаецца ад 42 да 111 м. Адклады гэтыя прадстаўлены грубымі суглінкамі і супесямі цёмна-шэрага, буравата-шэрага, радзей шэрага колеру з зеленаватым адценнем. Паказаныя пароды ўтрымоўваюць уключэнні жвіру і галькі, радзей валуноў крышталічных і асадкавых парод, якія размеркаваны па пародзе нераўнамерна. У тоўшчы марэны сустракаюцца інтрамарэнныя праслойкі (0,2 да 1,5 м) рознaзярністых і дробназярністых палёва-шпатава-кварцавых пяскоў, назапашаных у выніку асцыляцыйных зрухаў ледніка ці з водных струменяў у сярэдзіне ледніка.

Адзначаюцца таксама праслойкі (да 5 см) глін цёмна-шэрага колеру, зеленавата-шэрага і цёмна-карычневых колераў, месцамі з добра выяўленым коштам. Гэтыя тоўстыя гліны маглі ўтварыцца ва ўнутрыледніковых басейнах.

Магутнасць адкладанняў сярэднечацвярцічнай марэны ў межах Лідскага раёна вагаецца ад 29,00 да 46,90 м. (г. Ліда, в. Беліца), (гл. стратыграфічныя калонкі № 1, 2).

**б)** Нераздзеленыя міжстадыяльныя водналедніковыя і алювіяльныя адкладанні, якія залягаюць паміж Дняпроўскай і Маскоўскай марэнамі, на апісванай тэрыторыі распаўсюджаны паўсюдна, але на адкрытую паверхню нідзе не выходзяць. Яны залягаюць пад маладзейшымі ўтварэннямі і выяўляюцца на глыбіні 41 - 43 м.

Гэтыя адкладанні прадстаўлены пяскамі дробна-зярністымі са жвірам і галькай, радзей рознaзярністымі, месцамі жвірова-галечным матэрыялам. У тоўшчы пяскоў сустракаюцца магутныя праслоі пылеватых супесяў, якія перапластоўваюцца з пластычнай цёмна-шэрай глінай. Месцамі сустракаюцца праслоі аднастайных глін. Колер пяскоў жаўтавата-шэры, радзей - светла-шэры. Пяскі палева-шпатава-кварцавыя ці кварцавыя па складзе. Магутнасць апісваных адкладанняў змяняецца ад 13 да 64 м.

**в)** Адкладанні дадзенай марэны Маскоўскай стадыі Дняпроўскага абляднення карыстаюцца вельмі шырокім распаўсюдам, прычым на значнай плошчы агаляюцца на паверхні і амаль паўсюдна залягаюць непасрэдна ў падглебе ці пад малазначным полагам маладзейшых адкладанняў. Адсутнічаюць толькі ў даліне ракі Дзітвы, дзе яны размыты старажытнымі плынямі рачных вод.

Адкладанні дадзенай марэны прадстаўлены шчыльнымі суглінкамі і супесямі чырвона-бурага, жоўта-бурага, шаравата-жоўтага, шэрага з бурым адценнем колераў, якія змяшчаюць у сабе ўключэнні жвіру, галькі, валуноў крышталічных і асадачных парод. Нярэдка ў масе суглінкаў і супесяў утрымоў-

ваюцца праслоі і лінзы розназярністых пяскоў і жвірава-галечнага матэрыялу, часам - алеўрыцістых глін ці пылеватых супесяў. Часам сярод марэнных адкладанняў сустракаюцца адломкі карэнных парод (напрыклад, глыба мелу ў раёне вёскі В. Канюшаны). Магутнасць дадзенай марэны Маскоўскай стадыі максімальнага абляднення вагаецца ў межах 9,20 м (в. Пескі) - 46,90 м (в. Беліца).

**Флювіягляцыяльныя непадзеленыя адклады** часу адходу ледніка Маскоўскай стадыі Дняпроўскага абляднення звычайна залягаюць з паверхні зямлі ў выглядзе плошчаў няправільнай формы сярод участкаў з выхадамі доннай марэны. Прадстаўлены флювіягляцыяльныя адкладанні пераважна пяскамі жоўта-бурага колеру, палёва-шпатава-кварцавага, радзей - кварцавага складу, розназярністымі з прымешкай слюды, уключэннямі жвіру, галькі і дробных валуноў, месцамі сустракаюцца добра адсартаваныя пяскі без уключэнняў. У многіх месцах у іх назіраецца гарызантальная складанасць. Зрэдку сярод пяскоў сустракаюцца праслоі супесяў ці суглінкаў, а таксама праслоі ці лінзы жвірова-галечнага матэрыялу. Як правіла, пароды флювіягляцыяльных адкладанняў або ажалезнены, або ўключаюць у сябе плямы ажалезнення. Магутнасць адкладанняў вагаецца ў межах 0,5 - 10 м.

Азёрна-ледніковыя адкладанні маюць вельмі абмежаваны распаўсюд і сустрэты на асобных адасобленых участках, размешчаных у цэнтры і на паўночным усходзе раёна. Прадстаўлены яны цёмна-шэрымі і колеру шакаладу істужачнымі глінамі, шчыльнымі, тлустымі. Магутнасць іх складае 1,0 - 4,85 м.

У межах старажытных далін рэк Нёмана і Дзітвы развіты старажытнаалювіяльныя адклады надпойменных тэрас, дзе яны складаюць паверхню або перакрыты эолавымі, азёрна-балотнымі ці сучаснымі алювіяльнымі назапашваннямі. Прадстаўлены старажытна-алювіяльныя адклады пераважна пяскамі шаравата-жоўтага, карычнявата-шэрага і цёмна-шэрага колеру, палёва-шпатава-кварцавымі, дробназярністымі, часам з яснай гарызантальнай складанасцю. Магутнасць гэтых адкладаў дасягае 25,20 м (в. Беліца).

### *Сучасны аддзел ($Q_4$)*

Сучасны аддзел новачацвярцічных адкладанняў прадстаўлены алювіяльнымі адкладаннямі поймавых тэрас (сучасны алювій), азёрна-балотнымі і эоловымі адкладаннямі. Усе яны маюць параўнальна абмежаванае распаўсюджанне і сустракаюцца ў межах далін рэк Нёмана і Дзітвы (гл. геолага-літалагічную карту).

**Алювіяльныя адклады** поймавых тэрас распаўсюджаны ў далінах рэк Нёмана, Дзітвы і некаторых іншых. Яны прадстаўлены пяскамі светла-жоўтага, радзей - шаравата-жоўтага і блакітнавата-шэрага колеру, палёва-шпатава-кварцавымі, розназярністымі са жвірам і галькай, сустракаюцца праслоі глейкіх глін і торфу. Магутнасць разгляданых адкладаў у даліне р. Дзітвы (в. Ерамеевічы) складае 4 м.

**Азёрна-балотныя** адкладанні шырока распаўсюджаны ў рачных далінах, у замкнёных упадзінах сярод канчаткова-марэннага ландшафту ў паўночнай частцы Лідскага раёна і ў некаторых іншых месцах. Яны прадстаўлены галоўным чынам пакладамі торфу чорна-бурага, цёмна-бурага колеру, рознай ступені гуміфікацыі, часта запясочанымі і заглеенымі, месцамі дробназярністым глейкім пяском, які залягае пад пластом торфу. Выкрытая магутнасць тарфяных адкладаў вагаецца ад 0,5 да 2,0 м, радзей - да 5 м (балота "Дакудаўскае"). Попелу ў торфах утрымоўваецца ад 5,75% да 77,0%. Утварыліся азёрна-балотныя адкладанні за кошт зарастання неглыбокіх азёрных вадаёмаў і дэпрэсій старажытных вадасцёкаў.

**Эолавыя адкладанні** маюць вельмі абмежаваны распаўсюд і развіты толькі ў межах даліны ракі Нёмана (вёскі Агароднікі, Беліца, Збляны і інш.).

У паўночнай частцы тэрыторыі раёна, на схілах Верх-Лідскіх вышынь, па схілах асобных узгоркаў, град і далін сустракаюцца элювіяльна-дэлювіяльныя адкладанні, магутнасць якіх часам дасягае 2,5 м.

## 2. Тэктоніка

У тэктанічных адносінах Лідскі раён знаходзіцца ў цэнтральнай частцы Беларуска-Літоўскага масіва, які ўяўляе сабой буйны выступ дакембрыя і з'яўляецца дадатнай структурай Рускай платформы. Складчаты фундамент прадстаўлены гранітамі і габро. Па дадзеных Інстытута Міністэрства геалогіі СССР (Менск) устаноўлена, што найменшая глыбіня залягання фундамента характэрна для ўчастка Беліца-Бярозаўка, прычым да паўночнага захаду і ўсходу дах фундамента апускаецца. Глыбіні залягання фундамента на ўчастку Беліца-Бярозаўка размяркоўваюцца наступным чынам:

у раёне г. Бярозаўка - 113-135 м;
у раёне в. Беліца - 99-144 м;
за 6 км на поўнач ад в. Беліца - 166 м.

Як відаць з прыведзеных дадзеных, фундамент мае няроўную паверхню. На ёй вылучаецца некалькі выступаў.

Апошнія дадзеныя даследавання тэктонікі Беларусі (па Сягінай, Зеніну, Каманіну і Мешчаракову) паказалі, што захад і паўднёвы захад Беларусі знаходзяцца ў межах мерыдыянальна арыентаванай шырокай Эстона-Малдаўскай зоны ўзняццяў (2-5 см у дзесяцігоддзе). Вылучаюцца дзве мерыдыянальныя восі маладых рухаў: валападобнага ўзняцця на захадзе і ночвападобнага апускання на ўсходзе.

Заходняя вось узняццяў праходзіць ад Латгальскага ўзвышша на Вільню - Ліду - Драгічын, на захад ад Пінска, захопліваючы такім чынам усю тэрыторыю Лідскага раёна.

## 3. Карысныя выкапні

Разгляданы раён бедны карыснымі выкапнямі, з якіх могуць быць адзначаны толькі невялікія залежы сыравіны будаўнічых матэрыялаў (гліны, суглінкі, мел,

## Лідскі раён



пяшчана-жвіравыя матэрыялы, валуны) і торфу.

**Гліны.**

Гліны раёна прыдатныя для грубай керамікі, вытворчасці цэглы, дахоўкі (чарапіцы). Вядомы некалькі радовішчаў. З іх распрацоўваюцца толькі два: "Шайбакі" і "Перапечыца" ці "Прыдыбайлы". На базе гэтых радовішчаў пабудавана цагельня "Шайбакі", якая можа вырабляць цэглу маркі "100" і "150", з гадавой прадукцыйнасцю 8-10 млн. штук.

Радовішча размешчана каля вёскі Шайбакі, на паўднёвы ўсход ад г. Ліды. Тут маюцца марэнныя жоўта-бурыя, карычневыя і бурыя, тоўстыя гліны, якія залягаюць ў выглядзе пластападобнай залежы магутнасцю ад 2,7 да 6,5 м. Сярэдняя магутнасць глін складае 4,07 м. Плошча радовішча складае 5 га. Прамысловыя запасы сыравіны складаюць 88,8 тыс. м. куб.

На ўсход знаходзіцца радовішча "Перапечыца". Тут таксама залягаюць марэнныя гліны карычнева-бурага колеру, тоўстыя, шчыльныя з уключэннем зерняў карбонатных і магматычных парод. Гліны залягаюць на глыбіні ад 3 да 7,4 м. Плошча радовішча роўная 4 га. Агульныя іх запасы дасягаюць 126,1 тыс. м. куб.

У паўночна-ўсходняй частцы Лідскага раёна, каля в. Харужаўцы Бердаўскага сельсавета, размешчана радовішча карычнева-бурых, тоўстых глін, якія залягаюць у выглядзе лінзаў на двух участках, размешчаных адзін ад аднаго на невялікай адлегласці. Плошча аднаго ўчастка складае 2,85 га, а плошча другога - 0,7 га, сярэдняя магутнасць глін вагаецца ад 1,75 па 2,81 м. Агульныя запасы дасягаюць 80 тыс. м. куб. Гліны прыдатныя для вытворчасці цэглы, аднак у сувязі з вялікай прымешкай вапнавай галькі радовішча не эксплуатуецца.

**Пясчана - жвіровы матэрыял.**

З радовішчаў пясчана-жвіровага матэрыялу самае вялікае "Чэхаўцы". Плошча радовішча дасягае 101 га. Агульныя запасы карыснага выкапню складаюць 6,6 міл.м.куб. Вядомыя таксама "Маламажэйкаўскае", "Падальхоўка", "Мігуны" і шэраг іншых.

Вядома таксама радовішча пяскоў "Мінойты", размешчанае за 2 км на поўдзень ад вёскі Пескі, якое ўяўляе сабой озавы узгорак даўжынёю каля 500 м, шырынёю 300 м, і вышынёю да 10 м. Карысны выкапень - сярэдне- і буйназярністыя пяскі, якія ўтрымоўваюць фракцыі памерам больш за 0,5-1 мм звыш 50%. Геалагічныя запасы баласнага матэрыялу падлічаны ў колькасці 29,6 тыс.м.куб. Распрацоўку вядзе арэнднае прадпрыемства "Лідбудмантаж".

**Радовішчы мелу.**

Радовішча мелу размешчана за 0,5 км на паўночны- ўсход ад в. Вялікія Канюшаны. Карысны выкапень прадстаўлены мелам, які залягае ў выглядзе дзвюх глыб-адшчапенцаў сярод тоўшчы марэнных адкладаў Маскоўскай стадыі Дняпроўскага абледнення. Магутнасць мелу вагаецца ад 0,8 да 8,1 м і ў сярэднім 5,96 м, кальцыю ў ім 53-56%. Мел белы, шаравата-белы, шчыльны з лінзамі ажалязення. Запасы мелу, прыдатнага для вытворчасці вапны, складаюць 33 тыс. тон. Распрацоўку вядзе саўгас "Тарнова".

**Радовішчы вапняку.**

Гістарычныя крыніцы падаюць інфармацыю пра радовішча вапняку каля вёскі Белагруда, ад якога і сама старажытная назва вёскі **Белы Груд**. "Вопісы парафій Лідскага дэканату ў 1784 г." утрымоўваюць наступныя запісы: *"Горы з вапнай на землях Найяснейшага князя ягомасці Радзівіла, генерал - лейтэнанта войск ВКЛ, г.зн. у Белагрудзе і Тарноўшчыне, з якіх каменныя выкапні на вапельню ў Арлянку возяць для палення..." "Дарога да касцёла Белагрудскага на поўдні ідзе пад гару з вапнай і па сенажаці над ракой Дзітвой..."*. Радовішча, відавочна, было вычарпана. У 2-й палове XX стагоддзя не згадваецца.

**Радовішчы торфу.**

На тэрыторыі Лідскага раёна вядома 29 радовішчаў торфу.

Самае вялікае радовішча знаходзіцца на паўднёвы ўсход ад г. Ліды, на адлегласці каля 10 км, паміж вёскамі Дакудава і Агароднікі, "Дакудаўскае балота". Магутнасць тарфянога пласта дасягае 6,7 м, сярэдняя - 3,08. Прамысловая плошча радовішча складае 7339 га.

На тэрыторыі Лідчыны працуюць два прамысловыя прадпрыемствы па здабычы і перапрацоўцы торфу: завод "Дзітва" (п. Дзітва), "Лідскі" (п. Першамайскі). Ім было адведзена 5776 га тарфяных радовішчаў. Ужо адпрацавана і вернута ў сельскую гаспадарку 4053 га тарфяных земляў. Акрамя таго на тэрыторыі Лідскага раёна працавала прадпрыемства "Сельгасхімія", якое здабывала торф для мінеральных угнаенняў, у распараджэнне якога было выдзелена 1516 га тарфяных пакладаў. Гэтым прадпрыемствам адпрацавана і вернута землекарыстальнікам 1444 га. Больш яно не займаецца торфаздабычай.

Торфаздабыўны завод "Дзітва" вярнуў 804 га адпрацаваных земляў для арганізацыі гідралагічнага заказніка "Бярэзіна".

У прыродным стане знаходзіцца 6555 га тарфянішчаў. Частка з іх, прылеглых да торфабрыкетнага завода "Лідскі", па распараджэнні № 48 ад 5 красавіка 1990 г. была аддадзена пад арганізацыю заказніка "Дакудаўскі" плошчай 1989 га (рашэнне райвыканкаму, заказнік мясцовага значэння).

## ГІДРАЛОГІЯ

Грунтовыя воды маюць велізарнае значэнне. Яны выкарыстоўваюцца для водазабеспячэння вёсак і гарадоў, прамысловых прадпрыемстваў, ад іх залежыць склад глебаў.

На тэрыторыі Лідскага раёна грунтовыя воды азёрна-балотных, сучасных алювіяльных, старажытнаалювіяльных, флюўнагляцыяльных адкладаў асноўнай марэны Маскоўскай стадыі Дняпроўскага

абляднення з'яўляюцца сябенапорнымі, са свабоднай паверхняй. Водаўтрымальнымі адкладаннямі з'яўляюцца пяскі, радзей - супесі. Люстэрка грунтовых вод знаходзіцца на глыбіні ад 1 да 8 м. Часам глыбей. Дэбіты студняў, змяняюцца на працягу года, складаюць 0,1 л/сек - 0,6 л/сек. Воды прэсныя, гідракарбанатна-кальцыевые, рознай жорсткасці. Па фізічных уласцівасцях воды звычайна не маюць колеру, без паху і смаку, празрыстыя. Сілкаванне вод ажыццяўляецца шляхам інфільтрацыі атмасферных ападкаў і павярхневага сцёку.

Воды, прымеркаваныя да міжмарэнных, непадзельных Маскоўска-Дняпроўскіх адкладанняў, залягаюць пераважна паміж двума магутнымі водатрывалымі пластамі, валодаюць напорам і часам фантануюць. Магутнасць гэтых пясчаных ваданосных гарызонтаў вагаецца ад 4 да 100 м, а глыбіня іх залягання ад 8 да 120 м (в. Верх-Ліда).

Па сваім складзе воды гідракарбанатна-кальцыевыя, прэсныя без колеру, паху і смаку, празрыстыя, мяккія і сярэдняй жорсткасці. Сілкаванне ваданосных гарызонтаў адбываецца галоўным чынам за кошт падтоку вод з вышэйлеглых воданосных гарызонтаў, якія досыць воданасычаныя, утрымоўваюць якасную ваду і таму з'яўляюцца найболей прыдатнымі для эксплуатацыі.

Ваданосны гарызонт, прымеркаваны да мяргельнай тоўшчы верхняга мелу, залягае на глыбінях ад 84 да 257 м, (свідравіны г. Ліда), магутнасць яго складае ад 21 да 60 м. Водазмяшчальнымі пародамі з'яўляецца белы мел, мелападобны мяргель і праслойка розназярністых пяскоў. Вада цыркулюе па расколінах, пустэчах у меле і мяргелях па пясчаных праслойках. Воданасычанасць гарызонту нераўнамерная, часцей невялікая. Па складзе воды гідракарбанатна-кальцыевыя, прэсныя. Воды прыдатныя для пітва і тэхнічных мэтаў.

Ваданосны гарызонт у пясчаных Гдоўскіх пластах (ніжні кембрый) характарызуецца значнай воданасычанасцю, вялікім напорам і добрай якасцю вады, таму ён можа выкарыстоўвацца для водазабеспячэння буйных гаспадарак.

**РЭЛЬЕФ І ГЕАМАРФАЛОГІЯ**

По геамарфалогіі тэрыторыю Лідскага раёна можна падзяліць на дзве асноўныя часткі: паўночную - Лідскую раўніну і паўднёвую - Верхне-Нёманскую нізіну (па В.А. Дзяменцьеву).

Лідская раўніна мае дробна-ўзгорысты, часцей шырокахвалевы, марэнны рэльеф, які сфармаваўся ў выніку затрымкі ледніка Маскоўскай стадыі Дняпроўскага абляднення. Яна з'яўляецца звязкай паміж Балтыйскай градой і Менскім узвышшам, якая ўзнікла ў выніку затрымкі ледніка каля краю выступу мелавых парод.

Лідская раўніна займае ўсю паўночную і паўночна-заходнюю частку тэрыторыі Лідскага раёна. Умоўная паўднёвая мяжа яе можа быць праведзена па лініі в. Сцеркава-Шайбакі-Белагруда-Мейры на поўдні, а на поўнач яна выходзіць далёка за межы раёна. Абсалютныя вышыні яе вагаюцца ад 140 да 200 м. Гэтыя вышыні займаюць 37 % усёй плошчы раёна. Максімальныя вышыні знаходзяцца на поўнач ад в. Верх-Ліда, на мяжы паміж Лідскім і Воранаўскім раёнамі, і дасягаюць 201,5 і 205,5 да 207 м. Адносныя перавышэнні малаважныя і вагаюцца ў межах 1,0 - 5,0 м і толькі часам - да 8,0 м. У паўднёвым кірунку назіраецца агульнае паніжэнне паверхні да даліны ракі Нёмана.

У межах Лідскай раўніны часта чаргуюцца ўчасткі развіцця асноўнай марэны і флювіягляцыяльных пяскоў, прарэзаных добра развітай сеткай рачных далін, правых прытокаў ракі Нёмана. Участкі з найвышэйшымі абсалютнымі адзнакамі ў большасці выпадкаў заняты асноўнай марэнай і прадстаўлены чырвона-бурымі, шаравата-жоўтымі супесямі і суглінкамі з вялікай колькасцю галькі і жвіру. На новай асноўнай марэне назіраецца вялікая колькасць валуноў, памер якіх часам дасягае 1,5 м у папярэчніку. У паніжэннях паміж узгоркамі і градамі сустракаюцца азёрна-балотныя адклады, якія пераважаюць у паўднёвай частцы раўніны - у далінах рэк Лідзейкі, Крупкі і верхняй ды сярэдняй плыні ўчастка ракі Дзітвы. Гэтыя адклады часцей за ўсё прадстаўлены торфам нізіннага тыпу.

Рачныя даліны на Лідскай раўніне шырокія і звілістыя. Схілы далін вельмі пакатыя, якія паступова пераходзяць у плато і якія зліваюцца са схіламі суседніх далін. Таму тут няма шырокіх водараздельных прастораў, а маюцца толькі водараздельные лініі, якія часам зліваюцца са схіламі суседніх далін, што добра відаць з гіпсаметрычнай карты раёна.

На раўніне адсутнічаюць азёры. Тлумачыцца гэта тым, што першапачаткова замкнёныя катлавіны марэннага ландшафту, раней занятыя азёрамі, былі злучаны ў гідрасетку. Глыбінная эрозія струменяў паміж азёрнымі катлавінамі прывяла да іх поўнага асушвання. На асушаных днах азёр заклаліся рачныя рэчышчы, а былыя схілы азёрных катлавін ператварыліся ў схілы рачных далін з шырокімі забалочанымі і затарфаванымі поймамі рэк Дзітвы, Лідзейкі, Крупкі, Гаўі.

У паўднёвай і паўднёва-заходняй частцы раёна размяшчаецца Нёманская нізіна. Вышыні на ёй апускаюцца да 130-140 м, часам ніжэй за 120 м. Перавышэнні ў гэтай частцы тэрыторыі складаюць меней за 2,0 - 5,0 м. Тут распаўсюджаны шырокахвалісты, плоскі рэльеф флювіягляцыяльнай раўніны. З поўначы плоскае раўніннае плато мае малаважнае паніжэнне да далін рэк Дзітвы і Нёмана. Зрэдку раўніннасць парушаецца выцягнутымі з поўначы на поўдзень градамі-грудамі эолавага паходжання, парослымі лесам.

Утварэнне флювіягляцыяльнай раўніны звязана з адыходам ледніка Маскоўскай стадыі Дняпроўскага абляднення. Пасля яна падверглася размыву і набыла палога-хвалісты, а месцамі плоскавяршынны выгляд. Абсалютныя адзнакі тут не перавышаюць 120 м.

Апроч двух найболей шырока распаўсюджаных тыпаў рэльефу варта выдзеліць і такія:

1. Азёрна-ледніковыя раўніны;
2. Поймавыя тэрасы;

3. Балоты і тарфянішчы, якія займаюць паніжаныя ўчасткі мясцовасці.

**Участкі азёрна-ледніковай раўніны** карыстаюцца вельмі абмежаваным распаўсюдам. Часцей за ўсё яны сустракаюцца паміж рэкамі Гаўя і Лідзейка, а таксама ў даліне ракі Дзітва. Гэтыя ўчасткі характарызуюцца амаль плоскім рэльефам з перавышэннем у 1 - 2 м. Складзены азёрна-ледніковыя раўніны стужкавымі глінамі, супесямі і тонказярністымі пяскамі. Па паходжанні яны ўяўляюць сабою адкладанні загачаных ледніковых азёр.

**Поймавыя тэрасы** прасочваюцца ў далінах рэк Нёмана і Дзітвы. Шырыня іх розная. Поймавая тэраса ракі Нёмана каля в. Дакудава дасягае 3-4 км. У ніжняй жа плыні ўчастка - каля в. Пескаўцы - звужаецца да 0,4 - 0,9 км. У верхняй плыні ўчастка, да ўпадзення ракі Дзітвы, поймавая тэраса ракі Нёмана мае хвалісты рэльеф, нізкая, забалочаная, парэзана старыцамі. Ніжэй ад вусця ракі Дзітвы, рэльеф тэрасы плоскі, пойма сухая, праходзіць вузкай паласой уздоўж ракі і часта выкліньваецца. Часам паверхня яе пакрыта старыцамі (каля в. Сялец).

Каля вёсак Панямонцы, Пескаўцы і Андрусоўшчына ў ніжняй плыні ўчастка ракі Нёмана пойма амаль не задзярнована і ўяўляе сабою пясчаны пляж, які пазарастаў лапухамі і вербалозам. Шырыня поймы ракі Дзітвы вагаецца ад 0,7 да 0,9 км, складзена пяскамі, месцамі торфам і глеем.

**Балоты і тарфянішчы** займаюць паніжаныя ўчасткі мясцовасці. Яны характарызуюцца роўным, ці куп'істым мікрарэльефам і багатай балотнай травяністай і хмызняковай расліннасцю. Часам паверхня тарфянішчаў адкрытая. Масівы балот распаўсюджаны як усярэдзіне асноўнай марэны, так і ўсярэдзіне флювіягляцыяльнай раўніны, але ў большасці выпадкаў прылягаюць да далін рэк і займаюць поймы рачных далін.

Такім чынам, рэльеф тэрыторыі Лідскага раёна складаецца з наступных тыпаў і формаў:

**1. Тыпы і формы ледніковага рэльефу.**

а) Рэльеф доннай марэны Маскоўскай стадыі Дняпроўскага абледнення ў зоне развіцця суглінкаў і супесяў;

б) Донна-марэнныя платападобныя рассечаныя тэрыторыі Маскоўскай стадыі Дняпроўскага абледнення.

**2. Тыпы і формы водналяднiковага рэльефу.**

а) Адгор'і акумуляцыйнай эразійнай (флювіягляцыяльнай раўніны).

**3. Тыпы і формы воднагенетычнага рэльефу.**

а) Рачныя даліны;

б) Пойменная і першая надпойменная тэрасы рэк Нёмана і Дзітвы;

в) Поймы рэк і забалочаныя нізіны.

Сучасныя геамарфалагічныя працэсы на тэрыторыі апісванага раёна не атрымалі шырокага распаўсюду.

Найбольш ярка выяўлены бакавая і руславая эрозія і акумуляцыя рэк, плоскасцевае змыванне, забалочванне паніжаных участкаў. Яраўтваральныя працэсы развіты слаба і сустракаюцца на берагах рэк Нёмана і Дзітвы.

У паўночнай частцы раёна, на схілах узгоркаў і ўзвышшаў выяўляецца плоскасцевае змыванне. Пад дзеяннем цякучых вод схілы ўзгоркаў размываюцца, на паверхні з'яўляецца вялікая колькасць валуноў, а каля падножжа адбываецца акумуляцыя дэлювію. Плоскосцевае змыванне носіць дробнаструменевы характар і найболей ярка выяўляецца ў вясновы час, падчас сцякання талых вод.

Вельмі добра выражана бакавая эрозія і акумуляцыя ракі Нёмана. За апошніх 20 гадоў каля вёскі Збляны, у ніжняй плыні ўчастка, рэчышча ракі перамясцілася да поўдню на 80-100 м. Такая ж карціна назіраецца і ў верхняй плыні ўчастка каля вёскі Бурносы. Разам з гэтым адбываецца поймавая і руславая акумуляцыя, якая выяўляецца ў выглядзе утварэння плёсаў, кос, водмеляў, перакатаў, астравоў.

На паніжаных участках пад уплывам атмасферных вод і блізкага залягання грунтавых утвараюцца балоты нізіннага тыпу, пароcлыя, як правіла, хмызняком алешыны.

Ветравая эрозія выяўляецца ў разбурэнні верхняга глебавага покрыва. Найболей інтэнсіўна гэты працэс працякае на пясчаных глебах і на ўчастках незамацаваных пяскоў у пойме рэк Дзітвы і Нёмана. Вельмі інтэнсіўнае дзеянне аказвае эолавая эрозія ў разбурэнні прырусклавых валоў на беразе ракі Нёмана. Незамацаваныя расліннасцю ўзгоркі выдзімаючыся абсыпаюцца, памяншаючыся ў памерах і змяняючы свае вонкавыя формы. На паўднёвым захадзе раёна, у даліне ракі Нёмана, сустракаюцца невялікія ўчасткі лёсападобных пяскоў, якія лёгка паддаюцца ветравой эрозіі. Пры дапамозе ветру гэтыя пяскі здольныя перамяшчацца, засыпаючы больш урадлівыя глебы. Для барацьбы з сучаснымі эразіўнымі працэсамі раённымі арганізацыямі, калгасамі і саўгасамі праведзены шэраг мерапрыемстваў (аблясенне, асушванне, пабудова бун і да т.п.).

## РЭКІ І АЗЁРЫ ЛІДСКАГА РАЁНА

Рэкі, якія працякаюць па тэрыторыі раёна, з'яўляюцца транзітнымі і адносяцца да басейна Балтыйскага мора. Найбольш буйной з іх з'яўляецца рака **Нёман**, якая праходзіць па паўднёвай мяжы раёна, астатнія рэкі з'яўляюцца яе прытокамі, ці ўпадаюць у яе прытокі.

Рака Нёман пачынаецца далёка за межамі Лідскага раёна на Менскім узвышшы, пас. Верх-Нёман Уздзенскага р-на (назв. Неманец). Упадае рака Нёман у Куршскі заліў Балтыйскага мора. Даўжыня - 937 км (у межах Беларусі - 459 км). Плошча вадазбору- 98200 км. кв. (на тэр. Беларусі - 35000 км.кв., Лідчыны- 16700 км. кв.) На ўсходзе і поўдні басейн ракі мяжуе з басейнам Дняпра, на захадзе - з водазборамі рэк Вісла і Прэгель, на паўночным усходзе - з басейнам ракі В'енты і Заходняй Дзвіны.

На вялікім працягу, пачынаючы ад упадзення

ракі Дзітвы, даліна ракі мае ночвападобную форму. Схілы даліны пясчаныя, пясчана-гліністыя з уключэннем валуноў. Правы схіл стромкі, левы - пакаты, вышыня схілу ад 4 да 8 м. Часам схілы ўяўляюць абрыў (ніжэй ад в. Красная). У такіх месцах магчымыя асыпанні і апоўзні, утварэнне яроў.

Рэчышча ракі на ўсім працягу ўмерана звілістае. Да ўпадзенне ў Нёман ракі Дзітвы шмат водмеляў, перакатаў, заліваў, косаў. Ніжэй ад упадзення р. Дзітвы і да канца ўчастка рэчышча больш устойлівае.

Пераважная глыбіня ракі Нёмана складае 1,2 - 1,8 м, сярэдняя хуткасць плыні - 0,8 м/сек. Найбольшая хуткасць плыні -1,2 м/сек адзначана каля в. Бурносы, ніжэй ад вусця ракі Гаўі, самая нізкая хуткасць плыні на плёсах - 0,4 м/сек.

**Водны рэжым ракі Нёман.** Сілкаванне ракі змешанае з перавагаю снегавага. Гадавы ход узроўню характарызуецца рэзка выяўленым высокім разводдзем і параўнальна нізкай летне-восеньскай межанню, якая парушаецца, як правіла, дажджавымі паводкамі.

Пад'ём узроўню часцей за ўсё пачынаецца ў другой палове сакавіка. Самы ранні пад'ём часам бывае (у цёплыя гады) у студзені і пазней - у першай дэкадзе красавіка. Найбольшае разводдзе назіралася за апошнія 200 гадоў у 1958 годзе, калі ўзровень вады дасягаў 3-8 метраў.

Высокі ўзровень трымаецца, пасля чаго пачынаецца спад, які працягваецца 1-2 месяца. Нярэдка спад перарываецца невялікімі дажджавымі ўздымамі. Летне-восеньская межань настае пераважна ў чэрвені і працягваецца каля чатырох месяцаў. Узровень вады ў гэты перыяд змяняецца ад колькасці дажджоў. Інтэнсіўнасць пад'ёму такіх паводак складае 10-15 см у суткі.

Зімовыя ўзроўні больш устойлівыя ў параўнанні з летне-восеньскімі. Зімовы ўзровень перавышае летне-восеньскую межань на 20-25 см. Устойлівы ледзяны покрыў устанаўліваецца часцей за ўсё ў другой палове снежня. Звычайная таўшчыня лёду 30-40 см, у асобныя зімы - 54-63 см, магчыма да 1м.

Ускрыццё адбываецца ў канцы сакавіка. Пачатку крыгаходу ў многія гады папярэднічае зрух лёду. Сярэдняя працягласць вясновага крыгаходу 5-16 дзён. Падчас інтэнсіўнага крыгаходу назіраюцца недоўгачасовыя заторы.

Вада ў рацэ чыстая, празрыстая, без колеру, паху і смаку, выкарыстоўваецца для побытавага і прамысловага забеспячэння, а таксама для піцва пасля фільтрацыі.

Рэгулярнае караблеплаванне і лесасплаў не ажыццяўляецца. Рака з'яўляецца месцам адпачынку людзей і аматараў рыбнай лоўлі.

У раку Нёман на ўчастку Лідскага раёна ўпадаюць прытокі: Гаўя, Дзітва, Моўчадзь, Лебяда, Еленка, Златарэчка, Карыценка, Нарва і іншыя.

Рака **Дзітва** бярэ свой пачатак з невялікага балота, размешчанага за 500 м на поўнач ад в. Вілконіс, недалёка ад г. Эйшышкі, на мяжы Літвы і Беларусі і ўпадае ў раку Нёман з правага берага.

Бассейн размешчаны ў межах Лідскай раўніны і толькі ля вусця выходзіць на Нёманскую нізіну. Мяжуе ён з вадазборамі прытокаў Нёмана: на захадзе - рэчкі Лебяды, на поўначы - рэчкі Меркіс, на ўсходзе - рэчкі Гаўі. Найбуйнейшымі прытокамі ракі Дзітвы з'яўляюцца рэкі: Лідзейка, Крупка, Калоніца, Нешкрупа, Чарняўка і ручаі. Прытокі працякаюць у моцна забалочанай мясцовасці. У летні перыяд цалкам пакрываюцца густой воднай рас-

**ПЕРАЛІК РЭК ЛІДСКАГА РАЕНА**

| № пп | Найменне | Працягласць, *км* | | Плошча водазборных зон, *га* | Плошча прыбярэжных палос, *га* | Куды ўпадае |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Усяго | У т.л. прамл. | | | |
| 1. | Альхоўка | 5,8 | 1,8 | 432,4 | 30,5 | Еленка |
| 2. | Астраўлянка | 7,8 | 6,9 | 675,5 | 42,0 | Лідзейка |
| 3. | Ваверка | 8,8 | 8,8 | 790,6 | 54,1 | Крыніца |
| 4. | Ведраўка | 12,1 | 10,9 | 681 | 55,4 | Гаўя |
| 5. | Вязаўка | 2 | - | 104,1 | 17,5 | Карыценка |
| 6. | Галдаўлянка | 13,8 | 13,8 | 1306,4 | 99,2 | Лебяда |
| 7. | Гаўя | 3,2 | - | 270,1 | 37,3 | Нёман |
| 8. | Дакудаўка | 3,1 | 3,0 | 120 | 33,0 | Нёман |
| 9. | Дзікая | 1,0 | 1,0 | 20,0 | 4,0 | Лідзейка |
| 10. | Дзітва | 78,3 | 12,3 | 4022,6 | 472,1 | Нёман |
| 11. | Еленка | 10,5 | 9,0 | 954,7 | 67,2 | Нёман |
| 12. | Есянец | 4,1 | 4,1 | 39,7 | 11,8 | Карыценка |
| 13. | Жалудзянка | 3 | 1,8 | 110,9 | 8,8 | Лебяда |
| 14. | Жыжма | 21,9 | 9,5 | 1160,3 | 66,2 | Гаўя |
| 15. | Завадная | 0,5 | - | 32,0 | 2,1 | Нёман |
| 16. | Златарэчка | 7,5 | 6 | 669,6 | 34,5 | Нёман |
| 17. | Ішчалянка | 4,9 | 4,1 | 438,6 | 28,1 | Жалудзянка |
| 18. | Казлянка | 4,5 | 4,5 | 363,5 | 20,9 | Лебяда |
| 19. | Калоніца | 0,5 | 0,5 | 307,1 | 71,7 | Дзітва |
| 20. | Карыценка | 9,4 | 7,0 | 544,8 | 54,6 | Нёман |
| 21. | Касцянёўка | 2,7 | 2,7 | 109,2 | 10,9 | Лебяда |
| 22. | Крупка | 14,6 | 14,6 | 1221,2 | 81,7 | Дзітва |
| 23. | Крыніца | 7 | 7 | 623,3 | 43 | Лебяда |
| 24. | Лебяда | 20,4 | 8,1 | 1417,8 | 116,1 | Нёман |
| 25. | Лідзейка | 34,6 | 26,5 | 2174,7 | 149,6 | Дзітва |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 26. | Лучкі | 1,1 | 1,1 | 114,6 | 6,9 | Праважа |
| 27. | Моўчадзь | 0,8 | - | 52,7 | 5,4 | Нёман |
| 28. | Малая рэчка | 7,9 | - | 539,2 | 55 | Дзітва |
| 29. | Надзея | 4,6 | 0,9 | 490,4 | 44,3 | Нешкрупа |
| 30. | Нарва | 13,3 | 8,1 | 1808,6 | 158,4 | Нёман |
| 31. | Нешкрупа | 5,4 | 5,4 | 555,9 | 32,4 | Дзітва |
| 32. | Няцеч | 4,1 | 3,7 | 120,3 | 16,1 | Лідзейка |
| 33. | Прудавая | 0,8 | - | 39 | 4 | Нёман |
| 34. | Разважанка | 2,2 | - | 58,2 | 7,9 | Нёман |
| 35. | Смолач | 16,4 | 13,7 | 980,9 | 94,4 | Нёман |
| 36. | Студзянец | 10,3 | 8,6 | 776,7 | 47,5 | Нёман |
| 37. | Стрэліца | 7,5 | 7,5 | 576 | 45,1 | Лебяда |
| 38. | Чарняўка | 20,1 | 16,7 | 1373,9 | 99,6 | Дзітва |
| 39. | Чорная | 3,1 | 3,1 | 221,1 | 14 | Нёман |
| 40. | ручай Бахмотка | 5,3 | 5,3 | 424,8 | 31,8 | Малая рэчка |
| 41. | ручай Палоўнікі | 2,9 | 2,9 | 348,6 | 36,6 | Дзітва |
| 42. | ручай № 1 | 2,9 | 2,9 | 287,8 | 16,1 | Жыжма |
| 43. | ручай № 2 | 3,1 | 3,1 | 256 | 15,4 | Жыжма |
| 44. | ручай № 3 | 1,0 | 0,9 | 20,1 | 11 | Лідзейка |
| 45. | ручай № 4 | 1,9 | 1,9 | 140,1 | 14 | Надзея |
| 46. | ручай № 5 | 2,4 | 2,4 | 185,0 | 13 | Крупка |
| 47. | ручай № 6 | 3,6 | 3,6 | 295,3 | 16,8 | Крупка |
| 48. | ручай № 7 | 3,2 | 3,2 | 296,9 | 12,2 | Кедраўка |
| 49. | ручай № 8 | 5,5 | 5,5 | 464,8 | 33,2 | Лідзейка |
| 50. | ручай № 9 | 7,7 | 7,7 | 727,1 | 46,0 | Дзітва |
| 51. | ручай № 10 | 3,8 | 2,9 | 389,1 | 35,2 | Дзітва |
| 52. | ручай № 11 | 9,7 | 9,7 | 719,4 | 51,8 | Дзітва |
| 53. | ручай № 12 | 1,3 | 1,3 | 50,5 | 5,9 | Дзітва |
| 54. | ручай № 13 | 7,7 | 7,7 | 652,2 | 46 | Чарняўка |
| 55. | ручай № 14 | 4,6 | 4,6 | 313,7 | 21,1 | Лебяда |
| 56. | ручай № 15 | 4,3 | 4,3 | 343,1 | 20,6 | Галдаўлянка |
| 57. | ручай № 16 | 4,3 | 4,3 | 354,5 | 20,7 | Дзітва |
| 58. | ручай № 17 | 6,8 | 6,8 | 654,5 | 24,9 | Дзітва |
| 59. | ручай № 18 | 7,8 | 7,8 | 709,6 | 45,0 | Чарняўка |
| 60. | ручай № 19 | 4,6 | 4,6 | 284,7 | 15,0 | Дзітва |
| 61. | ручай № 20 | 5,9 | 5,9 | 553,7 | 30,9 | Лебяда |
| 62. | ручай № 21 | 4,7 | 4,7 | 277,2 | 13,5 | Казлянка |
| 63. | ручай № 22 | 7,8 | 7,8 | 654,2 | 45,1 | Златарэчка |
| 64. | ручай № 23 | 3,7 | - | 266,8 | 19,4 | Альхоўка |
| 65. | ручай № 24 | 2,0 | 2,0 | 152,3 | 10,1 | Еленка |
| 66. | ручай № 25 | 3,0 | 3,0 | 285,1 | 18,3 | Студзянец |
| 67. | ручай № 26 | 8,1 | 8,1 | 691,6 | 47,9 | Смолач |
| 68. | ручай № 27 | 5,8 | 3,8 | 519,0 | 33,5 | Нёман |
| 69. | ручай № 28 | 7,2 | 7,2 | 589,2 | 37,0 | Галдаўлянка |
| 70. | ручай № 29 | 6,5 | 6,5 | 607,1 | 33,8 | Галдаўлянка |
| | Усяго: | 5169 | 358,4 | 37889,3 | 2957,6 | |

ліннасцю.

Даліна ракі асіметрычная (прац. ад 0,6 - 2,5 км), у ніжняй частцы слаба выражаная (прац. - 2,5 - 4 км). Рэчышча ракі ў верхняй плыні прамое. У сярэдняй плыні моцна развіта разгалінаванасць, дзе рака працякае па рукавах, паміж якімі ўтвараюцца нізкія, забалочаныя астравы.

Шырыня ракі хістаецца ў межах 12-20 м, у асобных месцах (в. Гетманы) - 80 м.Сярэдняя глыбіня - 1,3 - 1,8 м. Найбольшая глыбіня ракі паміж в. Мыто і в. Парачаны - 2,3 м. Хуткасць плыні 0,2 - 0,4 м/с.

Дно ракі складзена заглееным пяском і глеем, на ўсім працягу багата воднай расліннасцю. Берагі адкрытыя, нізкія, абрывістыя.

Пад'ём вясновай паводкі пачынаецца ў сярэдзіне сакавіка, у выключных выпадках: у сярэдзіне лютага (1950 г.), працягласць 3-25 дзён. Вышыня пад'ёму вады ад 1,3 да 2,4 м, працягласцю 35-50 дзён (самы доўгі да 2,5 месяцаў назіраўся ў 1927 годзе).

У летнія межані рака пераходзіць у канцы красавіка-траўня. Летне-восеньская межань амаль штогод 1-2 разы ў сезон перарываецца дажджавымі паводкамі працягласцю 10-50 дзён.

Да зімовага рэжыму рака пераходзіць у снежні. Устойлівы лёдавы покрыў назіраецца толькі ў суровыя зімы, з таўшчынёй лёду 30-50 см. Часцей ледзяны покрыў назіраецца няўстойлівы, кароткачасовы, у выглядзе ўтварэння закрайкаў. У асобныя гады рака на працягу ўсёй зімы застаецца вольнай ад лёду. Вясновы крыгаход (сяр., канец сакавіка) развіты слаба і працягваецца ад 2 до 6 дзён.

Вада ў рацэ карычневага колеру, з балотным пахам, без смаку і для пітва прыдатная толькі пасля фільтравання.

**Рака Лебяда** працякае ў заходняй частцы, на мяжы Лідскага і Шчучынскага раёнаў. Даўжыня ракі невялікая, схілы даліны палогія вышынёй 7-8 м., слаба рассечаныя забалочанымі лагчынамі.

Пойма суцэльная, двухбаковая, асіметрычная, забалочаная. У перыяд вясновага разводдзя і пры высокіх дажджавых паводках пойма пакрываецца вадой на глыбіню 0,2-1 м працягласцю 3-10 дзён. Пад'ём



***Нёман каля Зблянаў. Фота аўтара, 1960 г.***

вады ў пойме звычайна адбываецца ў другой полове сакавіка, затопліваюцца ўчасткі прырэчышчавай поймы.

Рэчышча ракі ўмерана-разгалінаванае. Маюцца астравы (в. Роўбы і с/г Мажэйкава). Шырыня рэчышча ад 15 -30 м. Сярэдняя глыбіня - 1,5 -2 м, хуткасць плыні - 0,1 - 0,2 м/с. На ўсім працягу рэчышча пакрыта воднабалотнай расліннасцю.

Дно рэчышча няроўнае, сустракаюцца ямы. Грунт дна глейкі, глейкапясчаны.

Сілкаванне ракі змешванне. Пад’ём вады пачынаецца ў другой палове сакавіка і заканчаецца цераз 5-7 дзён. Часам гэтыя тэрміны ссоўваюцца на снежань ці красавік. Невялікія паводкі летне-восеньскія назіраюцца штогод у розны час. Інтэнсіўнасць пад’ёму складае 20-60 см, спаду - 10-20 см у суткі. Сярэдняя вышыня пад’ёму 0,6 - 0,9 м.

Да зімовага рэжыму рака пераходзіць у канцы лістапада. У месцы выхаду грунтовых вод утвараюцца палонкі, якія існуюць часам усю зіму. Сярэдняя таўшчыня лёду змяняецца ў межах 20-30 см, максімальная да - 60 см.

Вада ў рэчцы празрыстая, без колеру, без паху, без смаку. Воды ракі выкарыстоўваюцца для водазабеспячэння і як водапрыёмнік вод асушальных каналаў.

**Рака Лідзейка** з'яўляецца левым прытокам ракі Дзітвы, працякае з поўначы ў цэнтральную частку раёна. Па абодва бакі ракі размешчаны цэнтр раёна - горад Ліда. Каля горада рака перагароджваецца плацінай, утвараючы вадасховішча, месца адпачынку гараджан.

Берагі ракі порослыя хмызнякамі алешыны і лазы, у многіх месцах забалочаныя, спадзістыя. Рака на большым працягу каналізаваная (да 20 км), яго шырыня 6 - 12 м, глыбіня 1,2 -2 м, плынь павольная.

**Возера Вялічкі**. У цэнтральнай частцы Лідскага раёна, на водападзеле рэк Лідзейкі і Дзітвы размешчана возера Вялічкі. Плошча возера складае 0,15 км. кв. (15 га). Глыбіня дасягае 8 - 10 м, даўжыня - 600 м, максімальная шырыня - 300 м, даўжыня берагавой лініі - 1,2 км. Назва возера на сёння падаецца ад назвы вёскі Вялічкі. Некалькі раней (у 30-я гады XX стагоддзя) гаварылі **Вялічкаўскае возера**. Сапраўдная старажытная назва гэтага возера **Мятліца** (паводле вопісу парафій Лідскага дэканату 1794 г.).

Па паходжанні гэта возера варта аднесці да тыпу старычных азёр. Возера размешчана ў катлавіне паміж вёскамі Вялічкі і Пескі, за 12 км ад горада Ліды. Берагі возера пакрыты зараснікамі алешыны, лазы і балотным мнагатраўем. Прыбярэжныя ўчасткі пакрыты воднай расліннасцю.

Вада ў возеры карычневага колеру, без смаку і паху. У вадаёме водзяцца розныя рыбы.

**Прыпаверхневыя грунтовыя воды** ў раёне распаўсюджаны паўсюдна. Сярэдняя глыбіня залягання прыпаверхневых грунтовых вод 4 - 5 м.

Асноўнымі ваданоснымі гарызонтамі з'яўляюцца пяскі рознага складу. Багацце грунтовых вод

цесна злучана з выпадзеннем атмасферных ападкаў. У дажджлівыя гады запасы грунтовых вод значна ўзрастаюць і наадварот, у сухія гады іх колькасць рэзка памяншаецца.

Наяўнасць грунтовых вод цесна звязана з выпадзеннем атмасферных ападкаў. У гады мнагаводные запасы грунтовых вод значна ўзрастаюць і наадварот. Усё гэта адбіваецца на ўрадлівасці глеб і ўраджаі ў сельскай гаспадарцы. Засухі змяншаюць ураджай.

Грунтовыя воды таксама выкарыстоўваюцца для побытавых патрэб і патрэб дробных гаспадарак.

## ГЛЕБЫ

Глебы Лідскага раёна фармаваліся працяглы час пад сукупным уздзеяннем мацярынскіх парод, рэльефу, клімату, расліннага і жывёльнага свету і гаспадарчай дзейнасці чалавека. Пад уплывам глебаўтваральных фактараў на тэрыторыі раёна можна вылучыць чатыры асноўныя генетычныя тыпы глебаў (паводле класіфікацыі А.Г. Мядзведзева), адрозныя адзін ад аднаго механічным і хімічным складамі, магутнасцю, ступенню ападзоленасці.

Вывучэнне глебавага покрыва пачата ў 1959 годзе, складаннем глебавых карт калгасаў, саўгасаў і лясгасаў. Першыя карты былі складзены ў канцы 1964 года. У нашы дні карты ўдакладняюцца кожныя 5-10 гадоў. У выніку глебавых абследаванняў у межах раёна выяўлена 6 тыпаў глебаў і 38 глебавых рознасцяў. Найгалоўнымі з іх з'яўляюцца чатыры генетычныя тыпы.

**Дзярнова-падзолістыя глебы**.

1. Дзярнова-падзолістыя слаба-, сярэдне- і моцнаападзоленыя глебы, якія развіваюцца на звязных і рыхлых супесях і падсцілаюцца:

а) з глыбіні да 1 м апясчаненым марэнным суглінкам, пяскамі;

б) з глыбіні больш за 1 м апясчаненым марэнным суглінкам;

а) з глыбіні болей за 40-50 см рыхлымі дробназярністымі пяскамі.

2. Дзярнова- падзолістыя пясчаныя глебы, якія развіваюцца на рыхлых і звязных пясках, і падсцілаюцца:

а) з глыбіні да 1 м апясчаненым марэнным суглінкам;

б) з глыбіні больш за 1 м апясчаненым марэнным суглінкам;

в) з глыбіні 30-40 см рыхлымі часам жвіровахрастковымі пяскамі.

**Дзярнова-падзолістыя забалочваныя глебы.**

3. Дзярнова-падзолістыя слаба-, сярэдне- і моцнаападзоленыя звязна- і рыхласупясчаныя глебы;

а) часовага забалочвання, якія падсцілаюцца пяском і марэнным суглінкам;

б) дзярнова- падзолістыя глееватыя, якія падсцілаюцца пяском і марэнным суглінкам;

в) дзярнова-падзолістыя глеевыя, якія падсцілаюцца пяском і марэнным суглінкам.

4. Дзярнова-падзолістыя сярэдне- і слабаападзоленыя пясчаныя глебы:

а) дзярнова-падзолістыя часовага забалочвання, якія падсцілаюцца суглінкам і з глыбіні больш за 1 м - пяском;

б) дзярнова-падзолістыя глееватыя, якія падсцілаюцца марэнным суглінкам, а з глыбіні 1 м - і пяском.

**Дзярнова-балотныя глебы.**

5. Дзярнова-глееватыя часта перагнойна-глеевыя супяшчаныя на рыхлых і звязных пясчаністых супесях, якія падсцілаюцца марэнным суглінкам, часта рыхлым пяском.

**Поймава-алювіяльныя глебы.**

6. Дзярнова-забалочваныя алювіяльныя дзярнова-перагнойныя глебы, якія падсцілаюцца розназярністымі пяскамі з глыбіні 50-70 см.

а) дзярнова-глееватыя;

б) дзярнова-глеевыя.

7. Тарфяна-глеевыя поймавыя глебы на рознатраўна-асакова-гіпновых сярэдне- і добраразлажыўшыхся тарфах з магутнасцю торфу ад 30 см да 2 м.

а) тарфяна-балотныя (нізіннага тыпу) глебы на драўняна-рознатраўна-асаковых сярэднеразлажыўшыхся тарфах ад 1 да 3 м.

Глебы раёна маюць агульны бал бонтэра 29 і ворных земляў 35.

### Дзярнова-падзолістыя глебы

**Дзярнова-падзолістыя глебы** займаюць 71% усёй плошчы раёна і складаюць асноўны фонд ворнай зямлі. Займаюць яны падвышаныя ўчасткі рэльефу і распаўсюджаны галоўным чынам вялікімі масівамі па ўсёй тэрыторыі раёна. Гэтыя глебы ўсюды разворани за выключэннем лясных масіваў. У аснове гэтага тыпу глеб пераважае марэнны суглінак, а дзе-нідзе сустракаюцца сярэдне - і дробназярністыя пяскі.

Слабападзолістыя глебы найболей шырока распаўсюджаны ў раёне Нёманскай нізіны.

Прыкладам дзярнова-падзолістай сярэднеакультуранай глебы, якая развіваецца на розных глебаўтваральны пародах, можа служыць разрэз, закладзены каля вёскі Сіманы, на паўночным захадзе калгаса "Нёман".

| | |
|---|---|
| Ап / 0-36 см | ворны гарызонт, светла-шэрага колеру, пясок дробназярністы, звязны, свежы, завалунены, працяты каранямі раслін. |
| $A_2B_1$ / 36-56 см | падзоліста-ілювіяльны гарызонт, пясок дробназярністы шэрага колеру зверху і зямліста-жоўтага к нізу, рыхлы, моцна завалунены вялікімі валунамі (дыяметр 20-25 см), шмат дробных валуноў. Пераход паступовы. |
| $B_1$ / 56-125см | ілювіяльны гарызонт. Жоўты дробназярністы пясок, свежы ўшчыльнены з пляма- |

мі і праслойкамі суглінкавага пяску. Пераход паступовы.

$B_2$ / 125-160 см — ілювіяльны гарызонт. Жоўтага колеру пясок, дробназярністы з праслойкамі буравата-жоўтага пяску, свежы ўшчыльнены, пераход роўны, ніжэй ідзе суглінак.

У сельскагаспадарчай вытворчасці пясчаныя глебы амаль не выкарыстоўваюцца. У выніку водапранікальнасці і нязначнага ўвільгатнення яны прапускаюць атмасферныя ападкі на вялікую глыбіню. У сілу гэтага на пясчаных пародах фармуюцца звычайныя слабападзолістыя глебы. Усе яны маюць аднастайны склад. Верхні пласт пасля дажджоў хутка адчувае недахоп вільгаці. Толькі з глыбінёй ступень вільготнасці некалькі павялічваецца. Таму на пясчаных глебах, як правіла, сеюць такія культуры, якія не патрабуюць шмат вільгаці.

Для большасці глебавых рознасцяў гэтага тыпу глебаў характэрна кіслая рэакцыя асяроддзя, якая з глыбінёй некалькі памяншаецца. Гэтыя глебы слаба забяспечаны фосфарам. Запасы рухомага калію ў іх таксама нязначныя. Звычайна не перавышаюць 3,7 мг на 100 г глебы. Адзіным рацыянальным прыёмам прадуктыўнага выкарыстання такіх земляў з'яўляецца пасеў сідаральных культур - лубіну, сырадэлі - і вапнаванне.

Прыклад слабападзолістай глебы, якая развіваецца на рыхлых пясках і падсцілаецца пяскамі, прыведзены ніжэй. Разрэз закладзены ў калгасе "Новы Нёман", каля вёскі Моцевічы. На шырокахвалістай перасечанай грудамі мясцовасці, парослай ядлоўцам і лішайнікам.

$A_0$ / 0-2 см — дзярніна рыхлая з каранёў раслін.

$A_1$ / 2-19 см — перагнойны гарызонт, угары шэры, ніжэй жоўты пясок, дробназярністы, рыхлы, свежы, прарэзаны каранямі раслін. Пераход амаль не выражаны.

$A_2B_1$ / 19-56 см — падзоліста-ілювініяльны гарызонт такога ж колеру, пясок дробназярністы, свежы, рыхлы. Пераход паступовы.

$B_1$ / 56-136 см — ілювіяльны гарызонт, пясок жоўты, чуць святлей за $A_1$, свежы, рыхлы, дробназярністы.

Характэрнай марфалагічнай прыкметай падзолістых пясчаных глеб з'яўляецца адсутнасць ясна выражанага падзолістага гарызонту $A_2$ і наяўнасць пераходнага жоўтага па колеры гарызонту, які паступова асвятляецца, пераходзіць у светла-жоўты пясок. Глебы гэтыя галоўным чынам кіслыя: pH у KCl 4,2-4,4. З глыбінёй кіслотнасць значна памяншаецца - pH у KCl да 6,0.

Эфектыўная ўрадлівасць гэтых глеб вельмі нізкая, перегнойный гарызонт слаба выражаны. З прычыны вялікай водапранікальнасці і малой вільгацеёмкасці пяшчаных глеб атмасферныя воды хутка прасочваюцца на вялікую глыбіню, вышчалачваючы і збядняючы глебу на карысныя рэчывы. У засушлівыя гады расліны пакутуюць ад недахопу вільгаці. Практычнае выкарыстанне гэтых глеб вельмі малое. Больш за ўсё яны заняты лесам, хмызняком, ядлоўцам, лішайнікам і да т.п.

У месцах распаўсюду дадзенай марэны сфармаваліся дзярнова-падзолістыя супясчаныя глебы, якія падсцілаюцца з рознай глыбіні марэнным суглінкам. Найбольшы распаўсюд яны атрымалі на поўначы і ў сярэдняй частцы раёна. У залежнасці ад магутнасці супесі на ўрадлівасць гэтай рознасці глебы аказвае парода падсцілу. Пры падсціланні супесяў суглінкамі глебы маюць лепшыя сельскагаспадарчыя якасці, чым пры падсціланні пяскамі. У сувязі з меншай водапранікальнасцю суглінкаў падсцілу глебы слаба вышчалачаны, меней кіслыя, багацей на пажыўныя рэчывы. Пры падсціланні супесяў пяскамі рэзка пагаршаецца водны рэжым глеб.

У сувязі з вялікай водапранікальнасцю пяскоў падсцілу значная частка атмасферных ападкаў хутка прасочваецца на вялікую глыбіню і становіцца недаступнай для раслін. Таму водны рэжым гэтых глеб знаходзіцца ў залежнасці ад выпадзення ападкаў.

Пра марфалогію дзярнова-падзолістых глеб, якія падсцілаюцца праслойкай звязнага пяску, а з глыбіні 50-60 марэнным суглінкам можна меркаваць з апісання разрэзу, закладзенага на роўным плато ў 250 м на сярэднезавалуненай раллі.

Ап / 0-23 см — ворны гарызонт шэрага колеру, рыхлая пясчаністая супесь, сярэднезавалуненая, бесструктурная. Пераход прыкметны.

$A_2B_1$ / 23-60 см — ілювіяльна-падзолісты гарызонт жоўтага колеру, сярэднезярністы, звязны пясок сярэднезавалунены. Пераход зацёкамі.

B2 / 60-141 см — марэнны суглінак чырвона-бурага колеру, ушчыльнены, моцна завалунены.

Дзярнова-падзолістыя супясчаныя глебы, якія падсцілаюцца рыхлымі пяскамі, маюць наступны марфалагічны выгляд:

Ап / 0-35 см — ворны гарызонт, супесь рыхлая пясчаністая шэрага колеру, сярэднепрацяты каранямі раслін, слаба завалулены, рыхлы. Пераход ясны.

$A_2B_1$ / 35-69 см — ілювіяльны падзолісты гарызонт жоўтага колеру. Пясок звязны сярэднезярністы, слаба завалунены. Пераход слаба прыкметны.

B / 69-148 см — ілювіяльны гарызонт светла-шэрага колеру, пясок звязаны сярэднезярністы слаба завалунены. Пераход слаба прыкметны.

Як відаць з марфалагічных разрэзаў, гэтыя

глебы маюць трохскладную будову. Г.зн. яны сфармаваліся на 3-х пародах, якія адрозніваюцца адна ад адной рознымі фізіка-механічнымі і хімічнымі ўласцівасцямі.

Працэс ападзолівання ў сувязі з малой вільгацеёмкасцю і добрай водапранікальнасцю адбываецца недастаткова інтэнсіўна. Таму гэты від глебаў не мае ясна выяўленага падзолістага гарызонту, які дасягае не больш за 23 см.

Рыхла-супясчаныя глебы, якія падсцілаюцца пяскамі, адрозніваюцца ад вышэйапісаных глебаў двухскладнай будовай, бо маламагутныя рыхлыя супесі падсцілаюцца непасрэдна пяском. Лёгкасць механічнага складу і падсціланне пяском некалькі паляпшае натуральнае дрэнажаванне гэтых глебаў, таму ў такіх глебаў слабей выяўляюцца прыкметы аглеення, чым у глебаў, якія падсцілаюцца марэнай. Пры падсціланні супесяў марэнай, ва ўмовах раўнін і паніжэнняў працэсы забалочвання выяўлены мацней. Па сваіх фізічных уласцівасцях супясчаныя глебы набліжаюцца да пяскоў. Вільготнасць супясчаных глебаў у летні перыяд нізкая. Гэты тып глебаў адносіцца да кіслых і сярэдне-кіслых глебаў, pH у KCl вагаецца ў межах 4,6 - 4,8. Часам яны бываюць слаба-кіслымі з паказчыкам pH у КСД 4,7 - 5,0.

Ступень насычанасці глеб асновамі вагаецца ў шырокіх межах. У глеб, якія падсцілаюцца марэнным суглінкам яна дасягае ў ворных гарызонтах 60-70%. Гідралітычная кіслотнасць невялікая з глыбінёй яшчэ памяншаецца і вагаецца ў ворных гарызонтах ад 2,82 да 1,71 м.экв. на 100 г. глебы. Сума паглынутых асноваў дасягае значнай велічыні, асабліва ў ворным гарызонце.

Глебы гэтыя адрозніваюцца больш высокай забяспечанасцю рухомым фосфарам і каліем. На некаторых участках фосфару ўтрымоўваецца 10-15 мг на 100 г глебы. Рухомага калію ўтрымоўваецца нязначная колькасць, галоўным чынам 4,0-5,0 мг на 100 г глебы.

Адрозніваюць слаба-, сярэдне- і моцна-падзолістыя глебы. Слаба - і сярэднепадзолістыя глебы ў сельскагаспадарчай вытворчасці выкарыстоўваюцца пад пасевы збожжавых і бульбы, а таксама пад цукровыя буракі. Вялікія плошчы пад такімі землямі заняты ў паўночнай і паўночна-ўсходняй частцы раёна. Гэта найболей каштоўныя і высока-ўраджайныя глебы ва ўмовах Лідскага раёна.

**Дзярнова-падзолістыя забалочваныя глебы**

**Дзярнова-падзолістыя забалочваныя глебы** ад дзярнова-падзолістых глебаў звычайнага ўвільгатнення адрозніваюцца тым, што нароўні з дзярновымі і падзолістымі працэсамі, у іх адбываюцца працэсы забалочвання ў форме аглеення. Аглеенне бывае суцэльным і плямамі. Працэсы забалочвання дзярнова-падзолістых глеб выяўляюцца то ў сілу павышанай вільгацеёмкасці глебаў, то з прычыны назапашвання атмасферных водаў у паніжаных месцах, то ў сілу блізкасці ад паверхні глебава-грунтовых водаў.

У дзярнова-падзолістых забалочваных глебах вылучаюцца слаба - і сярэднепадзолістыя з прыкметамі аглеення, якія развіваюцца на супесях рыхлых пясчаністых, якія падсцілаюцца на розных глыбінях марэнным суглінкам ці пяскамі. Марфалагічны разрэз першай рознасці гэтых глебаў прыведзены ніжэй:

| | |
|---|---|
| Ап / 0-29 см | ворны гарызонт цёмна-шэрага колеру, звязны пескаваты супесак сярэднепрацяты каранямі, сыры. Пераход ясны, ушчыльнены. |
| $B_1$ / 29-61см | ілювіяльныы гарызонт бура-жоўтага колеру са слядамі ападзольвання, пясок звязны дробназярністы, сыры, бурыя плямы вокіснага жалеза. Пераход няроўны, зацёкамі. |
| $B_2$Д / 61-110 см | ілювіяльны гарызонт, суглінак марэнны чырвона-бурага колеру з блакітнаватымі плямамі аглеення, сыры, шчыльны. |

Пра марфалогію звязна-супясчаных глебаў, якія падсцілаюцца пяскамі, можна меркаваць па апісанні разрэзу, закладзенага ў калгасе імя Войкава, на слабым паніжэнні да поймы ракі Дзітвы.

| | |
|---|---|
| Ап / 0-18 см | ворны гарызонт шэрага колеру, рыхлая пясчаністая супесь, бесструктурная. Пераход няроўны. |
| $B_2B_1$ / 18-23 см | ілювіяльна-падзолісты гарызонт брудна-жоўтага колеру, таксама рыхлая пясчаністая супесь. Пераход слаба прыкметны. |
| $B_2$ / 23-100 см | іллювіяльны гарызонт буравата-жоўтага колеру, звязны дробназярністы пясок іржава-охрыстага колеру з плямамі. Пераход зацёкамі. |
| $B_2$Д / 110-180 см | Пясок дробназярністы шызага колеру, ушчыльнены, вільготны, слабааглеены. |

Адрозніваюцца гэтыя глебы двухскладнай будовай і некалькі расплывістым генетычным гарызонтам. Аграхімічныя паказчыкі паказваюць на сярэднекіслую рэакцыю асяроддзя - pH у KCl 4,9 - 5,4, якая з глыбінёй некалькі памяншаецца.

Гідралітычная кіслотнасць вагаецца ў межах 1,19 - 2,73 м-экв на 100 г. глебы. Сума паглынутых асноваў 3,9 - 5,6 мг на 100 г глебы. Запасы фосфару некалькі больш 5,07 - 7,5 мг на 100 г глебы. Ступень насычанасці глеб асновамі 51,6 - 83%. Да недахопаў гэтых глебаў адносіцца залішняе ўвільгатненне, з-за якога надоўга затрымліваецца апрацоўка, пагаршаецца водны рэжым. Таму асноўныя мерапрыемствы павінны быць накіраваны на ўзбагачэнне ворнага гарызонту арганічнымі і мінеральнымі рэчывамі, паляпшэнне працэсу аэрацыі.

На плоскіх нізінных участках і па выцягнутых вузкіх лагчынах распаўсюджаны дзярнова-слаба-, сярэдне- і моцнападзолістыя з прыкметамі часовага залішняга ўвільгатнення, супясчаныя глебы, якія развіваюцца на супесях рыхлых, пясчаністых, што падсцілаюцца з глыбіні 40-50 см марэнным слаба-аглееным

суглінкам ці дробназярністымі пяскамі. Улетку па сваіх фізічных уласцівасцях нічым не адрозніваюцца ад супясчаных глеб звычайнага ўвільгатнення.

Глебы такога тыпу на тэрыторыі Лідскага раёна займаюць значныя плошчы ў цэнтры і на захадзе раёна. Асабліва іх шмат у калгасах імя Войкава, імя Леніна, імя Калініна, "Ударнік", "Прагрэс" і інш. Агульная плошча складае 26,3%. Выкарыстоўваюцца такія ўчасткі звычайна пад лён ці збожжавыя.

### Дзярнова-балотныя глебы

**Дзярнова-балотныя глебы** прымеркаваны да паніжаных участкаў тэрыторыі. Сфармаваліся яны пад уплывам дзярновага і балотнага працэсаў. Дзёран, які ўтвараецца пад травяным покрывам, з цягам часу ў аэробных умовах раскладаецца, і глебы ўзбагачаюцца арганічнымі рэчывамі, памяншаецца водапранікальнасць і моцна павялічваецца вільгацеёмістасць. Атмасферныя воды затрымоўваюцца ў перегнойным гарызонце. Ствараюцца аэробныя ўмовы. Пад іх уплывам працякае працэс глебаўтварэння.

Фармаванне балотных глебаў у межах Лідскага раёна звязана з блізкім заляганнем грунтовых водаў. Гэтыя воды ўзбагачаюць зямлю мінеральнымі элементамі, нейтралізуюць кіслотнасць. У выніку гэтага тут звычайна расце багаты травастой, які ўзбагачае глебу арганічнымі рэчывамі.

Такія глебы маюць больш высокую прыродную ўрадлівасць у параўнанні з дзярнова-падзолістымі забалочванымі глебамі. Аднак залішняе ўвільгатненне перашкаджае выкарыстанню іх багатай урадлівасці. Для эфектыўнага іх выкарыстання неабходна праводзіць асушальныя работы.

Сустракаюцца дзве рознасці гэтага тыпу глебаў: дзярнова-глееватыя глебы на рыхлых супесях, якія падсцілаюцца з глыбіні 30-45 см розназярністымі пяскамі, яны займаюць больш узвышаныя ўчасткі, і дзярнова-перагнойна-глееватыя і глеевыя глебы на супесях звязных, якія падсцілаюцца з глыбіні 40-50 см розназярністымі пяскамі.

Марфалагічную будову глебы першы рознасці можна бачыць з глебавага разрэзу, закладзенага ў калгасе імя Войкава за 100 м на ўсход ад вёскі Яўсеевічы на куп'істай пашы з рэдкай расліннасцю.

| | |
|---|---|
| A / 0-3 см | дзёрн цёмна-шэрага колеру шчыльны, сярэдне-пераплецены каранямі раслін. |
| $A_1$ / 3-14 см | перегнойный гарызонт цёмна-шэрага колеру, дробназярністы, звязны пясок. Пераход паступовы, ясны. |
| $B_1$ / 14-28 см | ілювіяльны гарызонт жоўта-шэрага колеру, дробназярністы звязны пясок. Пераход паступовы. |
| $B_2Д$ / 28-25 см | ілювіяльны гарызонт буравата-жоўтага колеру, розназярністы пясок, мокры, аглеены, слабазавалунены. Пераход слабапрыкметны. |
| $B_3Д$ / 56-110 см | ілювіяльны гарызонт бялявага колеру, рыхлы розназярністы пясок, мокры, аглеены. |

З марфалагічнага апісання відаць, што глебы гэтага тыпу маюць двухскладную будову, г.зн. маюць маламагутны пласт покрыўных супесяў, якія непасрэдна падсцілаюцца марэннымі рознозярністымі пяскамі.

Для гэтых глебаў характэрна нейтральная, блізкая да шчолачнай, рэакцыя асяроддзя: pH у KCl складае 6,0-6,6, часам - 7,6.

Характарыстыка марфалагічнай будовы дзярнова-перагнойна-глееватых глебаў дадзена ў разрэзе, закладзеным у калгасе імя Войкава, каля вёскі Янцэвічы, на злёгку закустараным куп'істым лузе:

| | |
|---|---|
| A / 0-3 см | дзёрн цёмна-шэрага колеру, сярэдне пераплецены каранямі раслін. |
| $A_1$ / 3-24 см | перегнойны гарызонт цёмна-шэрага колеру, звязная пясчаністая ўшчыльненая супесь. Пераход ясны. |
| $B_1Д$ / 24-40 см | ілювіяльны гарызонт жоўта-сізаватага колеру, звязны дробназярністы аглееный пясок. Пераход ясны. |
| $B_2Д$ / 40-116 см | ілювіяльны гарызонт бура-блакітнага колеру, розназярністы мокры пясок, а з глыбіні 67 см з'явілася вада. |

Глеевыя глебы маюць аднолькавую будову і адрозніваюцца суцэльным, добра выражаным глеевым гарызонтам і некалькі большым перегнойным пластом.

Рэакцыя гэтых глебаў блізкая да нейтральнай: pH у KCl 5,8-7,2. Гэтыя глебы багатыя арганічнымі рэчывамі. Але разам з тым у іх мала фосфару і калію.

Тым часам, пры асушванні і правільным выкарыстанні яны здольныя нашмат павялічыць сваю прадуктыўнасць.

Дзярнова-балотныя глебы на тэрыторыі раёна не атрымалі шырокага распаўсюду і сустракаюцца вузкімі палосамі ў агульных масівах. Выкарыстоўваюцца галоўным чынам пад пашы, радзей - пад сенажаці.

### Тарфяна-балотныя глебы

**Тарфяна-балотныя глебы** займаюць шырокія масівы ў цэнтральнай і заходняй частцы раёна. У калгасах імя Войкава, імя Леніна, "Нёман", "Сцяг Саветаў" і іншых, і выкарыстоўваюцца галоўным чынам пад сенажаці. Яны таксама валодаюць высокай прыроднай урадлівасцю. Але павышанае ўвільгатненне замінае іх выкарыстанню. Удзельная вага іх складае 1,6%.

Прыкладам гэтага тыпу глебаў можа служыць марфалагічны разрэз, закладзены ў калгасе "Ўлада

Саветаў", на выгане рэдка парослым хмызняком алешыны, лазы. У травастоі пераважае асака. Значны імховы покрыў, які складаецца з зялёнага моху.

| | |
|---|---|
| $A_0$ / 0-4 см | шчыльны дзёрн з карэняў травы. |
| АТ / 4-35 см | торф чорна-карычневы, асаковы, сярэднераспаўшыся, ушчыльнены, вільготны, прыкметныя рэшткі раслін. Пераход ясны, роўны. |
| ВС / 35-65 см | ілювіяльны гарызонт сізавата-блакітнаватага колеру, вільготны аглеены марэнны суглінак, прыкметны жоўтыя плямы. |

Тарфяна-балотныя глебы займаюць 1,6% усёй плошчы раёна. Тарфяна-балотныя глебы пераходнага тыпу сустракаюцца вельмі рэдка на невялікіх упадзінах, сподках. Агульная плошча іх складае толькі 0,3%. Яны маюць вельмі кіслую рэакцыю. Усе пераходныя тарфянішчы слабараспаўшыеся, бачны карані моху і іншых раслін. На такіх балотах расце багун, сфагнавы мох, журавіны, сасна. Практычнае значэнне гэтага віду глебаў вельмі малое.

### Поймава-алювіяльныя глебы

У **поймава-алювіяльных глебах** вылучаюцца дзярнова-забалочваныя глееватые і глеевые рознасці. Сустракаюцца яны па абодва бакі рэк Дзітвы, Лебяды. Нёмана. Глебы гэтыя заўсёды ўвільготнены. Валодаюць вялікай патэнцыйнай урадлівасцю. Поймавыя землі заўсёды пры асушванні і асваенні становяцца высокаўраджайнымі. Прыносяць вялікія прыбыткі гаспадарцы. Глебы гэтага тыпу складаюць 0,23% усёй плошчы раёна. Практычна гэтыя глебы выкарыстоўваюцца ў якасці натуральных лугавых сенажацяў.

Марфалагічная будова гэтага віду глебаў відаць з прыведзенага апісання разрэзу.

| | |
|---|---|
| $A_0$ / 0-3 см | дзёрн, суцэльнае спляценне каранёў. |
| $A_1$ / 3-26 см | перагнойны гарызонт цёмна-шэры з карычневым адценнем, пясок звязны сярэднезярністы, свежы, карані. Пераход ясны. |
| $A_1A_2$ | перагнойна-ападзолены гарызонт, пясок буйны жаўтавата-шэры, буйназярністы, пунктацыя марганцу, плямы перагною, бурыя плямы гідравокісу жалеза. Пераход ясны. |
| $B_1Д$ / 63-93 см | ілювіяльны гарызонт, пясок шызы, рыхлы, буйназярністы. Пераход ясны. |
| У / 93-120 см | аглеенны гарызонт, пясок шызы, рыхлы буйназярністы. |

Глебы гэтага тыпу адрозніваюцца сярэдняй кіслотнасцю: pH у KCl 5.0 - 5,2.

### Эрозія глебаў і меры барацьбы з ёй

Эрозія глебаў для Лідскага раёна не характэрна. На поўначы, у наваколлях марэннага рэльефу, па схілах узгоркаў выяўляецца плоскаснае змыванне ў выглядзе дробнаструменевага разбурэння павярхоўнага пласта глебы. Гэта спрыяе павышэнню завалуненасці асобных участкаў.

Пры гаспадарчым выкарыстанні глебавых рэсурсаў раёна варта мець на ўвазе, што дзярнова-падзолістыя глебы Лідскага раёна па сваім паходжанні з'яўляюцца не толькі кіслымі і малаўраджайнымі. У іх вельмі мала ўтрымоўваецца такіх пажыўных рэчываў, як азот, кальцый, магній, малібдэн і іншыя. Высокая кіслотнасць глебаў уплывае на рост і развіццё пшаніцы, ячменю, гароху, буракоў, капусты, канюшыны, сырадэлі. Акрамя таго яна прыгнятае жыццядзейнасць карысных для земляробства мікраарганізмаў.

Аднак пры правільным доглядзе глебаў яны могуць даць добрыя ўраджаі. Найболей эфектыўным сродкам паляпшэння ўрадлівасці глеб і павышэння ўраджайнасці палёў з'яўляецца вапнаванне з ужываннем арганічных і мінеральных угнаенняў. Такім шляхам можна ў 2-3 разы павялічыць ураджайнасць сельскагаспадарчых культур.

Для гэтых мэтаў створана будаўніча-мантажнае кіраванне (БМК), задачай якога з'яўляецца найхутчэйшае выкананне плану меліярацыйных работ. У мінулыя гады на тэрыторыі раёна было правапнавана 6,0 тыс. га. Па плане меліярацыйных работ у 1966 годзе павінна буць правапнавана яшчэ 6,0 тыс. га кіслых глебаў. Будуць праводзіцца і асушальныя работы. За 1966 год у раёне спланавана асушыць 2,0 тыс. апроч ужо асушаных 6,3 тыс, у тым ліку дрэнажным спосабам 1,2 тыс. га. Такім чынам, у раёне павінна быць праведзена паляпшэнне каля 8,0 тыс. га сельскагаспадарчых зямель.

## КЛІМАТ РАЁНА

### 1. Агульная характарыстыка клімату

Агульныя рысы клімату Лідскага раёна вызначаюцца геаграфічным становішчам. Знаходзячыся блізка ад Атлантычнага акіяна, тэрыторыя раёна падвяргаецца ўплыву паветраных мас, якія фармуюцца над ім. Клімат тут адрозніваецца мяккасцю і ўмеранай вільготнасцю. Гэтаму спрыяе цыкланічная дзейнасць Атлантычнага акіяна, выпарэнне і транспірацыя раслін у летні час. Сярэдняя тэмпература паветра ўлетку невысокая, 17,5$^{O}$C, а ўзімку не змяншаецца ніжэй за -10$^{O}$. Клімат характарызуецца аднак зменлівасцю тэмператур як у летні, так і ў зімовы час, зменлівасцю надвор'я пад уздзеяннем частага ўварвання паветраных мас з іншых геаграфічных шырот.

Уварванне арктычных паветраных мас часцей за ўсё адбываецца ў тыле цыкланічнай серыі. Арктычнаму ўварванню можа папярэднічаць інтэнсіўная адліга, што звычайна служыць прычынай утварэння

*Табліца № 2*

## Сярэднегадовыя шматгадовыя кліматычныя паказчыкі раёна
(па дадзеных Лідскай метэастанцыі)

| № п\п | Паказчыкі | I | II | III | IV | V | VI | VII | VIII | IX | X | XI | XII | Сум./сярэд. за год |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Ападкі (у мм) | 30 | 26 | 31 | 41 | 59 | 75 | 78 | 79 | 60 | 44 | 47 | 35 | 605 |
| 2. | Сярэдняя тэмп. паветра(у гр. С) | -6,1 | -6,5 | -1,8 | 5,7 | 12,7 | 14,9 | 17,4 | 16,2 | 12,0 | 6,2 | 1,3 | -3,4 | +5,7 |
| 3. | Адносная вільготнасць (у %) | - | - | - | 62 | 58 | 61 | 61 | 66 | 67 | 74 | - | - | 64 |
| 4. | Лік марозных дзён | 20 | 26 | 26 | 12 | 2 | - | - | - | 1 | 1 | 17 | 26 | 148 |

ледзяной скарынкі. Гэта ўварванне суправаджаецца рэзкім пахаладаннем, парывістым ветрам паўночна-ўсходняга і паўночнага кірункаў і пераменнай воблачнасцю. Часам арктычныя паветраныя масы пранікаюць на тэрыторыю Лідскага раёна і ў летнія месяцы, выклікаючы замаразкі і нават снегапады (1962 г.)

Кантынентальныя трапічныя паветраныя масы, якія адрозніваюцца высокай тэмпературай (да $+36^{O}$C), сухасцю, прыходзяць у межы Лідскага раёна з поўдня, а часцей з паўднёвага ўсходу. Яны паніжаюць адносную вільготнасць паветра. Часам сухое арктычнае марское паветра, якое хутка саграваецца на кантынен-це і ўтварае антыцыклон, нясе засуху.

Шматгадовыя назіранні, праведзеныя на Лідскай метэаралагічнай станцыі, паказваюць, што сярэднегадовая тэмпература паветра складае $5,7^{O}$C. Штогод выпадае 605 мм (гл. табліцу №2) ападкаў.

Для тэрыторыі раёна характэрны замаразкі. Пад замаразкам разумеецца кароткачасовае паніжэнне тэмпературы прыземнага пласта паветра і паверхні глебы да $0^{O}$ і ніжэй на агульным фоне дадатнай тэмпературы. Замаразкі тут магчымыя ва ўсе сезоны года. Аднак найболей інтэнсіўнае праяўленне іх назіраецца ў вяснова-восеньскі перыяд. Шматгадовыя назіранні паказваюць, што ў большасці выпадкаў замаразкі спыняюцца ў красавіку-траўні. Так у 1961 годзе апошні замаразак адзначаны 30 красавіка, у 1965 годзе - 16 траўня. Першыя замаразкі бываюць у верасні (21 верасня 1963 г.)

У практычным жыцці замаразкі ўяўляюць вялікую небяспеку для сельскагаспадарчай вытворчасці, знішчаючы раннія ўсходы сельскагаспадарчых культур. Таму іх прадказанне і барацьба з імі ўяўляюць задачу практычнага значэння.

У барацьбе з замаразкамі найболей эфектыўным можа быць прымяненне дымавых заслонаў ад вогнішчаў, а таксама накрыванне пасеваў і ўсходаў, калі гэтыя пасевы ці ўсходы па плошчы невялікія.

Змена кліматычных элементаў знаходзіцца ў прамой залежнасці ад пануючых вятроў. Вятры заходніх румбаў прыносяць вільготныя паветраныя масы Атлантычнага акіяна, а вятры ўсходніх румбаў прыносяць сухія кантынентальныя паветраныя масы, збедненыя вільгаццю. Гэта вырашальным чынам уплывае на тэмпературны рэжым клімату і рэжым ападкаў. Такую заканамернасць можна ўстанавіць прааналізаваўшы дадзеныя метэаралагічных назіранняў на працягу гадоў, зробленых Лідскай метэастанцыяй у апошнія 1960-65 гг.

### 2. Тэмпературны рэжым

Вырашальным фактарам клімату ў цэлым, пры фармаванні паветраных мас, насычэнні іх вільгаццю з'яўляецца тэмпературны рэжым. Тэмпература паветра, глебы залежыць ад актыўнасці сонечнай радыяцыі, якая знаходзіцца ў прамой залежнасці ад геаграфічнага становішча Лідскага раёна, ступені абароненасці паверхні расліннасцю, ад наяўнасці буйных вадаёмаў.

На тэмпературны рэжым раёна вырашальны ўплыў аказвае басейн Атлантычнага акіяна і яго мораў. Пад уздзеяннем усіх кліматычных фактараў на тэрыторыі Лідскага раёна сфармаваўся ўмерана-кантынентальны клімат. Сярэдняя гадавая тэмпература паветра як і па ўсёй Беларусі, дадатная і складае $+5,7^{O}$C.

У асобныя гады сярэднія тэмпературы могуць павялічвацца, а часам паніжацца. Гэта відаць з прыведзенай ніжэй табліцы сярэднегадавых тэмператур паветра за 1960-65 гг.

Максімальная працягласць дня бывае 21\VI і складае 17 гадзін 10 хвілін. Вышыня Сонца ў гэты дзень - $59^{O}27$'.

Мінімальная працягласць дня - 22\XII. Дзень працягваецца толькі 7 гадзін 20 хвілін. Вышыня Сонца над гарызонтам - $12^{O}30$'.

У зімовы час сонечнае ззянне скарачаецца да 26-30%.

Супастаўляючы кліматычныя дадзеныя за шэраг гадоў (з 1960 па 1965 улучна), варта зрабіць выснову, што ў асобныя гады маюцца некаторыя адхіленні ў кліматычных паказчыках сярэднегадавых, сярэднямесячных. Гэта відаць з ніжэйзгаданых табліц 2 і 3).

Змена тэмператур на тэрыторыі раёна не перавышае 1-$2^{O}$C. Па дадзеных назіранняў, праведзеных настаўнікам Хадзюкоўскай пачатковай школы Н.Н. Кучынскім, у 1964-1965 гадах сярэднегадавая тэмпе-

*Табліца 3*

**Сярэднегадовыя тэмпературы Лідскага раёна за 1960 - 65 гг.**
(дадзеныя Лідскай метэастанцыі).

| Гады / Паказчыкі | 1960 | 1961 | 1962 | 1963 | 1964 | 1965 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Сярэднегадовая тэмпература паветра (у $^{O}$C) | 6,3 | 7,0 | 5,6 | 5,4 | 5,7 | 5,0 |

*Табліца 4*

| Гады / Паказчыкі | 1960 | 1961 | 962 | 1963 | 1964 | 1965 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Сярэдняя тэмпература паветра студзеня | -5,2 | -4,5 | -1,8 | -13,4 | -5,4 | -4,4 |
| Сярэдняя тэмпература паветра лютага | -6,4 | -0,6 | -5,2 | -9,7 | -8,6 | -7,9 |

*Табліца № 5*

**Сярэднямесячная тэмпература ліпеня за 1960-65 гг.**
(па дадзеных Лідской метэастанцыі)

| Гады / Паказчыкі | 1960 | 1961 | 1962 | 1963 | 1964 | 1965 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Сярэднямесячная тэмпература ліпеня (у $^{O}$C) | 18,2 | 16,7 | 15,4 | 19,4 | 18,4 | 15,8 |

ратура склала + 6,1$^{O}$C (без уліку начных тэмператур), супраць + 5,0$^{O}$C па дадзеных Лідскай метэастанцыі.

Самым халодным месяцам з'яўляецца люты. Сярэдняя тэмпература лютага складае - 6,5$^{O}$C (супраць - 6,1$^{O}$C у студзені). З шасці гадоў (1960-1965 гг.) у чатырох сярэдняя тэмпература лютага была ніжэй за студзеньскую. Аднак у асобныя гады самым халодным з'яўляецца студзень (1961, 1963).

Ніжэй прыведзены сярэднямесячныя тэмпературы лютага ў параўнанні з сярэднямесячнымі тэмпературамі студзеня за 1960-1965 гг.

Як відаць з табліцы, сярэдняя тэмпература лютага вагаецца ад -0,6$^{O}$C да -9,7$^{O}$C.

Мінімум тэмператур адзначаны 18/1-1963 г., дасягнуў - 30,4$^{O}$C.

Пад уплывам змены тэмпературы паветра адбываецца і змена іншых кліматычных элементаў: ціску, вільготнасці, тэмпературы глебы, воблачнасці і да т.п.

Найболей высокія тэмпературы адзначаюцца ў ліпені. Ліпень з'яўляецца самым цёплым месяцам у годзе. Сярэдняя шматгадовая тэмпература паветра ў ліпені складае + 17,4$^{O}$C. Максімальная тэмпература ліпеня дасягнула + 35,1$^{O}$C (1959 г.) Мінімальная тэмпература гэтага месяца складае + 6,4$^{O}$C. Такім чынам, амплітуда вагання тэмператур ліпеня змяняецца ў межах ад + 6,4$^{O}$C да + 35,1$^{O}$C і складае 28,7$^{O}$C.

Гадавая амплітуда максімальных і мінімальных тэмператур складае 65,5$^{O}$C, а сярэдніх - 25,5$^{O}$C.

Хуткае павышэнне тэмпературы пачынаецца ў апошняй дэкадзе сакавіка і першай дэкадзе красавіка і працягваецца да чэрвеня. У астатнія месяцы павышэнне адбываецца паступова. З ліпеня пачынаецца павольнае паніжэнне тэмператур, апускаючыся ў снежні да - 5$^{O}$C -5,8$^{O}$C. Пераход тэмператур праз 0$^{O}$ адбываецца ў сакавіку і кастрычніку, праз + 5$^{O}$C - у красавіку і верасні, праз + 10$^{O}$C - у траўні і жніўні і праз + 15$^{O}$C - у чэрвені і жніўні.

Кульмінацыйныя кропкі пераходу тэмператур цераз 0$^{O}$C, + 5$^{O}$C, + 10$^{O}$C з'яўляюцца пачатковымі тэрмінамі сезонаў года. Вегетацыйны перыяд складае 194 дні, а часам можа быць больш працяглым.

Тэмпература глебы знаходзіцца ў прамой залежнасці ад тэмпературы паветра, рэльефу і снежнага покрыву. Пры маласнежных зімах тэмпература яе рэзка паніжаецца і прамярзанне даходзіць да глыбіні 1 м. Аднак такія з'явы бываюць рэдка. Сярэдняе прамярзанне глебы складае 60-65 см, найвялікаму астуджэнню падвяргаюцца глебы на ўзвышаных участках.

Па дадзеных метэаралагічнай станцыі горада Ліды тэмпература паверхні глебы змянялася (1960-1965 г.) у адпаведнасці з *Табл. 8.*

Улетку глебы моцна праграваюцца. Найвышэйшая тэмпература іх дасягае ў чэрвені-ліпені (17-26$^{O}$C).

### 3. Вільготнасць

У цеснай залежнасці ад тэмпературнага рэжыму паветра знаходзіцца абсалютная і адносная вільготнасць. Абсалютная вільготнасць знаходзіцца ў прамой залежнасці, і з павышэннем тэмпературы паветра паказчык абсалютнай вільготнасці таксама ўзрастае. Змена абсалютнай і адноснай вільготнасці адбываецца па порах года.

Адносная вільготнасць паветра ў зімовыя месяцы нашмат вышэй, чым у летнія. З аналізу матэрыялаў Лідскай метэаралагічнай станцыі за 1960-1965 гады можна бачыць, што яна вагаецца ў межах ад 80% да 93%.

Максімальная сярэднямесячная адносная вільготнасць паветра дасягнула 93% у лістападзе і снежні 1960 г., мінімальная ж склала 62% - чэрвень 1964 г. Сярэдняя адносная вільготнасць зімовага часу роўная

92%, летняя ж усяго 73%. Адгэтуль няцяжка бачыць, што на тэрыторыі Лідскага раёна найболей сухім перыядам года з'яўляецца зіма і вясна. У гэтым можна будзе пераканацца пры разглядзе ападкаў і іх размеркавання па порах года. Змену адноснай вільготнасці на працягу года можна бачыць з табліцы і комплексных графікаў.

У восеньска-зімовы перыяд адносная вільготнасць абумаўляе з'яўленне туманоў. На тэрыторыі Лідскага раёна лік дзён з туманамі вагаецца ад 53 (1960 г.) да 78 (1964 г.) З'яўленне туманоў магчыма не толькі ў восеньска-зімовы час, але і ў летні. Так, у 1960 г. у летні час зарэгістравана 5 дзён з туманамі. У 1955 годзе туманы адзначаны ў кожным месяцы года. Адносная вільготнасць гэтага года таксама была высокай - 72-93%.

З павелічэннем адноснай вільготнасці павялічваецца і воблачнасць. Найбольшы лік пахмурных дзён прыходзіцца на зімовыя месяцы - лістапад-сакавік.

Найменшая колькасць пахмурных дзён прыходзіцца на вяснова-летнія месяцы (чэрвень-жнівень). Сярэдняя воблачнасць гэтых месяцаў вагаецца ад 0 да 3 балаў. (Выключэнне складае 1960 год, калі пахмурнасць дасягнула 5 балаў). Гэта спрыяе больш поўнаму выкарыстанню раслінамі сонечнай радыяцыі, якая ў гэты перыяд дасягае максімуму.

Сярэдняя абсалютная вільготнасць за год па шматгадовых дадзеных для Лідскага раёна роўная 8,4 млб. У зімовы час яна змяняецца ў межах ад 3,0 да 9,0 млб. З падвышэннем тэмператур у красавіку абсалютная вільготнасць хутка пачынае ўзрастаць і ў ліпені дасягае максімуму - 14,2 млб. Зніжэнне тэмператур цягне за сабой зніжэнне абсалютнай вільготнасці. У зімовы час гэтая з'ява становіцца вельмі небяспечнай пры адсутнасці снежнага покрыву. Пры гэтых умовах магчыма вымярзанне зімовых сельскагаспадарчых культур і пладовых дрэў.

Недахоп насычэння вадзянымі парамі паветра згубна адбіваецца на ўсіх сельскагаспадарчых культурах. Для Лідскага раёна гэта з'ява не характэрная, бо абсалютная вільготнасць тут даволі значная.

Важным кліматаўтваральным фактарам з'яўляецца вецер, ад якога залежыць хуткасць выпарэння вільгаці, а такім чынам і адносная вільготнасць. Для Лідскага раёна найболей характэрны вятры паўднёваз. і зах. румбаў.

На працягу 1960-1964 гг. было зарэгістравана 228 выпадкаў вятроў у год гэтых румбаў.

#### 4. Ападкі

Паводле кліматалагічнага раянавання тэрыторыі БССР, праведзенага А. Х. Шкляром (1962 г.) Лідскі раён аднесены да цэнтральнай, цёплай, умерана-вільготнай агракліматычнай вобласці. Пераважная большасць ападкаў прыпадае на перыяд з тэмпературай вышэй за $10^{O}$С - 351 мм ці каля 6% гадавой нормы. Прычым на летнія месяцы прыпадае 232 мм ці 38,6%. У зімовыя месяцы колькасць ападкаў значна меншая. Яна дасягае толькі 138 мм, што складае толькі 23%

*Табліца № 6 (1960 год)*

| № п\п | Паказчыкі | I | II | III | IV | V | VI | VII | VIII | IX | X | XI | XII | Сум./ сярэд. за год |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Ападкі (у мм) | 36,5 | 30,2 | 23,7 | 34,2 | 69,5 | 157,7 | 113,5 | 142,7 | 51,4 | 68,5 | 90,9 | 36,5 | 855,3 |
| 2. | Сярэдняя тэмпература паветра (у $^{O}$С) | -5,6 | -6,4 | -3,6 | -5,6 | 13,0 | 16,9 | 18,2 | 16,4 | 10,6 | 6,5 | 2,5 | 2,0 | +5,8 |

*Табліца № 7 (1963 год)*

| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Ападкі (у мм) | 18,9 | 30,1 | 17,5 | 23,8 | 38,8 | 48,5 | 26,9 | 49,2 | 36,4 | 66,6 | 65,0 | 21,4 | 423 |
| 2. | Сярэдняя температура паветра (у $^{O}$С) | -15 | -10 | -6 | 6 | 19 | 20 | 25 | 22 | 15 | 7 | 3 | -6 | +6,6 |

*Табліца 8*

## Сярэдняя тэмпература глебы (паверхня)

| № п\п | Гады | I | II | III | IV | V | VI | VII | VIII | IX | X | XI | XII | Сярэдне-гадавая |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | 1960 | -6 | -8 | -5 | 6 | 16 | 21 | 21 | 19 | 12 | 7 | 2 | 2 | 7,2 |
| 2. | 1961 | -5 | -1 | 2 | 9 | 14 | 20 | 20 | 18 | 13 | 8 | 2 | -5 | 8 |
| 3. | 1962 | -2 | -6 | -6 | 9 | 12 | 17 | 19 | 18 | 12 | 8 | 3 | -6 | 6 |
| 4. | 1963 | -15 | -10 | -6 | 6 | 19 | 20 | 25 | 22 | 15 | 7 | 3 | -6 | 6,6 |
| 5. | 1964 | -6 | -9 | -6 | 5 | 14 | 26 | 22 | 16 | 12 | 7 | 1 | -2 | 6,6 |

гадавой колькасці выпаўшых ападкаў.

З'ява гэта тлумачыцца тым, што на тэрыторыю раёна ў летні час прыходзяць пераважна цёплыя вільготныя паветраныя масы з Атлантычнага акіяна. Яны становяцца пануючымі. Толькі ў асобныя гады ў межы раёна пранікаюць арктычныя сухія паветраныя масы, пераўтворачыся ў гарачыя кантынентальныя.

У такія часы стаіць сухое, сонечнае гарачае надвор'е. Усталёўваецца антыцыклон.

На рэжым ападкаў тэрыторыі раёна ў асобныя гады ўплываюць Чарнаморска-Міжземнаморскія паветраныя масы. Аднак гэта бывае вельмі рэдка і для Лідскага раёна не характэрна. Найболей яркая праява такога ўздзеяння была ў ліпені 1959 года, калі на працягу ўсяго месяца амаль не выпадалі атмасферныя ападкі і тэмпература паветра дасягнула + 35,1$^{O}$С.

Па шматгадовых дадзеных назіранняў Лідскай метэаралагічнай станцыі ўстаноўлена, што гадавая норма ападкаў для тэрыторыі раёна складае 600 мм. Аднак пад уплывам паказаных вышэй прычын у асобныя гады бываюць значныя адхіленні ад сярэднегадавых кліматычных паказчыкаў. Так, напрыклад, у 1960 годзе на працягу года выпала 855,3 мм. Ці 142,5% гадавой нормы, а ў 1963 годзе толькі 423 мм, г. зн. 70,5%.

Як відаць з дадзеных, адхіленні ў рэжыме ападкаў бываюць значнымі.

Такія адхіленні можна назіраць не толькі ў асобныя гады ў цэлым, але па месяцах. Так, у чэрвені 1960 года выпала 157,7 мм ападкаў, а ў гэтым жа месяцы 1963 года ўсяго толькі 48,5 мм. Можна прывесці і іншыя прыклады. З гэтага варта зрабіць выснову, што на фоне спрыяльнага рэжыму ападкаў, тэрыторыя Лідскага раёна не агароджана ад такіх з'яў, як засуха, што прыносіць сельскай гаспадарцы велізарную шкоду.

У 1964 годзе пад уплывам засухі на пясчаных глебах у паўднёвай частцы раёна (калгасы "Беліца", "Гігант") на вялікіх плошчах загінулі пасевы ярыны. У шэрагу месцаў у ярыны назіралася пустакалосіца, цераззерніца. Зусім загінулі пасевы кукурузы.

У відавых адносінах характэрнымі ападкамі з'яўляюцца дождж, снег, град, галалёд. Колькасна пераважаюць дождж і снег. Дождж выпадае круглы год, нават у зімовы час нярэдкія выпадкі выпадзення моцнага дажджу.

Першы снег часцей за ўсё выпадае ў другой палове лістапада, але ён не ўстойлівы з-за частых адліг. Устойлівы снежны покрыў усталёўваецца, як паказваюць шматгадовыя назіранні, у снежні, часам нават у студзені. Працягласць перыяду з устойлівым снежным покрывам 65 дзён. Размеркаванне снежнага покрыву па месяцах і дэкадах нераўнамернае. Сярэдняя вышыня снежнага покрыву складае 8-10 см. Найбольшая ж вышыня бывае ў лютым-сакавіку (да 60 см), а найменшая ў лістападзе і снежні. У асобныя гады адлігі прыводзяць да поўнага раставання яго. Вышыня снежнага покрыву залежыць ад рэльефу мясцовасці і ступені яго абароненасці ад здзімання. Сярэдняя з максімальных вышынь снежнага покрыву складае 20 см., запас вады ў снезе складае 50-70 мм.

Апошні снег выпадае ў канцы сакавіка, часам на пачатку красавіка. Бываюць аднак выпадкі, калі снег выпадаў у першыя дні чэрвеня (1962 г.).

Выпадзенне граду адбываецца ў вяснова-летневосеньскі час. Ад граду церпяць пасевы сельскагаспадарчых культур. Асабліва - пшаніца, жыта, ячмень.

Туманы ў межах раёна вельмі частыя. Яны аказваюць адмоўны ўплыў на грэчку, прыпыняючы апыленне. Пры частых туманах ураджаі грэчкі рэзка скарачаюцца.

Такім чынам, прааналізаваўшы кліматычныя элементы Лідскага раёна, трэба зрабіць выснову, што тэрыторыя раёна ляжыць у паласе ўмерана-кантынентальнага клімату. Сярэднегадавыя тэмпературы паветра складаюць +5,7$^{O}$С.

Працягласць безмарознага перыяду 244 дні. Самым цёплым месяцам з'яўляецца ліпень (+17,7$^{O}$С) самым халодным - студзень (-6,1$^{O}$С).

Кліматычныя ўмовы цалкам спрыяльныя для вырошчвання самых разнастайных сельскагаспадарчых культур: збожжавых, кармавых, тэхнічных, гароднiны.

**5. Характарыстыка клімату па сезонах**

Для клімату Лідскага раёна, як і для ўсёй Беларусі, характэрна выразнае чаргаванне пор года, якія маюць свае асаблівасці. Для кожнай з іх характэрны свае тэмпературны рэжым, ападкі, вятры і да т.п.

**Зіма** - самая працяглая пара года. Зіма настае напачатку ці ў сярэдзіне снежня, з моманту пераходу тэмпературы паветра праз 5$^{O}$С, часцей за ўсё гэта бывае 9-22 снежня. Працягваецца зіма 142-149 дзён.

У зімовы час пануюць паветраныя масы, якія прыходзяць з Атлантычнага акіяна. Дзьмуць паўднёвыя і паўднёва-заходнія вятры. Часам пранікаюць паветраныя масы з Паўночнага Ледавітага акіяна, выклікаючы рэзкае паніжэнне тэмператур. У асобныя гады пад уздзеяннем атлантычных паветраных мас снежны покрыў растае цалкам. Верагоднасць зім без устойлівага снежнага покрыву - 5-10%. Сярэднія тэмпературы зімовых месяцаў вагаюцца ў межах - 1,8 - 13,4$^{O}$С. Абсалютны мінімум - 30,4$^{O}$С быў адзначаны 18 студзеня 1963 года. У цэлым зіма ў раёне мяккая, багатая снегам. Часты паўтор тумаиоў і пахмурных дзён.

Сярэдняя глыбіня прамярзання глебы ў полі складае 50-65 см, у лесе -15-30 см.

Рэдка, у асобныя маласнежные і халодныя зімы, прамярзанне глебы дасягае 1 м у глыбіню. Такія з'явы паўтараюцца не радзей 1 разу ў 10 гадоў.

**Вясна** - самы нядоўгачасовы з усіх сезонаў. Пачатак вясны настае ў першай палове-сярэдзіне красавіка, 10-19 красавіка з пераходам тэмператур вышэй 5$^{O}$С і працягваецца 39-43 дні. Для вясны характэрна дзеянне ўсходніх і паўднёва-ўсходніх паветраных мас. Тэмпературы паветра вагаюцца ад 3,1$^{O}$С да 16,3$^{O}$С да пачатку красавіка, а ў асобныя гады і ў першай палове

сакавіка, увесь снег растае і ўсталёўваецца вясна. Пранікненне кантынентальных паветраных мас спрыяе таму, што ў вясновы перыяд вельмі часта бываюць замаразкі, якія спыняюцца ў канцы красавіка - пачатку траўня, часам у чэрвені. Поўнае адтайванне глебы настае 18-19 красавіка.

**Лета** пачынаецца ў другой палове траўня, у 10-19 днях траўня, і працягваецца да пачатку верасня (1-14 верасня). Працягласць лета роўная 106-113 дням. Для лета характэрны параўнальна невысокія тэмпературы, багатае выпадзенне ападкаў. Рэдка з'яўляюцца туманы. Сярэднія летнія тэмпературы складаюць +16,2ОС. Максімальная тэмпература +34,5ОС былі адзначаны 26 ліпеня 1963 г., мінімальная +3,0ОС - у чэрвені 1962 г. За летнія месяцы выпадае больш за 30% гадавой нормы ападкаў. Найбольшая колькасць іх выпадае ў ліпені-жніўні. У жніўні тэмпература паступова паніжаецца, спыняецца масавы рост раслін. Настае восень.

**Восень** з'яўляецца заключным сезонам у годзе не толькі ў кліматычных адносінах. Увосень падводзяцца вынікі ўсяму, што зроблена за год. Ідзе завяршэнне ўборкі на калгасных палях, падводзяцца вынікі сельскагаспадарчага года. Восень у народзе лічаць самай багатай парой года. Кліматычныя ўмовы з'яўляюцца гэтаму добрым памагатым. Пачынаецца восень на пачатку верасня (1-14) і заканчваецца праз 70 дзён, у першай палове лістапада.

## РАСЛІННЫ І ЖЫВЁЛЬНЫ СВЕТ

Па характары расліннасці тэрыторыя Лідскага раёна аднесена да падзоны шыроколісцевых цёмнахваёвых лясоў Еўрапейска-Сібірскай падвобласці. Па тэрыторыі раёна праходзіць паўночная мяжа распаўсюду дубова-яловай паласы, якая займае паўднёвую частку раёна, пачынаючы ад горада Ліды, у межах Прынёманскай нізіны.

Раслінны свет раёна трэба падпадзяліць на лясы, сенажаці, балоты нізіннага тыпу і раслінны свет вадаёмаў. Размеркаванне фармацый, апісаных у раёне, выглядае наступным чынам: лясы - 22%, балоты - 4,5%, сенажаці - 7,5%, ворныя землі - 33,1%, пашы - 8%, іншыя - 24,9%.

### 1. Лясы

У драўнянай расліннасці лясоў тэрыторыі Лідскага раёна пераважаюць сасна, бяроза, алешына, елка.

**1. Тыпы лесу.** Рост і развіццё лясной расліннасці залежыць ад умоў месца вырастання яе: геалагічнай будовы, матчынай пароды, глыбіні залягання грунтовых водаў, клімату, рэльефу мясцовасці.

Паводле праведзенаму Юркевічам І.Д. і Гельтманам В.С. раянаванню лясной расліннасці лясы Лідскага раёна аднесены да Нёманскага тыпу лесу, Нёманска-Прадпалесскага лесараслiннаму раёну грабава-дубова-цёмнахваёвай падзоны.

Умовы росту лясной расліннасці можна звесці да наступных асноўных груп: пушчы, хваёвыя лясы ці бары, рамені, дубровы і ольсы.

**Пушчы** на тэрыторыі Лідскага раёна - з’ява гістарычная. На сёння іхняе колішняе існаванне пацвярджаецца толькі гістарычнымі крыніцамі.

***Дакудаўская пушча*** згадваецца ў прадпісанні князя Караля Радзівіла (пане Каханку) лоўчаму Міхалу Showing Мараўскаму, дадзеным у Нясвіжы 8 красавіка 1779 года. У прадпісанні згадваюцца таксама пушчы Наднёманская, Налібоцкая, Кейданская і Ліпічанская.

***Ольжаўская пушча*** згадваецца ў“Вопісах парафій Лідскага дэканату” ў 1784 г.

**Хваёвыя лясы** раёна падраздзяляюцца на бары брусніччныя, верасовыя, лішайнікавыя і рознатраўныя. Па займанай плошчы пераважаюць бары брусніччныя, верасовыя і лішайнікавыя. Бары - характарызуюцца пясчаністымі глебамі рознай ступені ападзоленасці, беднымі элементамі сілкавання для раслін. На гэтых глебах растуць хваёвыя насаджэнні, часта з прымешкай бярозы.

Для **бору брусніччнага** характэрна наяўнасць у падлеску такой драўнянай расліннасці, як ядловец і ляшчына. Сустракаецца бяроза і асіна. Расліннасць ніжняга яруса - лішайнік, брусніцы, зрэдку ў такіх масівах сустракаюцца забалочаныя ўчасткі асаковых балот з зараснікамі вярбы.

**Бары верасовыя** - на тэрыторыі раёна распаўсюджаны шырока. У падлеску такіх лясоў шырока развіты верас, ядловец, зялёны мох. У дрэвастоі пераважае хвоя. Рэдка сустракаюцца бяроза і асіна з зараснікамі папараці. У верасовых лясах не рэдкія алешына і вярба.

**Бор лішайнікавы** - як правіла, не мае падлеску. Глеба пакрыта апалай ігліцай. Травяны покрыў прадстаўлены рэдка раскіданымі ксерафітамі.

Для **бору рознатраўнага** характэрны забалочаныя ўчасткі. Балоты тут нізіннага тыпу, асноварознатраўныя. У дрэвастоі пераважаюць хвоя і елка. Сустракаюцца бяроза, алешына, асіна.

**Рамені** - на тэрыторыі раёна займаюць не вельмі вялікія пляцы. Характарызуюцца яны супясчанымі і суглінкавымі глебамі рознай ступені ападзоленасці і ўвільгатнення. У складзе драўняных парод, якія растуць на гэтых глебах, пераважаюць елка і асіна з прымешкай бярозы, нярэдка хвоі і цвёрдалістых парод: дубу, ясеню, клёну, грабу, вязу.

Ва ўмовах Лідскага раёна рамені часцей за ўсё сустракаюцца на поўнач ад горада Ліды і на водападзеле рэк Дзітвы і Лебяды.

Нязначны распаўсюд у раёне маюць б**ярозаваасінавыя лясы** з прымешкай дубу. Яны займаюць тэрыторыю сярэдняй плыні ракі Дзітвы і нізоўя Лідзейкі. Участкі гэтых лясоў паўсталі на месцы высечак. Падлесак у іх складаецца з каліны, бружмелі, а травяны ярус прадстаўлены пякучай крапівой, дзікай мятай.



***Дуброва. Малюнак аўтара.***

Умовы росту **дуброў** характарызуюцца суглінкавымі, часам супясчанымі глебамі рознай ступені ападзоленасці, багатымі, як па ўтрыманні арганічных рэчываў, так і ўсім разнастайным складам драўнянай расліннасці з удзелам ці перавагай цвёрдаліставых парод, пераважна дубу.

Дубровы - у раёне былі шырока распаўсюджаны ў паўднёвай яго частцы, у пойме ракі Нёмана. Аднак у наш час яны амаль не захаваліся. Багатая дуброва, размешчаная ніжэй ад упадзення ракі Дзітвы ў Нёман, была знішчана, яшчэ ў 1930 гадах. Высечка ішла для продажу драўніны, якая скарыстоўвалася на аздобу салонаў на караблях. З аднаго векавога дуба выкарыстоўвалася не больш за 0,5 куб.м. драўніны. Астатняя частка ішла ў адходы. Пра лёс гэтай дубровы, якая налічвала некалькі сотняў гектараў, аўтару распавялі жыхары вёскі Бенявічы - былыя гаспадары гэтай дубровы.

У гады Вялікай Айчыннай вайны была высечана дуброва на правым беразе ракі Нёмана, ніжэй ад вёскі Беліца. Дуб выкарыстоўваўся як паліва для паравога млына, які знаходзіўся ў той жа вёсцы.

Такім чынам, з-за безхгаспадарчых адносін з боку чалавека, дубровы ў поўным сваім паняцці ў наш час на тэрыторыі Лідскага раёна практычна адсутнічаюць.

Месцы разрастання **ольсаў** - адрозніваюцца залішнім увільгатненнем глеб за кошт праточных і грунтовых вод. Ольсы атрымалі свой распаўсюд у паўночна-ўсходняй (на водападзеле рэк Гаўі і Лідзейкі) і ў заходняй (у верхняй плыні ўчастка ракі Дзітвы) частках раёна.

У раёне сустракаюцца ольсы кіслічныя, вятроўнікавыя, прыручэйна-травяныя і ольсы поймавыя, ольсы балотна-папаратнікавыя і асаковыя.

**Ольс кіслічны** - вытворны ад дуброў і ельнікаў. Займае верхнія часткі пакатых лагчын з перегнойна-глеевымі слабаападзоленымі глебамі.

**Ольс вятроўнікавы** займае слабапрыточныя месцы з тарфяніста- і тарфяна-глеевымі глебамі. Драўняная расліннасць прадстаўлена пераважна шэрай алешынай, прымеркаванай да купін.

**Прыручэйна-травяны ольс** і **ольс поймавы** сустракаецца па берагах рэк Дзітвы, Лебяды, Лідзейкі, Нёмана. Яны займаюць прыручаёвыя паніжэнні ці ўчасткі поймы рэк з багатымі адкладамі алювія. Драўняная расліннасць прадстаўлена алешынай 1 бапітара. У падлеску расце парэчка, вербы, травяны покрыў - асокі, трыснёг, паслян, шчытоўнік і іншыя.

На слаба праточных і бяссцёкавых паніжэннях з тарфяна-глеевымі і трфяністымі глебамі развіваются **ольсы балотныя-папаратнікавыя** і **ольсы асаковыя**. Фон надглебавага пакрову складае шчытоўнік балотны, вахта, люцік паўзучы. Такі тып ольсаў на тэрыторыі Лідскага раёна мае вельмі абмежаванае распаўсюджанне.

Найважнымі задачамі лясной гаспадаркі Лідскага раёна ў наш час з'яўляецца захаванне наяўных лясных рэсурсаў і далейшае іх аднаўленне і пашырэнне шляхам лесанасаджэнняў.

Лясы раёна адносяцца пераважна да III банітэту. Багацці іх не абмяжоўваюцца выкарыстаннем драўніны. Яны даюць апроч драўніны жывіцу, экстракты для вырабу скур і атрымання дзёгцю. Лясы з'яўляюцца клімата-ўтваральным фактарам мясцовасці.

Акрамя гэтага, у лясах раёна расце шмат ядомых грыбоў, лясных арэхаў і ягад. З грыбоў найболей ужытныя баравік, падасінавік, падбярозавік, масляк, махавік, казляк, рыжык, грузд, сыраежка, лісічка, зялёнка і многія іншыя. Грыбы ўяўляюць сабою выключную каштоўнасць як пажыўны прадукт. Адмысловае месца сярод іх належыць баравіку, які валодае апроч усяго і лячэбнымі ўласцівасцямі. Ён утрымоўвае шмат вітамінаў, экстрактных рэчываў, якія спрыяюць лепшаму вылучэнню страўнікавага соку. Таму вельмі ўважліва і асцярожна варта збіраць іх, не парушаючы грыбніцы, каб не пагоршыць умовы вырастання. Азнаямленне насельніцтва з уласцівасцямі грыбоў мае вельмі важнае значэнне, бо штогод насельніцтва горада

і раёна збірае ў лясах вельмі вялікую колькасць грыбоў.

Не пазбыта ў асобных месцах практыка пашы жывёлы ў лясах. Гэта вельмі неспрыяльна адбіваецца на развіцці расліннасці і спрыяе заклешчванню лесу. Клешч, як вядома, з'яўляецца носьбітам інфекцыйнай дзіцячай хваробы поліяміэліту. Таму з пашай жывёлы ў лясах у раёне вядзецца рашучая барацьба.

**2. Лугі**

Лугі раёна прадстаўлены мурожнымі і заліўнымі, а таксама лугамі нізінных балотаў.

Мурожныя лугі раскіданы па ўсёй тэрыторыі. Травастой 1-2 ярусаў мурожнага лугу складаецца з вялікай колькасці аўсяніцы лугавой і веліканскай, вострыцы (2-3%), мятліцы баравой, гваздзікі, зуброўкі духмянай. Адзінкава сустракаецца лісахвост лугавы, казялец едкі, гравіліст рачны.

У 3-4 ярусах вельмі шырока распаўсюджаны паграллюк (каля 50%), канюшына лугавая і паўзучая (каля 30%). Адзінкава сустракаюцца трыпутнік ланцэталісты. Мурожныя лугі выкарыстоўваюцца пад сенажаці і пашы. Прадуктыўнасць мурожных лугоў раёна невялікая. Яна складае ўсяго 6-8 ц з гектара.

Паплавы (заліўныя лугі) распаўсюджаны ў поймах рэк Нёмана, Дзітвы, Лідзейкі, Лебяды, Крупкі, Гаўі. Для паплавоў характэрны розныя асокі (каля 60%), мятнік лугавы, бабок трохлісты, валяр'янкі, вятроўнік і іншыя. У ніжнім ярусе - markedly - рознатраўе і мох. Бліжэй да рэчышчаў рэк расце трыснёг звычайны. Сустракаецца хвошч тваністы. Выкарыстоўваюцца паплавы пад выпас жывёлы і пад сенажаці. Паплавы даюць 4-5 ц сена з гектара.

Лугі раёна ў наш час маюць патрэбу ў паляпшэнні, бо прадуктыўнасць іх з кожным годам змяншаецца.

**3. Балоты**

На паніжаных участках далін рэк Дзітвы, Лебяды, на водападзеле рэк Гаўі і Лідзейкі шырока распаўсюдзіліся нізінныя балоты. Многія з іх вымяраюцца сотнямі гектараў. Такім з'яўляецца **"Дакудаўскае балота"** (гістарычная назва - **"Вялікае балота"**), якое распасціраецца ад берагоў Лідзейкі і амаль да ракі Нёмана. Нізінныя балоты займаюць паніжаныя учаткі рэльефу ў поймах рэк. Па расліннасці гэтыя балоты можна падраздзяліць на травяныя і лясныя. Ва ўмовах Лідскага раёна пераважаюць травяныя нізінныя балоты.

**Травяныя нізінныя балоты**, якія маюцца на тэрыторыі раёна, адносяцца да тыпу асакова-рознатраўных і вельмі рэдка, дробнымі ўчасткамі - да трыснягова-чаротавых.

**Асакова-травяныя балоты** распаўсюджаны на згладжаных паніжаных участках водападзелаў і ў катлавінах. Расліннасць такіх балот бедная. Тут сустракаюцца нізкарослыя асокі, вейнік, палявіца, трыснёг, хвашчы. Такім балоты ў натуральным стане часцей за ўсё выкарыстоўваюцца пад сенажаці, рэдка - пад пашы. Прадуктыўнасць такіх сенажацяў невысокая і дасягае толькі 8-10 ц з гектара.

Для **лясных нізінных балот** характэрны дзве асацыяцыі: бярозава-альховая і альховая. Прымеркаваны яны да перыферыі няпойменных тэрас і займаюць досыць вялікія плошчы.

**Бярозава-альховыя балоты** сустракаюцца ў раёне паўсюдна. Дрэвастой у іх складаецца з алешыны са значнымі прымешкамі вярбы. Па краях расце асіннік, папараць, асака, рознатраўе. Вышыня дрэў вагаецца ад 5 да 10 м. У ніжнім ярусе травяны покрыў прадстаўлены гіпавым мохам.

На **альховых балотах** дрэвастой таксама не перавышае 10 м, і толькі сустракаюцца асобныя экзэмпляры, вышыня якіх дасягае 15-20 м і таўшчыня 40-50 см у дыяметры. Алешына расце на невялікіх купінах гіпавых балот.

**Балот пераходнага і верхавога тыпу** ў раёне вельмі мала. Сустракаюцца яны невялікімі ўчасткамі на западзінах і сподках у пагорыста-западзінным тыпе рэльефу.

**Нізінныя балоты** пасля асушвання ўяўляюць вялікую каштоўнасць у сельскагаспадарчай вытворчасці. Глебы асушаных нізінных балот адрозніваюцца высокай прыроднай урадлівасцю і даюць высокія ўраджаі. Менавіта таму ў адпаведнасці з пастановамі сакавіцкага (1965 г.) Пленума ЦК КПСС, а таксама з "Дырэктывамі XXIII з'езду КПСС па пяцігадовым плане развіцця народнай гаспадаркі СССР" у раёне ажыццяўляюцца значныя мерапрыемствы па асушванні і акультурванні плошчаў нізінных балот.

**4. Расліннасць вадаёмаў**

Раслінны свет вадаёмаў таксама вельмі разнастайны. У прыбярэжных зонах шырока распаўсюджаны аер, чарот, сітніца булаўчатая, грэчка земнаводная, галубок лонааеравы, сітніца бліскучая і інш. Непасрэдна ў вадаёмах растуць стрэлкаліст плывучы, альдраванда пухірчатая, эладэя, гарлачык малы, гарлачык чыста белы, гарлачык жоўты і многія іншыя.

**5. Жывёльны свет**

Фаўна Лідскага раёна складывалася ў паледавіковы час пад актыўным уздзеяннем чалавека. Яе відавы склад утварыўся ў выніку пранікнення сібірскіх і заходне-еўрапейскіх прадстаўнікоў і прадстаўлены фаўнай Еўрапейскіх шыракалісцевых лясоў. У далёкім мінулым у лясах раёна звычайнымі былі зубры, расамаха, тур, алень. А ў 1802 годзе, калі была ўтворана Гарадзенская губерня, у склад якой уваходзіла і частка тэрыторыі Лідскага раёна, на ніжняй частцы герба быў намаляваны зубр. Прайшло шмат гадоў, і жывёльны свет раёна карэнным чынам змяніў сваё аблічча. Роля чалавека ў фармаванні сучаснага складу фаўны была ў тым, што шэраг прадстаўнікоў жывёльнага свету ён знішчыў і рассяліў новых. Распаўсюджанне жывёльнага свету адбывалася ў залежнасці ад прыродных умоў і гаспадарчай дзейнасці чалавека:

Жывёльны свет раёна можна падпадзяліць на такія тры групы: лясная фаўна, фаўна палёў і фаўна вадаёмаў. У сваю чаргу кожная з іх можа быць падпадзелена на жывёл, птушак і рэптылій. З жывёл у лясах сустракаюцца лісіца, барсук, лось, казуля, дзік, куніца, вавёрка, гарнастай, лясная мыш, вожыкі, краты, землярыйкі і іншыя.

**Лісіца і куніца** адносяцца да атрада драпежных. Лісіца палюе на грызуноў, птушак. Аднак яна прыносіць вялікую карысць, знішчаючы вялікую колькасць мышэй і ядучы парэшткі загінуўшых жывёл і птушак. Куніца палюе на вавёрку і яе распаўсюджанне звязаны з распаўсюджаннем апошняй. Абедзве гэтыя жывёлы цэняцца шкуркай. Куніца цяпер знаходзіцца пад аховай.

**Дзік** - усеядная жывёла. Ён есць карэнішчы раслін, грыбы, жалуды. Сілкуецца звычайна ўначы. Дзік уяўляе сабою прамысловую жывёлу. Дае смачнае мяса, добрую шкуру і шэрсць. У наш час паляванне на дзіка абмежавана.

**Барсук** жыве ў нары, нярэдка разам з лісіцай. Нару ён капае ў больш глухіх месцах паміж каранямі дрэў. Галоўнымі відамі сілкавання барсука з'яўляюцца грызуны, лісце, карані. Шкура барсука выкарыстоўваецца ў прамысловасці. Лекавымі якасцямі валодае яго тлушч.

У паваенныя гады на тэрыторыю Беларусі былі завезены некаторыя віды жывёл з іншых краін і абласцей Савецкага Саюза. Да іх ліку адносіцца ўсурыйскі **янотападобны сабака.** Гэтая жывёла добра акліматызавалася і ў наш час распаўсюджана ў лясах на ўсёй тэрыторыі раёна. Цэніцца з-за добрага футра.

У змешаных лясах жывёльны свет некалькі багацейшы. Млекакормячыя гэтых лясоў прадстаўлены разнастайнымі грызунамі, відамі капытных. Найбольей значнымі з іх з'яўляюцца лось, казуля, дзік, гарнастай.

**Лось і казуля** ў наш час знаходзіцца па аховай. Гэта траваядныя жывёлы. Любімым месцам рассялення гэтых жывёл з'яўляюцца гаі, размешчаныя на ўзлеску лясоў і ўскраінах балот.

**Гарнастай** каштоўны футрам, колер якога змяняецца ад цёпла-карычневага да белага ў залежнасці ад пары года.

Шырока распаўсюджаны ў раёне **вожыкі, краты, землярыйкі.**

У апошнія гады вельмі рэдка пачаў сустракацца **воўк**.

На нізінных балотах рассяліліся **ласка, тхор, лось, казулі, мышы.**

**Арнітафаўна** лясоў прадстаўляецца **берасцянкай, драздом, валасянкай, жаўтушкай, салаўём, зязюляй, сіваграком, пугачом** і іншымі.

Гаспадарамі балот з'яўляюцца **кнігаўка, драч, балотная чарацянка, кулік, бакас** і іншыя.

Каля паселішчаў і населеных пунктаў водзяцца **шпакі, вераб'і, ластаўкі, беражанкі, галкі, крумкачы, сарокі**.

З рэптылій сустракаюцца **гадзюка, вуж, жывародная яшчарка, жаба, слівень, мядзянка** і інш.

Палявая фаўна бяднейшая за лясную. З жывёл тут найболей распаўсюджаны **мышы**, на мяжы з лясамі - **заяц-русак, краты**. З птушак: **жаўрук, сітаўка, канаплянка, курапатка** і некаторыя іншыя.

У вадаёмах раёна водзяцца **бабёр, выдра, андатра**, якія каштоўныя высокай якасцю футра. Яны сустракаюцца ў пойме ракі Нёмана, Дзітвы, Лідзейкі. Хаткі бабра збудаваны ў завадзях каля вёсак Збляны, Беліца. Выдра і андатра сустракаюцца радзей, чым бабры. Гэтыя жывёлы знаходзяцца пад аховай дзяржавы.

У пойме рэк шмат вадаплаўнай птушкі: **крыжанкі, шэрая чапля, чырок-свістун, кнігаўка**. Тут гняздуюцца **белыя буслы**. З Балтыйскага мора ў летні час сюды залятаюць **чайкі**.

Рэкі і азёры раёна заселены шматлікімі відамі рыб, сярод якіх найболей распаўсюджаны карпавыя і акунёвыя: **плотка, карась, лешч, карп, лін, сазан, акунь, шчупак, судак, жэрах, галавень, мянтуз, сом, вугор**.

**Вугор**, як вядома, рыба своеасаблівая. Яна жыве ў рацэ, а на нераст ідзе ў Саргасава мора ў Атлантычным акіяне і толькі пасля маляўкамі вяртаецца зноў у рэкі. Пабудова Ковенскай ГЭС адмоўна адбілася на наяўнасці вугра ў рацэ Нёман у межах Лідскага раёна. Вугра зараз тут няма. Радзей пачаў сустракацца **сом**. І наогул за апошнія 20 гадоў рыбныя запасы значна скараціліся і ў відавых і ў колькасных адносінах. Прычынай гэтаму паслужыла пабудаваная плаціна ў г. Коўні, якая стала перашкодай у пранікненні рыб з ніжняй плыні ракі Нёмана, і не заўсёды разумнае выкарыстанне рыбных запасаў насельніцтвам. Нярэдка пры гэтым дапускаецца проста браканьерства: глушэнне, атручванне, лоўля сеткамі, густой сеткай і падчас нерасту.

Усе рыбы раёна выключаючы **ярша, пячкура, верхаводку** і некаторых іншых, уяўляюць сабою прамысловую цікавасць. Таму ахова, колькаснае і відавае павелічэнне з'яўляецца найважнейшай задачай цяперашняга часу. З гэтай мэтай неабходна строгае выкананне закона аб ахове прыроды. Зарыбленні наяўных прыродных, штучных вадаёмаў з'яўляюцца вельмі важнымі мерапрыемствамі ў гэтых адносінах. Акрамя таго, па маім меркаванні, варта часова спыніць прамысловую лоўлю рыбы і ліквідаваць рыбалоўчыя брыгады ў калгасах "Гігант", "Новы Нёман", якія не прыносяць эканамічнага эфекту ніводнаму з іх і наносяць толькі шкоду рыбным запасам раёна.

## ТЫПЫ МЯСЦОВАСЦІ ЛІДСКАГА РАЁНА

Паводле праведзенага прафесарам БДУ В.А. Дзяменцевым геамарфалагічнага раянавання тэрыторыі Беларусі ў Лідскім раёне вылучаны дзве правінцыі: Лідская раўніна і Верхне-Нёманская нізіна (1948 г.). Па плошчы гэтыя два прыродныя комплексы пры-

кладна раўназначныя. Умоўная мяжа паміж імі можа быць праведзена па лініі вёсак Сцеркава-Шайбакі-Белагруда - В. Канюшаны - Стокі-Табала-Голдава-рака Лебяда. На поўнач ад яе распасціраюцца пагорыстыя прасторы Лідскай раўніны, а на поўдзень - шырокахвалістая Верхне-Нёманская нізіна.

Гэтыя дзве правінцыі на падставе ўліку існых у прыродзе раёна разнастайных фізіка-геаграфічных комплексаў, абумоўленых спалучэннем геолагагеамарфалагічнай будовы, ступені ўвільгатнення, глеб, расліннасці з улікам спецыфікацыі і ступені гаспадарчага ўздзеяння чалавека можна разглядаць як два тыпы мясцовасці, якія ўключаюць у сябе некалькі падтыпаў.

На Лідскай раўніне, прытрымліваючыся прынцыпу фізіка-геаграфічнага раянавання Н.А. Сонцава, можна зрабіць наступнае дзяленне.

1. **Дэнудацыйна-марэнны** тып мясцовасці, які супадае з Лідскай раўнінай у межах Лідскага раёна (па В.А. Дзяменцеву) і ўключае ў сябе падтыпы: **а) градава-марэнны** падтып мясцовасці Верх-Лідскіх вышынь у вобласці распаўсюджання канчатковай марэны Маскоўскай стадыі Дняпроўскага абляднення і **б) марэнна-пагорысты** падтып Дубровенска-Белагрудска-Дылеўскай раўніны ў вобласці распаўсюджання доннай марэны таго ж абляднення.

2. **Акумуляцыйны** тып мясцовасці, які супадае з межамі Верхне-Нёманскай водаледніковай нізіны (па В.А. Дзяменцеву) на тэрыторыі раёна. Тут, акрамя таго, дадаткова можна вылучыць такія падтыпы: **а) уласна акумуляцыйны** на ўчастках распаўсюду флювіягляцыяльных адкладаў і **б) старажытна-азёрнабалотны** падтыпы мясцовасці.

3. Асобна варта вылучыць тыпы мясцовасці **акумуляцыйныя**: тэрас рэк Нёмана, Дзітвы, Лебяды і Лідзейкі, які падзяляецца на: **а) старажытную надпойменную** і **б) сучасную поймавую**. Праведзенае вылучэнне тыпаў і падтыпаў мясцовасці не супярэчыць раней праведзенаму В.А. Дзяменцевым (1949) геамарфалагічнаму раянаванню тэрыторыі Беларусі, і ўяўляе толькі спробу больш комплекснай фізікагеаграфічнай характарыстыкі Лідскага раёна.

### 1. Дэнудацыйна-марэнны тып мясцовасці (Лідская раўніна)

а) Градава-марэнны падтып мясцовасці Верхне-Лідскіх вышынь займае невялікую частку поўначы раёна, на мяжы Лідскага і Воранаўскага раёнаў. Гэта самая высокая частка тэрыторыі раёна. Абсалютныя адзнакі тут вагаюцца ў межах ад 160 да 200 м. Максімальная кропка дасягае 205,5 м і размешчана на хутарах Аўсядава. Тут атрымаў распаўсюд градавамарэнны тып рэльефу, прадстаўлены некалькі градамі. Грады маюць паўночную і паўночна-заходнюю арыентацыю. Схілы град палогія, іх падзенне не перавышае $12^{\circ}$. Паўднёва-ўсходнія схілы больш стромкія, чым паўночна-заходнія. Вяршыні згладжаны і маюць круглявую форму. Памер град дасягае 15-16 км у даўжыню і 4-6 км у шырыню. Схілы рассечаны глыбокімі лагчынамі, якія дасягаюць у некаторых месцах 1-1,5 км шырыні. Фармаванне рэльефу, геалагічнай будовы і літалогіі звязана з дзеяннямі Дняпроўскага ледніка, і асабліва яго Маскоўскай стадыі. Магутнасць чацвярцічных адкладанняў у Лідскім раёне дасягае 217,5 м. Складзены марэнныя грады супесямі, суглінкамі, месцамі чырвона-бурай глінай з уключэннем вялікай колькасці галькі і валуноў.

Глебы - у межах участка дзярнова-падзолістыя рознай ступені ападзоленасці, якія развіваюцца на супесях рыхлых і звязных, пясках і рэдка на суглінках, якія падсцілаюцца з глыбіні меней за 1 м марэнай. Характэрнай рысай глебаў з'яўляецца іх моцная завалуненасць, якая складае прыкладна 7100 куб. см на 1 кв. м ворыва. Валуны маюць авальную форму і складаюцца з чырвонага, шэрага і ружаватага граніту, кварцыту. Дыяметр асобных валуноў дасягае 1,5 м. Для гэтай часткі тэрыторыі характэрна глыбокае заляганне грунтовых вод. На хутары Бея грунтовыя воды знаходзяцца на глыбіні 39 м.

У той частцы раёна бяруць пачатак рэкі Крупка і Лідзейка.

Вытокам ракі Крупка з'яўляецца невялікае балота на захад ад в. Пурсцы, а Лідзейкі - балота, размешчанае паміж вёскай Верх-Лідай і вёскай Чэхаўцамі. Першая цячэ ў паўднёва-заходнім, а другая - у паўднёва-ўсходнім кірунках.

У межах Верх-Лідскіх вышынь няма буйных лясных масіваў. Лясы высечаны, што нямала спрыяла ўзмацненню эрозіі глеб, якая праяўляецца ў выглядзе плоскасцевага змывання. Разаранасць схілаў уздоўж іх распрасцірання робіць гэты працэс больш інтэнсіўным. Натуральнай расліннасцю пакрыты толькі малаўрадлівыя непрыдатныя землі на вяршынях узгоркаў і забалочаныя паніжэнні (лагчыны) мясцовасці. Расліннасць прадстаўлена драўнянай і травяністай фармацыямі. Схілы паўсюдна разараны.

На вяршынях узгоркаў з пяшчанымі і супясчанымі глебамі распаўсюджаны малады хваёвы лес з прымешкай бярозы, асіны. Вышыня дрэвастою складае 5-8 м пры таўшчыні ў 20-25 см. У ніжнім ярусе сустракаецца ядловец, вярба, арэшнік. З травяністых - зязюлін лён, верас, месцамі - мох, лішайнік. Жывёльны свет мае агульныя рысы з фаўнай раёна ў цэлым;

б) на паўночны ўсход і паўднёвы захад ад горада Ліды распасціраецца марэнна-пагорыстая Дубровенска-Белагрудска-Дылеўская раўніна. Яна размешчана па абодва бакі ракі Дзітвы. Абсалютныя адзнакі вышынь тут змяняюцца ў межах ад 120 да 160 м. На гэтым падтыпе мясцовасці распаўсюджаны рассечаны пагорыста-западзінны тып рэльефу. У фармаванні яго бярэ ўдзел донная марэна Маскоўскай стадыі абляднення і флювіягляцыяльныя адкладанні таго ж абляднення. Узгоркі маюць веерную і паўночна-заходнюю арыентацыю. Памеры іх па даўжыні дасягаюць 2-3 км пры шырыні ў 0,2 - 0,5 км. Схілы палогія, а вяршыні згладжаныя. Вугал падзення схілу складае $0^{\circ}30'$ - $3^{\circ}$. Узгоркі раздзяляюцца лагчынападобнымі паніжэннямі, якія выходзяць да далін рэк Крупкі, Дзітвы, Лідзейкі. Памеры лагчын розныя ад 1,5 да 5

км. Часта яны затарфованы. Уздоўж мяжы раўніны і далін ракі Дзітвы сустракаюцца асобнымі групамі ў выглядзе невялікіх падвышэнняў, адносныя вышыні якіх не перавышаюць 8-10 м, памер іх у дыяметры складае 0,5 - 1 км.

На поўдзень ад ракі Дзітвы размяшчаецца дэпудаваная, злёгку ўзгорыстая раўніна доннай марэны Маскоўскай стадыі Дняпроўскага абляднення. Абсалютныя вышыні раўніны дасягаюць 140- 150 км. Найвышэйшая кропка мае вышыню 152,3 м і размешчана на паўночны ўсход ад вёскі Яманты.

На паніжаных участках падтыпу мясцовасці, а таксама ў далінах рэк Дзітвы, Нёмана і іншых распаўсюджаны флювіягляцыяльныя раўніны, якія ўтварыліся ў выніку адыходу Маскоўскай стадыі Дняпроўскага абляднення. Найболей буйная з іх размешчана ў ніжняй плыні ракі Лебяды і ніжняй плыні ўчастка ракі Нёмана.

Участкі доннай марэны складзены супесямі і суглінкамі, чырвона-бурай глінай з уключэннем валуноў розных памераў і петраграфічнага складу. Флювіягляцыяльныя адклады прадстаўлены добра адсартаванымі пяскамі, галькай. Для іх характэрна выразнае размеркаванне па фракцыях.

Гэтая частка раёна добра ўвільготнена. Таму на паніжэннях (лагчынах, западзінах і да т.п.) нярэдка сустракаюцца забалочаныя ўчасткі. Асабліва шырока яны распаўсюджаны на ўчастках, прылеглых да далін рэк Дзітвы, Лебяды, Лідзейкі, Крупкі.

Забалочванне праходзіць за кошт атмасферных ападкаў і блізкага размяшчэння грунтовых водаў. Глыбіня залягання грунтовых водаў вагаецца ад 0,5 м да 5-6 м.

У апошнія гады інтэнсіўна ажыццяўляецца асушэнне балот. Гэта адмоўна адбіваецца на рэжыме рэк. Многія невялікія рэкі, такія як Чарняўка і Надзея, сталі малаводнымі і, па сутнасці,ператварыліся ў раўчукі. Найболей значнымі рэкамі мясцовасці з'яўляюцца рэкі Крупка і Лідзейка. Рэкі маюць моцна забалочаныя поймы. Балоты цяжкапраходныя, парослыя трыснёгам і асокамі.

Глебы мясцовасці дзярнова-падзолістыя рознай ступені падзолістасці на супесях, пясках. У паніжэннях - дзярнова-балотныя і тарфяна-балотныя глебы з магутнасцю торфу да 3 м.

Пераважная частка тэрыторыі разарана. Раслінны покрыў прадстаўлены лясной, лугавой і балотнай фармацыямі.

Лясы мясцовасці пераважна хваёвыя: бары брусні́чныя, верасовыя, лішайнікавыя. Радзей сустракаюцца рамені. У далінах рэк сустракаюцца алешнікі. Лясы ўтвараюць невялікія масівы. У падлеску растуць арэшнік, ядловец, брызгліна барадатая, крушына ломкая, воўчае лыка. Павышаныя элементы рэльефу заняты лішайнікавымі барамі. Асобнымі ўчасткамі раскіданы мурожныя злакава-markознатраўныя лугі. Для лугоў характэрны вострыца, мятліца лугавая. З markознатраўя многа казяльца едкага, крываўніка, шчаўя, сіўца. Радзей сустракаецца канарачнік, лісахвост, канюшына ружовая і белая (дзяцеліна). Мохавы покрыў нязначны.

**2. Акумуляцыйны тып мясцовасці.**
**(Участак Верхне-Нёманскай нізіны)**

**а) Уласна акумуляцыйны тып мясцовасці** ў межах Верхне-Нёманскай нізіны распаўсюджаны ў паласе, якая ляжыць на мяжы паміж Нёманам і нізінай Лідскай раўніны. Ён уяўляе сабою шырокахвалістую, а месцамі плоскую, флювіягляцыяльную раўніну. Абсалютныя вышыні мясцовасці вагаюцца ў межах 130-140 м. Шырокахвалісты характар мясцовасці парушаецца часам праточнымі лагчынкамі былых раўчукоў і рэчак. Акрамя таго, сустракаюцца падвышэнні эолавых грудоў. Радзей сустракаюцца забалочаныя паніжаныя ўчасткі. Іх часцей за ўсё можна сустрэць у далінах ракі Лебяды. Мікрарэльеф выяўлены слаба. На лугах і выпасах сустракаюцца купіны, вышыня якіх дасягае 10-12 см.

Адметнай рысай геалагічнай будовы чацвярцічнай тоўшчы з'яўляецца гразкая слаістасць залягання парод. Літалагічна пароды прадстаўлены пяскамі markознага гранулметрычнага складу, галькай.

Мясцовасць увільготнена дастаткова. Глыбіня залягання грунтовых вод вагаецца ў межах 6-10 м. Рэк у гэтай частцы Лідскага раёна мала. Залатая рэчка, Еленка, Безымянная, якія працякаюць тут, вельмі немнагаводныя і ў летні час ператвараюцца ў ручайкі.

Глебы прадстаўлены дзярнова-падзолістымі слабой, сярэдняй і моцнай ападзоленасці, якія развіваюцца на пясках рыхлых і звязных, супесях, што падсцілаюцца з глыбіні больш за 1 м пяскамі і марэнным суглінкам. У паўночнай частцы і ў паласе, прылеглай да ракі Лебяды, Дзітвы, Лідзейкі, а таксама да масіву балота "Дакудаўскае", распаўсюджаны дзярнова-падзолістыя забалочаныя глебы на супесях звязных, рыхлых, пясчаністых. Глебы моцна, часта глыбокаападзоленыя, сярэднеападзоленыя глеевыя; вельмі малымі ўчасткамі сустракаюцца тарфяна-балотныя глебы. Асобнымі масівамі сустракаюцца развяваныя пяскі (паміж вёсак Беліца-Красная, Красная-Зблянь і іншымі).

Раслінны покрыў тэрыторыі цесна звязаны з глебаўтваральнымі пародамі, рэльефам мясцовасці, умовамі ўвільгатнення і гаспадарчай дзейнасцю чалавека. У сувязі з гэтым расліннасць у межах апісанай тэрыторыі прадстаўлена дзвюма асноўнымі фармацыямі: драўнянай і травяністай.

Лясы моцна прарэджаны безсістэмнай высечкай. Асабліва ў апошнія 25 гадоў. Захаваныя лясныя масівы прадстаўлены маладым хвойнікам. Асобнымі ўчасткамі сустракаюцца бярозавыя гаі з прымешкай дубу. У падлеску шырока распаўсюджаны ядловец. Лясы займаюць звычайна павышаныя элементы рэльефу з пясчанымі глебамі. Па паніжэннях сустракаюцца змешаныя лясы. Забалочаныя ўчасткі заняты алешнікамі з чорнай алешыны.

Моцнае разрэджанне лясоў адмоўна адбілася на прыродных умовах мясцовасці. Больш інтэнсіўна пачала развівацца ветравая эрозія на ўчастках незамацаваных пяскоў. Многія рэчкі перасохлі, зніклі існаваўшыя раней невялікія азёры (воз. Сцеркава і інш.).

У травяністым покрыве пераважаюць сівец, розныя віды асокаў і злакаў. Для лугоў і пашаў характэрны розныя асацыяцыі. На забалочаных лугах растуць буйнасцеблевыя асокі, балотны хвошч, лотаць, імхі і іншыя расліны. Мурожныя сенажаці пакрыты мятліцай лугавой, сіўцом. З бабовых шырока прадстаўлены канюшына чырвоная, мышыны гарошак. З познатраўя: крываўнік звычайны, рамонак палявы, васілёк сіні, шчаўе конскае, званец і іншыя.

У прыродным комплексе гэтай мясцовасці раёна нярэдка сустракаюцца нізінныя гіпава-асаковыя балоты, якія развіваюцца пад непасрэдным уплывам глебава-грунтовых вод. Расліннасць балот вызначаецца развіццём карэнявішчных асокаў і гіпавага моху, зрэдку сустракаецца познатраўе, падвей.

З хмызнякоў пераважаюць алешына, вярба і іншыя кусты, характэрныя для забалочаных мясцовасцяў. Ворныя землі засмечаны пустазеллем: пырнікам паўзучым, асотам ружовым, рэдзькай палявой (свірэпай), хвашчом палявым, сінім васільком, зоркаўкай і іншымі. У наш час вядуцца работы па аблясенні ўчасткаў развейных пяскоў. Гэтыя мерапрыемствы будуць спрыяць аднаўленню лясных масіваў і паляпшэнню прыродных умоў у цэлым.

**б) Падтып азёрна-балотных адкладанняў** (балота "Дакудаўскае"). Балота "Дакудаўскае", размешчана на ўсходзе раёна, у водападзеле рэк Лідзейкі і Гаўі. Яно мае выцягнутую форму паўднёва-заходняга кірунку. Працягласць масіва ў даўжыню дасягае 15 км і каля 7 км у шырыню. Паверхня масіва роўная, мае слабы ўхіл на паўднёвы ўсход, да ракі Нёмана. Плошча складае 7811 га. Мікрарэльеф тарфянішча добра развіты. Ён прадстаўлены купінамі вышынёй 30-40 см і 20-30 см у дыяметры. Куп'істасць масіва дасягае 80%. Больш куп'істыя ўчасткі назіраюцца ўздоўж ракі Лідзейкі, якая працякае ў заходняй частцы масіва, і на перыферыі масіва.

Тэрытарыяльна балота "Дакудаўскае" размешчана ў межах першай надпойменной тэрасы ракі Нёмана, рэшткі якой у выглядзе невялікіх выспаў сустракаюцца на самым торфамасіве. Яно ўтварылася на дне былога Нёманскага возера, якое існавала ў эпоху Валдайскай стадыі Дняпроўскага абляднення. Берагі старажытнага возера адпавядаюць надпойменнай тэрасе ракі Нёмана. Тэрытарыяльна ўяўляе сабою чарку, напоўненую торфам.

Па дадзеных свідравін у геалагічнай будове верхняй тоўшчы бяруць удзел толькі пароды чацвярцічнага перыяду. Пад торфам, на глыбіні 7 і больш метраў, залягаюць пяскі шэрыя і жоўтыя, жоўта-шэрыя, насычаныя вадой. Часам паміж дробназярністымі пяскамі сустракаюцца невялікія праслойкі супесяў. Пад торфам сустрэты азёрныя і рачныя адкладанні: сапрапелі, мяргелі (в. Філонаўцы, Боркі). Магутнасць мяргеляў - 1,5 - 2,5 м.

Сілкаванне торфамасіва вадой адбываецца за кошт атмасферных ападкаў і паверхневага сцёку з атачыўшых масіў сухадолаў. Акрамя гэтага, у забалочванні бяруць удзел і грунтовыя воды, якія часам выходзяць непасрэдна на адкрытую паверхню. Выхады грунтовых вод на паверхню адзначаны каля вёсак Сяглы, Пятры і іншых. Воды крыніц паступаюць у рэкі Лідзейка, Няцеча, якія прарэзваюць масіў.

Найболей значнай ракой, якая прарэзае паўднёва-заходнюю частку балота "Дакудаўскае", з'яўляецца рака Лідзейка. Яна праходзіць праз масіў сваёй ніжняй плынню. Шырыня ракі складае 8-10 м. Натуральны ўхіл рэчышча нязначны, каля 0,08%. Берагі ракі на ўсім працягу забалочаныя і цяжкадаступныя, пароcлыя хмызняком алешыны і вярбы. Рэчышча ракі суцэльна зарасло воднай расліннасцю. Плынь ракі ледзве заўважная. У многіх месцах утвараюцца плывучыя травяныя выспы, памеры якіх дасягаюць 15-20 м.

Частка плошчы торфамасіва "Дакудаўскае" пакрыта лесам, і толькі ў поймах рэк Лідзейкі, Няцечы сустракаюцца чыстыя пляцы, якія выкарыстоўваюцца пад сенажаці. Драўняны покрыў масіва складаецца з хмызнякоў з перавагай алешыны, вярбы, крушыны ломкай і некаторых іншых. Лясоў з таўшчынёй дрэў звыш 18-20 см на самім балоце няма. Лес сярэдніх і буйных памераў расце на атачальных сухадолах і рэдка - па ўскраінах балота ў выглядзе алешніка.

Травяны покрыў разнастайны, але пераважаюць асокі. На аблесеных участках значны ўдзел прымаюць трыснёг, імшарніца, падвей. У імховым покрыве дамінуюць гіпавыя імхі. На участках верхавых балот Дакудаўскага торфамасіва распаўсюджаны сфагнамохавыя купіны вялікіх памераў.

### 3. Тэрасы рэк

Тэрасы рэк Нёмана, Дзітвы, Лебяды, Лідзейкі маюць свае фізіка-геаграфічныя асаблівасці. Яны прадстаўлены першай надпоймавай і поймавай. Старажытная надпоймавая тэраса характэрна толькі для рэк Нёмана і Дзітвы.

**а) Старажытная надпоймавая тэраса ракі Нёмана** - размешчана амаль цалкам на левабярэжжы. На правым беразе яна сустракаецца асобнымі ўчасткамі ўздоўж поймы. На тэрыторыі надпоймавай тэрасы шырока развіты старыцы і старычныя азёры, забалочаныя ўчасткі. Пясчаныя груды пакрыты лясной расліннасцю: барамі лішайнікавымі і верасовымі.

**Надпоймавая тэраса ракі Дзітвы** з'яўляецца пасля ўпадзення ракі Лідзейкі і зліваецца з тэрасай ракі Нёмана.

**Тэраса ракі Лебяды** распасціраецца вузкай паласой па левым яе беразе.

Шырыня тэрас гэтых рэк не перавышае 0,5 - 1 км.

**б) Сучасная поймавая тэраса** выдзяляецца ў поймах усіх рэк. Найболей шырокая яна ў ракі Нёмана. Шырыня поймавай тэрасы ракі Нёмана каля вёскі Дакудава дасягае прыкладна 5 км, а каля вёскі Пескаўцы, у ніжняй плыні ўчастка, звужаецца да 0,5 -1 км. У верхняй плыні ўчастка, да ўпадзення ракі Дзітвы, поймавая тэраса ракі Нёмана забалочаная. У сярэдняй і ніжняй плыні яна добра дрэнажаваная. Рэльеф яе

роўны. Паверхня месцамі пакрыта хмызняком алешыны. Уздоўж плыні ракі раскіданы невялікія старычныя азёры.

Па правым беразе ракі Нёмана каля вёсак Беліца, Сялец, Збляны, Панямонцы і іншых маюцца шырокія пясчаныя незадзярнованыя пляжы.

Глебы тут дзярнова-падзолістыя, забалочаныя, алювіяльныя на супясчаным і пясчаным субстраце, падсцілаюцца пяскамі.

Раслiннасць поймы ракі Нёмана мае агульныя рысы з расліннасцю ўсяго раёна. Аднак адметнай рысай яе з'яўляецца наяўнасць воднай расліннасці.

На прырусла вых валах расце дуб. Раней дубровы паркавага тыпу былі распаўсюджаны паўсюдна ўздоўж рэчышча ракі. Аднак у наш час яны амаль знішчаны. Расліннасць цэнтральнай часткі поймы і ў прырусла вых паніжэннях - гэта расліннасць паплавоў. На іх пераважаюць двухдольныя расліны, на месцах сярэдняга ўвільгатнення пануюць злакі, на найболей вільготных - асокі і некаторыя злакі. Злакі часам утвараюць суцэльныя зараснікі: лісахвост, мятліцы, аўсяніца лугавая, напарэечнік, вострыца. З лугавых асокаў - асака стройная і пухірчатая. Меней распаўсюджаны бабовыя і прыстасованыя да сухіх месцаў.

На забалочаных прырусла вых участках расце сітніца жабіна, сітніца пляскатая, аер балотны, мячэўнік вузкалістны, галубок ілжэаеравы і многія іншыя.

У водах шмат гарлачыка белага, гарлачыка жоўтага, грэчкі зеленаводнай, урэчніка плывучага і інш. У прыбярэжных участках заток, старое багавінне часам утварае цэлыя палі.

Поймавыя тэрасы рэк Дзітвы, Лідзейкі, Крупкі адрозніваюцца моцнай забалочанасцю. Сярэдняя шырыня поймавай тэрасы ракі Дзітвы дасягае 0,5 - 1 км. На асобных участках яна дасягае 3,5 км (вёс. Козічы, у сярэдняй плыні). У прыбярэжнай частцы тэраса парэзана старыцамі і асушальнымі каналамі.

Поймы рэк Лебяды, Крупкі і Лідзейкі не шырокія і дасягаюць 0,1-0,2 км, большасць прыродных кампанентаў аднолькавыя.

Фармаванне поймавых тэрас рэк Дзітвы, Лебяды, Лідзейкі, Крупкі адбывалася пад уплывам і пры непасрэдным удзеле акумуляцыі эразійнага матэрыялу, які адкладваецца цякучымі водамі рэк, струменяў сцёкавых вод. На такіх участках яны маюць тонкую і ярка выяўленую слаістую структуру. На асобных участках тэрас гэтых рэк нярэдкія азёрна-балотныя адкладанні.

Глебы тут алювіяльныя, тарфяна-балотныя. Для іх характэрна залішняе ўвільгатненне. Таму з мэтай іх гаспадарчага выкарыстання неабходна правесці асушванне.

Расліннасць поймавых тэрас рэк прадстаўлена лугамі асаковымі, трыснягова-асаковымі. У складзе драўнянай расліннасці дамінуюць алешына чорная, вярба. Расліннасць вадаёмаў аналагічная расліннасці ракі Нёмана.

Уздзеянне чалавека на прыроду поймавых тэрас рэк Дітвы, Лебяды, Лідзейкі, Крупкі нязначнае. І таму прыродны комплекс мае натуральны выгляд.

## НАСЕЛЬНІЦТВА І ГАСПАДАРКА РАЁНА

### 1. Насельніцтва

Насельніцтва Лідскага раёна ў 1962 годзе налічвала каля 50 тыс чалавек (без г. Ліды). Сярэдняя шчыльнасць складала 31 чалавек на 1 кв.км. Аднак размяшчэнне яго нераўнамернае. Найболей шчыльна заселены сельскія саветы: Гасцілаўскі, Ходараўскі, Мытлянскі, Белагрудскі.

Па нацыянальным складзе насельніцтва раёна размяркоўваецца наступным чынам: беларусы - 67%, палякі - 29%, украінцы - 1%, іншыя -2%.

У раёне налічваецца 293 населеныя пункты, у тым ліку 2 гарадскія пасёлкі. Два населеныя пункты (вв. Беліца і Дакудава налічваюць больш чым па 200 двароў, 9 - ад 150 да 200, 26 - ад 100 да 150, 83 - ад 50 да 100 двароў. Захаваліся яшчэ да цяперашняга часу хутары. У палавым размеркаванні пераважае мужчынскі пол (29623 мужчын супраць 24084 жанчын). У сацыяльнай структуры калгаснікі налічваюць 38264, рабочыя - 18109, іншыя - 1046 чалавек.

У гады Савецкай улады непазнавальна змяніліся культура і побыт насельніцтва. У сёлах раёна цалкам ліквідавана непісьменнасць, наладжана медыцынскае абслугоўванне. Нярэдкія выпадкі ў вёсках, дзе не было ніводнага чалавека з сярэдняй адукацыяй, а зараз тут ёсць настаўнікі, лекары, аграномы, інжынеры, афіцэры Савецкай Арміі і г.д.

У раёне маецца 203 школы, з іх: сярэдніх - 14, васьмігадовых -32, пачатковых - 57. У школах навучаецца 9132 вучні. Узрасла колькасць культурна-асветных установаў, бібліятэк, клубаў. Пабудаваны і працуюць 9 бальніц на 250 ложкаў, 29 ФАП, 5 апатэк.

Электрыфікаваны ўсе калгасы раёна. "Лямпачка Ільіча" прыйшла ў хату да кожнага калгасніка, які жыве ў населеных пунктах. У хатах калгаснікаў гаворыць радыё, свецяцца экраны тэлевізараў.

Разам з гэтым захавалася і развіваецца традыцыйная нацыянальная творчасць. Асабліва своеасаблівае і самабытнае насельніцтва Прынямоння. Гучаць над сівым Нёманам народныя песні, то з нудою ўспамінаючы мінулае, то забіяцка, то ўрачыста, апяваючы сённяшні дзень калгаснай вёскі.

Асаблівай папулярнасцю карыстаецца ў раёне народны хор калгаса "Гігант", удзельнік 2-й Усебеларускай дэкады мастацтва ў горадзе Менску.

Не меней папулярныя людзі Прынямоння сваімі вырабамі. Тут можна бачыць цудоўна вытканыя палотны, паясы, вышыўкі.

Насельніцтва раёна працавітае, любіць сваю Радзіму. Рысы патрыятызму насельніцтва ярка выявіліся ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Народ не скарыўся фашыстам і вёў цяжкую, жорсткую партызанскую і падпольную барацьбу. На тэрыторыі Лідскага раёна дзейнічала некалькі партызанскіх атрадаў, якія наносілі адчувальныя ўдары па фашысцкіх гарнізонах ("Іскра", імя Калініна і інш.). Партызаны падрывалі чыгуначныя шляхі, пускаючы пад адхон цягнікі з жывой сілай і тэхнікай ворага. За гады вайны было знiш-



**Вёска Збляны. Фота аўтара. 1960 г.**

калгасы маюць або 2 або 3 віды жывёлы.

Задачы далейшага развіцця сельскай гаспадаркі заключаюцца ў тым, каб павялічыць вытворчасці прадуктаў земляробства і жывёлагадоўлі і рэзка зменшыць іх сабекошт, прывесці да рэнтабельнасці кожную гаспадарку раёна. Паспяховае рашэнне гэтых задач магчыма пры рацыянальнай спецыялізацыі кожнага калгаса і саўгаса з улікам прыродна-эканамічных умоў. Гэта дазволіць весці ўсе галіны земляробства і жывёлагадоўлі ў буйных, найболей эфектыўных памерах, правільна арганізаваць кармавую базу, рэзка павялічыць вытворчасць мяса, малака і іншых прадуктаў пры большай эканоміі выдаткаў на будаўніцтва, механізаванне і іншыя вытворчыя працэсы.

чана 148 нямецкіх гарнізонаў, падарвана 210 чыгуначных цягнікоў, 191 паравоз, 1103 вагоны і 412 платформаў.

У горадзе Лідзе дзейнічала падпольная група, якой кіраваў ваеннапалонны афіцэр Савецкай Арміі Роберт Юр'евіч Сасноўскі. У падпольную групу ўваходзілі многія юнакі і дзяўчаты, рабочыя (Саша Клімко, Моця Наказных, Мікалай Сарока, Пётр Жукаў, Андрэй Анацка, Марыя Кастраміна, Васіль Саўчанка). Імёнамі некаторых з іх названы вуліцы горада.

Сваімі дзеяннямі партызаны і падпольшчыкі паскорылі час перамогі савецкага народа над фашызмам. У наш час усе сілы накіраваны на найхутчэйшае выкананне планаў пяцігодак.

**2. Гаспадарка**

Вядучай галіной гаспадаркі Лідскага раёна з'яўляецца сельская гаспадарка. Яна мае мяса-малочны кірунак з добра выражаным раслінаводствам і ў першую чаргу льнаводствам. У агульным аб'ёме таварнай прадукцыі, прадукты жывёлагадоўлі склалі 49,3%, прадукцыя лёну - 25,6%. Гэтыя дзве галіны разам даюць 75% усіх грашовых прыбыткаў. Аднак варта адзначыць, што спецыялізацыя асобных гаспадарак яшчэ ясна не выражана.

Земляробства іграе падпарадкаваную ролю. Яно падпарадкавана жывёлагадоўлі. Да нядаўніх пор жывёлагадоўля ў раёне была занадта ўніверсальнай. Калгасы мелі ўсе віды жывёлы і птушку, прычым фермы былі вельмі малалікія. У наш час

Сельская гаспадарка раёна падраздзяляецца на дзве асноўных галіны: земляробства і жывёлагадоўля. Структура земляробства ў раёне мае такую форму: ворныя землі 63,1%, сенажаці - 7,5%, балоты - 4,5%. З прыведзенага вышэй размеркавання зямельных угоддзяў відаць, што ў земляробстве вядучае месца належыць паляводству. Яго структура на 1966 год такая: збожжавыя - 55%, кармавыя - 25,3%, бульба - 7,6%, тэхнічныя культуры (лён) - 5,8%.

Цукровыя буракі і тытунь у тэхнічных культурах з'яўляюцца дапаможнымі. Ва ўмовах Лідскага раёна выгадна вырошчваць таварную бульбу. Таму яе плошчы досыць вялікія - 7,6%.

У паляводстве калгасамі і саўгасамі раёна дасягнуты значныя поспехі. Павялічыўся валавы збор збожжа, узрасла ўраджайнасць палёў. Ураджаі па культурах прыведзены ніжэй у параўнанні з сярэднімі паказчыкамі за папярэднія тры гады *(Табліца 9)*.

Як відаць з табліцы, у 1965 сельскагаспадарчым годзе заўважны рост ураджаю па найважнейшых

*Табліца 9.*

## Ураджай сельскагаспадарчых культур за 1965 г.

| №№ п\п | Сельскагаспадарчыя культуры | Ураджай 1965 г. ц\га | Сярэдні ўраджай за 1962-1964 г. ц\га. | % да сярэдняга ўраджаю 1962-1964 г. | Заўвага |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Збожжавыя | 10,6 | 6,4 | 175 | рост |
| 2. | Грэчка | 3,8 | 2,2 | 172 | рост |
| 3. | Лён-насенне | 3,3 | 2,5 | 132 | рост |
| 4. | Лён-валакно | 3,4 | 2,3 | 148 | рост |
| 5. | Цукровыя буракі | 99,0 | 110,0 | 90 | зніжэнне |
| 6. | Бульба | 85,0 | 72,0 | 118 | рост |

культурах.

Аднак гэтыя паказчыкі ў параўнанні з тымі, якіх павінны дасягнуць гаспадаркі раёна да 1970 годзе, яшчэ нізкія. Да 1970 году ўраджай збожжавых павінен скласці 11 ц збожжа з гектара. Гэтую задачу і вырашаюць цяпер працаўнікі калгасных палёў раёна.

Значнае месца нададзена кармавым культурам (25,3%). У іх пераважаюць аднагадовыя (7,9%) і шматгадовыя (6,7%) травы. Для забеспячэння жывёлагадоўлі сакавітымі кармамі сеюць кукурузу (2,6%), карняплоды (2,6%) і лубін на сілас (5,6%).

Значныя поспехі маюцца і ў развіцці жывёлагадоўлі.

Гадавы план продажу малака ў 1965 годзе выкананы на 113%. Дзяржаве прададзена звыш плану 1862 тоны малака. Вытворчасць малака за год узрасла на 3560 тон ці на 132% у параўнанні з планавым заданнем. У разліку на 100 га сельгасугоддзяў вытворчасць гэтай прадукцыі ўзрасла на 48 цэнтнераў і склала 199 ц. Сярэдні ўдой на карову складае 1803 кг.

У раёне маюцца некаторыя поспехі ў вытворчасці мяса. За 1965 год вытворчасць мяса павялічылася на 126% і склала ў разліку на 100 га сельгасугоддзяў па 27,4 ц. Улічваючы дабратворны ўплыў спецыялізацыі, гаспадаркі раёна павінны разводзіць буйнарагатую жывёлу ў спалучэнні са свінагадоўляй ці авечкагадоўляй, прапорцыі якой павінны ўстанаўлівацца ў залежнасці ад прыродна-эканамічнымі магчымасцяў.

Свініна павінна займаць прыкладна 50% у агульным аб'ёме вытворчасці мяса ў калгасах і саўгасах раёна. Да таго ж у многіх гаспадарак маюцца магчымасці для гадоўлі птушкі.

Разам з тым, жывёлагадоўля асобных гаспадарак у сілу розных прычынаў аказалася стратнай. Такімі гаспадаркамі з'яўляюцца калгасы "Радзіма", "Улада Саветаў", "Нёман", "Гігант", "Новы Нёман".

Для хуткага росту сельскагаспадарчай вытворчасці маюцца ўсе аб'ектыўныя ўмовы. Сельская гаспадарка раёна мае цяпер магутную матэрыяльна-тэхнічную базу, вялікі парк трактароў, аўтамабіляў і іншых машын. У 1965 г. у калгасах раёна працавала 450 трактароў, 260 аўтамашын, 93 камбайны, 45 малатарань. 320 сеялак і г.д. У будучым тэхнічная абсталяванасць гаспадарак раёна будзе з кожным годам узрастаць.

Аналізуючы эканамічныя паказчыкі сельскай гаспадаркі раёна, даводзіцца аднак адзначыць, што некаторыя гаспадаркі ў сілу розных прычын з'яўляюцца эканамічна слабымі. Іх рэнтабельнасць складае 6,0 - 15,0%.

"Галоўнымі прычынамі адставання сельскай гаспадаркі, - гаварылася ў пастанове сакавіцкага Пленума ЦК КПСС, - з'явіліся парушэнні эканамічных законаў развіцця сацыялістычнай вытворчасці, прынцыпаў матэрыяльнай зацікаўленасці калгаснікаў і працоўных саўгасаў ва ўздыме грамадскай гаспадаркі, правільнага спалучэння грамадскіх і асабістых інтарэсаў".

У значнай ступені адбіўся таксама суб'ектывізм у кіраўніцтве, што прывяло да памылак у планаванні, фінансаванні і крэдытаванні сельскай гаспадаркі, у палітыцы цэнаў.

Мала выдзялялася капіталаўкладанняў на вытворчасць і культурна-побытавае будаўніцтва, слаба ўмацоўвалася матэрыяльна-тэхнічная база.

Акрамя таго, адной з аб'ектыўных прычын ва ўмовах Лідскага раёна, якія спарадзілі падобныя недахопы, з'яўляецца недастатковы ўлік прыродных умоў. Вось прыклад. Калгас "Гігант" размешчаны ў паўднёвай частцы раёна. У калгасе малаўраджайныя пясчаныя глебы, недахоп добрых сенажацяў і паш, няма спрыяльных умоў для вырошчвання кармавых. Тут пераважаюць высокія лугі. Найболей перспектыўна авечкагадоўля ў спалучэнні з буйной рагатай жывёлай. Аднак да апошняга часу тут развівалася ўніверсальная гаспадарка. У выніку гэтага калгас эканамічна слабы, а такая галіна як жывёлагадоўля аказалася стратнай. У 1965 г. страта ад жывёлагадоўлі склала 2,4 тыс. руб. Такое ж становішча і ў калгасе "Новы Нёман", які знаходзіцца ў такіх жа глебава-кліматычных умовах. Жывёлагадоўля гэтага калгаса прынесла страту ў 17,6 тыс. руб.

Перспектыўным планам прадугледжваецца значны рост найважнейшых галін сельскай гаспадаркі Лідскага раёна. Па пяцігадовым плане развіцця сельскай гаспадаркі на 1966-1970 гг. вытворчасць збожжа ў параўнанні з папярэднім пяцігоддзем павінна ўзрасці на 28,6%. Ураджайнасць збожжавых да 1970 года павінна скласці 11 цэнтнераў з га, супраць 8,1 ц, лёну да 4 ц з гектара, супраць 2,5 ц, бульбы 110 цэнтнераў, супраць 82 ц з гектара ў 1965 годзе. У два разы ўзрасце плошча пад шматгадовай травой і складзе 5 тыс. гектараў.

Да 1970 г. пагалоўе буйной рагатай жывёлы складзе 32,3 тыс., свіней 15,5 тыс. галоў. Выхад мяса на 100 гектараў сельгасугоддзяў дасягне 63 цэнтнераў (у жывой вазе) і каля 2 тыс. кг малака на адну карову.

Выкананне гэтай задачы яшчэ больш умацуе эканоміку калгасаў і саўгасаў раёна, будзе спрыяць паляпшэнню матэрыяльнага дабрабыту насельніцтва.

У паляпшэнні эканамічнага стану калгасаў раёнаў значную ролю можа сыграць пры вызначэнні кірунку гаспадаркі ўлік прыродных і эканамічных умоў. Улічваючы прыродныя ўмовы калгасаў раёна, можна прапанаваць такі кірунак гаспадарак.

Паўночная частка раёна мае больш спрыяльныя ўмовы для вырошчвання карняплодаў, бульбы, можа спецыялізавацца на развіцці мяса-малочнай жывёлагадоўлі, разводзіць буйную рагатую жывёлу і свіней. Прычым пераважным павінна быць свінагадоўля.

Правільны ўлік прыродна-эканамічных умоў пры выбары кірунку гаспадаркі дазволіў калгасу імя Мічурына зрабіць усе галіны рэнтабельнымі. Калгас спецыялізуецца на адкорме буйной рагатай жывёлы. Жывёлагадоўля дала калгасу 78,7, а раслінаводства толькі 4,5 тыс. руб. прыбытку

Зусім па-іншаму выглядае гаспадарка калгаса "Радзіма", які знаходзіцца прыкладна ў роўных глебава-кліматычных умовах. У цэлым гэта гаспадарка нерэнтабельная (па дадзеных 1965 г.). Жывёлагадоўля

дала страту ў 18,1 тыс. руб. Здарылася гэта таму, што ў калгасе "Радзіма" створана шматгаліновая гаспадарка без уліку прыроднага фактару.

Поўдзень раёна, які мае высокія лугі, можна спецыялізаваць на гадоўлі буйной рагатай жывёлы ў спалучэнні з авечкагадоўляй. У пойме ракі Нёмана маюцца спрыяльныя ўмовы для гадоўлі птушкі.

У цэнтры раёна і ў паўднёва-ўсходняй яго частцы, у пойме ракі Дзітвы маюцца вельмі спрыяльныя ўмовы для стварэння адкормачных гаспадарак па адкорме буйной рагатай жывёлы, свіней і гадоўлі птушкі. Тут добрыя сенажаці, больш спрыяльныя глебавыя ўмовы. У гэтых адносінах маецца станоўчы досвед. У гэтай частцы раёна размешчаны саўгас "Тарнова", гаспадарка якога спецыялізуецца на адкорме буйной рагатай жывёлы. Грашовыя прыбыткі саўгаса ад жывёлагадоўлі ў 1965 годзе склалі 277,0 тыс. руб. ці больш за 31% прыбытку, атрыманага ад жывёлагадоўлі ўсімі калгасамі раёна. Выбар правільнага кірунку гаспадаркі ў адпаведнасці з прыроднымі магчымасцямі сыграў тут важную ролю.

Поўнае і глыбокае выкарыстанне прыродных умоў раёна магчыма толькі пры правільнай пастаноўцы і разуменні пытання спецыялізацыі гаспадарак.

Прамысловасць раёна складаецца з гуты "Нёман" у пасёлку Бярозаўка, торфапрадпрыемства "40 гадоў БССР" і цагельні "Шайбакі". У найбліжэйшыя гады будзе збудавана гута ў наваколлях горада Ліда і яшчэ адно, больш магутнае, торфапрадпрыемства каля вёскі Яўсеевічы, прадукцыя якога прызначаецца для Гарадзенскай ЦЭЦ і капралактанавага завода.

Завод "Нёман" пабудаваны яшчэ ў дарэвалюцыйны час, у 1891 г., В. Краеўскім. Пазней ён належаў акцыянернаму таварыству. У 1914 г. частка завода была разбурана, а ў гады Вялікай Айчыннай вайны завод быў разбіты амаль цалкам. Адноўлены ў паваенныя гады. Пабудаваны новыя сучасныя вытворчыя карпусы з найноўшым сучасным абсталяваннем. На заводзе працуе больш за 2 тыс. працоўных. Выпусканая заводам прадукцыя складаецца з мастацкіх вырабаў з крышталю і малахітавага шкла. На міжнароднай выставе ў Брусэлі за свае вырабы завод быў узнагароджаны вялікім залатым медалём "Гран-пры".

Торфапрадпрыемства "40 гадоў БССР" пабудавана ў 1955-58 гадах. Асноўнай прадукцыяй завода з'яўляецца фрэзерны торф для Лідскай ЦЭЦ, торфкавалак, торфабрыкет. Пачата вытворчасць подсцілкі для калгасаў, кармавых дражджэй, мачавіны.

Цагельня "Шайбакі" выпускае будаўнічую цэглу. Такім чынам, гаспадарка раёна ў цэлым уяўляе сабою спалучэнне сельскай гаспадаркі і прадпрыемстваў мясцовай прамысловасці.

**ЗАКЛЮЧЭННЕ**

1. Тэрыторыя Лідскага раёна займае вельмі выгаднае геаграфічнае становішча. Знаходзячыся ў вузле чыгуначных і шашэйных дарог, раён мае спрыяльныя ўмовы для эканамічных і культурных сувязяў з іншымі раёнамі рэспублікі.

2. Геалагічная будова, рэльеф і геамарфалогія раёна цесна злучаны з дзеяннямі леднікоў і асабліва апошняй Маскоўскай стадыі Дняпроўскага абледнення.

Геалагічныя даследаванні апошніх гадоў (1954-65 гг.) далі падставу сцвярджаць, што тэрыторыя Лідскага раёна складаецца не толькі з флювіягляцыяльных адкладанняў, але і з канчатковай і доннай марэны Маскоўскай стадыі Дняпроўскага абледнення. Распаўсюджаны азёрна-балотныя і алювіяльныя адкладанні.

Рэльеф тэрыторыі раёна хутка змяняе свой першапачатковы выгляд пад інтэнсіўным уздзеяннем чалавека: распрацоўка радовішчаў карысны выкапняў, пракладка дарог і будаўніцтва іншых гаспадарчых збудаванняў.

3. Спрыяльныя кліматычныя ўмовы. Клімат мяккі з добрым увільгатненнем. Паводле агракліматычнага раянавання А.Х. Шкляра раён аднесены да Ліда-Івянецкага раёна заходняй падвобласці цэнтральнай агракліматычнай вобласці Беларусі (1962 г.). У параўнанні з усходнімі раёнамі зіма цяплей на 1,5 - 3,5$^{O}$С. Колькасць ападкаў вышэй на 50-100 мм.

Для раёна характэрна магчымасць праявы замаразкаў на працягу ўсяго года.

4. Гаспадарчае выкарыстанне рэк нязначнае. Выкарыстанне рэк абмяжоўваецца двума вадзянымі млынамі на рацэ Лебядзе і на Дзітве. Рэкі Дзітва, Лідзейка, Крупка і іншыя служаць водапрыёмнікамі пры асушванні балот. Па рацэ Нёман спраўляюць лес.

5. Прыродныя рэсурсы раёна да цяперашняга часу выкарыстоўваюцца не цалкам. Вялікая частка радовішчаў карысных выкапняў не распрацоўваецца. Шырокія плошчы ўрадлівых земляў з-за моцнай забалочанасці выкарыстоўваюцца не ў поўную меру. Гэтыя з'явы маюць месца толькі таму, што раён вывучаны вельмі недастаткова. Для больш поўнага выкарыстання прыродных умоў раёна патрабуецца больш глыбокае яго вывучэнне.

6. Выклікае трывогу памяншэнне лясных багаццяў. На поўдні раёна лес амаль цалкам высечаны. Недастаткова эфектыўна ахоўваюцца маладыя лясы. Гэта адмоўна адбіваецца на кліматычных умовах і на развіцці жывёльнага свету. У лясах раёна радзей сталі сустракацца барсук, казуля, лісіца і іншыя.

7. Гаспадарчая дзейнасць насельніцтва Лідскага раёна знаходзіцца ў цеснай сувязі з прыроднымі ўмовамі. Улік прыроднага фактару аказвае значную дапамогу ў выбары спецыялізацыі і кірункаў гаспадарак раёна.

*(Паводле Дыпломнай работы пры заканчэнні фізіка-геаграфічнага аддзялення геаграфічнага факультэта БДУ. Мінск, 1965 г.*

*Аўтар - А.Ф. Кулеш.*

*Навуковы кіраўнік - ст. выкладчык Стацко У.У.*

*Рэцэнзент - канд. геалагічных навук Карулін.*

*Адзнака - "Выдатна".*

*Да друку на беларускай мове падрыхтаваў Станіслаў Суднік.)*

# Падарожжа ў Сярэднявечча

*Прапануем вашай увазе метадычную распрацоўку кіраўніка гуртка "Ваенная гісторыя Беларусі" Валадкевіча А.Я. прыгодніцкай гульні "Падарожжа ў Сярэднявечча". У гэтую гульню мы сабралі ўсё, што мы робім на нашых занятках: выпрабаванні спрыту і сілы (бой на мячах, стральба з лука і катапульты, кіданне сякераў), выпрабаванне на кемлівасць і здагадлівасць, выраб сярэднявечных сувеніраў, сярэднявечныя танцы. Марым аб тым, каб кожны мог трапіць у сярэднявечны горад, дзе хтосьці стане воінам, купцом, шляхціцам, а хтосьці даслужыцца і да караля і будзе каранаваны ў троннай зале па ўсіх законах Сярэднявечча!*



***Падзеі адбываюцца у Лідскім замку!***

**У праграме:**

Майстар-клас па рамёствах сярэднявечнага горада (выраб зброі, даспехаў, прылад працы).

Ліццё ўпрыгожанняў і прадметаў побыту.

Стральба з лука.

Кіданне сякерак "французскаў".

Кіданне камянёў з катапульты.

Майстар-клас сярэднявечнага танцу.

Бой на мячах.

Прымерка сярэднявечных даспехаў і строяў.

**Героі:**

***Герольд:*** статны чалавек, дасведчаны ў гістарычных справах.

***Манах францысканец:*** адзін з манахаў замка, прагне прывесці жыхароў горада да хрысціянскай веры і пакінуць паганства.

***Ваяр, мечнік-лучнік:*** ганарлівая асоба, лічыць годным чалавекам толькі чалавека з мячом, сякерай, ды келіхам добрай медавухі ў руцэ.

***Гандляр-махляр:*** вельмі сквапны на грошы, лічыць усё ды па некалькі разоў, зусім не адыходзячы ад касы. Любіць фокусы паказваць і глядзець.

***Шляхціц:*** адукаваны чалавек, дыпламат. Любіць ва ўсім кансэнсус, асабліва калі гэта ў яго інтарэсах. Нікога не падманвае, проста не ўсё кажа. Любіць забавы.

***Кароль:*** стары, але яшчэ вельмі мудры чалавек, клапоціцца аб сваіх падданных, хоча сына. Але на такія справы проста не хапае часу. Дзеля гэтага хоча знайсці сабе пераемніка,... потым ажаніцца, нарадзіць сына, пабудаваць хату, пасадзіць дрэва... Нажаль часу застаецца ўсе меней.

***Людзі:*** люд паспаліты з розных краін свету, вольныя, шляхта і галадранцы, князі, вучоныя і непісьменныя, добрыя і злыя. Ходзяць натоўпам, гамоняць, карыстаюцца варажбой.

*Павадыр падводзіць групу людзей да варот замка. На двары замка іх сустракае Герольд.*

***Герольд*** *(трымае у руцэ сярэднявечны ліхтар)*: Добры дзень, шаноўнае спадарства. Я - Герольд яго міласці Караля Ягайлы-Ўладзіслава. Ён загадаў мне сустрэць Вас, каб Вы не заблукалі ў цёмных падзямеллях гісторыі. У мяне ёсць невялічкі ліхтарык, “Ліхтарык ведаў”, я пакажу вам шлях да каралеўскага трона.

Зараз мы знаходзімся ў сэрцы Вялікага Княства Літоўскага. На дварэ 1420 год ад нараджэння Хрыстова. Прайшло ўжо 10 год ад часу перамогі Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага над Тэўтонскім ордэнам пад Грунвальдам. У краінах мір ды спакой, на тронах магутных дзяржаваў - Вітаўт Вялікі і Ўладзіслаў Ягайла. На поўначы нарэшце цішыня, пераможаны Тэўтонскі ордэн пасля Грунвальдскай бітвы зрабіўся васалам.

На ўсходзе, таксама ніхто не рызыкуе парушаць межы Вялікага Княства: князі Цвярскі, Разанскі, Маскоўскі, вечы Наўгародскае ды Пскоўскае высвятляюць паміж сабой, хто з іх больш годны, каб збіраць даніну для Залатой Арды. На поўдні ляжыць Вялікі стэп, але час качэўнікаў ужо мінае, не маюць яны ўжо дастатковай моцы, каб сур'ёзна згразіць Вялікаму Княству.

На захадзе - прыродны саюзнік Вялікага Княства Літоўскага - Каралеўства Польскае. На троне ў Кракаве каралюе ліцвін - Гедзімінавіч, стрыечны брат Вітаўта - Ягайла. Яны разам перамаглі пад Грунвальдам. Шляхта Літвы і Кароны абмянялася шчытамі, ды ўступіла ў гербавае братэрства. Кожная дзяржава

мае надзейны тыл з боку саюзніка. Растуць гарады ды вёскі, будуюцца замкі, міжусобіцы ўдзельных князёў задушаны Вітаўтам назаўжды, шырыцца гандаль.

Людзі простыя мірна працуюць, шляхта мірна п'е, гандляры мірна гандлююць, махляры мірна махлююць, воіны мірна марнуюць час, пілігрымы, такія як вы, могуць без аховы падарожнічаць, але ў кожным сярэднявечным горадзе свае законы. Зараз вы трапіце ў сярэднявечны горад, у якім хтосьці стане воінам, купцом, шляхціцам, а хтосьці даслужыцца і да караля і будзе каранаваны ў троннай зале па ўсіх законах Сярэднявечча.

***Герольд:*** Вось, вось. Вучоныя мужы кажуць, што мы ўсе ўжо па шэсць разоў адзін для аднаго браты, ды сёстры, але жывём на розных кутках зямлі. Зараз пабачым, каму з вас якія землі дастануцца. Вось цягніце з гэтага капялюша сцяг сваёй зямлі. *(Надрукаваць сцягі зямель, па іх вызначаюць інфармацыю пра гэты народ).*

*Людзі цягнуць маленькія карткі з шаперону, на якіх напісана назва іх краіны: палякі, русіны, жамойты, ліцвіны.*

***Герольд:*** Паважаныя шукайце сваіх землякоў. Людзі гуртуйцеся з народам!

*Людзі ідуць да герояў.*

*Перад іспытам Герой засяроджвае ўвагу на тым, што ўсе атрыманныя веды могуць спатрэбіцца на працягу гульні. Расказаць, хто ён, якога роду племені і які статус мае ў горадзе (мечнік, ведзьма, музыка, гандляр, кароль). Апісаць свой занятак, паказаць, як гэта робіцца. Даць паспрабаваць удзельнікам, расказаць сакрэт, паставіць пячатку на прывілей тым, хто прыйшоў. Даць манету тым, хто выканаў іспыт.*

*Кожны павінен прайсці ўсіх Герояў. Калі госць адмаўляецца праходзіць выпрабаванне, то ён павінен падыйсці да Героя і сказаць: "Не панская гэта справа з лука страляць і г.д."*

***Лучнік-мечнік:*** Добры дзень, шаноўнае спадарства! Я ваяр ад юнацтва свайго і ніводнага разу не прайграў. З самага дзяцінства страляю з лука і, мусіць, учора я забіў каршуна, які сядзеў на самым версе вунь той вежы. Калі Вы таксама хочаце стаць воінам, Вам спатрэбіцца шмат вучыцца, і я Вам скажу, Кароль добра нас шануе, і грошы заўсёды звіняць у нашых кішэнях. Спачатку я Вам раскажу, што такое лук, і што ён можа.

*Лучнік дае тры спробы трапіць у яблык.*

***Гандляр-махляр:*** Я гандляр, некаторыячамусьці называюць мяне махляром, але гэта усё памылковыя папрокі. Я займаюся толькі справамі дазволеннымі Ганзейскім ганлёвым саюзам, вось напрыклад гульня, якая прыехала да нас ад туркаў.

***Туркі.*** *Бяруцца тры турэцкія шапачкі і шарык, хто прайграе, той едзе ў круіз па Сярэдняземным моры на галерах, з вёсламі. Гандляр паказвае як гуляць у туркі. Потым прапануе турыстам яго аблапошыць. Хто аблапошыць, таму даецца манета.*

Раскажу Вам маленькую хітрасць: усе грошы маюць рэальны кошт, а ўсе майстры ў нашым горадзе любяць заходзіць у карчму, калі Вы ім заплаціце, яны Вам могуць даць пакарыстацца сваімі рэчамі. Таксама яны падзеляцца сваімі ведамі, якія некалі Вам вельмі спатрэбяцца, так што будзьце ўважлівыя да іх словаў.

***Манах-францысканец:*** Мы манахі даём абеты Хрыстусу: абет беднасці і абет бязшлюбнасці. Мы даўно ўжо знаходзімся тут, і кароль Ягайла ахрысціў гэтыя землі ў веру каталіцкую.Таксама мы дапамагаем вернікам выратоўваем іх ад хвароб. Прапануе ўсім выратаваць захварэўшага на чуму чалавека, змяшаўшы патрэбныя лекі.

***Шляхціц:*** Шляхта гэта наша рыцарства літоўскае, але валодае не толькі мячом а і бізуном. Вам патрэбна збіць яблык бізуном са слупа.

*Калі народ пройдзе іспыты, усе збіраюцца перад вежай.*

***Герольд:*** Цудоўная пара Сярэднявечча, але наш час не быў бы такім цудоўным, калі б не было сярэднявечных танцаў. А зараз мы вывучым некалькі з іх.

*Танцуюць сярэднявечныя танцы.*

***Герольд:*** ці добра вам было танчыць? А ў Вялікім Княстве Літоўскім, Рускім ды Жамойцкім і ў Каралеўстве Польскім таксама ўсё добра, але ёсць адна зусім дробненькая, але патэнцыяльна абсалютна велізарненькая праблемка. Яго вялікасць, Кароль Польскі Ягайла, РАЗ і аўдавеў!

Вой!, прабачце, і не раз , і не другі раз, а трэці раз запар!... і зноўку без нашчадкаў!

На пахаванне каралевы Эльжбеты ў Кракаў прыехалі ўсе магнаты, ды што там магнаты! Уся польская шляхта прыехала выказаць Каралю свае шчырыя спачуванні, ды з аказіі павіншаваць яго з 70-годдзем. Ды пабедаваць - пашкадаваць, што нашчадкаў, на жаль, ужо немалады, на жаль, Кароль так, на жаль, і не прыдбаў. Гэта ж, калі Кароль, крый Божа,... але ж усе мы смяротныя, памрэ..? Дык, жа ж, каралеўства без манарха, не павінна застацца! А па закону - любы шляхціц, высакароднага паходжання, можа быць абраны соймам Каралём, трэба толькі своечасова падкруціцца, падрыхтаваць глебу, навербаваць прыхільнікаў, пасябраваць з большасцю шляхты! Ды часцей, часцей, на прыём да Караля хадзіць, каб быць ў курсе ўсіх справаў. Цярпеў усё гэта Ягайла, цярпеў, а куды падзецца - як казалі яшчэ рымляне: "Становішча

вымагае", - ды і з'ехаў з Польшчы на сваю Радзіму ў Вялікае Княства Літоўскае да свайго стрыечнага брата Вітаўта ў Ліду і ўсё па пільных дзяржаўных справах...

***Герольд:*** Люд паспаліты слаўнага месца Ліды, ды ўсяго Вялікага Княства Літоўскага, наш слаўны і добры Кароль Ягайла запрашае вас на прыём да сябе ў вежу, але за ўваход трэба падатак плаціць - адзін літоўскі грош з галавы. Кожны плаціць за сябе. Прымаюцца пярсцёнкі, завушніцы, устаўныя зубы, а ў каго грошай няма, можа кінуць мабільны тэлефон. А варта за вамі вароты зачыніць.

Тыя, хто заплаціў, падымаюцца разам з герольдам на галярэю і глядзяць данскер, старыя байніцы і як астатнія будуць шукаць ключ ад вежы.

Каму грошай не хапіла, каб разлічыцца з вартай застаюцца ля ўваходу.

***Стражнік*** *(да турыстаў якія засталіся)*: Вось толькі нядарэчнасць выйшла, учора мы з манахам ішлі з карчмы "У чорта", што за возерам, і недзе каля возера ключ ад гэтых варот згубілі. Пашукайце, калі ласка, яго. Калі знойдзеце то, без грошай вас прапушчу, мы ж людзі роду хрысціянскага, павінны дапамагаць адзін аднаму.

*Удзельнікі накіроўваюцца ў бок возера ля замка.*

*Манах ловіць рыбу на возеры. Ключ прывязаны да буйка. Удзельнікі падбягаюць, бяруць вуды і пачынаюць лавіць ключ. Пераможцу прапускаюць у вежу. Ён хуценька падымаецца на галярэю.*

***Герольд:*** Вам не пашанцавала два разы, таму выператвараецеся ў паднявольных людзей. Вы траціце сваю волю, пакуль не знойдзеце грошы на водкуп. Згодна з гэтым аб'яўляецца аўкцыён.

***Герольд:*** Шаноўныя па закону - любы шляхціц, высакароднага паходжання, можа быць абраны соймам Каралём, трэба толькі своечасова падкруціцца, падрыхтаваць глебу, навербаваць прыхільнікаў, пасябраваць з большасцю шляхты! Ды часцей, часцей, на прыём да Караля хадзіць, каб быць ў курсе ўсіх спраў. Вось Вы і трапілі ў вежу Вітаўта. Зараз вы можаце ўшанаваць Караля і знайсці для яго падарункі. І адначасова на прыём да яго прабрацца, бо ён сёння добры. Для гэтага вось вам падказкі. Калі не знойдзеце, то ўсяроўна бяжыце на прыём да яго міласці, бо ён у нас міласцівы дапаможа Вам, а калі знойдзеце, тым больш да яго ў тронную залу, на чацвёрты ярус. На ўсё Вам часу пакуль не зайграе дуда, ці не пачуеце стрэл з рушніцы.

***Герольд*** *чытае ўдзельнікам зашыфраваныя заданні, сутнасць якіх зводзіцца да таго, каб знайсці нейкія старадаўнія рэчы і адначасова даведацца як яны называюцца:* Часу вам пакуль не пачуеце стрэл з гарматы.

*Гучыць стрэл з гарматы.Усе каманды збіраюцца ў троннай зале.*

***Герольд:*** Нікому знойдзенае не аддавайце, яно вам яшчэ спатрэбіцца.

***Кароль***: Зараз жа нас чакае мая любімая каралеўская забава-паляванне. Сёння мы будзем паляваць на зубра. Ваша зброя рушніцы можаце "пляснуць" свайго канкурэнта. Падчас такога палявання бывала гінулі людзі і нават манархі. Добрая магчымасць пазбавіцца ад канкурэнтаў. Хто пераможа, той стане маім пераемнікам.

*Падчас гульні чалавек, які ведае адказ на пытанне, б'е ў далоні і паказвае на чалавека якога хоча "забіць", калі ён адказвае правільна, то чалавек выбывае з гульні. Падчас няправільнага адказу "гіне" ён сам.*

***Кароль***: Я буду выпускаць зубра, хто яго ўбачыць адразу ляпай яго з рушніцы.

1. Хто пабудаваў Лідскі замак? *(Вялікі князь літоўскі Гедзімін.)*
2. Якое племя засяляла гэтыя землі ў 9-10 стст. *(Дайнава.)*
3. Я завуць нашага Караля? *(Ягайла.)*
4. Як завуць яго стрыечнага брата, у вежы,названай у яго гонар мы зараз знаходзімся? *(Вітаўт.)*
5. У якой бітве Вітаўт і Ягайла разграмілі Тэўтонскі ордэн? *(Грунвальд, Таненберг, Дуброўня.)*
6. Якую бітву называюць бітвай народаў? *(Грунвальдская.)*
7. Год заснавання Лідскага замка? *(1323.)*
8. Якая рэчка і па сённяшні дзень цячэ пад сценамі Лідскага замка? *(Лідзейка.)*
9. Колькі паверхаў у гэтай вежы? *(Чатыры.)*

*Застаецца два прэтэндэнты.*

***Герольд:*** Зараз будзе праходзіць сойм.

*На сойме людзі "галасуюць" з дапамогай камянёў рознага колеру. Падлічваюцца вынікі.*

*Пераможца карануецца. Яго супрацiўнiк становiцца шляхцiцам, яму прысвойваецца радавы герб.*

*Лепшыя рамеснікі ўзнагароджваюцца каралеўскімі прывілеямі.*

***Герольд:*** Хопіць ваяваць ды судзіцца! Пара і павесяліцца. Запрашаем вас на пір, на замкавы двор.

*Моладзь с задавальненнем гуляе ў гэтую гульню, марым, што гэта распрацоўка дапаможа нашаму Лідскаму замку атрымаць імідж "Жывога замка Сярэднявечча".*

***Артур Валадкевіч.***

***Ежы Путрамант***

# ПАЎВЕКУ

## *Маладосць**

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Першая навэлка**

Хутка, але не цалкам. Звярніце ўвагу, у грамадстве пачыналіся павольныя светапоглядныя змены. То адзін, то другі з яго стаўпоў даваў нырца ў крайнюю левізну, яшчэ ўчора мутны "антыкапіталіст" з раніцы прачынаўся жалезабетонным бальшавіком.

Я вельмі хутка меў магчымасць пераканацца, як выглядае сутыкненне пачатковага літаратара з такой вось жалезабетоннасцю.

Летам 1932 года я напісаў першую (пасля мутацыі, бо яшчэ год назад нарадзіў апаведзік на конкурс... карпарацый) навэлу. Я быў у гарачцы пошукаў формы. Навэла называлася "Ноч, дзень і ноч пасля шлюбу". Яе рэвалюцыйнасць "формы" палягала ў раскладванні рэчы на элементы ці складовыя часткі. У першым раздзеле даў адно апісанне. У другім - адны дыялогі, у трэцім - так зв. "думку".

Гісторыя вельмі здалёк кранала свежа здабытыя мной ідэйныя пазіцыі, была з большага матэрыялістычная, антыфідэістычная і г.д. Але тым не менш была цалкам "не заангажаваная".

Ужо не памятаю, у якім нумары "Перпендыкуляраў" яе апублікавалі. Заняла паўтары калонкі! Гэтае небывалае шчасце з нагоды сапраўднай бочкі мёду сапсавала мне лыжка дзёгцю ў выглядзе дапіскі рэдакцыі.

Менавіта яна паведамляла, што пошукі формы - гэта цацы-цацы, але па перакананні рэдакцыі нашмат больш значыць літаратура грамадская, што стаіць на баку людзей працы, якія змагаюцца з капіталізмам.

Як бы мне хто даў палкай па лбе. Швэндаўся па горадзе з непакоем выглядаючы знаёмых. Сам сабе здаваўся зганьбаваным да канца жыцця. Разважаў пра помсту. Напрыклад пра кіданне пісьма. Праблі скі здаровага розуму ўстрымалі мяне ад гэтага. Быў бы можа гэта толькі падарунак для маіх ворагаў. Бо што я значыў, што мог? Баба з возу... У выніку пастанавіў з возу не злазіць, каб тыя коні не пачуліся лягчэй. Напісаў толькі рэпліку.

У наступным нумары рэпліку надрукавалі разам з іхняй рэплікай. Махнуў рукой.

Хто ж быў той прынцыповы, той неўгамонны? Хто напісаў гэты каментар? Ха, ха, ха! Гэта быў Мілаш. Чэслаў.

У той час (1932 год) ён перажываў апагей сваёй левізны. У асеннім нумары "Перпендыкуляраў" выдаў знакаміты палітычны фельетон. З усёй тройкі старэйшых жагарыстаў нейлепей і найталковей загаварыў пра заангажаваную паэзію. Амаль на памяць ведаю яго верш з аказіі забойства нейкага французскага чыноўніка з Жырардова выкінутым з працы бухгалтарам:

*Зямля гэтая плоская і жабрацкая*
*для падарожных з Масквы да Берліна.*
*Калонія замежных капіталаў.*
*Эксплуатаваныя тэрыторыі.*
*Нам гэты край - вянок на карабіне,*
*Мы гэты край кулакамі падымем.*

Калі б прыгледзецца да гэтага верша, то тая левізна аказалася б досыць дваякай.

Той, напрыклад, "кулак" недалёка стаіць ад "крыжоў", якія мелі б трашчаць пры тым жа ўздыманні, на мой погляд некага цалкам іншага. Але тады ў маіх вачах Мілаш падскочыў яшчэ больш уверх. Можа не паверыце - я прабачыў яму там-тую дапіску.

**Першы судзік**

Больш-менш у той жа час я перажыў дробны эпізод, які ўжо даўно вылецеў мне з памяці, але які мне якраз учора прыпомнілі.

Менавіта я першы раз стаў перад судом. Праўда, толькі рэктарскім.

Я ўжо прайшоў мутацыю, ужо сам на сябе з гэтага кастрычніка глядзеў з агідай і недаверам, ужо быў "у" Дамбінскага - калі атрымаў позву на расправу ў рэктарскім судзе.

Не верыў уласным вачам. Стаяла як бык: у якасці абвінавачанага.

Не без эмоцый з'явіўся ў вялікай зале. Не была гэта ўласна расправа, толькі заслухванне. Вельмі смутна сабе яго прыпамінаю. Дамінавала ўва мне здзіўленне.

Нейкі госць колькіразова з націскам выпытваў у мяне, што я рабіў дня такога, і такога. Я не меў зялёнага паняцця. Гэта перш за ўсё было блізка з год таму назад. У аснове рэчаў быў перакананы, што тут гаворка ідзе пра тое выбранне мяне ў тую ілюзорную арганізацыю, студэнцкую камісію ці камітэт пасля тых хваляванняў. Але пра тое не пыталіся. Таксама не пра тыя хваляванні. Пра нешта зусім іншае.

Пра што? Ба, каб жа тое ведаў. Была гэта ў сваёй аснове нейкая пародыя на кафкаўскі "Працэс".

Пасля доўгага допыту, пры якім я адмаўляўся

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка паводле **Jerzy Putrament. “POL WIEKU. Mlodosc.”** Czytelnik, Warszawa, 1962.

ад усяго, мяне нарэшце адпусцілі, яшчэ пару тыдняў і атрымаў прыгавор: вымову.

І толькі ўчора высветлілася.

Ужо два гады я круціўся па ўніверсітэце разам са Шрэдарам. Былі неразлучныя. Калі хто пытаўся пра нас, адказвалі: Путрамант і Шрэдар. Каб зацікавіцца аж да пытання: "Каторы хто", - то такіх цікаўных не было.

Я сядзеў у Баневе. Тым часам ва ўніверы выбухнула новая здарэнне. Адна з найзацятых прыхільніц Дамбінскага, Гуга Савіцкая, з абурэннем назірала за малайцом, які паказваў цуды ў самым агні бітвы. Гэта быў адзін з той пары. Гуга вырашыла: Путрамант. І на рэктарскім судзе, калі яе запыталі, хто браў удзел у бойцы, адказала якраз так.

Праз колькі тыдняў яна перажыла сур'ёзны стрэс. Выпадкова пазнаёмілася з тым героем. Прадставіўся: я - Шрэдар. Вельмі за тое было ёй брыдка, і вось учора, г.зн. праз дваццаць восем гадоў, яна ў тым прызналася.

**Фізіялогія пасвячэння**

Гэта толькі знадворку ўсё падаецца на выгляд скончаным, завершаным, прадуманым. Калі трапляеш у сярэдзіну - усё набывае выгляд натуральны: балагану, блытаніны, недаспеласці.

Дамбінскі і яго група падаваліся мне знадворку ўзорам прадуманай дзейнасці. А ў той жа час быў ён хлопцам, якому пару гадоў за дваццаць, сапраўды вельмі здольным, але і вельмі зялёным.

Калі ў лютым 31 года перамог эндэкаў і здабыў Братняк, стаўся аб'ектам нязвыклай чуласці з боку ўладаў. Знайшлося каля яго шмат апекуноў і апякунак.

Круцілася, напрыклад, ва ўніверсітэце такая Ванда Пілсудская. Здаецца, пляменніца. Паказвалі мне яе: невысокая, моцная, досыць расплыўшаяся бландынка. Была гэта адна з найбольш заўзятых пратэктарак Генрыка.

Былі таксама іншыя. Маладыя навукоўцы, дацэнты, кандыдаты на прафесароў - Свяневіч, Сукяніцкі. У той час узнікаў - дзякуючы іхняй актыўнасці - т.зв. Інстытут вывучэння Усходняй Еўропы, адзіная ў сваім родзе пляцоўка разлічаная на "навуковую" актысавецкую выведку. І Свяневіч, і Сукяніцкі вельмі цікавіліся нязвыкла здольным магістрантам. Пасля яго каталіцкіх пачаткаў мусілі сутыкнуць яго з навуковым сацыялізмам, бо без захаплення Марксам і Леніным не магло быць мовы пра іх перавагу.

Якраз у той час Дамбінскі "захапіўся". Толькі сутнасць была цалкам іншая, чым тое, што сабе планавалі яго апекуны. Думалі, што ён паўторыць іх уласную дарогу, г.зн. пакаштуе для таго, каб выпрацаваць імунітэт.

Не ведаю, што вырашыла цалкам іншы ход справы ў Дамбінскага. Калі паспрабаваў, захацеў болей і болей. Не выпрацаваў імунітэт, захварэў на марксізм.

Не ведаю, але дадумаю. Ён быў зроблены з іншага матэрыялу. Своечасова мог адкінуць міраж кар'еры. Умеў ці, хутчэй, мусіў з незвычайнай вастрынёй перажываць крызіс капіталізму і ўсёй сваёй істотай стаць на бок яго ахвяраў.

Я не быў у гэты час блізка да Дамбінскага. Сталася гэта толькі тады, калі ўжо ён набраўся сілы, быў рашучы, светапогледава сфармаваны. Апавядалі мне толькі яго тагачасныя набліжаныя, праз якія перыпетыі ён праходзіў.

Апавядалі пра ўсяночныя шпацыры над Віліяй. "Інстытут" размяшчаўся ў шляхецкім, хоць досыць навабагатага выгляду палацы, дзе знайходзілася так зв. Бібліятэка Ўрублеўскіх; палац той быў размешчаны над ракой, за два крокі ад Кафедральнай плошчы. Алея якраз распусціўшыхся ліп. На гарызонце чорны каркас Зялёнага Моста.

Дамбінскі выйшаў позна з чарговай ін'екцыі, зачытаўся "Дзяржавай і рэвалюцыяй". Махаючы рукамі, апавядае з захапленнем сваім набліжаным, як гэта выдатна.

А гэтыя набліжаныя часам з зусім нечаканых рук атрымлівалі "пасвячэнне".

Апавядала мне адна з іх, як спаткалася з такім нейкім Анцэвічам.

Быў гэта высокі і тоўсты літовец, вельмі светлы бландын, з вялізарным, абвіслым, чырвоным і мясістым носам і цёмна-блакітнымі вачыма, схаванымі за акулярамі ў досыць рэдкай на той час "амерыканскай" тоўстай аправе.

Анцэвіч упаў на Вільню, як снег на галаву. Прыняты ва ўніверсітэт незвычайна хутка, хоць як сам апавядаў, мусіў уцякаць з Коўні з-за абвінавачвання ў камуністычнай дзейнасці, пачаў круціцца сярод левых але досыць смаркатых яшчэ віленцаў, імпануючы ім начытанасцю, вялікасвецкімі палітычнымі манерамі, веданнем міжнародных спраў.

Адна з найзацяцейшых у будучыні сяброўак "Групы" спаткала яго неяк. Пачалі размаўляць Абое вучылі палітычную эканомію.

- Што чытаеш? - спытаў Анцэвіч

- Гідэ, - адказала з гонарам.

Канешне мела на думцы таго эканаміста.

Анцэвіч махнуў рукой:

- Што гэта за эканаміст. Маркса чытала? Не можа быць? То што ты робіш ва ўніверы?

Канешне таварышка адразу забралася ў Маркса. А, як глынула, адразу набралася да Анцэвіча павагі. Неяк праз колькі год спаткаў яе Чухноўскі (той самы Мар'ян). Даведаўшыся, што Анцэвіч тут "ходзіць у вялікіх марксістах". Рукі заламаў. Але ж таго Анцэвіча ў Варшаве...

Пакуль тое сталася, мы спатыкаліся з Анцэвічам ад часу да часу. Я быў паэтам і мала яго цікавіў. Ён дзейнічаў у Віленскім СНПМ (Саюзе незалежнай польскай моладзі) ці каля яго. Памятаю сваё адчуванне на яго конт. Падаваўся мне пякельна левым. СНПМ пры ім гэта была лухта. Таксама і наша пачка. А пры тым усім круцілася вакол яго нешта нячыстае. Ёсць такія кветкі, якія здалёк пахнуць салодка, як геліятроп, а зблізку нейкім атрутным гнілым мясам.

Вось і Чухноўскі рукі заломваў: гэта вядомы правакатар. Мусіў выбірацца з Варшавы, з Кракава... Агент "двойкі".

Як аказалася пазней, не толькі... У час вайны Анцэвіч супрацоўнічаў з немцамі, потым уцёк у Берлін. Гэта для альбома маладым людзям, якія пісалі некалі пра Дзяржынскага, а потым наогул перасталі верыць у выведку і правакацыі.

**Паланісты**

Але ж, не звяртаючы ўвагі на тыя касмічныя ўзрушэнні час пасоўваўся наперад, прыйшла вясна і экзамены.

Згодна з планам, устаноўленым яшчэ восенню 1930 года, я здаў у другім трыместры філасофію і гісторыю. Цяпер на канец пакінуў сабе найцяжэйшы, як гаварылі, прадмет, г.зн. гістарычную граматыку.

На паланістыцы стварылася такая лакальная пяцёрка прыяцеляў і трохі супернікаў, якія здавалі разам экзамены, трымаліся кучкай па семінарах і лекцыях Былі там тры дзяўчыны. Яўгенія Амяльянчык з Беластоку, коратка звалася Геня. Вельмі здольная. Аж раздражняльна пільная. З тых, хто першы падымае пальцы: я ведаю, пан прафесар... Звычайна, зрэшты, сапраўды ведала. Акрамя таго, вельмі, мілая. Знаеце яе, зрэшты, усе, не скажу толькі, як сёння называецца.

Другая - гэта была Ірэна Славінская, паланістка па сённяшні дзень. Каля ўсхваляванай, нярвовай Гені была яна элементам спакою, развагі, часам досыць дабрадушнай зласлівасці.

Разам з трэцяй, Ганкай Вярбіцкай, належала да *Iuventus Christiana*. Паказальна, што хоць нашыя палітычныя дарогі ў будучыні цалкам разышліся, наша сяброўства ператрывала ўсе, што раз больш рэзкія ўстрэсы, аж да выбуху вайны.

Ганка Вярбіцкая была чарговай - цалкам безнадзейнай - маёй сімпатыяй. Мела ў сабе нейкую выключную грацыю, лагоднасць, памяркоўнасць. Закахаўся ў яе, як хлапчук, ад пачатку ведаючы, што не мае гэтае пачуццё ніякай перспектывы. Было ў ім нешта з таго, што здаралася ў гімназіі адносна старэйшых за сябе таварышак, пачуццё абсалютнай уласнай недаспеласці.

Ганка паходзіла са зруйнаванай абшарніцкай сям'і з ваколіц Ломжы. Мела вельмі шмат сясцёр і аднаго толькі нязвыкла прыстойнага брата. Часам мы бывалі ў іхняй вялікай але перапоўненай дзецьмі кватэры. Усе сёстры, прыгожыя і менш прыгожыя, мелі ў сабе частку той самай грацыі. Ганка была глыбока вернай каталічкай. Не ўхваляла мяне ў перыяд рэзрухаў 1931 года. Тым больш мусіў ад яе аддаліцца пасля ўваходу ў арбіту Дамбінскага. Але ніколі палітыка не перашкаджала нам у нашым сяброўстве.

Была хворая на сухоты. У той абшарніцкай сям'і бяда добра праяўлялася. Стары Вярбіцкі - з тыпова шлягонскімі вусамі - атрымаў нейкую працу пры Сельскагаспадарчым аддзеле. Не хапала таго на сям'ю можа з дзесяці чалавек. Пасля Ганкі наступная па чарзе Юлія таксама захварэла на туберкулёз. Што год ратаваліся ў Занапанэ.

Вайны ні адна з іх не перажыла.

Быў яшчэ Збігнеў Фаляеўскі, старэйшы за нас на год, высокі худы хлопец з малым тварыкам, з носам трохі як у качкі, але затое з прыгожымі доўгімі вачыма. Сын прэзідэнта горада Вільні, быў адначасова сынам жонкі Аркана. Што год ездзіў да маці і айчыма ў Горцы. Адначасова з намі пачаў пісаць вершы, выдаў нават пару зборнікаў.

Вершы былі адэкватныя яму. Гэта значыць мілыя, складныя, але нейкія другасныя, неяскравыя, не выклікаўшыя мацнейшых пачуццяў у душы чытача.

Яго будучыня паказала аднак, што пад той бачнасцю пэўнай вяласці драмаў характар досыць моцны і цэльны. Не ўлазіў у ніякія нашыя палітычныя баталіі, але пасля заканчэння факультэта паланістыкі раптам прыняў пасаду настаўніка ў польскай гімназіі ў Харбіне. Вярнуўся адтуль цераз год ці два. Апавядаў з незвычайным захапленнем пра Японію і японцаў у сябе дома і тут жа з найвялікшым абурэннем пра японцаў у Манчжурыі. Слухаў я ўсё з небывалай цікаўнасцю. Такой блізкай была мне тая экзотыка.

Фаляеўскі ў час вайны трапіў у Стакгольм, ажаніўся са шведкай, потым атрымаў запрашэнне на ка-



***Чатыры мушкецёры, а можа чатыры вершнікі апакаліпсісу? Першы злева - Леан Шрэдар, другі - Чэслаў Мілаш, трэці - Выдра, чацвёрты, здагадайцеся ... ! Вільня, снежань 32, так зв. Цялятнік.***

федру польскай літаратуры недзе на сярэднім захадзе Штатаў. Знаходзіцца там па сёння, выкладае. Мае чацвёра ці пяцёра дзяцей. У мінулым годзе прыязджаў у Варшаву на з'езд паланістаў. Я быў у той час так заняты, што нават не паразмаўлялі, хоць было наладжана адно такое супольнае спатканне.

Каля той пяцёркі круціліся яшчэ іншыя. Марыя Жаромская, вельмі добрая студэнтка, якая ехала на адных пяцёрках уважлівая, спакойная. Належала да Адраджэння, выйшла аддтуль разам з Дамбінскім, прайшла далёкай дарогай. Аж патрапіла на лаву падсудных у справе "Па-просту". Юзаф Трыпуцька, смешны хлопец з носам і доўгім, і разам задраным. Някепскі мовазнавец, пачцівец, вырaслы недзе з беднай вёскі ў глыбіні Віленшчыны, з Мядзеля ці з-пад Глыбокага. Перад вайной атрымаў лектарат польскай мовы аж у Хельсінкі. Распавядаў не без гонару пра візіт Бэка, пра баль, пра тое, што танцаваў з дачкой пані Бэк.

Да нашага курса, як я казаў, не здавалі экзаменаў за чатыры гады. Людзі сядзелі на той паланістыцы па пяць, шэсць, сем гадоў. Толькі мы неяк не мелі часу. Мала таго, што пачалі здаваць самі, але цягнулі за сабой і тых спозненых.

Вясной я здаў гістарычную граматыку з радасным, спартовым пачуццём, што гэта не была ліпа, але нешта сур'ёзнае, і што я справіўся з тым без клопатаў.

Затое Шрэдар не рваўся. Не працягу цэлала года здаў толькі адзін экзамен. На гістарычную ўжо яму не хапіла волі.

**Катастрафізм**

З канікулаў 1932 года застаўся мне верш пад такой назвай і не шмат што болей.

Але верш знакаміты. Пасля нагрувашчвання сельска-анёльскіх абразкоў выклікае з'яўленне чыхаўшых за гарызонтам громаў, якія ўжо неўзабаве выбухнуць, "як артылерыя, што папярэджвае навалу, якая пачынаецца".

Была гэта найвялікшая ахвяра, якую хоць калі прыносіў з'яве, што апанавала ў той час душы віленскіх паэтаў, а менавіта катастрафізму.

Ужо пачынаючы ад папярэдняга году ў вершах усёй першай жагарыстаўскай тройкі загучала нота і "праклятага" пакалення, і надыходзячай катастрофы. І Мілаш, і Загорскі, і Буйніцкі шчодра кідаюць народу засцярогі і прадказанні.

Дзве цікавыя рэчы. Гэтае прадбачанне катастрофы не было абапёртае ні на ніякі адчувальны вынік думкі, ні на якую гістарычную падзею. Розныя крытыкі ўпікалі ім гэта пазней. Крытыкі, канешне, вельмі розныя. Найперш азонаўцы, потым "марксісты".

Але па-другое - гэтыя катастрафісты, як аказалася, мелі поўную рацыю. Іхнія прадбачанні спраўдзіліся. Найдакладней патрапіў Ежы Загорскі. Недзе, мабыць, каля 1934 года надрукаваў ён верш пра Гдыню, які заканчваўся так:

*Гдыня, каб цябе апяваць,*
*ужыў я словы вельмі спакойныя.*
*У годзе трыццаць некаторым*
*выбухнула захопніцкая вайна.*

І якраз у апошнім годзе, які падпадаў пад гэтае прадбачанне...

З чаго браўся той катастрафізм? Вельмі проста. З таго, што ў той час рабілася на свеце. Перш за ўсё з крызісу капіталізму. З магутнай хвалі рэвалюцыйных рухаў, якая тады ішла па зямным шары ад Кітая цераз Германію ажно да далёкай Чылі.

Гаспадарчы крызіс капіталізму паглыбляўся крызісам ідэйным. Якраз на пачатку трыццатых гадоў у літаратуры свету пачынаюць з'яўляцца наймацнейшыя мастацкія вобразы прайшоўшай вайны: Хемінгуэй, Рэмарк, Арнольд Цвейг. Нагадвалі яны старэйшым, паказвалі малодшым, чым была вайна. А адначасова выбухнулі ўжо першыя пажары другой вайны: Манчжурыя. І тут варта працытаваць Загорскага:

*Праз няпоўных пятнаццаць гадоў*
*па Вялікім Парадзе,*
*па схіленні штандараў пад Трыумфальнай аркай,*
*грыміць бура над Азіяй. Мукдэн у квецені бомб,*
*У квецені бомб як у дзьмухаўцах і ў выбухаў градзе.*
*А гаварылі; а лгалі, што ўсё залечаць...*

Была гэта тыповая рэакцыя падрастаўшага паэтычнага пакалення. Расчараванне, страта веры ў сістэму, якая налгала і ашукала. Па крызісе непасрэдна паваенным, пакінутым капіталізмам часткова збройна, часткова праз асобныя саступкі (не выпадкова ў краінах, пацярпеўшых паразу, у першае пасляваеннае дзесяцігоддзе кіравалі сацыял-дэмакраты. Пасля другой вайны, зрэшы, было падобнае. Можна было б нават прыняць гэта за адзін з паказчыкаў, якая краіна сапраўды прайграла вайну. Тая, у якой пасля вайны кіравалі сацыял-дэмакраты...) наступіла некалькі гадоў на першы погляд спрыяльных. Крызіс 1929 - 1932 гадоў з небывалай вастрынёй нанава ўскрыў рахункі ваенных крыўдаў капіталізму. Яго абяцанні і запаведзі, што вайна не паўторыцца, бралі ў галаву. Адсюль моцнае ўзмацненне пацыфізму ва ўсім свеце.

Але нашыя віленскія катастрафісты былі нечым большым, чым пацыфістамі. Разам з Дамбінскім яны ўжо трохі пакаштавалі марксізму. Гэта значыць іхняя крытыка праяваў крызісу была больш глыбокая і больш вострая. Канешне гэта яшчэ не значыла, што яна была глыбокая і вострая. Былі яны вельмі маладыя. Трымаліся за іх розныя забавы. Загорскі піша "Гімн міжпланетных зносінаў (камунікацый)". А мне казаў са смехам: вось каб іх набраць Глядзі, "Каму..." гэта значыць перш за ўсё "Камуністычнага" , "між (інтар)" “Інтэрнацыяналу..."

Я адчуваў сябе на шмат маладзейшым ад гэтай тройкі, яны вельмі мне імпанавалі, але я не шмат ведаў пра іхнія тагачасныя перыпетыі. Я цераз катастрафізм праходзіў на шмат больш спакойна і больш апалітычна. Але не прайсці не мог.

Паэтычная мода ў перыяд даспявання нечувана дэспатычная. Паддаешся ёй, не ведаючы нават, у чым сутнасць. Нават не жадаючы, не можаш не скласці ёй нейкай ахвяркі.

І не гэта страшнае. Мода становіцца страшнай, калі перастае ёй быць, калі нейкім нешчаслівым чынам застаецца на доўга, пускае карані.

**Крыдль**

А лета тое было вельмі пагоднае. Да мяне прыязджалі на пару дзён нейкія таварышы. Гулялі ў валейбол. Ляжалі на пляжы. Не хапала толькі дзяўчат.

Восенню па паланістыцы грохнула: новы! Прыехаў нарэшце наступнік Пігоня. Зваўся дзівосна: і Манфрэд, і Крыдль. Імя ўзнёслае, прозвішча смешнае.

Мы таўкліся на калідоры перад прафесарскім кабінетам. Сядзелі там Кальбушэўскі і Крыдль. Кожны з нас меў увайсці ў адзіночку і назваць сваё прозвішча. Калі прыйшла мая чарга, я з дужай упэўненасцю ў сабе ўвайшоў, зрабіў пару крокаў і ляпнуў ні з таго, ні з сяго: "Пан Путрамант".

Адразу спахапіўся. Стаў чырвоны з сораму. Крыдль ані не рассмяяўся, ані не абразіўся. Запытаў пра нешта вельмі звычайна і зычліва. З месца мяне пакарыў. Я застаўся пад яго ўплывам аж да яго смерці, каля чвэрці стагоддзя пазней.

З бегам часу вакол Крыдля паўстала пэўнае асяроддзе ў семінарыі і ў універсітэце. Наша пяцёрка неяк аўтаматычна стала яго асабістай гвардыяй. Геня - канешне - прэтэндавала праз колькі гадоў на яго асістэнтку.

Крыдль прыйшоў у Вільню як звястун новых плыняў у паланістыцы. Пасля школы філалагічнагенетычнай, ці як там яе назваць, стварыў ён у Вільні кірунак эстэтычна-фармалістычны. Прызнаюся, што я браў у тым чынны ўдзел. Пасярэднічаў м. ін. у кантактах Крыдля (толькі віртуальна) з расейскімі фармалістамі, як той, які першы пазнаёміў Крыдля з іхнімі тэорыямі, паколькі Крыдль не ведаў расейскай мовы, а тыя працы ў 33-34 гадах у Польшчы не былі перакладзены.

Але той эстэт, той фармаліст цалкам не быў абстрагаваны ад палітыкі. Па меры нарастання эндэцкай дамінацыі ў Вільні, а фашызму ў свеце, Крыдль станавіўся палітычна што раз больш актыўным. Была гэта пазіцыя, абапёртая галоўным чынам на супраціў, на негатыў. Ён быў класічным партнёрам для шырокага антыфашысцкага фронту. У апошнія перадваенныя гады, калі ва ўніверсітэце ўвялі лаўкавае "гета", Крыдль перанёс лекцыі з універсітэта ў семінарскае памяшканне, на гета не згадзіўся.

У той жа час у Вільні ўзнік Дэмакратычны клуб. Адным з яго заснавальнікаў - акрамя прафесара Завадскага, псіхолага - стаў якраз Крыдль.

Зрэшты, пра яго будзе ў гэтай кніжцы гаворка не раз.

Я меў з ім аж да канца стасункі вельмі добрыя. Насуперак легендам на маю тэму, я ні разу не ўчыніў супраць яго ніякай авантуры, скандалу ці хаця б непаразумення. Але здарылася ў мяне з ім асаблівыя гісторыя, якая расцягнулася на два гады і была вартая анекдота.

Я два разы здаваў у яго польскую літаратуру. У 1933 - так званую "малую". Ён спытаў у мяне:

- Якога веравызнання быў Рэй?

Я адказаў не без вагання:

- Кальвінісцкага.

Крыдль злёгку скрывіўся:

- Але, уласна, ён быў евангелісцка-аўгсбургскага...

Праз год здаваў у яго "пашыраную" літаратуру. Трэба ж здарыцца, што Крыдль зноў мяне пытае:

- Якога веравызнання быў Рэй?

На гэты раз з поўнай упэўненасцю я адказаў:

- Евангелісцка-аўгсбургскага.

Крыдль злёгку скрывіўся:

- Але, уласна, ён быў хутчэй кальвіністам...

- Я прамаўчаў, падтакнуў. Атрымаў добрую адзнаку. Але па сённяшні дзень не пэўны ў тым рэеўскім веравазнанні.

**"Батлейка" і "Жы - га"**

Новы акадэмічны год пачынаўся зусім інačай, чым папярэдні. Эндэкі ў гадавіну смерці Вацлаўскага рабілі нейкія дэманстрацыі, але яны не набылі больш шырокага размаху, і, наколькі памятаю, лекцый не адмянялі.

Я вёў досыць актыўнае жыццё, вучыўся і пісаў вершы. Прайшлі калядныя святы, пачаўся карнавал. Быў ён для мяне, як звычайна, досыць пустым сезонам. Заміж гэтага вялікі сезон пачаўся ў вялікі пост.

Праз колькі год была гэта пара "Акадэмічнай батлейкі". Зарадзілася яна пад непасрэдным уплывам "Варшаўскай батлейкі". Паколькі займалася перш за ўсё абшарам акадэмічным, трохі Вільняй, вельмі мала Варшавай, а ўжо сапраўды ніяк "цэлым светам" - была вельмі дасціпнай. Як вядома, чым вузейшы асяродак прыёму - тым латвей з досціпам.

Таму была гэта імпрэза на цалкам добрым узроўні. Зрэшты, незалежна ад асяроддзя пяро Дорна Буйніцкага гарантавала тэкстам "Батлейкі" ўзровень параўнальны з Варшавай. Было яшчэ пару верных аўтараў "Батлейкі", такі напрыклад "Фокс" - Дамброўскі ці Ежы Вішнеўскі, так зв. "Белы", у адрозненне ад "Чорнага", таксама праўніка і таксама набліжанага да “групы Дамбінскага".

Тым часам "жалезная" батлеечная трупа некалькі памаладзела. Побач з Буйніцкім вельмі чынным аказаўся Загорскі. Мілаш, здаецца, пісаў, але мала. З'явілася ж цэлая новая сатырычная "аблава". Такі, напрыклад, Стэфан Загорскі, кузін Ежага, якога звалі "Слон".

Грунтоўна быў падобны на слана, альбо лепш на маманта. Бо быў страшна валасаты. Высокі, тоўсты, дабрадушны і разам з тым з'едлівы. Вывучаў - традыцыйна - права.

Бацька яго, Ігнацы, быў вядомым віленскім адвакатам, і колішнім палітычным дзеячам, сябрам СДКПі Л (сацыял - дэмакратыя каралеўства польскага і Літвы), вельмі радыкальным. Не змяніў сваіх перакананняў пад старасць і выступаў з на дзіва годнай адкрытасцю. Таму, напрыклад, у справах ускосных, калі абвінавачаныя не прызнаваліся ў "прыналежнасці" да "камуністычнай змовы", не хацелі браць яго за абаронцу са страху, каб чаго не сказаў...

Быў гэта чароўны чалавек. Яго сыны не пера-



***Акадэмічная батлейка УСБ, сакавік 1933 года. У верхнім радзе першы справа - “Слон”, другі - Стэфан Ендрыхоўскі, трэці - Станіслаў “Цат” Мацкевіч, які зрабіў нам візіт за кулісы, віншуючы з досыць з’едлівым тэкстам на яго (Мацкевіча) адрас. Трымае некалькі лялек, у т.л. уласную, дзе ён прадстаўлены ні то як бык, ні то як зубр. Чацвёрты - ніжэй падпісаны з лялькай Генрыка Дамбінскага. У трэцім радзе першы з краю знаны інтэлектуаліст Юзаф Маслінскі, наступная - знакамітая прымадонна Марыся Кавалеўская, наступны - Ежы Загорскі з уласнаю лялькай.***

нялі пасля яго палітычнай цягі. Я са Стэфанам неўзабаве моцна пасябраваў, але не на палітычнай платформе, а толькі на літаратурнай. Ён быў адзіным маім "суаўтарам", толькі з ім (і пару разоў з Аляксандрам Рыжкевічам) я рызыкаваў супольна пісаць розныя, сатырычныя галоўным чынам, дробязі.

Цяпер мы з ім прыйшлі ў "Батлейку". Быў гэта вялікі аванс. Дагэтуль мы выступалі толькі ў імпрэзе са звонкай назвай "Жы-га".

Гэта значыць "Жывая газетка". Раз на месяц збіраліся мы, колькі чалавек, у Асяродку на чале з Дорнам, Ежым Загорскім, "Фоксам" - і чыталі розныя, менш ці больш забаўныя тэксты. Вельмі актыўным быў у ёй таксама Ендрыхоўскі. Асаблівай папулярнасцю карыстаўся, напрыклад, яго цыкл спартыўных эротыкаў, які заканчваўся "турыстычным" эротыкам з наступнымі радкамі:

*Але з усіх дарог*
*Ты, мая дарагая, мне*
*Найдаражэйшая*

Гэты цыкл натхніў мяне на цыкл чатырохрадкоўяў "З альбома Ірэны". Было іх, бадай што, шэсць - па колькасці аддзеляў ва ўніверы. Адна з іх заўсёды выклікала смех. Нажаль, не памятаю з яго ні паўслоўца.

Была гэта дзівосная і чароўная ў грунце рэчаў забава. Выходзілі перад некалькімі дзесяткамі чалавек і чыталі. Сатыра дае незвычайна дакладна рэалізованыя вартасці для чытача таго, што зрабіў. Пры лірыцы і да т.п. гледачы могуць удаваць (прыкідвацца) і захапленне, і ўзрушэнне. Смеху з нечага, што не смешнае, ніхто не патрафіць удаць.

Праз цэлы год ад паразы Дамбінскага я ўдасканальваўся ў тым цяжкім мастацтве. Часам здавалася мне, што раблю поспехі, што дасягаю... Гледачы слухалі прыязна, смяяліся ў меру. Пісаў сатырычныя рэпартажы, хоць бы з тых жа выбараў. "Альбом" таксама падабаўся: толькі цяпер бачу, як гэта было блізка да цыклу Ендрыхоўскага.

Уся гэтая дзейнасць была выключна "ганаровая". Толькі ў "Батлейцы" плацілі паводле нейкіх анарха-сіндыкалістычных прынцыпаў: дзялілі чысты даход згодна з укладам кожнага з удзельнікаў.

Так мне падабалася забава з "Батлейкай", што я не спыніўся на пісанні тэксцікаў, але яшчэ ахвяраваўся на дапамогу "тэхнічную". Між іншым, прадаваў білеты. Вельмі проста, а таксама ж зацягвае. Тэатр і газета - гэта спаборніцтва - наркотыкі, якія вычэрпваюць, але фатальна ўцягваюць у той рытм пустых

перадполудняў і запоўненых вечароў. Сядзеў, з задавальненнем адрываў чарговы білет, касавурыўся ўніз, у бок уваходу. Заміраў ад шчасця, калі быў тлум, заміраў з непакою, калі было пуста, прадстаўленне пачыналася, ішоў на верх, станавіўся каля дзвярэй.

Канешне, я ведаў тэкст на памяць. Бачыў: у тым месцы - першае ўзрушэнне, у тым - першых некалькі смяшкоў, у тым - меншыя або большыя авацыі.

Нажаль, не пры маім "кавалку".

Мой кавалак абапіраўся на вядомы верш Выспяньскага са словамі Камбране.

Якраз адзначалі 25-годдзе смерці аўтара "Вяселля". З гэтай нагоды эндэкі з санатарамі перасварыліся за тое, да каго ён быў бліжэйшы. Я падаў коратка тую сварку. Санатар абвінавачвае эндэка, што той прыўлашчвае сабе аўтара верша: "Не паляціць арол у гаўно".

Абедзве лялькі пачынаюць спяваць на мелодыю "Мая мама з горада Якагама":

***Эндэк:***
*Што гэта шкодзіць,*
*Нічога не даводзіць*
*На сто старонак адзін верш.*
***Санатар:***
*Пан памыляецца,*
*Няхай пастараецца*
*І зразумее яго змест*
***Эндэк:***
*Тыя словы маюць сэнс агульналюдскі*
***Санатар:***
*Няпраўда, арол гэта ёсць Пільсудскі:*
***Эндэк:***
*Пан не разумее мастацтва*
***Санатар:***
*А ты пляцеш святатацтвы.*
***Разам:***
*Таму што ён санадэк...*

Затым з'яўляецца **Крыдль**, гаворыць:

*Сварліўцаў абодвух*
*Вон з палітычных парогаў,*
*Там дыскусія звыкла*
*Скончыцца трагічна.*
*Не трэба палітолагаў*
*Ані сацыёлагаў,*
*Той верш мае грунт*
*Вузка эстэтычны."*

Крыдль вельмі смяяўся. Іншыя менш. Не было ў тым месцы ўраганнага смеху. Найвышай "ажыўленні".

**"Вільнядрам"**

Неяк мяне гэта не праймала. Неяк быў гатовы спыніцца ўжо і на "ажыўленні". Нават гэта здавалася мне сапраўдным цудам: бедны лідзянін, які цудам прабраўся на сцэну ў самой Вільні.

Зрэшты, побач з той забаўнай сціпласцю ратаваў мяне яшчэ адзін небывалы прывілей маладосці: абсалютная, энтузіястычная некрытычнасць адносна ўласнага твору.

Праз некалькі месяцаў "нарадзілі" мы са Сланом-Загорскім цэлую "п'есу". Уласна мы з ім заснавалі "афіцыйную" літаратурную фірму пад назвай "Вільнадрам". Нават давалі абвесткі галоўным чынам у сатырычным дадатку "Курвеля" пад назвай "Літаратурны паклёп" (пародыя на "сур'ёзную "Літаратурную калонку", якая друкавалася штотыдзень пад тым жа непараўнальным кіраўніцтвам Маслінскага), абвесткі абяцалі нашыя паслугі ў рамках усякіх, сказалі б сёння, "паслуг", звязаных з літаратурай, аж да пісання пасквіляў і ўключна да лістоў любоўных.

Адным з першых вынікаў дзейнасці "Вільнадраму" была якраз п'еса. Называлася "У пагоні за бядром".

Была гэта з'едлівая сатыра на некалькі рэчаў. Загалоўным матывам была "афіцыйная", "ідэалагічная" паланістыка. Нашыя старэйшыя таварышы сядзелі яшчэ над доктарскімі і магістарскімі працамі тыпу "Прырода ў Міцкевіча". Або "Жанчыны ў Славацкага".

Я не выносіў гэтага тыпу даследванняў яшчэ з часоў Неснара. Прыход Крыдля надаў мне смеласці. Гераіня п'есы прафесійная паланістка (і яна называлася Ірэна, праз хвіліну патлумачу чаму), робіць магістарскую працу. У якасці тэмы атрымала "Ногі ў творчасці Міцкевіча". І вось не можа працу скончыць, бо хоць ступняў і нават калень у вершах песняра дастаткова - бёдры знайсці ніяк не ўдаецца. Не можа аднак спыніцца на калене, каб не сказалі, што зроблена на калене.

Справу ўскладняе Нарачоны, які любой цаной хоча ўзяць Ірэну замуж, аднак тая прысягнула, што не выйдзе замуж, пакуль не скончыць працу. Нарачоны рушыць у свет шукаць ратунку. У п'есе ўблытана яшчэ адна Паланістка - дагматычка, ідэйная з рысамі страшнай нуднасці адной з нашых таварышак. Гэтая заўсёды мусіць пярэчыць усяму. Ёсць яшчэ Паэт, які д'ябальскі латва змяняе палітычныя погляды (ужо тады нервавала мяне гэтая з'ява).

Накілбасілі тых матываў да д'ябла. Усё развязвае Вар'ят, які якраз уцякае ад псіхіятра. Пы дапамозе адмаўлення даводзіць Паланістку да выказвання разважных заўваг, напойвае Паэта, прыспешваючы ў яго чарговую змену поглядаў у пажаданым кірунку, нарэшце падказвае нарачонай:

*Твардоўскі сеў у канцы стала,*
*падпёрся ў бокі, як вежа...*

Намаўляючы, што гэта з-за ханжаства Пясняр ужыў тут "бокі" заміж "бёдры". І калі ўжо ўсіх ашчаслівіў, ускаквае Доктар і цягне яго ў шпіталь.

Брахня гэта была страшная. Але мы не мелі пра тое паняцця. Аднаго дня мы зрабілі ў рамках "Жы-гі" яе прачытанне ў Акадэмічным асяродку. Кожную ролю чытаў нехта іншы. Нарачоная - аўтэнтычная Ірэна...

Слон таксама чытаў. Яго ўдзел у п'есе быў хутчэй маральны: падахвочваў, дадаваў духу. Напісаў таксама адну сцэну і нават вершык.

Прыйшло шмат людзей. Быў нават Цывінскі. Слухалі вельмі ўважліва. У адным ці другім месцы нехта ўсміхаўся. Я падумаў: някепска. На заяршэнне Цывінскі сказаў.

- Аднак цудоўна, цудоўна. Пан мог бы быць у Акадэміі літаратуры.

А на маё ветлівае пярэчанне дадаў з верша:

- А чаму не? Як там ёсць сам Рымоўскі?

Вярнуўся дадому ўзнёслы. Г. зн., ведаў, канешне, што стары жартуе. Але меркаваў: жарты жартамі, а хоць бы з дзесяць працэнтаў праўды ў тым быць мусіць. А калі так. То...

Трэба ж надарыцца, што п'еса перетрывала вайну, гэта жмучок з нешматлікіх маіх папераў, якія ацалелі. Прачытаў яе нанава. Гэта было страшна. Ані аднаго працэнта праўды ў кампліменце Цывінскага. Гэта зрэшты не быў камплімент для мяне, гэта была страшная абраза для Рымоўскага.

Калі б я меў здольнасць распавесці, што ёсць вартае з маёй пісаніны, ніколі б не спыняўся з той нагоды на студэнцкіх гадах.

**Зноў Ірэна**

Ірэна! Гэтае імя фатальна праследвала мяне ў тыя гады. Цераз год пасля нас звалілася па паланістыку новая чарада прыгожых паненак. Пра Ганку Згерскую я ўжо ўспамінаў. Яе найбліжэйшай сяброўкай была Ірэна Ч., якую звалі Дзідзя. Уласна, я ўжо паспеў атрымаць каша (адмову) ад Ганкі Вярбіцкай, а таксама змірыцца з каханнем да Дыяны, таму тым латвей удалося мне запасці ў чарговае каханне.

Была яно з усіх найбольш бурнае. Хоць такое ж бясплоднае, як і папярэднія. Калі прыпамінаю сабе сёння сябе самога з тых часоў, агарнае мяне здзіўленне, як прыдуркавата я сябе паводзіў. Можна сказаць, што я рабіў усё, каб атрымаць таго чарговага каша.

Перш за ўсё я не ўмеў хаваць сваіх пачуццяў, дэманстраваў іх не толькі перад абранніцай, але і перад яе таварышкамі, сваімі таварышамі, агульнымі знаёмымі. Па-просту перад чужымі людзьмі. Яшчэ не даўшы ёй часу падумаць, ужо пачынаў праследаваць яе рэўнасцю. Калі мы ішлі ў кампаніі ў тэатр ці на забаву, не адступаў ад яе ні на крок, абражаўся і надзімаўся пры яе добрым слове да хоць якога іншага хлопца. Быў настырны і непрыемны, тыя віленскія панны мусялі быць анёламі, каб мяне вытрымаць.

Дзідзя не была анёлам. Нейкі час як бы вагалася. Потым у сваю чаргу - і аднолькава безнадзейна-закахалася ў майго блізкага таварыша Збышка Фаляеўскага. Не мог зразумець - чаму? Збышак падаваўся мне цяльпукаватым, хоць і мілым. Я якраз чытаў "Сагу роду Фарсайтаў", і неяк уся гісторыя карэлявалася ў мяне з драмай прыгажуні Флеўр. Пры тым, што гэта я быў тым нудным, нелюбімым мужам.

Усё гэта адбывалася ў Коле паланістаў. Была гэта досыць салідная на той час інстытутыя з уласнай бібліятэкай, чытальняй часопісаў, секцыямі, дакладамі, з'ездамі.

Калі я прыйшоў ва ўніверсітэт, яго старшынём быў Станіслаў Слупкевіч. Сярод дзяўчат дамінавалі "адраджэнкі". Складалі яны каля чатырох пятых сяброў. Цікава, што ніколі - у мае часы - не выбіраліся яны ні на старшыню, ані нават, здаецца, на віцастаршыню.

Праз год Фаляеўскі стаў віца-старшынём. Я таксама атрымаў нейкую функцыю. У тым годзе - 1032/33 - Фаляеўскі прэтэндаваў на старшыню, я - на віцастаршыню. Дзідзя была бібліятэкаркай.

Вясной 33 года дайшло ў маім жыцці да пару вострых крызісаў. М. ін. якраз з Дзідзяй.

Быў травень, якраз арганізавалі ў Вільні штогадовы агульнапольскі з'езд Колаў паланістаў. Наз'язджалася калег з розных гарадоў. У тым ліку з Варшавы прыбыла згуртаваная група на чале з такім таўсматым калегам у акулярах, які без перапынку гаварыў пра фенаменолагаў і Гусерля, пры тым так заблытана, што нашы таварышкі ўміг прызналі яго за генія. Быў гэта нейкі Стэфан Жалкеўскі.

Як арганізатары, мы мелі кучу абавязкаў. Круціліся ўсе, асабліва Трыпуцька (таксама, здаецца, віцастаршыня) і я. Круціўся, але сэрца меў скрываўленае: Дзідзя ад такога наплыву чужых кавалераў па-просту шалела, не звяртаючы на мяне ніякай увагі.

На заканчэнне з'езду арганізавалі выезд у Трокі, на азёры. Была гэта прыгожая мясцовасць, у якую ад таго часу я пачаў заглядваць што раз часцей.

Тым разам пастанавіў, што якраз у Троках вырашым нашы лёсы: гэта значыць мой і Дзідзі. Меў запатрабаваць ад яе астатняга адказу. А як не ... Пайшоў да таварыша і пазычыў у яго рэвальвер.

Дзень быў цудоўны. Мы маршыравалі з Ляндварава цераз буйныя, у самай квецені лугі і бярозавыя загайнікі, цераз пагорачкі. У Троках на Караімшчыне абедалі выдатнымі кібінамі (гэта такія пірагі з баранінай, лепшыя нават за калдуны). На дэсерт нам далі караімскую халву. А потым мы паехалі на лодках з вёсламі.

Я так выманеўраваў, што мы засталіся ў лодцы ўдваіх. Дзідзя была нейкая разморная. Спрабаваў прыперці яе да сцяны пытаннямі. Яна падсвядома выбрала знакамітую тактыку: не гаварыла "не", не гаварыла "так", наогул зусім нічога не гаварыла, толькі пасміхалася і пацягвалася ляніва, углядаючыся ў блакітную гладзь вады, зялёныя выспы. Белы палац у Затроччы.

Не хапіла ў мяне пункту апоры. Нярвовая напруга неяк разгладзілася. Праз пару дзён я аддаў рэвальвер.

Варшаўскія паланісты паехалі, захопленыя з'ездам, Вільняй і сабой. Добра выхаваныя, з дарогі прыслалі паштоўку з падзякамі гаспадарам. Асаблівае захапленне ўзбудзілі ў іх "калегі Путрыцька і Трупамант".

Столькі разоў перакручвалі маё прозвішча. Але ніколі такім абстрактным чынам. А пры гэтым няшмат бракавала, каб гэта стала непрыемным прароцтвам.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*




У выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя імя Пятруся Броўкі", г. Менск, выйшаў 3-ці том энцыклапедыі "Культура Беларусі", 704 ст. Наклад 3000 асобнікаў.




У Менску ў выдавецтве Беларускага гістарычнага таварыства, выйшла кніга "Кастусь Каліноўскі і яго эпоха ў дакументах і культурнай традыцыі", 222 ст.
Наклад 300 асобнікаў.







У Менску ў выдавецтве "Беларуская навука", выйшаў 2-гі том кнігі "Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII - пачатку XXI ст", 656 ст.
Наклад 700 асобнікаў.

У Кракаве ў "Выдаўніцтве літарацкім" выйшла кніга Анджэя Андрусевіча "Крывавая дэкада. Польская інтэрвенцыя ў Расіі 1602-1612. Дыпламатыя, самазванцы, вайна", 558 ст.




У Менску ў выдавецтве "Беларуская навука", выйшла кніга М.К. Любаўскага "Очерк истории литовско-русского государства до Люблинской унии включительн", 398 ст.
Наклад 1000 асобнікаў.



У Менску ў выдавецтве "Радыё Свабода", выйшла кніга Сяргея Дубаўца "Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду", 464 ст.




***Вадзім Вераб'ёў.* Ліцейшчык.** Алюміній. 220 см.
Ідэя Лідскага ліцейна-механічнага завода. Пастамент фірмы
"Гама". Вул. Качана, г. Ліда. *Здымак С. Судніка.*